

# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1953 годзе.

6

ЧЭРВЕНЬ

1965

## У нумары



Выдавецтва «ЗВЯЗДА»
МІНСК

**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

---

**ВОКЛАДКА М. ЧЭПІКА.**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ:** Леанід Асядоўскі «Хай заўжды будзе сонца!». З выстаўкі «На варце міру».

**НА ТРЭЦЯЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ:** Гарадок здароўя і радасці. Малюнак архітэктара Анатоля Занеўскага.

---



**Валянцін МЫСЛІВЕЦ**

●

**Мастак Георгі СКАМАРОХАЎ**

●



# Сябры-таварышы

**Цэхавая хроніка**

*У бібліятэцы, як і заўсёды, многа людзей і ціха. Я сеў за стол у самым дальнім кутку чытальнай залы, далей ад дзвярэй і знаёмых, бліжэй да святла. Дастаў чысты аркуш, ручку і тут жа адчуў сэрцам, што недзе ў дарозе, на шумлівай плошчы ці ў заснежаным парку, засталіся мае радасць і ўзнёсласць, без якіх не варта псаваць паперу. Я ўзняў галаву і глянуў на дзяўчынку, што сядзела побач і зіркала то ў кніжку, то на мяне ды хітравата ўсміхалася, і мяне агарнулі ўспаміны, ад якіх, хто ведае, калі пазбаўлюся.*

**УСПАМІН ПЕРШЫ.** Брыгадзір Воўка Сурмачэўскі схіліўся над лістом фанеры, што ляжыць на варштаце, і выпісвае з чарцяжа памеры шпянёвых скрынак, даўжыню і таўшчыню дошак на мадэль. Невысокі Пятро Міхалькевіч і плячысты, каржакаваты Пецька Івановіч стаяць абапал брыгадзіра, тыцкаюць пальцамі ў тоўстую чырвоную рыску, ківаюць галовамі і ціха лаюць тэхнолагаў, што не там паказалі раздым на мадэлі. Я таксама гляджу збоку на незразумелы «пейзаж» на чарцяжы і ў думках зайздрошчу брыгадзіру і ўсім мадэльшчыкам, якія ведаюць прызначэнне кожнай з гэтых ліній. Хвілінамі нават нейкая роспач ледзяніць душу: за два тыдні работы я толькі і навучыўся клеіць шчыты ды ўключаць асвятленне. А про-

стую мадэльку перарабляў пяць разоў! Хлопцы суцяшаюць, што ўсё прыйдзе з часам. Што ж, буду старацца.

Ні з таго, ні з сяго Воўка ўсхапіўся, стукнуў алоўкам па фанеры, плюнуў са злосці і кажа:

— Зноў, хлопцы, не ідзецъ! Не сабяруць форму ліцейшчыкі, калі трынаццаты стрыжань гэткі пакінуць. Яго і да сушылкі не давязуць, разваліцца...

— Ды яго і не зафармуюць, не тое што ў сушылку везці,— усміхаецца Пецька і бліскае на ўсіх нас вачыма.

— Можа Анатоля Пархвенавіча пазваць? — пытаюся я і гляджу на брыгадзіра.— Хай паглядзіць...

— А што ён убачыць? Хіба ён рабіў калі мадэлі? — напаў на мяне Воўка.— Твой Анатоль Пархвенавіч у мадэльнай справе во...— і пастукаў костачкамі пальцаў па фанеры.— Гэта, брат, не анекдоты ў курылцы расказваць.

— Ліцейную тэхналогію ведае,— ківае галавою Пятро,— а ў мадэлях — слабак. Што гэты тэхнікум дае майстру мадэльнага? Тут неабходна ўсё душою адчуваць, а не па формулах...

— Іншы раз пачне вучыць, слухаць не хочацца,— смяецца Пецька.— Ён мне расказвае, як трэба на фугавальным станку загатоўку трымаць...

— Каб не забыўся,— кажу я.— А Уладзімір Іванавіч, старшы майстар, працаваў мадэльшчыкам?

— Доўга працаваў,— адказвае Пятро.— Ён і столяр добры...

— Ат, прычапіўся з гэтымі майстрамі!..— махнуў рукою Воўка.— Уладзіміра Іванавіча паслухай, а рабі наадварот... Ну, усё, хлопцы. Кончылі базар...— і пайшоў у канторку.

Пятро з Пецькам пераглянуліся, дасталі з шафы рукаўкі-спяцоўкі і пайшлі на загатоўчы ўчастак. Я застаўся каля варштата і доўга шукаў на чарцяжы трынаццаты стрыжань, але так і не знайшоў...

*Дзяўчына ўсё нешта перакладае, тасуе свае сшыткі, бубніць сабе пад нос, што пры ўваходзе ў бібліятэку быццам сядзіць ведзьма і ўжо каторы раз не пускае яе з кнігай у чытальную залу. А я гляджу на яе, усміхаюся і маўчу. Чорныя ў бліскучастай касе валасы. Прамы лоб. Чорныя шыракаватыя бровы. Круглы твар. Востры тонкі носік. Нейкае знаёмае аблічча. Дзе я мог бачыць яе? У канструктарскім? Ці яшчэ дзе?..*

**УСПАМІН ДРУГІ.** Ага, яна прыходзіла да нас у цэх. Лёшку Кучаравага шукала. Воўка Сурмачэўскі з ёю хадзіў на загатоўчы ўчастак, у склад мадэлей, у канторку майстроў...

*— Пра што вы так доўга думаеце? Ці не пісьмо сваёй каханай складаеце? — пытаецца чарнавокая суседка.*

*— Адгадалі, пісьмо каханай,— зласнавата паглядзеў ёй у вочы.— А што ж рабіць у бібліятэцы, як не пісьмы складаць.*

*Чарнявая суседка зноў гартае сваю кніжку, краем вока ўсё паглядае на мае запісы і ўсміхаецца, а мне думаецца пра іншае, і зусім няма жадання пачынаць гаворку.*

**УСПАМІН ТРЭЦІ.** ...З майстрам Анатолем Пархвенавічам мы заўсёды былі праціўнікі, калі заставаліся пасля змены «забіваць казла». Поспех быў пераменны. Калі ўжо добра пойдзе ад першага разу, дык так і ведай, што схопіш пятнаццаць-дваццаць ледзь «размочаных казлоў» і пойдзеш сабе моўчкі дахаты.

Часта, асабліва зімою, мы заставаліся на якую гадзіну пасля другой змены, каб толькі паспець на апошні трамвай, а разыходзіліся, здаралася, пад раніцу. І да чаго ж хутка праходзіць ноч у цэху пры такім занятку! Толькі падвываюць, як ваўкі позняй восенню, вентылятары ў сушылках. І цэх здаецца такі вялікі і звонкі... Днём гэтага ніколі не адчуваеш.

Аднойчы, на маё здзіўленне, вельмі ж доўга давялося ўпрошваць майстра, каб застаўся пасля другой змены.

— Сёння, хлопцы, дамоў трэба,— сказаў ён, апранаючы паўпаліто.— Жонка прыхварэла...

— Скажы, што цешчы баішся...— кінуў нехта з рабочых.

— Калі так,— Анатоль Пархвенавіч азірнуўся,— пайшлі ў кантору... Там зачынімся.

— Пецька, а чаму ты не ідзеш дамоў? — спытаў я, адыходзячы ў кантору, Івановіча.

— У душ пойдзем. Да суботы яшчэ тры дні, памыцца захацелася...

— Дык сёння ж няма гарачай вады,— усміхнуўся я.— Сур'ёзна — толькі халодная...

— Няхай. Трохі спаласнёмся,— махнуў рукою Пецька.— Гэтыя дні мы папрацавалі...

У канторы было душна. Я адчыніў фортку, і мы заселі за стол. Гадзіны праз паўтары, калі стала халаднавата, і я схапіў восем «штук», давялося ўжо ўпрошваць майстра ісці дамоў. Нарэшце, усе ўсталі, выйшлі ў цэх.

Пецька сядзеў зверху на станіне, а Пятро Міхалькевіч стаяў збоку, і яны ўдвух дружна пілавалі мадэль.

— Ого, бракаробы! — вырвалася ў мяне.— Вось дзе яны мыюцца!

— Чаго ты крычыш? — ціха пытаецца Воўка Сурмачэўскі, а сам усміхаецца.— Усяго на адзін метр памыліліся. Мне здалося шэсць, а пяць трэба. У мадэльшчыкаў часам такое здараецца...

— Таварыш майстар,— кажу я,— і мяне такія бракаробы навучаць на сабак брахаць.

— Хто смяяўся б, а табе і памаўчаць не грэх!— пачырванеў у твары і напаў на мяне Анатоль Пархвенавіч.— Хутка забываешся, колькі разоў сам пасля кантралёраў папраўляеш. Такім мадэльшчыкам, як у гэтай брыгадзе, табе век не стаць... Так што язык трымай за зубамі...

Да прахадной мы з майстрам ішлі моўчкі. На развітанне буркнулі адзін аднаму нешта незразумелае...

**УСПАМІН ЧАЦВЁРТЫ.** Назаўтра ля ўваходу ў цэх хлопцы з нашай змены ў мяне спыталі, ці праўда, што «камуністычная» ўночы перарабляла мадэль. Я разгубіўся: адкуль яны ведаюць? І адразу перапытаў:

— Вы пра што гаворыце?

— Спалохаўся майстра? — выйшаў наперад Лёшка Кучаравы.— Ты не саромейся, усё кажы. У нас толькі праўду любяць...

— Што вам сказаць? — зноў паціснуў я плячыма.— Былі позна ў цэху. А што рабілі, не ведаю...

— А яшчэ шырокія штаны носіш!.. Ты на флоце служыў? Ці на базары купіў форму? — не адставаў Кучаравы.— Спужаўся некага...

— Чаго там спужаўся,— узгарэўся я.— Знайдзі мне ў цэху та-



кога спецыяліста, які б не папраўляў пасля кантралёраў! Ну, хутчэй называй! А яны самі перарабілі, да праверкі...

— Значыць, перараблялі! Пачакай жа, будуць ім званне прысвойваць,— паківаў галавою Лёшка.— Я выступлю. Якая ж гэта камуністычная праца, калі памыляюцца! Але ты тады ад сваіх слоў адмовішся...

— За каго ты мяне лічыш? — зазлаваў я.— Якая там ганьба, калі самі паправілі? Раздуваеш з мухі слана! Я нават на дошцы babракаробаў магу напісаць. Мінус брыгадзе. Не трэба памыляцца. Сам Воўка ўчора смяяўся.

— А ты вось напішы, смелы! — падае мне руку Кучаравы.— Іду аб заклад, што не напішаш... На бутэльку...

— Ідзі ты са сваёй бутэлькай!..— адказаў я і пайшоў у цэх.

— Цяпер разумею, што флот — гэта сіла,— не сунімаўся Лёшка, ідучы за мною.

— Саша, усіх бракаробаў можна на чорную дошку? — спытаў я на хаду ў былога кантрольнага майстра Аляксандра Цвірко.

— Абавязкова ўсіх,— адказаў Саша і ўсміхнуўся.— Каго вы хочаце палажыць на лапаткі?

— Брыгаду,— адказаў Кучаравы.— Ды ён толькі кажа, а напісаць пабаіцца...

— Можна і брыгаду. А калі Воўка не зразумее жартаў? — пытаецца Саша і сам смяецца.

— Што тут не зразумець? — адказаў я і махнуў рукою.— З Воўкам мы памірымся.

Кучаравы збегаў у сушылку, прынёс кавалачак крэйды, і я, пад дружны рогат рабочых, напісаў вялікімі літарамі:

«БРЫГАДА СУРМАЧЭЎСКАГА.
МІНУС АДЗІН».

Воўка стаяў каля мадэлі ў сваёй рабочай чырвонай кашулі з кароткімі рукавамі.

— Здароў, брыгадзір! — сказаў я і пацісну́ў яму руку.— На чорную дошку цябе напісаў. Усе ведаюць, што вы заставаліся ўчора... Жартам усё, не злуйся...



— Напісаў, дык маладзец,— адказаў Воўка і ўсміхнуўся.— Скідай паліто ды на загатоўчы прыходзь. Сасну выкацілі з сушылкі. Хлопцы там ужо з паўгадзіны...

**УСПАМІН ПЯТЫ.** Не паспеў я пераапрануцца, як да мяне падышоў высокі, сухарлявы, у чорным паўпаліто са светлым каўняром і ў летняй кепцы Анатоль Пархвенавіч. Хвіліну, другую моўчкі глядзеў на мяне, нечага глыбока ўздыхаў,ківаў галавою.

— Валя, ты напісаў на чорнай дошцы? — спытаў ціха, сур'ёзна.— Хутчэй ідзі вытры... Тады пагаворым.

— Што вы, Пархвенавіч,— адказаў я і засмяяўся, пазіраючы на яго.— Мне трэба на загатоўчы. Воўка чакае...

— Знаеш, Валя, твае смешкі нікому не патрэбны! — сказаў майстар.— Хапае і без цябе. У мяне ёсць жонка і цешча, каб пазлаваць... Ідзі вытры дошку!

— А навошта голас павышаць, Пархвенавіч! Нікуды я не пайду... У кожнага з нас ёсць злосць. Несалёна-солена, а гавары нармальна... Праблему з ерунды робіце? Нічога заганнага, што заставаліся хлопцы пасля работы...

— Глядзі, Валя, успомніш ты мяне не раз...— сказаў майстар і пайшоў у кантору.

**УСПАМІН ШОСТЫ.** Ужо другую змену не дае мне майстар работы, і я хаджу ад варштата да варштата па цэху. У душы непакой, на сэрцы смыліць, бо не ведаю, якое пакаранне прыдумае мне адміністрацыя.

Я да слёз на вачах прашу ў майстра чарцёж на работу, а ён мне спакойна адказвае, што мае мадэлі без паправак не бяруць на афарбоўку і мне трэба два месяцы пабыць на правах вучня-мадэльшчыка.

Мне здавалася, што толькі адзін Генка Башлыкоў здольны дапамагчы. Стаў я аціраца каля яго.

— Ходзіш усё? — спытаў Генка і з нейкай насмешкай глянуў на мяне праз вялікія акуляры.— Кепскія, брат, у цябе справы...

— Ну, знаеш, красці не пайду, калі звольняць. Ты ж вунь як крытыкуеш адміністрацыю, а не выганяюць...

— На мяне ты не глядзі,— сказаў Генка і ўсміхнуўся.— Па-першае, я мадэльшчык. Што ні дадуць, зраблю...

— І такую станіну, як у Сурмачэўскага?

— Адзін — не. А з напарнікам — і станіну... Па-другое, за мяне ўсе стаяць. «Выступай, выступай, Генка!» Нават маляршы...

— Канешне, заўсёды, калектыў праўду скажа.

Генку пазвалі кантралёры, а я адышоў да акна насупраць свайго варштата і лобам прыхінуўся да халоднай шыбіны. На двары дымілася завіруха, заносіла кусты ля заводскай агароджы. Вецер гнуў у дугу тонкія дрэўцы, біўся ў вокны.

*— А чаго вы такія сур'ёзныя? — кратае за рукаў суседка.— Вам трэба сустрэцца. Яна так чакае.*

*— Хто?*

*— Жана.*

*— Адкуль вы Жану ведаеце? — здзіўлены, пытаюся я.— Можа сяброўкі?*

*— Я вас даўно ведаю. У цэх прыходзіла, дык паказвалі...*

*— Скажыце, як яна там?*

*— Схадзіце і паглядзіце,— напаўголаса адказала дзяўчына і зласнавата зірнула на мяне.*

*Я змоўк, адвярнуўся і пачаў глядзець у акно. Парывісты вецер усё гоніць і гоніць мітуслівы снег, са свістам блытаецца ў бязлістых галінах таполі, а на сэрцы ў мяне прыемна і цёпла:*
*«Трэба сустрэцца? Яна чакае...»*

**УСПАМІН СЁМЫ.** Не кахаеш ты мяне, Жана! Не буду запрашаць на плошчу. Не пойдзем у кіно. У парку можна было б пасядзець, але ж зіма і над усім светам мяцеліца.

Ох, Жана, такая ты непаслухмяная! Абрэзала косы... Русыя, тоўстыя былі, да пояса! Вейкі фарбуеш. Курыш. Любіш у рэстаране пасядзець. Рослая, стройная: у такую закахацца не штука! Умееш ты быць з хлопцамі мілай...

Чаму так дамагалася ты, каб я хутчэй звольніўся з завода?

Не верыла, Жана, што мне так часта сніцца завод. Я ж, каб не бачыў майстар, выцягваю шырокія, гарачыя дошкі з сушыльнай камеры, стругаю іх на фугавальным станку, прапускаю праз рэйсмусавы... Многа-многа набяру, аж адрываюцца рукі...

А нядаўна, Жана, прыснілася ж мне... Здаецца, раней за ўсіх прыйшоў я на работу. Стаў высока на кантрольную пліту, як на трыбуну. Віншую ўсіх. Рука ўзнята над галавой. А міма па цэнтральным праходзе ідуць строем мадэльшчыкі. Быццам апалчэнцы якія на перадавую — ні адзін не адстаў... Прачнуўся, дык аж сорамна стала...

Аднойчы Коля Ламака, фрэзероўшчык нашай змены, прымусіў усю змену вырываць цвікі з загатоўкі корпуса. А, ты не ведаеш нашага камсорга! Не прыйшла тады ў маладзёжны парк... Я ж цябе хацеў пазнаёміць з Колем...

...Скончылася змена. Заціх мадэльны цэх. У белай кашулі з закасанымі рукавамі моўчкі стаіць Коля каля фрэзернага станка і глядзіць у акно, туды, дзе паблісквають лісцем таполі. Я пазіраю то на Колю, то на зялёнае лісце дрэў, і мне хочацца ведаць, аб чым думае ён, хочацца запрасіць з'ездзіць са мною ў парк.

— Трэба ж, такая духата,— гавару я, падышоўшы да камсорга.— І сонца звярнула з поўдня, а спёка...

— Нам, Валька, яшчэ нічога,— адказвае Коля.— А ў полі што робіцца...

— Ты куды цяпер збіраешся?

— Дамоў трэба,— усміхнуўся Коля.— Дачка там з суседкаю... І спакойна пасядзець дзе-небудзь хацелася б гадзіну якую...

— Едзем у парк?

— У маладзёжны? Толькі ненадоўга. Жонка на рабоце, дык у магазін трэба зайсці...

На вуліцы гарачыня, і многа людзей на трамвайным прыпынку. Мы стаім у цяньку пад таполяй, глядзім, як праносяцца міма легкавікі, паважна сядзяць шафёры і кідаюць па баках позіркі жанчыны з кабінак. Сёння будзем да цямна з Жанаю ў лесе! На душы ў мяне лёгка, нават пуставата.

Прапускаем некалькі трамваяў, і, нарэшце, уціснуліся на пярэднюю пляцоўку. Едзем. Дама ў сіняй сукенцы ўсё ніяк не можа аддыхацца, бурчыць, што і без таго было цесна, цяпер яшчэ мы... Пераглянуліся між сабою, але нічога не сказалі, бо і без слоў зразумела, што ўсім хочацца ў парк...



Мы адышліся пад высокае дрэва, што расце на самай кручы,— сюды праз паўгадзіны абяцала прыйсці Жана,— і селі. Коля глядзіць угору, а я слухаю, як ціха шумяць сосны, ды аглядаюся на сцежку, якою хадзілі некалі з Жанай. Самому ж хочацца распытваць Мікалая, даверліва расказваць яму пра сябе.

Чамусьці ўяўляецца мне той высокі малады чалавек у вайсковым шынялі, які хадзіў па цэху ды нясмела пытаўся мадэльшчыкаў пра жыццё, пра заработак, а сам усё пазіраў на новы фрэзерны станок. А праз некалькі дзён Коля Ламака стаў за варштатам. Доўга яму тлумачылі чарцёж нейкай простай падстаўкі. А пасля ох і злаваўся ж Коля, выкідваючы ў бункер для адходаў адну, другую, дзесятую загатоўкі! Месяцы тры хадзіў надзьмуты, скоса пазіраючы на станок, пакуль не перавялі вучнем фрэзероўшчыка.

— Слухай,— раптам сказаў Коля, паказваючы рукою ўгору.— Ведаеш, якая птушка спявае?

Хвіліну-другую я прыслухоўваюся: вельмі падобна на канаплянку...

— Вядома, канаплянка,— усміхаецца Коля.— У нас яны некалі ў кусце агрэсту гняздо звілі. Трымаеш птушанё ў руках, а маці блізка-блізка падлятае, зусім не баіцца. Але асцярожная — не зловіш...

Я змоўчаў.

Чаму ж не прыходзіць Жана?

— Слухай, а мне нешта не верыцца, што ў ліцейным нельга без браку,— гаворыць раптам Коля.— Гэта ж падумаць толькі — чатыры працэнты браку плануецца! А што, Валька, калі б такі парадак у цэху завесці: каб першую фармоўку і зборку форм рабіў сам мадэльшчык? Ён жа душою адчувае будучую дэталь. Можа б варта было, асабліва на серыйных мадэлях, зрабіць такі эксперымент?

— Мадэльшчыкі ахвотна пойдуць на гэта,— гавару я і зноў аглядаюся на сцежку.— Не спалохаюцца «чорнай» работы ў ліцейцы...

— Можна на грамадскіх асновах. А то і нарад выпісваць. Памойму, усё апраўдаецца.

— З адміністрацыяй трэба пагаварыць. Мадэльшчыкам і без гэтага хапае работы.

— Не адразу, а толькі эксперымент пакуль што,— гаворыць Коля і смяецца.— Усё прадумаць трэба. Параіцца з табою хацеў...

— Што ж, добрая думка,— кажу я і гляджу Колю ў вочы.— А цяпер мне скажы, як гэта табе заўсёды ўдаецца з камсамольцамі згаварыцца.

— Не ведаю... Раблю тое, што і ўсе камсоргі цэхаў...

— Тое ды не тое,— кажу я і бяруся рукою за яго плячо.— Сур'ёзна пытаюся ў цябе... Вясною сёлета проста радасна было на душы: усе хлопцы твае выйшлі на суботнік. Ты нічога ім не гаворыш, а яны дружна стараюцца...

— Папярэднік мой, Анатоль Пархвенавіч многа зрабіў...

— Многа то многа, але далёка не тое было.

— На сходах я многа не гавару. Коратка: гэта ў нас добра, а тут недахоп. Адміністрацыя часта падказвае... Характар ты мой ведаеш. Ні з кім не лаюся. Часцей стараюся быць з камсамольцамі. Хоць ніякі я не начальнік, але слухаюцца хлопцы, нічога дрэннага не скажу. Бывае, каторы загарыцца. А я ўсё роўна спакойна і сур'ёзна сваё вяду. Не дабіваюся, каб абавязкова чалавек ва ўсім са мною пагадзіўся адразу, але і не адступаю.

— Праўда, што ў цябе Сашка Навіцкі прасіўся, каб прынялі яго ў камсамол?

— Было з Сашкам... Падыходзіць аднойчы, тады я яшчэ мала ведаў яго, і просіць, каб я лічыў яго камсамольцам. Што за дзіўная просьба,— думаю. А выйшла так, што яго не хацелі браць камсамольцы ў турысцкі паход. Па партызанскіх сцежках хадзілі. Я пагаварыў з кіраўніком — узялі Сашку... Тады прыходзіць неяк на сход і просіцца ва ўсіх, каб прынялі ў камсамол... Сядзеў з намі позна, слухаў, як Федзю за членскія ўзносы крытыкавалі. Ну, думаю, спалохаецца хлопец... Перад прыёмам пагаварыў з настаўнікамі ў школе, пабываў у бацькоў. Расказваю на сходзе ўсё пра Сашку, а ён чырванее, не ведае, што сказаць... Прызнаў свае памылкі, паабяцаў выправіцца. Пакуль усё добра. Перайшоў у восьмы клас вячэрняй школы, і дома — як чалавек...

Коля зірнуў на гадзіннік, падхапіўся і падаў руку на развітанне. Я застаўся адзін. Сядзеў пад сасною, слухаў яе глухаваты шум, глядзеў на сцежку і ўспамінаў, успамінаў...

Вялікую душу трэба мець, каб змагацца ўсюды і за ўсё: у дваццаць два — за каханне, у дваццаць тры — за новую прафесію, у дваццаць чатыры — за званне ўдарніка камуністычнай працы, у дваццаць пяць — атрымаць трэці разрад фрэзероўшчыка, у дваццаць шэсць — стаць камсоргам цэха!

У гэты ж год Мікалая прынялі кандыдатам у члены партыі. А ў дваццаць сем — яго зноў выбіраюць камсоргам, зноў ён выконвае план на 150—200 працэнтаў, зноў у яго толькі добрая і выдатная якасць прадукцыі...

Памятаю, як я памыліўся летась у памерах мадэлі, як злаваўся на канструктара і тэхнолага, што заблыталі чарцёж, як Коля Ламака памог мне і адмовіўся ад законнай аплаты па майму нараду. Ды хіба знойдзецца ў змене такі мадэльшчык, якому Коля адмовіў у дапамозе? Такога не было.

Дзесьці далёка прагрукатаў гром. Сосны зашумелі, закалыхаліся на ветры, а ўвесь парк неяк ажыў, павесялеў. Сонца яшчэ свяціла і хмары не было відаць, але людзі спяшаліся дамоў, бо грукат набліжаўся, мацнеў.

Чаму не прыйшла Жана? Навошта абяцала?

Ужо на трамвайным прыпынку кідаю развітальны позірк на сосны. Нешта незразумелае, трывожнае і халаднаватае чую ў іхнім шуме.

Шумяць сосны, шумяць, а Жаны ўсё няма!

*— Праўда, вы паэзію Андрэя Вазнясенскага любіце? — бліскае чорнымі вачыма суседка.— Разумееце што-небудзь?*

*— Люблю і разумею,— адказваю і гляджу на дзяўчыну.— Вас толькі не разумею і не люблю,— кажу і ўсміхаюся.— Хітрая такая, скрытная...*

*— Вось як! — шапнула суседка, устала з крэсла і пайшла з чытальнай залы. Я гляджу на яе кніжкі, што засталіся на стале, і думаю пра сваё.*

**УСПАМІН ВОСЬМЫ.** Нечым узрушаны, прыйшоў на работу Воўка Сурмачэўскі. Празвінеў званок, а ён усё тупае каля варштата, стукае кулаком па фанеры і голасна паўтарае: «Які ж сабака свінню падлажыў!»

— Што здарылася, Воўка? — пытаюся я.



— Што з Сурмачэўскім? — здзіўленыя, перапытваюць адзін у аднаго Пятро і Пецька.

— Якая сволач дадумалася!..— не суніміаўся Воўка.— Так жыць немагчыма!

— Ды скажы, нарэшце, што здарылася? — падышоў бліэка да брыгадзіра Пецька Івановіч.— А то размахаўся рукамі...

— Хіба не дазнаюся... У Маскву напішу,— трохі супакоіўшыся, гаворыць Воўка.— Прыйшлі мы ўчора з Галкаю з кіно. Яна на кухні чай ставіць, а я ўключыў прыёмнік і прылёг на кушэтцы. Слухаю канцэрт па заяўках ударнікаў і брыгад камуністычнай працы. Паклікаў Галку. Яна любіць «За фабрычнай заставай»... І раптам аб'яўляюць мяне. Наш завод, цэх. Уладзімір Сурмачэўскі... І што вы думаеце? Я даваў заяўку на сімфонію! Я ноч не спаў. Такую свінню падлажыць!..

— Хто ж мог падаць такую заяўку? — гаворыць Пятро Міхалькевіч і глядзіць кожнаму з нас у вочы.— Можа хто з цэха напісаў? Можна паехаць паглядзець почырк...

— Уга, брыгадзір сімфонію слухае!..— засмяяўся Пецька.— Канешне, нехта з цэха чыркнуў. Мала ёсць пісак!..

— Не будзем гадаць,— сказаў Воўка.— Я даведаюся. Так гэта не пройдзе... Дадумаліся! Хоць бы добрую песню, а то падсунулі...

Хто ведае, як бы доўга яшчэ стукаў кулаком і пляваўся ад злосці брыгадзір, калі б не падышоў майстар і не сказаў, што палавіна дзявятай ужо і менш трэба крычаць у цэху.

**УСПАМІН ДЗЕВЯТЫ, НЕЗАБЫЎНЫ.** Неба над лесам чыстае, па-летняму белаватае. Нават пад соснамі сонца высушыла апошнюю расу на траве і так прыпякае, што хоць бягом бяжы на Мінскае мора, каб хоць адзін разок нырнуць ці спаласнуцца вадою. Усё гатова да ад'езду. Хлопцы ў саколках сядзяць на машыне.

Як прыкаваны, стаю на травяністым пагорку. Аглядаюся кругом, і не верыцца, што ўсяго два месяцы назад на гэтай палянцы сярод лесу не было ні прыгожых фінскіх домікаў, ні цаглянай сталоўкі з шырокай і доўгай залай пад шыферным дахам, ні зялёнага нізкага плоціка паўз дарогу, ні яшчэ сякіх-такіх невялічкіх, але неабходных для піянерскага лагера збудаванняў. Не верыцца, што не хутка мы збяромся на сняданне пад адкрытым небам супраць сваёй палаткі, якая выглядала з маладога сасняку нарою-ўваходам, што не паедзем разам абедаць у Заслаўе, не прывядзём да сябе ў госці студэнтак-практыкантак з недалёкага калгаса і не будзем іх да поўначы частаваць печанаю бульбаю.

З палёгкаю ўздыхне цяпер намеснік дырэктара завода па будаўніцтву Сямён Міхайлавіч Чэрчас, што не трэба яму кожны тыдзень вазіць нам авансы, шукаць па ўсёй пляцоўцы дзяўчат-канструктараў, якім ні разу так і не дазволіў наш строгі кіраўнік заначаваць у палатках. Але, мусіць, больш за ўсё шкада мне дзеда-вартаўніка, з якім так часта лавілі лінёў і плотак, варылі юшку, хмяліліся самагонкаю і спявалі, бывала, да пеўняў. Не ўяўляецца, як гэта мы будзем працаваць у цэху, не паныраўшы ў раніцы з крутога невысокага берагу.

Але колькі ні стой і ні думай, усё роўна трэба ад'язджаць... Кідаю развітальны позірк на сосны, на белых чаек, што кружацца над морам, і па праву брыгадзіра займаю месца ў кабіне.

Вось наш хуткі газік гоцкаецца, мякка прысядае пад грузам і

вырульвае на асфальт. Стрэлка спідометра падыходзіць да васьмідзесяці, а шыракатвары шафёр паддае газу і ківае ў бок дач за драцяной сеткай: «Бедна жывуць людзі!»

Ачнуўся я ад млявых думак, калі прыехалі на завод, калі ўбачыў Максіма Бакуновіча, які ў перадвароцці цэха чамусьці мыў свой «рамонт». Ён весела жартуе, што я папаўнеў за лета на свежым паветры, загарэў у лесе і на моры і — цяжка будзе цяпер прывыкаць да варштата...

— А якія тут у вас навіны? — пытаюся я.

Максім зірнуў у цэх праз расчыненыя дзверы.

— Нічога асаблівага. Ды хіба ты не чуў?

— Што?

— Сурмачэўскага афармілі... Заўком званне камуністычнай брыгады прысвоіў. Куды толькі цэхавая прэса глядзіць!..

— Гэта ўсе чулі, Максім... Ты вось мадэль хутчэй мый.

— І то праўду кажаш...— сказаў Максім.

Я паспяшаўся ў цэх, каб павіншаваць Воўку Сурмачэўскага і ўсіх хлопцаў.

**УСПАМІН ДЗЕСЯТЫ.** З самай раніцы расчынены насцеж вокны і дзверы, але ў цэху ўсё роўна горача. Воўка Сурмачэўскі ў саколцы стругае фуганкам верх шпянёвай скрынкі, а буйныя кроплі поту ўсё падаюць і падаюць на стружкі, на гладкае днішча.

— Ух, сіл няма! — раптам сказаў ён і сеў на загатоўку каля варштата.— Хлопцы, абед! Ідзем загараць!

— У магазін трэба схадзіць,— паглядзеў спадылба Пятро Міхалькевіч.— Малака малой...

— Я ў шахматы буду гуляць,— гаворыць Пецька Івановіч і дастае з шафы абед у газеце.— Брыгадзір, соль ёсць?

— Паглядзі там. Была... Валька, ты не хочаш загараць? Паляжым, пагаворым. Нядаўна я Ясеніна чытаў... Як і ўсе паэты, талентам сваім казырае. Бронзай зазвінець!.. Ледзь не кажа, каб насілі яго на руках...

— А сам лепшы? Не паспеў стаць брыгадзірам, а ўжо ў газетах — партрэт... Па радыё, па тэлебачанню выступаеш. Дэпутатам райсавета выбралі. Таксама недзе махаеш кулакамі, каб паважалі...

— Нічога ты не ведаеш, Валька,— сказаў Воўка і паглядзеў мне ў вочы.— Ідзі туды, на насып. Я спаласнуся халоднай вадой і таксама прыйду палуднаваць...

Лета ў самым пачатку, і столькі курынай слепаты, што не ступіць нагою, каб не трапіць на краску. Хлопцы паселі на сонцы, а я лёг на другім баку насыпу, далей ад іх гамонкі.

— Ты не ведаеш, Валька, як мне ўсё гэта абрыдла,— падышоў і прылёг са мною побач Сурмачэўскі, разлажыў полудзень на газеце.— Брыгадзір, дэпутат... Фатаграфавалі, пісалі... Але, скажам, выступае дырэктар завода. Ён тое, другое прабівае. Што мне да яго раўняцца? А я адзін раз паткнуўся з трубамі вадаправоднымі. Дом гатовы быў, а трубы не давалі... Колькі хадзіць давялося! Запісвалі ў рашэнні — даць. І тады зноў колькі пахадзіць давялося...

— Але ж далі ўсё-такі! Вядома, дабівацца трэба...

— Ты паслухай... Аднойчы прыходзіць карэспандэнт з газеты. Так ласкава каля мяне... Кажа, ведаю, што вы чалавек заняты. Напісаў артыкульчык. Пачытайце. Калі згодны, падпішыце. Надта ж трэба выступленне дэпутата...



— Ты, не чытаючы, падпісаў? — смяюся я.

— Адмовіўся. Галка з ім пагаварыла... Пайшоў нясолана хлябнуўшы... Не было мне пра што пісаць. А некаторыя, ведаю, так падпісваюць, не чытаючы. Якая карысць з такога артыкула?

— Цікава, з якой газеты?

— А ці не ўсё роўна з якой? — гаворыць Воўка і ўсміхаецца.— І на тэлестудыі аднойчы «арганізавалі выступленне». Напісалі на паперку, а я пачытаў... Ды яшчэ грошы прыслалі... Трэба кідаць, Валька, сваё брыгадзірства...

— Не выдумляй,— сур'ёзна гавару я і гляджу Воўку ў твар.— Усюды пра цябе так звянілі. Было не ўключацца ў спаборніцтва. А так «хату» атрымаў...

— Што там кватэра!.. Тыя, хто пазней за мяне прыйшлі ў цэх, таксама ўжо атрымалі. Цяжка мне ў брыгадзе. Ты сам бачыш, як стараемся. Пятро з Пецькам робяць, дык — не будзеш глядзець. Я ўжо чатырнаццаты год мадэльшчыкам! Колькі перарабіў мадэлей! Больш складаныя былі, чым апошняя станіна...

— Плаціць мала, ці што? Які твой сярэдні?

— Можа на сто сорак нацягне. А твой?

— Каля гэтага блізка. Але ж я таксама стараюся. Пасля змены застаюся.

— Зарабляй на здароўе... Хлопцы, мае аднагодкі, у механічных на станках па дзвесце чыстымі маюць. А тут усё на пуп бярэш. Павярочаеш станіну, рук не чуеш...

— Слухай, а чаму вам усім пароўну плаціць? Калі б па разраду, усё нармальна было б...

— Сам так сказаў.

— Навошта такі гераізм?

— А што мне было гаварыць? Добрыя хлопцы, стараюцца. Ды ўлічы — брыгада камуністычнай працы... А наогул — несправядліва. У таго галава слабая — з мадэльшчыкаў пераводзяць у разметчыкі. У таго дыплом, яму трэба па спецыяльнасці. Я не хвалюся... Але ж ці горш за інжынера ведаю тэхналогію ліцейнай вытворчасці, скажы? Было месца, а начальнік і слухаць не хоча! Кажа, лепшы мадэльшчык! Слава на ўсю рэспубліку!

— Воўка, ідзі ў шахматы згуляем,— раптам чую голас і моцны Пецькаў смех.— Слабакі сабраліся... Брыгада вам пакажа...

Брыгадзір згарнуў астаткі абеду ў газету, падхапіўся і пайшоў да Пецькі Івановіча, які сядзеў на кавалку фанеры ў цяньку пад таполяй і, смеючыся, махаў на некага пальцам.

Я канчаю есці каўбасу, запіваю напіткам, паварочваюся тварам да сонца і пад гоман галасоў у салодкай дрымоце думаю пра толькі што чутае.

*...— Маладзы чалавек, не засніце,— гэта зноў гаворыць чарнавокая суседка.*

*— Дзякую,— шапчу я і адчуваю, як прылівае цяпло да твару.— Прабачце, так задумаўся...*

*— Вы цукеркі з сабою насіце. Пацягнула на сон, дык у рот карамельку... Жана заўсёды так робіць.*

*— Звычайна, пішучы, спаць ніколі не хочацца.*

*— Хоць праз усю ноч?*

*— Хоць дзве ночы... Завод успамінаю. Завод ніяк не забыць...*

*— Хто вам паверыць? На Жану так хутка забыліся...*

*— Чаго ж яна ад мяне хоча? З другім ездзіць на Нарач, а тады закаханай прытвараецца?*

*— Ціха, ціха... Самі не лепшыя. Мужчыны, канешне, ніколі не памыляюцца... Маўчыце ўжо.*

Нават са сваіх хлопцаў не ўсе ведалі, што ў мадэльным цэху ёсць такі здольны чалавек, як Валодзя Каваленка.

З'явіўся той малюнак на фанеры, між зялёных таполяў, нечакана для ўсіх. Ішлі на абед — не было нічога, а тут — на табе!..

— О, Валодзя Каваленка мастак-такі! — першы падняў шум Воўка Сурмачэўскі.— Глядзіце... Веранда, як сапраўдная. І шпакоўня на таполі... А гэта ж Барыс Цясленка ў сваёй кепцы. Казла забівае!!. От каб яшчэ каляровымі фарбамі!

— Скажы мне, Валодзя, дзе ты гэта малюваць так навучыўся? Можа б і я туды падаўся,— не то ўсур'ёз, не то жартам пытаецца Бакуновіч.

— Пры мінскім Доме афіцэраў ёсць студыя самадзейных мастакоў,— адказвае Валодзя і хітравата прыжмурвае вочы.— Але ж туды ўсіх не бяруць. Трэба ўжо нешта намаляваць. Там жа камісія прымае. Не так проста...

— Доўга там намаляваць! — гаворыць Бакуновіч.— Распісаў таполю адзінокую наводшыбе, і — гатова!



— А думаеш, таполю так ужо проста намаляваць? —ківае галавою Пятро.— Паспрабуй!

— Правільна Міхалькевіч кажа,— адыходзіць і глядзіць на свой малюнак Валодзя.— Так многія лічаць, што пейзаж намаляваць лягчэй за ўсё. А вазьміце пейзажы Левітана, Шышкіна. Усе яны арыгінальныя, кампазіцыйна дакладныя. Сюжэтная аснова іх падказана самім жыццём.

— Валодзя, а калі гэта можна будзе паглядзець твае карціны? — пытаюся я.

— Пайшлі хоць сёння,— гаворыць Валодзя і сам ўсё падмалёўвае карціну.— Знаеш, мастацтва — штука заманлівая. Іншыя ў выхадны дзень без справы снуюдаюцца. А то ў казла гуляюць... Для мяне ж гэты дзень, як свята прамільгне...

Закончыўся абед. Мы спяшаемся ў цэх. Я іду і думаю: жывеш, працуеш з чалавекам доўгі час, прывыкаеш да яго, а ўсё пра яго не ведаеш... І раптам, нібы сонечны прамень, адкрыецца ў ім новае, яшчэ невядомае дагэтуль. І як радуе заўсёды гэтае адкрыццё! А тое, за што любіў і паважаў чалавека да гэтага, адыходзіць на задні план, доўга хаваючыся ў памяці.

**УСПАМІН АДЗІНАЦЦАТЫ.** Пад вечар я забег перачакаць лівень у павільёнчык для пасажыраў на аўтобусным прыпынку. Тут зусім нечакана сустрэўся са сваёю зямлячкаю, з былой малярkай у нашым цэху Галінай Пятровай. Сказаць шчыра, не адразу пазнаў яе — так зблажэла жанчына за нейкіх пяць гадоў.

— Ты, я чула, вучышся? — пытаецца яна.— Ва ўніверсітэце? І працуеш?



— Вучуся і працую.

— Цяжка, скажы?

— Не вельмі. Толькі часу вечна не хапае.

— Гэта нічога. Затое чалавекам станеш... А я так хачу, каб Віталь вучыўся. Адзін сын у нас. А ён — на работу, кажа, пайду. Шаснаццаты год...

Я заўважыў у куточках яе вачэй слязінкі. Жанчына неяк змянілася ў твары, апусціла галаву.

— Усё для яго,— гаварыла яна, выціраючы хусцінкаю вочы.— Моды гэтыя часта мяняюцца. Гарнітурчык кожны год новы. Чаравікі... На сябе некалі глядзець. Каб вучыўся, стараемся. А ён разумець нічога не хоча. Ды ты зайдзі да нас. Паглядзіш, як жывём. Пагаворыш з Віталем. Ты ж у газету пішаш... У мяне ўжо сілы няма. А Коля мой маўчыць. Не дай божа, жыць з ціхім чалавекам...

Шумяць абапал тратуара маладыя таполі. Недзе за горадам грыміць гром. Мне ўспамінаецца дзяцінства, тыя рэдкія і шчаслівыя вечары, калі ўдавалася прашмыгнуць незаўважаным на танцы і з далёкага кутка наглядаць за дарослымі, зайздросціць ім.

Галя была самая прыкметная сярод дзяўчат. Яна і спявала весялей, і танцавала лепш, і апраналася багацей за іншых. Ды і хлопец да яе прыязджаў з горада. Наш, вясковы, але працаваў на заводзе пасля арміі. Хвалены, прыгожы, паважаны бацькоў хлопец!

Калі падыходзілі да Галінага дома, я падумаў: «Што ж сказаць яе Віталю? Чым памагчы?»

Па двары бегаюць два вялікія сабакі. Недаверліва нюхаюць мяне, але пускаюць на веранду.

— Што, Коля на паляванне ходзіць? — пытаюся ў Галі.

— Не, гэта Віталька сабак любіць... За гэтага, маладога, летась дзесяць рублёў аддаў. Пародзістыя, кажа.

— Для паляўнічага, я разумею, гэта сабакі,— паціскаю плячыма я.— А так... навошта яны?

— Захацеў — спрачацца не сталі,— махнула рукою жанчына.— Невялікія расходы: буханка хлеба на дзень, чыгун булёну...

Колю па старой звычцы я казаў «ты». Ён працуе на аўтазаводзе слесарам.

Галя заве нас да стала. Віталь садзіцца побач са мной. Галя радуецца, глядзіць мне ў вочы, падлівае больш у чарачку. А я чамусьці ніяк не адважваюся пачаць гамонку з яе сынам.

— У якім ты класе вучышся? — пытаюся нарэшце.

— Восем скончыў,— пакрывіўся Віталь.

— На пяцёркі, мусіць, усё здаў?

— Дзе там... Ведаеце, якія цяпер настаўнікі! Ты хоць лепш за яго ведай — усё роўна больш за тройку не паставіць.

— А ў дзевяты пойдзеш?

— Толькі ў вячэрнюю... Працаваць буду.

— Ведай, Віталь: матацыкла, як сваіх вушэй, не ўбачыш!.. А то вясной паехаў бы,— бліснуў вачыма бацька.

— Слухай, Віталь,— перабіў я гамонку.— А Аляксандра Віташкевіча з нашага завода ведаеш?

— Канешне, ведаю! Я пайшоў бы да такога! — усклікнуў Віталь.

— А што там геройскага? — запратэставала маці.— Просты рабацяга. Такія ж мазалі на руках, як ва ўсіх нас...

— Аляксандр не просты,— не згаджаюся я.— Паглядзелі б, як ён працуе! Гэта ж песня...

Нейкі час мы сядзім моўчкі. Галя глядзіць у акно, уздыхае. Ві-

таль спадылба паглядае на нас, усміхаецца, водзіць пальцам па стале.

— Канешне, і рабочую прафесію трэба мець,— гаворыць Коля.— Але пры нашых дастатках яму вучыцца трэба... Баян купілі. Хто лепш за яго апрануты ў горадзе? Матацыкл будзе... Ды я сам без штаноў застануся, а яго вывучу!

— Ладна, буду вучыцца, калі так вам хочацца! — выгукнуў Віталь і пайшоў да дзвярэй.— І працаваць пайду! Не будуць на мяне пальцам тыцкаць, што мамчын сынок...

Віталь стукнуў дзвярыма, выйшаў з пакоя.

— Нічога не разумее,— паківала галавою маці.— Яму лепшага жадаюць, а ён...

Я адвярнуўся да акна. З захаду зноў падымаецца цёмная хмара. Перуны ўжо там дзеляць на кавалкі неба, а парывісты вецер страсае апошнія кроплі дажджу з лістоў на слівах і яблынях у агародзе.

**УСПАМІН ДВАНАЦЦАТЫ.**— Ты чуў пра Віталя Пятрова, што ў Кучаравага вучыцца? — падбягае да мяне Воўка Сурмачэўскі.— Адкрыццё зрабіў... Даказвае, што толькі з поўдня на поўнач можна перпендыкуляр узводзіць...

— Выдумляеш,— адказаў я, усміхнуўшыся.— У дзевяты клас Віталь ходзіць...

— Што тыя класы!..— гаворыць Воўка.— Можна і дзесяць гадоў хадзіць з букваром. Ведаў няма... Не ведае, што такое хорда, бісектрыса.

— А бацька ж яго вывучыць хоча...— кажу я.— Ды недзе яшчэ і ў музычным вучыцца Віталь...

— Так вось і калечаць людзей...

Першы дзень Віталь спазніўся на работу. Чорная шавялюра яго была ўскудлачана.

— Думаеш, лёгка ўстаць у сем гадзін? — сказаў ён майстру.— Гэта ж не табе, што пад бокам прахадная...

— У нас майстра на «вы» завуць,— паправіў Віталя Кучаравы.— Дзе ты рос?

Хлопцы пасля не давалі Віталю праходу: «Пойдзеш па людзях капейкі збіраць, калі не вывучыш хаця б геаметрыю», а мне балела душа, бо я не ведаў, чым памагчы Віталю і яго бацькам.

**УСПАМІН ТРЫНАЦЦАТЫ.** Ужо ляжалі на пліце распілаваныя на «хамуты» для корпуса дошкі, быў прыгатаваны клей, а я спахапіўся, што ў скрыначцы з цвікамі няма «соткі». Бягу ў канторку майстроў, запаўняю накладную, хоць падпісаць яе няма каму: ніводнага майстра не відаць. Прайшоўся туды-сюды па галоўнаму праходу, заглянуў на загатоўчы ўчастак, махнуў у злосці рукою на такія парадкі і спяшаюся ў кладоўку.

— Зіна, дай мне з кілаграм «соткі»,— абапёршыся локцямі на бар'ер, прашу кладаўшчыцу.— Ніяк не знайду майстроў... Да сходу хіба не дажыву, ну і разнясу ж адміністрацыю...

Кладаўшчыца нерухома сядзіць на крэсле, глядзіць у акно і не абзываецца.

— Зіна, дай «соткі»! — крычу я і нагою барабаню ў фанеру.— Заснула...

— Валянцінка, зайдзі сюды,— ціха кажа яна і апускае галаву.—



Няма жыцця ў мяне... Прыйшоў учора Косця п'яны... Дваццаць рублёў засталося з авансу. На калені мяне паставіў. Нажом пагражаў. Не ведаю, што зрабіў бы, калі б дачка не пачала прасіць яго... Паглядзі, як твар счарніў,— павярнулася да мяне кладаўшчыца.— Напішы ты ў газету, Валянцінка. Хоць бы прысаромілі яго. Як жа так жыць, падумай? Ці ж гэта першы раз...

— Выганяй з хаты,— кажу я, а сам не магу глядзець жанчыне ў твар, кладу на вагу па аднаму цвіку.— На дзяцей будзеш палучаць... Навошта цярпець здзек?

— О, ён бы пайшоў. Ёсць там у яго адна сучка...— выцірае слёзы Зіна.— Хадзіла да яе, вокны пабіла. Чарнілам пасцелі заліла. Выгнала яна тады Косцю... Дзецям жа бацька трэба... Столькі адняў здароўя, але мужык... Каб там на рабоце яго прыцiснулі, напішы... Яму ўжо вымову не адзін раз давалі. На яго ўсе там ў цэху... Сястра яго родная так лаяла. Яны ж бачаць усе, што я чалавек... Так цяжка, Валянцінка! Напішы, хай бы пасаромілі трохі...

— Падумаю, Зіна. Нешта зробім. Не мужык там у цябе, а звер нейкі...— я ўзяў цвікі і пайшоў у цэх.

«Абавязкова памагчы жанчыне трэба,— збіваю «хамуты» і думаю сам сабе.— Распытаю ў старэйшых і напішу».

**УСПАМІН ЧАТЫРНАЦЦАТЫ.** Толькі дамовіўся па тэлефоне з Жанай, каб яна не чакала мяне, бо нікуды я сёння пайсці не магу, як сустрэўся мне Пецька Івановіч.

— Слухай, сёння канструктары прыйдуць на сустрэчу па шахматах...

— Прабач, Пецька, я не магу. Тэрміновая справа. Жанчыне адной трэба памагчы...

— Няйначай нашай кладаўшчыцы?

— Ёй. Зноў у сіняках прыйшла. Плача...

— А ты яе ведаеш добра? — пытаецца Івановіч і глядзіць мне ў вочы.

— Дык падкажы, калі ты лепш ведаеш,— гавару я і ўглядаюся ў блакітныя Пецькавы вочы.— Просіць дапамогі жанчына. Не магу цярпець слёз...

— А я магу цярпець?..— усміхаецца Пецька Івановіч.— Яна больш за мужыка вінаватая... Ты ў Барыса Цясленкі спытай. У адным цэху з яе мужыком працаваў. Ён партыйны і праўду скажа. Ніколі не спяшайся пісаць...

Івановіч махнуў рукою: маўляў, што хочаш рабі, і пайшоў. Я моўчкі стаяў, не ведаючы, куды падацца. Нікому не ў галаве, што недзе плача Зіна, а яе дзеці з боязззю чакаюць вечара, бо Косця, можа, зноў прапівае грошы з якой распуснай жанчынай...

**УСПАМІН ПЯТНАЦЦАТЫ.** Сёння дваццаць восьмага красавіка, але я ўжо «закрыў» нарады за месяц і, трохі зласнаваты на майстра, што пакінуў больш за трыццаць рублёў «задзелу» на наступны месяц, з раніцы хаджу па цэху. Яшчэ ўчора пасля абеду гаварыў мне Бакуновіч, што хоціць з мяне ста сарака васьмі рублёў заработку, бо Анатоль Пархвенавіч так можа «пасадзіць» у маі, падсунуць такія мадэлі, на якіх і сотні не «выганіш». Ды я і сам да гэтага часу паспеў зразумець, што майстар пры здзельнай сістэме — бог, ад якога ў большасці выпадкаў залежыць «жыццёвы ўзровень» рабочага.



Ужо больш як паўгадзіны тупаю вакол свідравальнага станка, а ўсё ніяк не магу адважыцца падысці да Барыса Міхайлавіча Цясленкі, бо ён заняты работаю. Але вось Барыс выцірае квяцістай анучай рукі, глядзіць на мяне і задаволена ўсміхаецца. Я забываюся на ўсё і павольна падыходжу да яго.

— Здароў, Міхайлавіч,— кажу я і прыглядаюся да акаванай мадэлі.— Цяпер не паб'юць у ліцейцы...

— Скажаш! Там і стальное не вытрымае,— адказвае Цясленка.— А праўда, што ты Зіну бярэшся з мужыком памірыць?

— А што ж рабіць? У яе двое дзяцей. Пецька Івановіч казаў, што ты нешта ведаеш пра Зіну? Быццам, у адным цэху з яе мужыком некалі працаваў?..

— Сама яна добрая цаца, вось што я ведаю,— сур'ёзна гаворыць Барыс Міхайлавіч і кідае на тумбачку анучу.— У дзеўках круцілася. Косцю гэтага на сабе ажаніла... Пазалетась забралі яго на два месяцы на перападрыхтоўку, дык яна праз дзень нейкага лысага інжынера прыняла на кватэру. А тады бегае да начальства, скардзіцца, што Косця грошы прапівае... Перайшоў ён быў жыць да кранаўшчыцы з ліцейнага. Дык вокны там пабіла, у міліцыю заявіла... А праз тры дні пасля гэтага з Віцькам...

— У жыцці ўсякае здараецца, Барыс,— гавару я.— А дзеці што, вінаваты? Дзецям патрэбен бацька, іх не цікавяць памылкі...

— Тады пішы, мо і перайначацца людзі...— смяецца слесар.

Барыс Міхайлавіч бярэ ў рукі напільнік, а я іду ў канторку майстроў і на накладных алоўкам пішу накіды да артыкула: «Сям'я, кладаўшчыца Зіна і тое-сёе з жыцця».

**УСПАМІН ШАСНАЦЦАТЫ.** Праз вокны і шчыліны лезе ў цэх вясна. І вось я ўжо стаю ля варот ды гляджу то на цёмна-сінюю стужку снегу, то на лужыну талай вады, то на мадэльшчыкаў, што сядзяць пры сцяне на круглым палене, весела гамоняць і кураць.

Васька Булгакаў расказвае, што ён ніяк не можа выспацца, іганьбіць сваіх бацькоў: у шаснаццаць гадоў прымусілі працаваць!

— А што ж ты хочаш — дармаедам на шыі сядзець? — спакойна, як заўсёды, пытаецца Барыс Міхайлавіч Цясленка.— Правільна, шаснаццаць — не вялікі ўзрост. А я ў трынаццаць пачаў хлеб зарабляць... Ты ж у школу не ходзіш. Вучыся тады ў цэху...

— Усё вучыся, вучыся...— скоса зірнуў на Барыса Васька.— Да службы тры гады засталося... Аддыхнуць хоць трохі. Хопіць з мяне вучобы. Восем гадоў адцягаўся. Гэта бацькі такія... У пятнаццаць гадоў самі ў міліцыю мяне здавалі. Добра, што хоць штраф заплацілі, калі такія разумныя.

— За што яны цябе ў міліцыю? — пытаюся я ў Ваські і саджуся насупраць яго на скрынку, спіною да сонца.— Нешта ж правініўся, калі здавалі.



— Вокны дома пабіў,— усміхнуўся і махнуў рукою Васька.— Хай не завальваюць на замок... Што мне, пад плотам было начаваць, маючы сваю хату? Прагуляў там ноч у аднаго чувака. Дзень нараджэння адзначалі. Усю ноч бацалі. Пад раніцу ледзь давалокся... Дзе там будзеш помніць, што яны ключы пад камень каля плоту кладуць. Знайшоў палку ды па вокнах...

— Ой, паказаў бы я табе, Васька, вокны!..— устаў з бервяна і кінуў у лужыну недакурак Цясленка.— У міліцыю званіць — многа гонару...

Ён зверху паглядзеў на Ваську і павольна пайшоў у цэх.

— Хай бы паспрабавалі біцца,— не суніма́ўся Васька.— Не маюць права біць. Няма закону...

— Такі быў бы і закон, Васька...— кажу я.— Каб пяты куток пашукаў хоць адзін раз у хаце, ніколі больш не біў бы вокны.

— Знайшоўся яшчэ адзін мараліст!.. Ды хай хоць пальцам хто кране...

— Крануць, і нічога не скажаш,— кажу я.— А што ж, думаеш, так і будзе? У канторцы курыць нельга, а ты ўсё роўна на сваім...

— Дзе захачу, там і буду курыць,— злуецца Васька.— Ніхто мне не ўкажа. Хай звальняюць з завода. Другую работу знайду...

— Малады ты, Васька,— усміхаюся я.— І біць не будуць, а як міленькі будзеш старэйшых слухацца.

Я ўстаў са скрынкі, а ўжо другія хлопцы тлумачаць Ваську, што ён проста многае не разумее.

На момант цэх сцішыўся, замёр.

Усёю зменаю на чале з майстрам Пятром Паўлавічам Міхалькевічам мы стаім паўкругам каля наждака, ківаем галовамі, зіркаем адзін аднаму ў вочы і, мусіць, жадаем толькі аднаго: хаця б не аднялі руку Ваську Булгакаву.

На падлозе побач з плямай свежай крыві блішчыць лязом адшліфаваная фінка без ручкі. На сівой станіне наждака таксама пырскі крыві. Мне здаецца, што сам наждачны дыск набрыняў крывёю і таму такі чырвоны.

Ваську падхапілі на «хуткую» і павезлі, а тут смута. Усім баліць яго болька! Непаслухмяны Васька, грубаваты і не вельмі разбіраецца ў жыцці, а шкада чалавека да слёз.

Хмуры і белы ў твары, сядзіць Васька Булгакаў у канторцы майстроў, трымаючы на падвязцы забінтаваную руку. Па адным, вымытыя і прычасаныя, пераапранутыя ў чыстае адзенне, збіраюцца хлопцы на сход.

— Здаецца, змена ў поўным складзе,—устае за сталом і аглядае ўсіх Пятро Паўлавіч.— Максім тут, значыць, можна пачынаць. Пратакол будзе пісаць Мыслівец. У яго ёсць аўтаручка і папера. А членаў прэзідыума выбірайце самі... Значыць, парадак дня такі... Усім вядома, што Васька Булгакаў паўмесяца таму назад вастрыў фінку і парэзаў руку. Па-першае, рабіць нажы ў цэху нават вопытным мадэльшчыкам забаронена. Па-другое, рабіць фінку — гэта хуліганства. На каго ты вастрыў яе, таварыш Булгакаў?

— Якую фінку? Яшчэ выдумайце...— выкрыкнуў Васька.— Звычайны сталовы нож рабіў.

— Чуеце, што гаворыць Булгакаў? Фінка ляжыць у начальніка ў стале... Цяпер, таварыш Булгакаў, уставай і сам расказвай, як усё

здарылася... Можа хто з адміністрацыі вінаваты, што ты падсунуў руку. Устань, калі да цябе гавораць...

— А што мне расказваць. Вырваўся нож з рук,— спадылба бліскае вачыма Васька.— Аглянуўся на цэх, каб нікога з адміністрацыі не было... Больш нічога не памятаю... Звальняйце з завода... Знайду такое шчасце...

— Значыць, ты рабіў нож? — перапытаў Пятро Паўлавіч.

— Рабіў фінку... Адчапіцеся ад мяне. Вінаваты, дык звальняйце...

— Ты не пстрыкай тут, хлопец,— паглядзеў на Ваську і сур'ёзна гаворыць Коля Ламака.— На пенсію захацеў у такія гады!.. І ніхто цябе не будзе звальняць. Трэба так і запісаць у рашэнні сходу. На паўгода-год прытрымаць Ваську ў цэху. Пакуль не выправіцца з дысцыплінай. Ні ў якім выпадку не звальняць...

— Ого, няма закону!..— глядзіць на мяне Васька.— Запісвайце ў рашэнне, мне ўсё роўна... І тады кожны дзень будзеце па костачках разбіраць, думаеце? Пяты куток прымушаць шукаць? Не ставала яшчэ...

— У цябе, таварыш Булгакаў, пытацца ніхто не будзе,— зноў гаворыць майстар.— Запішам у рашэнне. І, калі ласка, волю калектыву не парушай...

Выступаюць Максім Бакуновіч, Лёшка Кучаравы, а я ўсё запісваю і запісваю ў пратакол, і не верыцца мне, пазіраючы на потны Васькаў лоб, што можна так увагрэцца ад шчырых і колкіх слоў сваіх сяброў.

**УСПАМІН СЕМНАЦЦАТЫ.** Больш тыдня не прыходзіў на работу ў цэх, не начаваў дома Арнольд Стрыгалёў. Шукалі яго бацькі, сябры і міліцыя. Вось ужо другі дзень гнецца Арнольд над варштатам, углядаецца ў чарцёж, не ходзіць у курылку і не просіць мяне глянуць яго новыя вершы.

Чым жа займаўся чалавек гэтыя дні? Можа вершы пісаў? А можа на мяне ўзлаваўся, што раскрытыкаваў вершы? Але ж навошта хлусіць чалавеку? Няма паэзіі, дык трэба так і гаварыць. Вельмі ж малады Арнольд. Смешны, пра касьбу піша! А сам ніколі касы ў руках не трымаў... Быў у дзеда, дык бачыў, як лёгка касіў стары. Якая там песня ў касцоў, калі пот вочы залівае? Ніколі ў жыцці не спявалі касцы, ідучы з сенакосу! Падыду да Арнольда, пагавару.

— Прывет мадэльшчыку! — вітаючыся з хлопцам за руку, кажу я.— Чаго задумаўся? Корпус са шпянёвай скрынкай робіш?.. Глядзі, тут наадварот паказана тэхналогія. Заблытана ўсё на чарцяжы.

— А я ўжо на кантрольную пліту хацеў несці,— гаворыць Арнольд.— А тады думаю, як там ліцейшчыкі форму сабяруць... Да майстра баюся падыходзіць. Крычаць пачне за прагулы...

— Мусіць, дзён пяць прагуляў? — пытаюся я.— І дзе ты быў?

— Дома. На гарышчы ляжаў,— уздыхнуў Арнольд.— Днём горача было... Дах шыферны...

— І есці не злазіў?

— Уначы агуркі ў градах выбіраў. А так не хацелася нічога...

— Чаго ж ты хаваўся?

— Цяжка мне, Валік... А што ты рабіў бы, калі б закахаўся ў дзяўчыну, а яна...

— Што яна?.. Хадзіў бы з ёю на танцы, у кіно. Праводзіў бы вечарамі дамоў...

— Таму і крыўдна, што хадзілі ўсюды з Рытаю. Яшчэ з пятага класа... А яна з маім суседам... Сорамна гаварыць...



— Было ў яе што-небудзь з суседам?

— Ціха ты, каб хлопцы не пачулі. Нікому не кажы... Я не веры ў яму. Сама Рыта прызналася. Смяюцца ўдваіх з мяне. А я так кахаю Рыту... Шкада, не падужаю яго. От, адбарабаніў бы!

— Колькі табе гадоў, Арнольд?

— Васемнаццаты з вясны. А ёй у канцы верасня васемнаццаць будзе. Яна прыгожая...

— Асабліва не хвалюйся, хлопец,— гавару я.— У армію пойдзеш. Адбудзеш тры гады. Свет убачыш... На Рыту не захочаш і глядзець.

— Не магу я без Рыты. Так прывык, так пакахаў! На ўсё жыццё! Не расказвай толькі нікому. Я ўсё роўна ажанюся з ёю...

Да нас падыходзіць Пятро Паўлавіч. Сур'ёзна пазірае на мадэль, на Арнольда, на мяне, а я міргаю яму і ківаю неўзаметку галавою, і мы моўчкі ідзём з ім у канторку майстроў.

*— Вось пачытайце запіску ад Жаны,— зноў шэпча суседка і совае мне ў руку рагавічок.— Я пайшла. Пакуль даеду да Кальварыі...*

*— Дзякую. Шчасліва даехаць,— кажу я і разгортваю ліст.*

*«Дарагі Валік! Прабач за ўсё. Я многа перадумала і перажыла за апошнія месяцы. Мне цяжка. Прыходзь заўтра ў кніжны магазін у шэсць вечара. Пагаворым. Цалую. Жана».*

*Яшчэ ў дзвярах пры выхадзе з бібліятэкі зіма дыхнула мне ў твар холадам і свежасцю.*

*ВЯЧЭРНІ МІНСК*. Пад нагамі перасыпаецца незляжалы, трохі патаптаны і жаўтаваты на тратуары снег.

Прыпудраны снегам, навечна прыкаваны да мармуровага пастамента, бліскае ствалом, гусеніцамі і ўсім сваім целам велічны помнік вайны, баявы танк. І калі б ні ішоў паўз гэтую грозную махіну, заўсёды хочацца ўзняць галаву на помнік.

Гордыя, задаволена ўсміхаюцца, сядзяць на фота без шапак і ў гарнітуры, не зважаючы на марозік, а то задумліва ўглядаюцца ў прахожых передавікі вытворчасці, што на Дошцы гонару горада.

Снег на плечуках, снег на бровах, снег на заўсёды прычасаных на бок валасах, а вялікі Янка Купала, як жывы, глядзіць мне ў твар. Вось губы яго крывяцца ўбок, на вуснах усмешка, ад якой халадзее душа, але з чуба падае долу снег, і я не расслухаў, што ціха сказаў мне паэт. Успамінаецца купалаўская «Яна і я». І нейкая крыўда агортвае мяне, што рэдка перачытваю паэта, што мала твораў яго ведаю на памяць, што толькі цяпер, у дваццаць сем гадоў, адчуў сэрцам сапраўдную паэзію глыбока нацыянальнага і сусветна вядомага песняра.

Ужо мільгаюць перада мною сваімі яблыкамі-вачыма светафоры-аўтаматы, перакрываюць дарогу машынам з Ленінскага праспекта, хоць з вуліцы Энгельса не відаць нават матацыкла. Самы заўзяты міліцыянер не дамогся б гэтага! Прабачце, я нічога не хацеў сказаць. Дваццаты век — век аўтаматыкі!

Чырванню гараць, ззяюць прошвы-вывескі на кафэ «Вясна». Маладыя дзяўчаткі, падрумяненыя зімою і чырвоным святлом, шэпчуцца і сур'ёзна паглядаюць на рослых хлопцаў, якія, наставіўшы каўняры паўпаліто, лёгка штурхаюць адзін другога, зычна смяюцца, і, здаецца, іх галасамі жыве і красуе вячэрні Мінск.

Няўжо гэта кладаўшчыца Зіна з Арнольдам згледзелі мяне, крутнуліся і хутчэй пайшлі прэч? Арнольд азіраецца! Вось яно што!

А я пісаў, хадзіў у рэдакцыю, хацеў памагчы табе, Зіна! Прабач, Косця...

Вяртаюся назад і зноў іду тратуарам цудоўнага, роднага праспекта, і мне боязна аглянуцца, каб не зайшлася душа ад крыўды, і хараша сярод гэтай людской калыханкі, здаецца, прынесенай сюды белай квеценню зімы. Прыгожы вячэрні Мінск, асабліва пасля першага снегападу!

**ЗАВОДСКІЯ ПРАБЛЕМЫ, СУСТРЭЧЫ, ДУМКІ.** Беспрычынна строга сустрэла мяне прахадная роднага, незабыўнага завода. Неяк не думалася нават мне раней, што пажылы вартаўнік у чорным доўгім шынялі можа так спакойна кіўнуць галавой на бюро прапускоў і больш не будзе са мною гаварыць, а поўная маладая жанчына толькі зірне ў маё пасведчанне нештатнага карэспандэнта і тут жа паспешліва зачыніць акенца свайго кабінета, буркнуўшы нешта неразборлівае сабе пад нос.

Тэлефон у начальніка мадэльнага цэха заняты, і я злуюся і званю яму можа дзесяты раз запар. І чырванею, што мне так доўга даводзіцца стаяць пад дзвярыма завода, так адчайна стукацца да начальніка, так настойліва прасіцца ў тыя сцены, у якіх працаваў блізка шасці гадоў, так дабівацца спаткання з тымі людзьмі, з якімі дзяліў шчасце і радасць, да хрыпаты спрачаўся іншы раз, рабіў мадэлі і хадзіў на дэманстрацыі.

Не, гэты завод ніколі не стане для мяне чужым, далёкім!

*ПРАБЛЕМА НУМАР АДЗІН — КАДРЫ.* Стукаю ў дзверы і заходжу ў кабінет да былога свайго начальніка цэха.

Мікалай Назаравіч ківае галавою на маё прывітанне, падае мне цераз стол руку, а сам усё просіць, здагадваюся, начальніка аддзела кадраў, каб падаслаў у мадэльны цэх хоць некалькі спісаных у запас, здаровых і кемлівых воінаў. Вось кладзе на апарацік трубку, глыбока ўздыхае і запрашае мяне садзіцца на крэсла каля рабочага стала.

— Што чувасць, Валянцін? Прыходзь зноў да нас на работу,— ужо каторы раз пасля майго звальнення прапаноўвае Мікалай Назаравіч.

— У вас столькі маладых, што і варштата вольнага не знойдзецца,— смяюся я.

— Знойдзем. Усё будзе,— узнімае перад сабою руку і, усміхаючыся, гаворыць начальнік.— З маладых не хутка дачакаешся спецыялістаў. Добра, калі з семнаццаці застанецца ў цэху чалавек пяць... Адны расходы на навучанне. Прыслалі са школы. Ім па шаснаццаць, семнаццаць гадоў. Жывуць у бацькоў. Ніякай сур'ёзнасці да работы... Дзён шэсць сам сядзеў у аддзеле кадраў. Званю вось,— глядзіць мне ў вочы і разводзіць рукамі Мікалай Назаравіч.— Вось ты нам мог бы памагчы... Знаеш, у нас жа ніводны інстытут і тэхнікум не рыхтуе спецыялістаў па дрэву. Сам то я заканчваў ліцейнае аддзяленне політэхнічнага. Добра, мадэльшчыкам працаваў да гэтага. Яшчэ горш, мадэльшчыкаў па дрэву не рыхтуе ні адно прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча. Ні адно ў краіне, уяві сабе! Мадэльшчык, фактычна, галоўная фігура на вытворчасці. Даўгавечнасць, дакладнасць работы станкоў і ліній пачынаецца з нашага цэха. А знешні выгляд поўнасцю залежыць ад мадэльшчыкаў... А мне далі дзяцей у цэх. За шэсць месяцаў паспрабуй зрабі з іх спецыялістаў... Улічы, што ў цэх прыйшлі самыя адстаючыя ў школе...



— Прабачце, Мікалай Назаравіч. А хто ў вас кіруе непасрэдна працэсам навучання? Некалі, помню, стваралі брыгады маладых. Майстар нашай студэнцкай змены Пётр Паўлавіч вучыў...

— Сёлета таксама створана брыгада. Толькі кіруе ёю Максім Бакуновіч. Ён вызвалены ад усякіх абавязкаў. Інструктар па навучанню. Такая сістэма апраўдала сябе на практыцы...

— Зноў пераб'ю. Як з аплатаю цяпер?

— Аплата навучэнцам у нашым цэху самая высокая на заводзе. Першы месяц мы выплачваем трыццаць рублёў і тое, што чалавек зарабляе. Другі — з вучнёўскіх знімаем дзесяць працэнтаў... і так кожны месяц... Некаторыя спісаныя ў запас, што ўмелі сталярыць, з першага дня вучнёўства добрыя грошы маюць. Мікалай Войтка, помніш, некалі не хацеў у мадэльшчыкі пераходзіць. А на першую палучку закрыў нарады на сто трыццаць рублёў. Калі ў чалавека ёсць здольнасці, сам ведаеш, у цэху заўсёды падтрымаюць матэрыяльна...

— Мікалай Назаравіч, а як праходзіць усё-такі навучанне?

— Ох ты, Валянцін!..— усміхаецца, выходзіць з-за стала і хлопае мяне па плячуку Мікалай Назаравіч.— Як сапраўдны газетчык наступаеш. Добра. З табою хоць лёгка гаварыць. Ты ведаеш вытворчасць... А пра навучанне з Максімам паталкуй. У ліцейны спяшаюся. Зноў нас аб'ядналі. Адна марока... А то і на абед хутка.

Я зняў паліто, павесіў на вешалку ў канторы, прычасаўся і подбегам паспяшаўся за начальнікам цэха.

*ГАВОРЫЦЬ МАКСІМ БАКУНОВІЧ.* Ужо дзесятую хвіліну стаю каля кантрольнай пліты ў цэху, слухаю, як шуршаць пілавіннем тоўстыя трубы вентыляцыі, і гляджу на Максіма Бакуновіча, які так шчыра, паказваючы рукамі, тлумачыць чарцёж Валодзю Лазебнаму. Вось сцішыўся, глядзіць то на мадэльку, то Валодзю ў вочы, усміхнуўся і бяжыць у канторку майстроў.



— О, брат, Максім цяпер у нас чалавек! — падышоў блізка да мяне і задаволена ўсклікнуў Коля Ламака.— Маладых навучае... I такі маладзец. Пакуль усё не ўдакладніць, не прыступіцца, бывала, да работы...

Заходжу ў канторку, дзе Максім, пазіраючы ў чарцёж, гаворыць па тэлефоне, што тэхнолагам неабходна падысці ў мадэльны і памяняць лінію раздыму, бо так вельмі складана для мадэльшчыка і лішняя марока ліцейшчыкам.

Даўно я ведаю Максіма. Нялёгкі ён чалавек. Дня не можа пражыць, каб з кім не паспрачацца, не даказаць тэхнолагам ці канструктарам, што так, як ён прыдумаў, будзе лепш.

Успамінаецца мне, як некалі Максім у адной майцы стругаў рубанкам круглую станіну, не спраўляўся выціраць пот, а тады стукнуў далоняй сябе па лобе, саскочыў з пліты і кажа Сашу Сіроцкаму, свайму напарніку:

— Не падумалі. Можна было на фрэзерным. З двух палавінак, і хапіла б апраўкі...

Максім палажыў трубку, сказаў і паказаў рукамі Валодзю, каб чакаў тэхнолага, а сам глядзіць мне ў вочы, нечага чырванее і ўсміхаецца.

— Дык ты ўжо навучаеш...— гавару я і саджуся насупраць Максіма за сталом.— Як хлопцы? Хутка дасі цэху кадры?

— Будуць самі старацца, дык стануць мадэльшчыкамі,— адказвае Максім і паціраe рукою шчаку.— Безумоўна, шэсць месяцаў для іх малавата. Усе маладыя. Лёнька Станілевіч, скажам, з сорак восьмага года. Барыс Якубовіч з сорак сёмага... Ды вельмі ж дзецьмі прыкідваюцца. Скажам, дурэюць на рабоце. Не ўсе робяць хатнія заданні...

— Ты, як у школе, на дом даеш заданні?

— Усю геаметрыю паўтарылі. Сам ведаеш, колькі ведаць трэба мадэльшчыку,— гаворыць Максім і выглядае праз адчыненыя дзверы на гадзіннік у цэху.— Скажам, нам з табою проста падзяліць акружнасць на тры, пяць, сем частак. А хлопцы і пасля дзесяці класаў не ўсе ўмелі... У школе некаторыя не хацелі вучыцца, а тут я кожнаму адзнакі стаўлю ў журнал. Думалі, што на вытворчасці ім так сабе — усё вельмі проста. А тут праграма, вытрымай хаця, вунь якая вялікая! На дзвесце гадзін столькі матэрыялу!

— Што, цяпер навучанне ідзе па праграме?

— З Масквы прыслалі, брат ты мой. Усё па гадзінах распісана. Праўда, не заўсёды прытрымліваемся гэтых установак. Старшы майстар у нас, скажу табе, талковы чалавек. Усё з ім перасыпалі на свой лад... Скажам, па электратэхніцы на ўвесь курс, прыкладна, за сярэднюю школу, адведзена ўсяго дванаццаць гадзін. Яно б усё добра ведаць. Але ж не схопіш за такі кароткі тэрмін. Пазнаёмілі, як абыходзіцца з электраінструментам. Па тэхналогіі металаў многа часу, а ўсё гэта марныя гамонкі... Затое на чарчэнне так скупа гадзін, што самае неабходнае не паспееў бы даць. А які з цябе мадэльшчык, калі чарчэнне не асвоіш! Ніколі не станеш спецыялістам... З Уладзімірам Іванавічам пераглядзелі. Старшы майстар у нас! Адтуль, адсюль па гадзіне-другой — больш-менш падправілі. Пасля яшчэ з Уладзімірам Іванавічам на станкі і інструменты для маладых дабавілі. Хлопцы ніколі не бачылі фуганкаў, рубанкаў. Ніколі не працавалі на станках...

— Пачакай, Максім, цяпер жа ў школах політэхнічнае навучанне,— гавару я і гляджу з нейкім недаверам у вочы свайму сябру.— З работай на станках павінны б пазнаёміцца ў школе...

— Не ведаеш ты школы!..— смяецца Максім.— Там дзеці адбываюць гадзіны: усё роўна дзе — у школьнай майстэрні ці на заводзе. Усё гэта не тое, што трэба для вытворчасці... Ды, скажам, што хацець ад іх! Людзям усяго па шаснаццаць-семнаццаць гадоў...

— Ну, Максім, шаснаццаць гадоў не мала,— не пагаджаюся я з сябрам.— Мікалай Назаравіч на перадавой на фронце быў у семнаццаць! А хіба гэта не сур'ёзна: вайна!

— Ды я і сам у шаснаццаць гадоў бочкі рабіў,— пацепвае плячыма і ціха адказвае Максім.— Адказнасць нейкую адчуваў...

Вось звоняць на абед. Максім устае з крэсла, нічога больш не гаворыць, выходзіць з канторкі і ідзе, мусіць, апранацца. Па цэнтральным праходзе спяшаюцца людзі ў сталоўку, многія махаюць мне рукамі, каб ішоў з імі, і я праводжу мадэльшчыкаў на двор.

Марозік, вушы крыху шчыпле, дыхаецца лёгка. Радасная людскому воку прыгажосць першага снегу ажыўляе настрой, выклікае самыя добрыя пачуцці да маладых хлопцаў і іх клапатлівага настаўніка.

*МАЛЯРКІ ДАЮЦЬ ХАРАКТАРЫСТЫКУ.* Калі зойдзеш знадворку, у цэху душна і ціха да звону. Раптам аднекуль чуецца даўкі жаночы смех, і я паварочваюся, гляджу ў куток, направа ад уваходу, дзе абедаюць, расклаўшы на прыполах полудні, Анюта і Люба — маляркі.

— Просім, падыдзі бліжэй,— трохі сцішылася і гаворыць мне Люба.— Можа зноў да нас працаваць?

— Чорта два ён сюды пойдзе,— папраўляе хусцінку і кажа Анюта.— З начальнікам ходзіць. Яму б чыноўнікам у кантору. У газету піша...

— Піша, а хто да гэтага прыглядаецца. Пра Зіну напісаў, а вунь што твораць... Арнольд гэты дурны... Трэба яму баба з дзецьмі...

— Не ведаю, што там за цярпенне ў яе чалавека,— памахала галавою і сказала Анюта.— Я сама, каб была мужчынам, хрысціла б такую. Шкада мужыка і маладзенькага Арнольда... Дурны, як пень, Косця. Усё пакінуў бы, ды ў свет паехаў. А то смешаць людзей...

— Ой, што тут казаць, Зіна сама вінаватая,— глядзіць на мяне і ціха гаворыць Люба.

— А такой пакрыўджанай, добрай прыкінецца, хоць усім светам плач за яе,— стукае па лаўцы, мусіць, звараным крута яйкам і гаворыць Анюта.— «Мужык п'е...» Раней я таксама не вельмі верыла жанчынам. Самі на дзевяноста пяць працэнтаў вінаватыя. Пра такую брыду, як Зіна, гаварыць не хачу... Адны ўжо ж так пякуць мужыкоў, што з каменным сэрцам не вытрымаў бы, напіўся з авансу. Другія так ужо кахаюць, што слова не скажуць... Трэція ад прыроды злосныя — ніколі ім не ўладзіць мужчына. Чацвёртыя без кахання сышліся.

— Не кажы, Анюта, добрыя і мужчыны. У мяне вунь сусед алкаголік....

— Маўчы мне, Люба. Увесь агонь ад нас пачынаецца. Не можаш утрымаць мужчыну ў парадку, адно кажу, не сыходзься з такім. Ніхто не прымушае... Я ніколі са сваім не сваруся. Прыйшоў п'яны — памагу раздзецца, да пасцелі давяду. А тады не хапае да палучкі грошай — гавару яму перад дзецьмі. Не ўспамінаю нават пра п'янку...

— Мой ніколі капейкі сам не возьме. Трое дзяцей адно пад адно. Двое ў школу ходзяць. На харчы многа разыходзіцца. А нікому ж сорамна не будзе, што твае дзеці не так апрануты ці не пад'еўшы. Усё бацькам...

— Дык напішы ты цяпер пра Зіну,— гаворыць Анюта.— Самой яе не шкада... Косця пакутуе. Арнольд разбасячыцца... О, калі б такое надрукавалі...

— Ой, Анюта, гаворыш так перад маладым чалавекам... Ён слухае нас...

— Гэты хлопец больш за нас ведае,— сказала Анюта і міргнула мне.— Калі б гэта хто напісаў шчыра і праўду пра нас, жанчын! А так усё плачуць пра наш слабы пол, а не хочуць памагаць. Я табе столькі магу расказаць, што на кніжку хопіць. Вось толькі сходзім газіроўкі нап'ёмся. Уставай, Люба!

Жанчыны пайшлі, а я, як укапаны, доўга стаяў на месцы, глядзеў на фарбаваныя ў чырвоны колер мадэлі, і ніяк не мог заўважыць, на якой жа бэльцы пад перакрыццямі так надакучае сваім шчабятаннем непаседлівы верабей.

*РАСКАЗВАЕ БАРЫС ЦЯСЛЕНКА.* Сядзім мы з Барысам у канторы майстроў цэха, і ён расказвае мне, як некалі ўзгарэўся жаданнем стаць матросам, як стараўся быць спакойны на апошняй медыцынскай камісіі, а ўрачы ўсё адно не прызналі годным да марской службы. Па тым, як часта і цяжка ўздыхае Барыс, адчуваецца, колькі перанёс ён у тыя трывожныя для сябе хвіліны, калі, здавалася, рушылася самая запаветная мара.

— На флот не ўзялі,— гаворыць Барыс і глядзіць некуды далёка.— У неба пацягнула... Парашутыстам-дэсантнікам стаў...

Не часта прыходзілі з дому пісьмы, але ў кожным з іх было запрашэнне хутчэй наведаць родныя мясціны, бо ў рэчцы Сноў многа рыбы. а ў вёсцы не менш прыгожых дзяўчат.

— Любіў лавіць рыбу. Ох, любіў! — усклікае Барыс і бярэцца рукамі за галаву.— Бывала, далёка ў лес ад'едзеш на чаўне. Берагі зялёныя, нага чалавечая не ступала з вясны. Сядзеш, глядзіш, як ціха ідзе чарнаватая ў лесе вада, як плёскаецца надвячоркам рыба. Блісне дужкаю над вадою і — зноў паплыла... Любіў чытаць у лясной цішы. Часам зманлівай бывае сівізна,— смяецца Барыс, прыгладжваючы сваю прычоску.— «Мхом покрытая бутылка вековая, хранит струю кипучую вина». Лермантаў — гэта паэт.

Цяпер я перакананы, што на беразе рэчкі Сноў, у тых Бранскіх лясах, што так надзейна хавалі ў вайну партызанаў, пазнаў Барыс цану дрэву, вартасць кубаметра дошак. Здаецца, зусім не таму Барыс Міхайлавіч неяк хадзіў да заводскай адміністрацыі, што ён старшыня паста партыйнага кантролю ў цэху, і патрабаваў устанавіць кантроль над прыёмкаю піламатэрыялаў, а хутчэй таму, што на свеце ёсць рэчка Сноў.

Яшчэ Барыс Міхайлавіч гаворыць мне, што яму часта сніцца човен каля алешыны на рэчцы, што ён любіць гасціннасць беларусаў, а дачка яго любіць чытаць беларускія кніжкі і старанна вывучае беларускую мову.

— Дачка ў мяне разумніца,— кажа Барыс і глядзіць мне ў вочы.— За чацвёрты клас адна чацвёрка, а так — выдатна. Захапляецца музыкай, ходзіць у гурток пры школе. У выхадны, разумееш, за адным сталом з ёю рыхтуемся да заняткаў... Зманлівай бывае сівізна! Цяжка было паступаць у тэхнікум. Семнаццаць гадоў не вучыўся. За адно лета ўсё ўспомніў. Адпачынак увесь праседзеў за кнігамі...

А мне ўспамінаецца, як некалі Барыс усё скардзіўся на тое, што яму цяжка даецца матэматыка. Я ж казаў, што невялікая бяда і перадаць адзін прадмет, і ні ў якім выпадку не трэба кідаць вучобу ў машынабудаўнічым тэхнікуме.



У канторку бясшумна прыадчыніла дзверы, глядзіць на Барыса сваімі чорнымі вузкаватымі вачыма заўсёды вясёлая і баявая Анюта, а ён зірнуў на жанчыну, нечага ўсміхаецца.

— Разумееш, харошанькая жанчына,— напаўголас гаворыць Барыс, як толькі зачыніліся дзверы.— Чуў, у Мінску было: адзін начальнік культурнай установы браў да сябе на работу харошанькіх дзяўчат. Па шапцы далі... І ты сёння нешта доўга талкаваў з «дзяўчатамі».

— Знаеш, Барыс, мне яны не патрэбны, хоць і харошанькія,— смяюся я.— Яны самі жаночы пол крытыкавалі. Цікавыя думкі, між іншым, выказвалі. Прасілі пра жанчын справядліва напісаць. Не любяць, што з імі няньчацца, як са слабаю палавінай чалавецтва. Такія характарыстыкі давалі жанкам!

— Дык напішы,— махае рукою, міргае вокам, усміхаецца і гаворыць Барыс.— Слёз не абярэшся. Любу гэтую я добра ведаю. Крані яе... Анюта, разумееш, другога дзесятка жанчына. Яна ўсё разумее... Вось бы я табе даў характарыстыкі! Калі б ты запісаў... Увесь свет захацеў бы пачытаць! Колькі характарыстык...

Нечакана, нейкімі колкімі пырскамі праняў мае сэрца званок у цэху, і ўздрыгнулі сцены, і адразу святочна затрапяталася нешта ў сярэдзіне. Барыс Міхайлавіч ускапіўся з крэсла, сціснуў у руках газету, у якой быў абед, хутка пайшоў на рабочае месца, не сказаўшы мне ні слова.

*ГАВОРЫЦЬ ВАСЬКА БУЛГАКАЎ.* Павольна іду па цэнтральным праходзе, зіркаю па баках, і вось бачу, мне насустрач бяжыць ад механічнай пілы Васька Булгакаў з бабышкаю ў руках, усміхаецца.

— Здароў, Валянцін,— гаворыць ён і сунімаецца насупраць шліфавальнага круга.— Дзе ты цяпер пянёндзы адбіваеш?

— Як бачыш, у мадэльным цэху,— падыходжу бліжэй да Ваські і адказваю я.— Ты некуды спяшаешся?..

— У ліцейны... Столькі работы. Не прадыхнуць. Чэрці паласатыя, бабышку стукнулі. Трэба шліфаваць і тэрмінова прыбіць на ад'ёмку. Прабач, я пайшоў... Будзеш тут, заходзь!

Яшчэ некалькі хвілін я глядзеў на Ваську Булгакава, які шліфаваў і правяраў вугольнікам, мусіць, ці ёсць схіл, і ўспаміналася мне колішняя гамонка за цэхам, фінка недаробленая і станіна наждака ў крыві, і верылася, што з Ваські будзе сапраўдны мадэльшчык. Але з загатоўчага «наверх» пайшоў Мікалай Назаравіч Сяргееў, і я паспяшаўся ў кантору.

*ПРАБЛЕМА НУМАР АДЗІН — СТАНКІ, ІНСТРУМЕНТЫ.* Начальнік глядзіць у акно, дзе бясконца кружацца і падаюць на галінкі таполяў, на тратуар, на адзенне прахожых адзінокія сняжынкі, і мне няёмка, што не пастукаўся да яго ў кабінет і вось цяпер моўчкі стаю каля стала.

— Дык вось, Валянцін, новых станкоў нам у цэх ужо каторы год не даюць,— не гледзячы на мяне, гаворыць Мікалай Назаравіч.— Сёлета з металалому выбралі фугавальны станок. Што ж — стол на шэсцьсот міліметраў шырынёю. Ён патрэбны, але не тое... Нам хацелася б фуганак і рэйсмус хоць бы з метравым сталом. Прамысловасць

выпускае на метр дзвесце... Грошай няма на мадэльны. Усё рукою адмахваюцца. Мадэльны цэх план дае, наменклатуру ў асноўным не зрывае.

— Мікалай Назаравіч, а з інструментам як?

— Цэх план дае, дык якая гаворка пра стамескі, жалязкі,—садзіцца на крэсла і смяецца начальнік.— Калі б план сарваў, тады знайшлося б крытыкаў. А так нехта там думае пра жалязкі, стамескі!.. Мадэльшчыкі, сам ведаеш, як дастаюць інструмент. У аднаго каваль знаёмы. У другога — стругальшчык, шліфоўшчык... У магазіне ёсць, а не ўзяць.

Мікалай Назаравіч уздыхнуў і палез нешта ў шуфлядку свайго стала, перабірае нейкія паперы.

*ПРАБЛЕМА НУМАР АДЗІН — ПЛАНАВАННЕ.*— І тут у нас не дадумана,— гаворыць Мікалай Назаравіч і падае мне расцісаны рознакаляровымі алоўкамі і чарнілам ліст.— Называецца планаванне. Перспектыўныя планы... Год пачаўся, а яшчэ ніхто не ведае добра, якія ж станкі і лініі будзе выпускаць завод. Хоць бы на першае паўгоддзе... Вось таму і штурмаўшчына часам. Цяпер то трохі наладзілася. Дырэктар новы. Павінна выправіцца становішча. Гэты хоць уважліва выслухае... А то, бывала,— не дасць слова сказаць... Яму ўсё зразумела. Дае дырэктывы, і — ўсё.

*ПРАБЛЕМА НУМАР АДЗІН — ЗНОЎ КАДРЫ.*— Ты помніш, Валянцін, што мы некалі скарацілі аднаго нарміроўшчыка,— ходзіць па кабінеце і гаворыць Мікалай Назаравіч.— А цяпер вырашылі цалкам перайсці на раздзельны спосаб працы. Тэхнолаг нам неабходны. Не даюць. Ім даказваеш, што так можна дабіцца вышэйшай прадукцыйнасці працы. А яны табе адно ў адказ: няма адзінкі. Скоса паглядаюць: маўляў, указанне скарачаць штаты, а ты... Па закону, дык у начальніка цэха ўсе правы, а на справе... І каму ты дакажаш?

— Раніцай, Мікалай Назаравіч, вы гаварылі, што ў цэху не хапае спецыялістаў. Вы не скажаце, чаму ўсё-такі звальняюцца, пераходзяць у другія цэхі мадэльшчыкі? Скажам, Лёнька Малаш шаснаццаць гадоў меў справу з дрэвам, а пайшоў стругальшчыкам...

— Малаш, правільна, быў некалі добрым мадэльшчыкам. Даваў прадукцыю і грошы палучаў... Апошні час, сам бачыў, зусім збавіў тэмпы чалавек. А ў нас у цэху няма фонду, з якога мы маглі б даплачваць да тарыфу яму. Вось і перайшоў стругальшчыкам.

У кабінет прыадчыніў дзверы і зазірнуў Барыс Цясленка. Начальнік прыўзняўся на стуле, махнуў яму рукою і папрасіў зайсці, а сам выйшаў, непрыкметна міргнуўшы мне на адыходзе. Барыс Міхайлавіч хітравата ўсміхнуўся, нечага пачырванеў, усё тупае з нагі на нагу, глядзіць на мяне і часта міргае вачыма. У мяне ж на момант быццам перасохла ў горле, неяк сціснула грудзі, так сталася, што не прагаварыць слова.

— Барыс, ведаеш што,— пачаў я, нарэшце, гаворку.— Мне хацелася адно пытанне табе задаць, як чалавеку сумленнаму... Чаму, скажы, звальняюцца мадэльшчыкі?

— Брат, гэта складанае пытанне,— спакойна гаворыць Барыс Міхайлавіч.— Прычын многа... Коля Войтка закончыў інстытут. Па спецыяльнасці пайшоў чалавек працаваць. Маладыя кідаюць цэх, бо



з работай не могуць асвоіцца. Лёнька Малаш фізічна выдахся. Цяжкая наша мадэльная работа. Галавой, рукамі... Я, брат, сам пачынаю адчуваць стому... Жылля на заводзе скупавата. На наш цэх адну-дзве кватэры ў год даюць. А маладыя людзі жэняцца... Гарантыі ў заробках няма ў здзельшчыкаў. Нарміроўшчыкі баяцца перарасходу фонду зарплаты. Таму страхуюцца. А што табе яшчэ сказаць...

Прарэзліва, неяк незвычайна звоніць тэлефон, і Барыс Міхайлавіч падымае трубку, пытаецца, хто патрэбны, называе маё прозвішча, ківае мне галавою і ўсміхаецца:

— Слухай, кабеціна звоніць,— гаворыць ён упаўголаса.

— Ало, слухаю!..— дзьмухнуўшы ў трубку, гавару я.

— Добры дзень, гэта Жана,— чую адказ і неяк увесь заміраю ад нечаканасці.— Выйдзі на прахадную. А я ніколі і не верыла, што ты звольніўся з завода. Выйдзі, пагаворым...

Я кладу трубку на апарацік, саджуся на крэсла і так глыбока ўздыхаю, што Барыс Міхайлавіч махае рукою і выходзіць з кабінета начальніка.

**АД ЦЭХА ДА ПРАХАДНОЙ.** Ціха стаяць у новым уборы маладыя таполі. Усюды снег, снег! Здаецца, што само сэрца мае прысыпана гэтай беллю-квеценню першага снегу.

Ужо не думаецца, што ты няштатны карэспандэнт і ніякі не мадэльшчык ды і не такі малады, каб быць закаханым. Душа поўніцца невыказным шчасцем. Сэрца жыве радасцю хуткай сустрэчы з Жанай, а можа шчырай гаворкай са сваімі сябрамі і адчуваннем таго, што ўсё-такі не дарэмна таптаў блізка шасці гадоў заводскія сцяжынкі, і вось цяпер павінен пра многае і многіх расказаць. І яшчэ хочацца, каб гэты матэрыял проста і складна лёг на паперы, каб жывымі галасамі гаварылі людзі.

Ніколі да гэтага не прыходзілі мне на памяць словы француза Сент-Экзюпеpы: «Я чакаю сустрэць дзяўчыну — прыгожую, і разумную, і поўную чараў, і вясёлую, і такую, што дае супакаенне, і верную, і... і такую я не знайду». А ўсё-такі столькі добрых дзяўчат на свеце, і мне вельмі цяжка будзе гаварыць з Жанай... З кожным крокам усё далей адыходзіць тая злосць, што накіпела тады пад шумліваю сасною на травяністым абрыве, калі яна не прыйшла. Успамінаецца «вечны агонь» і нейкі пастарэлы ад яго водбліскаў твар Жаны, і тая лавачка пад таполяй у парку, і Кальварыя ў новабудоўлях. Пра што раскажа Жана? Што б ні казала, усё роўна не вярнуць ёй былой радасці і шчасця, не расчуліць мяне да слёз і не ўпрасіць, не павесці з сабою, бо на Нарач не проста так уцякаюць ад закаханага.

Праўду казаў і Уладзімір Іванавіч Шутаў, калі папракаў мяне, што мала пішу пра недахопы, хоць яму, здаецца, ніколі не зразумець, што газеты ахвотней бяруць матэрыялы пра перадавікоў, якіх сапраўды так многа. Не магу пагадзіцца са старшым майстрам у тым, што для цэха важней паміраць Анатоля Пархвенавіча з цешчай, чым вырашыць праблемы кадраў, станкоў і інструменту. Можа не так я зразумеў Уладзіміра Іванавіча — тады прашу прабачэння...

Здаецца, не беспадстаўна доўга гаруе Мікалай Назаравіч Сяргееў над праблемай узаемаадносін рабочых і адміністрацыі. Як адказаць яму? Толькі тады, відаць, будзе станоўча вырашана гэта пытанне, калі кожны, хто адказвае за справу, будзе па-ленінску просты і добры з сябрамі, непрымірымы да памылак самага блізкага чалавека і чэсны пры вырашэнні спраў па рабоце. Толькі пры такіх умовах, Мікалай

Назаравіч, можна ў святы садзіцца за адзін стол з рабочымі, піць віно і спяваць песні — разумныя людзі нічога не скажуць і нават не падумаюць блага.

I што будзе сказаць Лёшку Кучараваму, калі сам на год маладзейшы за яго? «Скажы мне, ці праходзіць вялікае, ці забываецца сапраўднае? — дабіваешся ты ад мяне, Алёша.— Ці кахала Лора мяне? Парай, можа і варта падацца на Чукотку з ёю ўпотай ад мужыка і яе бацькоў? Заракаўся, абяцаў іншым не хадзіць, а ўсё роўна гадзінамі дубею на знаёмай лавачцы, пакуль выйдзе з хаты. Ну, гавары ж!» Думай сам, Лёшка! На мой характар — абыходзіў бы тую вуліцу! Падумай, кінула цябе хворага... А цяпер зноў лісою. Ніякае гэта не каханне. Мала што з кожным з нас можа здарыцца ў жыцці... Думай сам, Лёшка!

Што ж пажадаць кіраўнікам брыгад камуністычнай працы Міхаілу Рудому і Леаніду Рысаўцу? Усякая справа славіцца практычнымі вынікамі. Вялікі подзвіг выцякае з вялікай тэорыі. Неабходна дабівацца, каб цэх, завод, горад сталі высокакультурнымі, высокапрадукцыйнымі, камуністычнымі — а за гэта варта змагацца і змагацца, не шкадуючы сіл.

Воўка Сурмачэўскі... Пакінуў абсталяваную кватэру. Пайшоў на прыватную... Як судзіць? Правільна кажа: без нас ажаніўся, без нас і разыдзецца. Недзе ў добрых людзей робяць камсамольскія вяселлі... Усё недзе, недзе... Шкада толькі, што пакуль што гэта эксперыменты! Гаворым, сям'я, сям'я, а на справе...

I чым бліжэй да прахадной, тым больш запаволены і карацейшы становіцца крок, часцей б'ецца сэрца, і мароз шчыпле вушы, і прападае жаданне гаварыць з Жанай. Апошняя сустрэча... А зрэшты, хіба хто ведае наперад, якім канцом усё абернецца...

Хай ніхто не слухае маё абяцанне, але я абавязкова напішу пра мадэльшчыкаў, прызнаюся ўсяму свету, што люблю гэтых працавітых і сціплых людзей, якія так цесна звязаны з самай складанай, даўняй і нялёгкай работаю, якія гуляюць у даміно і гадуюць дзяцей, умеюць без пазыкі дажыць ад авансу да палучкі!

Выкажу бязмерную радасць сваю, што з дзяцінства знаўся з працай, што сам браў яе тугімі, заўсёды налітымі жыццём, далонямі, што праз гады ажыўляў фуганкам і стамескай кубаметры і кубаметры дошак!

А вось і ты, такая знаёмая прахадная, перада мною...

Мінскі завод аўтаматычных ліній.





Мікола КУСЯНКОЎ

# Нафта

1



Нафта! Вырас фантан дзівосны
Чорным дрэвам, а ў глыбіні —
Разышліся па пласце дэвонскім
Дрэва дзіўнага карані.

Пад зямлёй
Штуршкамі тугімі
Пачынаецца рост яго;
Бачу ў завязі нафтахімію
Я на голлі дрэва таго.

Дасць яно плады незлічоныя...
Каб святлеў яшчэ больш мой лёс,
Б'е фантанамі нафта чорная
На зямлі, на якой я ўзрос!

2

Поле жоўтае, сіні ўзлесак,
Луг зялёны —
пейзаж такі,
Як аблічча зямлі палескай
Нам паказвалі мастакі.

Ды зірніце — нафта ля Рэчыцы,
Заліваючы белы пясок,
Б'е фантанам —
як жа дарэчы
Гэты чорны, густы мазок!

3

Нафта з нетраў! Нат пагалоскі
У дзядоў не было такой,—
Паляшук
і сваю палоску
Не глыбока араў сахой.

І, напэўна, дзіва такое
Нат не снілася ў тыя гады.
Студню выкапаць талакою —
Вось і ўсё, што маглі дзяды.

Дый тады ўжо ў зялёныя нетры
Заглядалі бальшавікі
Аж на цэлыя кіламетры,
Як у будучыню, на вякі.





ноў недзе ў жаху лозы леглі ніцма...
Ад Пінска недзе і да Мазыра
Над Прыпяццю грукоча навальніца,
А з поймы ёй дубы крычаць — «ура-а!»

Яе ўявіўшы — грозную такую —
Акно пад вечар насцеж адчыні:
Дальбог жа, не грукоча, а буркуе
І навальніца нам з далечыні.

Любоўю да зямлі сваёй адною
Жывём і служым ёй штодзень дабром.
І знаем мы: ніколі нада мною
І над табой не ўдарыць гнеўна гром.

## Пра славу



асамі прагнем славы мы ў юнацтве.
Яшчэ мо ўчора марыў нехта з нас
За ёю ў небе лётчыкам пагнацца



Або ўзысці славутым на Парнас.
І сам я верхам, помню, ездзіў часам —
І рыфмаваў, здаецца ж, на скаку.
Ды шчэ не абзавёўся я Пегасам:
Зручней таптаць мне торф ды асаку
Дзе-небудзь на Палессі
ці ў Сібіры
Тайгу даследваць, лазіць па гарах,
З мядзведзямі у дружбе жыць і ў міры,
Жыць у палатцы, жыць на сухарах.
Удачы вам, паэты і пілоты!
А слава ў нас — вялікая, адна,
Бо веру я, што з вышыні палёту
Мая дарога на зямлі
відна.

## Ты мой магніт, тайга!



зноў дарога за Байкал адкрыта.
І паскарае ход паўз семафор
Цягнік — відаць, прыцягнуты магнітам
Тых руд, што ў нетрах Забайкальскіх гор.
Шаную горы, ды якою сілай
Мяне
яны прыцягваюць здаля?..
Вунь кедраў сланік скрозь, як дым,
па схілах,
Ніжэй — тайга. Дык, мабыць, знаю ж я,
Чаму не ведаў дома я спакою,
Чаму мне сніўся горны краявід.
Страчай мяне, тайга,— я зноў з табою,
Ты мой магніт, тайга, ты мой магніт!





ы недзе на Беларусі...
Мне будзе ўсмешка твая
Сніцца,
пакуль не вярнуся
Дамоў з-за Байкала я.

Вяршыня горная часам
Здаецца блізкай, а ўсё ж
Саб'еш не адны абцасы
І ледзьве не басанож
Лезеш па скалах...
Родная,
Магла б ты ў маёй старане
Далёкай быць і халоднай,
Ды... блізкаю здацца мне.
Ішоў бы ўдзень і ўначы я,
Але яшчэ і цяпер,—
Ды і ніколі, магчыма,—
Я б не дайшоў да цябе.
І дзе б я шукаў спагады?
Каму б я кінуў папрок?
О дзякуй лёсу! —
Сама ты
Зрабіла насустрач крок.





Заходзіць сонца. Ды годзе:
Я ж на зямлі не адзін!
Яшчэ над табой не заходзіць
Яно цэлых шэсць гадзін.
Так — я не адзін на свеце.
Мой дзень таёжны міне,—
Табе ж свеціць сонца недзе,
А значыць, свеціць і мне.

Іван ЧЫГРЫНАЎ



Мастак
Валянцін КАНДЗЕР



АПАВЯДАННІ

# ПЕРШЫ БОЙ

Сонца забарылася нечага і пакуль разлівала па небасхіле адну ружовую чырвань. Была нядзеля, і ніхто не адважваўся парушаць ранішнюю цішу. Толькі днявальныя ляніва сноўдалі паміж парусінавых палатак, падчышчалі, мякка шоргаючы мётламі, пяшчаныя лінейкі, налівалі ў дубовыя бочкі-двухдонкі халодную ваду, каб хапіла на цэлы дзень.

Ад дзяржаўнай граніцы, што была не больш як за паўтара кіламетра ад лагера, сёння чамусьці не далятала ніводнага гуку, які мог бы насцярожыць чалавека.

Палаткі стаялі ўздоўж самай шырокай, пасыпанай жвірам, лінейкі. У рэдкім тумане яны нагадвалі нечым ветразі, што паднялі над сваімі лодкамі рыбакі перад тым, як адплысці ад берагу.

Аляксей Балаш стаяў пад абшарпаным, выцвілым грыбком і чакаў, пакуль чырвонаармеец Казакоў, з якім яму выпала гэты раз днявáліць, падмятаў пляцоўку. Казакоў павінен быў стаць замест яго пад грыбок. Але той усё, нібы наўмысна, марудзіў, і Аляксея гэта злавала. Ён не вытрымаў, гукнуў:

— Дос табе там валаводзіць!

— А што? — пазяхнуў Казакоў.
— Можа яшчэ і памагчы?
— Я сваё сам зраблю...
Абодва злавалі, перагаворваючыся ціха, каб не разбудзіць каго.
Нарэшце вынырнула з-за пагоркаў сонца. Макаўкі маладых сасонак,— смалістыя шышкі, што не паспелі задзервянець,— заблішчалі, як пазалочаныя, і першыя промні нячутна скочылі на пахаладзелую зямлю. Тады скалыхнуўся, нібы ад ветру, туман, які плаваў на ўзлеску, стала відно, як там, дзе яго секанулі сонечныя промні, замітусіліся драбнюткія пылінкі.
Аляксей зняў з пояса кінжал, аддаў Казакову.
— Цяпер ты загарай,— засмяяўся ён.— Ды глядзі, каб нос зноў не аблупіўся.
Аляксей прайшоўся па лінейцы, размінаючы ногі, адшпіліў полаг палаткі — там соладка спалі, пасопваючы, таварышы. Аляксей пастаяў, паглядзеў, але зноў зашпіліў полаг. Яму раптам не захацелася ў палатку, і ён адышоўся, сеў на лаўцы.
Мусіць, Аляксей ужо апошні раз быў за днявальнага. Праз тыдзень у яго канчаўся тэрмін службы — бралі яго ў армію не тады, як аднагодкаў, і дэмабілізоўвалі не ўвосень, як звычайна, а ўлетку. Гэта яго радавала. Не тое, каб служба ў цяжар была — проста хлопец спяшаўся дамоў.
Яшчэ нядаўна шмат гаварылі пра вайну, і Аляксей тады палохаўся, што яго дэмабілізуюць раней, чым пачнецца яна. У іхняй сям'і ўсе мужчыны былі на вайне: дзед — на японскай, бацька — на германскай, старэйшы брат таксама ваяваў — Аляксей ведаў, што ордэн брат атрымаў за Іспанію. Аляксею таксама хацелася мець ордэн — было такое тайнае жаданне. Тым больш, што вайну ён уяўляў сабе амаль дакладна такою, якой паказвалі яе ў фільмах. Думалася — нават больш таго, хлопец быў упэўнены, што ў вайне ўдзел прымуць, можа, адны толькі пагранічнікі: за якое даабеддзе, калі пачнецца раніцай, яны разаб'юць немцаў, а там падымецца рабочы клас у самой Германіі, і тады... Хто ведае, можа гэта самы зручны выпадак паквітацца з фашызмам! Але чатырнаццатага прыйшлі газеты, і там чорным па белым было напісана, што: «Германія таксама няўхільна захоўвае ўмовы савецка-германскага пакта аб ненападзенні, як і Савецкі Саюз...» Пасля гэтага на граніцы нібы паспакайнела, чуткі і сапраўды больш не «мусіраваліся», у арміі проста было забаронена гаварыць аб хуткай вайне, і чырвонаармейцы перасталі падазрона прыслухоўвацца да гулу матораў, які ўвесь час даносіўся з таго боку.

* * *

Дзяжурным па лагеры быў Аляксееў зямляк, капітан Сітны, і Аляксей пазнаў яго па голасе, калі той загаварыў з днявальнымі. Аляксей ведаў яго малодшага брата,— вучыліся разам, нават у адзін дзень прызываліся,— і праз таго Сітнага пазнаёміўся з гэтым. Яны часта размаўлялі, і Аляксей ніколі не адчуваў капітанавай вышэйшасці над сабой. Паміж імі заўсёды была зямляцкая прыязнасць. Сітны нават чырванеў, калі Аляксей Балаш выцягваўся перад ім.
Сітны падышоў і да Аляксея.
— Адстаяў сваё?
— Так точна.
Сітны ўсміхнуўся:
— Нябось, адна твая нага яшчэ тут, а другая ўжо на Волзе?
— Цяпер паеду, таварыш капітан.
— Зайздрошчу я табе...
— Праўда?
— Праўда, Алёшка...
Памаўчалі. Тады Аляксей сказаў:
— Сёння ж самая кароткая ноч...
— Але.
— Ды сонца неяк не спяшаецца ўгору, нібы хто стрымлівае яго...
Капітан паглядзеў на гадзіннік:
— Хутка ўжо чатыры.
— Учора Максім прыслаў ліст — і яго пускаюць дамоў.
— Мы, здаецца, таксама...
Капітан развітаўся і пайшоў — у яго хапала клопатаў па дзяжурству. Аляксей застаўся адзін.
Аднекуль прыляцеў дзяцел і сеў на сасну, што стаяла крокаў за дзесяць ад палатак.
— Стук-стук-стук, стук-стук-стук...
На зямлю пачала церушыцца сасновая кара.
«Канаплянік»,— падумаў Аляксей.
Праз хвіліну на кусце жавіны, што буяў ля дашчатай сцяны ротнай капцёркі, запела берасцянка:
— Пінь-пінь, пінь-пінь!..
Песня была звонкая, бадзёрая:
— Фыю... фыю... фыю...
— Ля-ля-ля,— не змаўкала берасцянка.— Дзі-дзі, дзі-дзі, ві-чую, ві-чую...
Аляксей ажно заслухаўся.
Уставала раніца...

* * *

Недзе далёка наперадзе вухнула раз, пасля другі, трэці... Аляксей нават пачуў высока над галавой характэрны шорах снарада. Але шорах гэты дайшоў да яго свядомасці як праз сон, быццам было нейкае соннае замарачэнне. Нават калі ўжо і за спіной у яго, можа кіламетраў за пяць якіх, вухнула колькі разоў, ён не падумаў, што гэта рвуцца снарады. Тады загрымела зусім блізка, і Аляксей нарэшце ўскочыў, спалоханы, але не паспеў зрабіць і два крокі, як перад вачамі бліснуў агонь, падкінула крайнюю палатку. Другі снарад расшчапіў сасну, на якой сядзеў жвавы канаплянік, і дрэва абрынулася, падмінаючы пад сябе палаткі. Аляксей ужо не чуў, як валілася дрэва, ён нават не чуў, як па лагеры рваліся адзін за адным снарады. Ён нібы аглух — адразу залажыла вушы, але тым не менш ён нейкі момант яшчэ стаяў, здранцвелы, і толькі пасля ўпаў ніцма.

Снарады калацілі зямлю доўга. Аляксей баяўся паварушыцца і ўвесь сціскаўся ад жаху, калі камякі балюча білі па спіне — яму здавалася, што гэта не камякі, а асколкі сякуць цела.

Артналёт скончыўся раптоўна, таксама як і пачаўся. Аляксей, яшчэ не верачы сабе, падняўся спачатку на карачкі, пасля стаў, хістаючыся, на ногі; твар яго ў гэты момант быў як у нежывога. Здранцвенне праходзіла паступова, але і пасля таго, як ён пачаў азірацца па баках, пад каленкамі дрыжала і да горла падступала моташнасць.

Палатак другога батальёна як і не было. Усё пераварочана — копаць, кроў ды пашматаныя чалавечыя целы.

Менш дасталося першаму батальёну, палаткі якога стаялі трохі ніжэй. Там цяпер бегалі напаўраздзетыя чырвонаармейцы, чуліся каманды. Ля штабных баракаў ужо выстройваліся роты. Аляксей таксама падаўся туды. Але крануўся з месца, як п'яны. Да яго адразу падскочыў нейкі камандзір, сунуў у рукі вінтоўку, падсумак з патронамі і пхнуў у строй. Тым часам начальнік палітаддзела дывізіі, на дзіва спакойны, хоць і бледны, з кропелькамі поту на скронях, штосьці гаварыў чырвонаармейцам — Аляксеева глухата яшчэ не прайшла, і ён дрэнна чуў. Нарэшце начальнік палітаддзела падаў каманду, і чырвонаармейцы, адразу парушыўшы строй, пабеглі, трымаючы вінтоўкі ў руках, напарагонкі па лясной дарозе, якая вяла ад лагера праз лес, на граніцу, дзе не пераставала грамыхаць і адкуль даносіўся шум блізкага бою.

Аляксей бег амаль апошні. Ён увесь час бачыў перад сабой то белыя, то зялёныя спіны чырвонаармейцаў. Бегчы было лёгка, нягледзячы на тое, што падсумак з патронамі адцягваў плячо. Чым хутчэй Аляксей бег, тым больш рабіўся спакойны. І не было ў яго душы ніякага страху. Але неўзабаве Аляксей адчуў, як тупы боль працяў яго нагу, і ён закульгаў, пачаў паступова адставаць ад чырвонаармейцаў. Праз нейкі момант ён ужо адзін калдыбаў па дарозе, але ўсё яшчэ спяшаўся.

Немцаў Аляксей убачыў на вялікай круглай паляне, якую абступалі з усіх бакоў густыя лазовыя кусты. Немцы ішлі насустрач яму і стралялі з аўтаматаў. Яны нават не цэліліся, проста стралялі перад сабой і ішлі на ўвесь рост. Аляксей кінуўся на зямлю і папоўз да невысокага пня, які ўбачыў збоку, крокі за тры ад сябе. Першага свайго стрэлу ён не пачуў, толькі заўважыў, як паваліўся на зямлю шыракаплечы, рослы немец. Ад гэтага Аляксею стала радасна, і другога немца ён ужо браў на мушку з вясёлаю злосцю, падобнай на ўдачлівую зухаватасць. Можа таму, што фашысты былі зусім блізка, страляў ён без промаху. Спачатку немцы разгубіліся, нават запыніліся на момант, але затым зноў рушылі наперад, падыходзячы ўсё бліжэй і бліжэй да Аляксея. А Аляксей страляў па іх і страляў, без продыху, пакуль не скончыліся патроны. Тады Аляксей дастаў з падсумка, які ляжаў побач, запасную абойму, глянуў на патроны і, не спяшаючыся, пачаў перазараджаць. У гэты момант ірванула зямлю. Аляксей адчуў, як штосьці моцна штурханула яго, ён ударыўся галавой аб пень і выпусціў з рук вінтоўку.

* * *

Апрытомнеў Аляксей, можа, гадзіны праз паўтары. На паляне ўжо не было немцаў. Толькі забітыя відненіся на пажухлай траве, і адзін



немец ляжаў усяго крокаў за трыццаць ад пня, з-за якога страляў Аляксей.

Панавала глухая цішыня.

Галава ў Аляксея была, як налітая, і ўсё кружылася, хілілася да зямлі. У целе адчувалася незвычайная лёгкасць і слабасць; зліпаліся павекі, быццам перад сном пасля малацьбы.

Аляксей яшчэ раз акінуў позіркам нерухомыя постаці на паляне і раптам па-сапраўднаму зразумеў: гэта ж ён палажыў столькі ворагаў!

«А дзе ж яшчэ? — падумаў ён.— Іх жа было больш.— І тады Аляксей нягучна, як хапіла сілы, засмяяўся, у галаве з'явілася радасная здагадка: — Значыць, яны павярнулі назад! Значыць, атака адбіта!»

Чым даўжэй Аляксей прыслухоўваўся да цішыні, якая вісела над усім, тым больш рады быў гэтай сваёй здагадцы, хоць яна ўжо была для яго і не надта вялікім адкрыццём, бо па-іншаму ён нават і не ўяўляў сабе, як кончыцца першы бой. Цяпер яго хвалявала і радавала тое, што і ён, Аляксей Балаш, чырвонаармеец другога батальёна трыста сорак чацвёртага палка, мае непасрэднае дачыненне да сённяшніх падзей. На душы было хораша, і Аляксей адчуваў сябе, можа, самым шчаслівым чалавекам.

Яму балела, і ён не мог паварушыцца, толькі часта паднімаў галаву, глядзеў перад сабой і ўсё чакаў санітараў. Але санітары не ішлі, і Аляксей траціў прытомнасць, пасля зноў ажываў, клікаў слабым голасам санітараў і дзівіўся, чаму не ідуць па яго.

Апошні раз ён апрытомнеў пад канец дня, у той момант, калі на паляне спыніўся вялізны крыты грузавік. З яго выйшлі трое ў такіх жа мышастых мундзірах, якія былі і на тых, што ляжалі на паляне. Гэта прыехала пахавальная каманда. Але Аляксей ужо дрэнна бачыў, у галаве ўсё блыталася і нельга было сабраць у адно думкі. Аляксей канаў, і яму здавалася, што на паляне варушыліся не немцы, а вялізныя дымчастыя жабы. Некалі гэтыя жабы не давалі Аляксею спаць: за дваром у іх была сажалка і жабы заўсёды квакалі ўлетку на ўсю моц. Аляксей набіраў у кошык камення, насіў да сажалкі і кідаў яго ў ваду. Жабы на нейкі час, напалоханыя, сціхалі, але як толькі Аляксей адыходзіў ад сажалкі, зноў пачыналі квакаць. Гэта яго злавала... І цяпер вось вярзлося...

* * *

Аляксей ужо не дыхаў, калі крокі за чатыры ад яго спыніліся салдаты з пахавальнай каманды: адзін — кароткі, тоўстенькі і малады, а астатнія два — пажылыя ўжо, амаль аднаго росту. Немцы прыйшлі паглядзець на тое месца, адкуль уранні стралялі чырвоныя. Яны спадзяваліся ўбачыць разрытыя акопы і шмат забітых, але на краі паляны не відно было ні акопаў, ні забітых, акрамя аднаго, які ляжаў, скурчаны, за пнём.

Немцы былі расчараваны. Малады сказаў:

— Горача,— і расшпіліў мундзір.— А ён, аказваецца, быў тут адзін...— Ён сеў трохі воддаль на пясчаную купку, выпрастаў правую нагу і, сунуўшы руку ў кішэню, дастаў адтуль блішчасты губны гармонік.

— Не трэба, Курт,— скрывіў твар пажылы немец.

Курт злосна паглядзеў на яго, колькі разоў падкінуў угору гармонік, потым нечакана перакуліўся цераз спіну, ускочыў, бы малады мядзведзь, на ногі і пабег туды, дзе стаяў грузавік.

— Гэй, вы!— крыкнуў ён.— Скідайце там шапкі! Хаця, не, лепш скідайце...— Курт не дагаварыў і весела, як вар'ят, зарагатаў, мусіць, са свае выдумкі.
Тым часам пажылы немец сказаў:
— Відаць, і яго трэба закапаць...
— Можна і закапаць.
— Тут нядоўга. Закідаем зямлёй і ўсё.
— Але ж па рыдлёўку трэба ісці ажно да машыны!
— Тады не будзем.
— Так, усіх не закапаеш... Колькі іх яшчэ будзе, пакуль Маскву тую забяром.
На паляне загурчаў матор. Вясёлы Курт вырульваў на дарогу. Яму карцела як хутчэй выбрацца з гэтага лесу куды-небудзь на шумную шашу, дзе рухаліся на ўсход калоны фюраравых войск, тым больш, што на гэтай паляне ўжо не было чаго рабіць: дамавіны стаялі ў кузаве грузавіка. Толькі дзве дамавіны былі пустыя — канчаўся ж першы дзень вайны, і драўляных скрынь, прывезеных ажно з Германіі, яшчэ хапала на ўсіх забітых.

# НА ПЫЛЬНАЙ ДАРОЗЕ

Машына імчыць праз стэп па шырокай, пыльнай дарозе. На заднім сядзенні, адкінуўшыся на спіну, Антон Ягоравіч Шасцярнёў. На пярэднім, поплеч з брытагаловым шафёрам, другі Шасцярнёў — сын Антона Ягоравіча, Васіль. Ён, як і бацька, вышэй сярэдняга росту. На выгляд мае гадоў дваццаць пяць, дваццаць сем. У яго дробныя, вельмі рухомыя рысы твару з высокім, крыху сціснутым на скронях лбом, гладкая, амаль жаночая, шыя і тонкія белыя рукі з доўгімі пальцамі.
Бацька і сын маўчаць.
Шафёр трымае на чорнай, шышкаватай абаранцы руля вялікія спакойныя рукі і не спускае з дарогі сваіх лянівых вачэй.
Антон Ягоравіч глядзіць на сына і ўвесь час бачыць адны адтапыраныя вушы з мяккімі, як падушачкі, мочкамі, на якіх, бы на марозе, выступіў белы пух, ды яшчэ патыліцу.
Сына Антон Ягоравіч не чакаў да сябе. І таму разгубіўся, калі той пазваніў учора.
— Гэта Шасцярнёў? — спытаў на другім канцы дроту незнаёмы голас.
— Шасцярнёў.
— Добры дзень, бацька!
Трубка памаўчала трохі, і Антон Ягоравіч зноў пачуў:
— Гэта Васіль... Я праездам тут. Заўтра буду ў Крапоткіне.
— Тады я вазьму машыну і па цябе прыеду,— сказаў Антон Ягоравіч.
У трубцы ляснула — сынаў голас прапаў недзе, але Антон Ягоравіч не адняў ад вуха трубкі, і яшчэ доўга слухаў, як на лініі перагаворваліся тэлефаністкі.
І вось цяпер Антон Ягоравіч едзе ў машыне на мяккім сядзенні і амаль з жахам думае, што гэтак ужо вырас Васіль, хоць ён у яго



і трэці — старэйшыя даўно зажылі сваімі сем'ямі. Мусіць, і гэты таксама...
Так, у Антона Ягоравіча трое дарослых сыноў... Ад першае жонкі Змітрок, Пецька... І гэты. Антон Ягоравіч глядзіць на яго, пакутліва думае і паступова пачынае разумець, што амаль усе гады пасля вайны баяўся гэтай сустрэчы, хоць і добра ведаў, што некалі яна адбудзецца. Сын абавязкова прыедзе. І не Змітрок, і не Пецька. А менавіта малодшы, Васіль.
Машына калываецца па выбоінах. Чуваць, як пад коламі хрустае дарожная галька.
У люстэрку, што над ветравым шклом, відаць шэрыя сынавы вочы, якія то патухаюць пад доўгімі вейкамі, то ўспыхваюць трывожным бляскам.

* * *

...Апошні раз Антон Ягоравіч бачыў малодшага сына... Але ж ад апошняга разу Васіль чамусьці добра і не запомніўся. Затое не забывалася тая цёмная ноч у сярэдзіне лета, калі вярталіся з бежанцаў: непадалёку ад Клінцоў немцы самкнулі клешчы і ў акружэнні, разам з вайсковымі часцямі, апынуліся бежанскія абозы. Давялося павярнуць назад. Наўкол палыхалі пажары, а ў лесе скрозь усю тую ноч было цёмна, і толькі пад ранне патроху пазначылася пад нагамі дарога. На вазах была раса. Нязмазаныя калёсы рыпелі, і, пэўна, здалёку магло здавацца, што гэта недзе ляцяць над зямлёй жураўлі. Нарэшце вазы цяжка выпаўзлі з лесу і стомленыя коні спыніліся на скрыжаванні дарог перад вялікай вёскай, якая патанала ледзь не па самыя стрэхі у густым, нерухомым тумане. Адна дарога вяла на Вішанькі. Антон Ягоравіч узяў за аброць свайго каня і павярнуў на тую дарогу.
Развітаўся ён з сям'ёй, калі ўжо на ўсходзе пачырванела.
Да Вішанек аставалася вярсты дзве.
— Пабудзі хлопцаў,— сказаў Антон Ягоравіч жонцы, якая моўчкі, зажурыўшыся, тупала за возам: згаварыліся загадзя, што ў вёску Антон Ягоравіч не будзе заходзіць.
Жонка страпянулася, на момант сцялася і раптам забедавала, заплакала ўголас, закалаціўшыся ўсім целам.
— Сціхні, не трэба так... — папрасіў Антон Ягоравіч.
І яна паслухалася — быццам праглынула свой плач.
Антон Ягоравіч падышоў да воза, дастаў вінтоўку, якою ён абзавёўся па дарозе і якая ляжала пад скарбам, і пачаў сам будзіць сыноў. Большыя два падхапіліся адразу. Бацька нязграбна абняў іх, амаль сонных, нахіліўся над меншым. Той ляжаў на возе, загорнуты ў кажух, і, здавалася, не дыхаў.
— Васіль... Васё-ё-ёк...— паклікаў бацька.
Сын не паварушыўся.
Тады Антон Ягоравіч адгарнуў барадою аўчыну і пацалаваў сына ў твар.
— Няхай спіць,— сказаў ён.
Але маці параіла:
— Лепш пабудзі, а то прачнецца — будзе слёз, дый...
Антон Ягоравіч падумаў і зноў ціха гукнуў:
— Вася... Васілё-ё-ок!
Сын не прачнуўся.
— Не, няхай спіць.
— Ды ўжо няхай,— уздыхнула маці.



— Дык вы ж тут, хлопцы, памагайце матцы,— сказаў Антон Ягоравіч сынам.— Вас жа вунь колькі, ажно трое! А яна — адна будзе...

Антон Ягоравіч прытуліў жонку:

— Ну, едзьце... А я тут пагляджу...

І доўга яшчэ стаяў на дарозе, чакаў пакуль схаваецца за паваротам воз. Пасля закінуў за плячо вінтоўку, падвесіў на рамень падсумак з патронамі, але не паспеў ступіць і дзесяць крокаў, як пачуў за спіною дзіцячы крык:

— Та-а-а-та-а-а!..

Нешта шмякнулася аб зямлю ў прыдарожных кустах, залапатала крыламі разбуджаная птушка.

Антон Ягоравіч азірнуўся — па ранішняй шэрані, спатыкаючыся, бег да яго меншы сын, якога перад гэтым нельга было дабудзіцца. Белагаловы, босы, у расхрыстанай кашульцы, даганяў бацьку. Нарэшце падбег, задыханы, спыніўся і з вачмі, поўнымі слёз, выцягнуў перад сабой сціснуты кулачок.

— Што ты, сынок?

Хлопчык разняў кулачок, і на яго вузенькай далоні Антон Ягоравіч заўважыў бліштасты вінтовачны патрон з белай куляй, на самай дзюбачцы якой былі два цёмныя паяскі.

— Вазьмі,— сказаў хлопчык.— Гэта я... утаіў... Дастаў з тваёй кайстры і ўтаіў...

Ён пацёр, як ад камароў, адна аб адну ногі, вінавата апусціў галаву.

— На, вазьмі,— жаласна паўтарыў сын.— Вазьмі свой патрон. Мама кажа, што ты на вайну ідзеш.

Антон Ягоравіч сціснуў малога за худыя плечы, падняў угору і, з заміраннем сэрца, патрымаў колькі часу на руках.

Патрон той ён пасля доўга насіў асобна, у кішэні — усё бярог, адкладаючы на «апошні выпадак». Але «апошняга выпадку» не здарылася.

А ў тое ліпеньскае ранне Антон Ягоравіч пайшоў на ўсход. Лінію фронту яму ўдалося перайсці недзе паміж Рослаўлем і Бранскам. Уласна кажучы, ніякае лініі фронту там яшчэ не было. Проста немцы не паспелі авалодаць трактам, што вёў на Тулу. Уздоўж яго бранскія і арлоўскія калгаснікі накапалі траншэй, акопаў. Але на рубяжы пакуль стаялі асобныя батальёны, якія займалі пазіцыі паблізу вёсак. У размяшчэнне аднаго такога батальёна і выйшаў Антон Ягоравіч. Яго затрымалі артылерысты на беразе рэчкі, здаецца, Угасці. На дошчачцы, што была прыбіта на коўратах, было напісана: «Сбор отступающих групп, одиночных бойцов и командиров в лесу у оборонительного рубежа» — і памкамузвода, украінец, спытаў:

— А вы хто? Баец? Камандзір?

— Дэзерцір,— падказаў няўрымслівы канваір, малады чырвонаармеец, які прывёў Антона Ягоравіча ў вёску.

— На дэзерціра гэты выпадак не падобны,— усумніўся памкамузвода.— Хутчэй, ён дыверсант. Але калі так, то вядзі да штаба. Хай начальства разбіраецца.



Стомлены камандзір батальёна трохі паслухаў атарапелага Антона Ягоравіча і, не ўзяўшы нават у рукі ягоныя дакументы, параіў:

— Тут, непадалёку, апалчэнцы полк свой фарміруюць. Вам, мусіць, туды і трэба.

У наступленне немцы перайшлі на пачатку жніўня. Семнаццаць дзён кідалі яны свае часці ў атакі. Над перадавой амаль круглыя суткі віселі самалёты з жоўтымі крыжамі. Антон Ягоравіч быў у апалчэнні. Здаецца, на пяты дзень цяжка параніла камандзіра роты, і Антона Ягоравіча прызначылі на яго месца.

Зноў у Вішанькі Антон Ягоравіч трапіў у сорак чацвёртым годзе, калі ехаў са шпіталю ў сваю часць. Фронт тады стаяў кіламетраў за сто на захад ад вёскі — на беларускай Проні. Ужо чацвёрты год ішла вайна.

Там, дзе некалі была пяцісценная хата Шасцярнёвых,— зрубленая ў лапу, на сямёра акон, з двума высокімі ганкамі,— Антон Ягоравіч убачыў папялішча і дзве груды пакрышанай цэглы: ад печы і грубкі-ляжанкі. У зале валяліся зялёныя камякі расплаўленага аконнага шкла. Тырчалі, як дзіды, абвугленыя штандары. Вакол папялішча ўжо буяў палын, з-пад бярвенняў-недагаркаў нясмела падымалася глухая крапіва, нават парос палявы хвошч. На былым падворку ўсё яшчэ ўзвышалася знаёмая лістоўніца, але і яе не абмінуў пажар: ніжняе голле паўсыхала, зялёная пакуль была адна макаўка, ды і тая пачала ўжо вянуць, мусіць, хапіла сокаў, каб зазеленець апошні раз.

Усе ў вёсцы жылі ў зямлянках. Зямлянкі былі зроблены на скорую руку, і вёска стала падобна на вялікія могілкі.

Антон Ягоравіч пастаяў на сваім хацішчы, агледзеўся.

За гародам, на якім цвіла бульба, дыміла вогнішча, і Антон Ягоравіч рушыў туды. Ля вогнішча быў адзін Васілёк. Бацьку ён пазнаў адразу. Але Антону Ягоравічу чамусьці здалося, што сын быццам не надта рады сустрэчы — усмешка, якая паявілася на ягоным замурзаным твары, была кволая, як у хворага. Хлопчык нават не кінуўся бацьку на шыю. Ён толькі падняўся на ногі і, схіліўшы на бок галаву, часта-часта заплюскаў павекамі.

— А мамка не ведала, што ты прыедзеш,— нарэшце сказаў ён.

Бацька пагладзіў сына па галаве.

— Дзе ж яна?

— Пайшла,— сын апусціўся на каленкі і пачаў мяшаць трэсачкай у кансервавай банцы.— Пайшла з хлопцамі ў Халявічы. Можа прынясуць адтуль бульбы. Халявічане не пагарэлі... дык прадаюць. А ўчора мы па тваім атэстаце атрымалі за гэты месяц пяцьсот рублёў. Мама казала, што якраз на пуд бульбы хопіць. Цяпер усё дорага.

Гаварыў ён зусім як дарослы, з нейкай ляніваю развažлівасцю, быццам з неахвотаю, і гэта ўразіла Антона Ягоравіча, нават збянтэжыла.

Хлопчык пераламаў хварасціну, заціснуў у ёй бляшанку і выняў з агню. Вада перастала кіпець, астаялася, і тады на дне бляшанкі Антон Ягоравіч убачыў зусім зялёныя жытнія зярняткі. Яны адно трохі распарыліся: жыта ў полі толькі-толькі пачало налівацца.

— Ого, ды ты, хлопец, не благі кухар!



Але сын, мабыць, не зразумеў бацькавага жарту — паглядзеў сваімі шэрымі запалёнымі вачамі і спытаў з нейкай глыбока схаванай унутранай трывогай, падобнай на шкадаванне:

— І ты хочаш есці?

Бацька на момант сумеўся, сціснуў зубы і адчуў, як пад скурай на шчоках захадзілі тугія жаўлакі.

— Кінь ты сваё варыва,— сказаў Антон Ягоравіч сыну.— Хадзем у зямлянку, у мяне тут, у чамадане, ёсць не такая яда!

Сын паверыў — спачатку выліў на зямлю мутную ваду, пасля размахнуўся і кінуў у агонь бляшанку.

— Але ж нашы не скора прыйдуць,— занепакоіўся ён.— Хоць што я кажу... Там іх, можа, ужо хто пакарміў. Я таксама хацеў пайсці, ды мамка не пусціла, сказала — не дайду.

Ён строс рукою вуголле, якое напрылiпала да кароткіх штанін, падраных на каленках, і пайшоў да зямлянкі. Ногі ў яго былі распухлыя. Ішоў ён па сцежцы так, быццам было яму мулка, быццам баяўся наступіць на што.

Нарэшце машына праязджае паўз вялікі сад, што расцягнуўся на цэлую вярсту па левы бок дарогі, і міма нейкага збудавання, падобнага на акведук, выносіцца на шырокую плаціну, паднятую над ракой. Васіль паварочвае галаву і доўга глядзіць на правы бераг, парослы чаротам. Антон Ягоравіч таксама нейкі час пазірае на раку, пасля пачынае неспакойна варушыцца і гаварыць:

— На хутары Ілаваеўскім цётка твая жыве... Пераехала з Вішанек.

— Дзе гэта?

— Не вельмі далёка. Можа заедзем?

— Не.

Бацька яшчэ хвіліну-другую спадзяецца, што сын перадумае, але той ужо глядзіць толькі на спакойную, шырокую раку, у якой вада чамусьці здаецца зялёнай. І бацька зноў бачыць у люстэрку сынаў твар — нахмураны, з чорнымі ссунутымі бровамі, якія ледзь не сходзяцца на пераноссі.

...Дэмабілізавалі Антона Ягоравіча неспадзявана. Раптам выклікалі ў аблваенкамат — ужо другі год пасля вайны ён працаваў у раённым ваенкамаце на Каўказе — і сказалі:

— Нарэшце, таварыш Шасцярнёў, вы паедзеце дамоў. Вас дэмабілізуюць. А то вы засядзеліся, а сям'я там, нябось, даўно чакае.

На развітальнай вечарынцы знаёмыя афіцэры пілі спірт і жартавалі, а самому Антону Ягоравічу было сумна. Можа толькі цяпер ён пасапраўднаму і адчуў, як нечакана абарвалася яго па-новаму прывычнае жыццё. Так, прывычнае, бо за паўтара мірныя гады ён ужо прывык і да сваёй пасады, і да гарадской кватэры. Праз ваенкамат не мала прайшло дэмабілізаваных афіцэраў, і Антон Ягоравіч бачыў, як па-рознаму яны ставіліся да перамен: адны з неахвотаю расставаліся з усім вайсковым, і гэтым ён па-свойму спачуваў, другія, наадварот, былі рады, што нарэшце становяцца цывільнымі, але гэтых ён амаль не разумеў. Пра сябе ён чамусьці не думаў. Яму здавалася, што ўсе гэтыяпературбацыі яго не закрануць. Таму вельмі разгубіўся, калі пачуў пра сваю дэмабілізацыю ў аблваенкамаце. За сталом цяпер сядзеў маўклівы. Яму нават дзіўна было, што ўсё гэтае «насілле» адбываецца пад такі вясёлы шум. Здавалася, што ў гэтым шуме шмат няшчырасці і шмат хто са знаёмых пасміхаецца з яго.



У той вечар Антон Ягоравіч многа піў і многа думаў. І вынікам гэтага было тое, што нарэшце ён пераканаў сябе ў самым істотным для яго — калі б не надумаліся звальняць яго ў запас, то дамоў, у Вішанькі, ехаць яму не абавязкова было б, бо нішто яго не цягнула туды, а сям'ю, на благі канец, можна перавезці заўсёды.

Былыя саслужыўцы адвезлі Антона Ягоравіча на «вілісе» на станцыю, пасадзілі ў вагон. Нехта прыхапіў з сабою бутэльку і, пакуль стаяў поезд, выпілі яшчэ па шклянцы, пасля павыходзілі з вагона і доўга курылі на пероне. Нарэшце поезд ляснуў буфярамі, Антон Ягоравіч на хаду ўскочыў на падножку. У купэ было амаль пуста, толькі на адной верхняй лаўцы спала жанчына. Антон Ягоравіч паваліўся на ніжнюю лаўку, стомлена, да хрусту ў касцях, выпрастаўся і заснуў. Прачнуўся ён ужо недзе паблізу Растова. У купэ сядзела, мусіць, тая самая жанчына, што спала ўночы. Антон Ягоравіч схадзіў памыцца і падсеў да акна. Галава пасля выпіўкі балела, на душы было прыкра. Цяпер, як ніколі, Антон Ягоравіч адчуваў сябе адзінока, зусім не заўважаючы, што сваімі «чорнымі» думкамі сам наганяў гэтую адзіноту.

Жанчына была гадоў на дзесяць маладзейшая за Антона Ягоравіча. Выгляд у яе быў здарожаны, і таму не паддаваўся вызначэнню дакладны ўзрост, хоць і без таго было ясна, што да трыццаці ёй яшчэ трохі не ставала. Неўзабаве яны разгаварыліся, і ўжо да Растова ехалі, як добрыя знаёмыя. Антон Ягоравіч раптам на час забыў і пра сваю адзіноту, і пра сваю крыўду. Яму зрабілася нават хораша.

Звалі яго спадарожніцу Валянцінай Захараўнай, і хутка Антон Ягоравіч ужо клікаў яе проста Валяй. Яна адкрыта глядзела на яго сваімі вялікімі вачамі, смяялася мяккім, аксамітавым смехам і ўсё пагладжвала левай рукой сваё аголенае правае плячо — белае і гладкае.

У Растове Валянціне Захараўне трэба было выходзіць, і Антон Ягоравіч памог сабраць рэчы.

— А што калі і мне пахадзіць па Растову,— быццам спахапіўшыся ў апошні момант, сказаў Антон Ягоравіч.

Валянціна Захараўна ўскінула на яго свае блакітныя вочы і сказала зусім весела:

— Калі вы самі сабе камандзір...

— Значыць, запрашаеце?

— А чаму б і не? — нібы ад здзіўлення, паціснула яна плячамі.— Пакажу вам Растоў, у мяне і кватэра свая.

І самае галоўнае — Валянціна Захараўна ні аб чым не распытвала. Антон Ягоравіч затрымаўся ў дарозе ажно на цэлы тыдзень.

У Вішанькі ён прыехаў трохі супакоены. Але спакою хапіла ненадоўга. Пахадзіў колькі дзён «па начальству» і зноў пачаў думаць, што вакол шмат няшчырасці і што кожны гатовы пасмяяцца з яго: як жа,— зноў у старшыні сельсавета! Асабліва моцнае стала гэтае недарэчнае адчуванне ў ягонай душы пасля сустрэчы з Чарчуліным, даўнім сваім знаёмым, які да вайны часта бываў у Вішаньках упаўнаважаным.

— Ты не надта слухайся іх,— казаў Чарчулін.— Хадзі, спрачайся, дамагайся свайго. Пад ляжачы камень вада не запльіве. Ай-я-яй! — Чарчулін цмокаў языком, ледзь не ў роспачы ківаў галавой.— Вось так, дарагі Антон Ягоравіч. Схадзіў бы ты яшчэ да першага...

Першы сакратар райкома, аднарукі і, відаць, хворы чалавек, пры-

няў Антона Ягоравіча ветліва, уважліва паслухаў, сумна ўсміхнуўся.

— Дарма гэта вы, таварыш Шасцярнёў. Нам цяпер патрэбны людзі во як! — Ён пакратаў рукою сваю кадыкаватую шыю.— Але я не разумею, чаму ўсе дэмабілізаваныя афіцэры павінны шукаць сабе месца ў горадзе. Вы ж самі, пэўна, паспелі ўжо ўбачыць, што ўсё разбурана — адны папялішчы наўкол. Тут жа франтавая паласа была. Дык трэба ж неяк жыццё па-чалавечы пачынаць. Людзей з зямлянак выводзіць, здаецца ж і ваша сям'я яшчэ у зямлянцы жыве. Ну, а наконт... А наконт большай пасады, то ўрэшце ў нас яны амаль усе выбарныя. Папрацуйце, таварыш Шасцярнёў, у вёсцы, камуністы паглядзяць на вас, можа, выберуць і на маё месца.— Ён зноў усміхнуўся.

З райкома Антон Ягоравіч выйшаў як бы прысаромлены. Але спаслаўся на тое, што яшчэ не адпачыў. Пасля пачаў знаходзіць іншыя адгаворкі.

Напісаў у Растоў.

Валянціна Захараўна адказала тыдні праз тры. Але на канверце адрас ужо быў не растоўскі — кароткае пісьмо прыйшло з Стаўрапольскага краю. «Мне пераслалі ваша пісьмо знаёмыя,— пісала Валянціна Захараўна.— Па мяне прыязджаў у Растоў мой брат, і я цяпер жыву разам з ім. Дарэчы, я расказала яму пра Вас. Калі Вы ўсё ж не ўладкаваліся там, то прыязджайце да нас. Брат кажа, што работа тут знойдзецца. На першы час ён можа ўзяць памочнікам да сябе. Яго памочнік якраз на павышэнне пайшоў — забралі ў другі раён...»

Пісьмо гэта неспадзявана і вырашыла ўсё. Антон Ягоравіч спалохаўся цяжкасцей, раптам сабраўся і паехаў. А жонцы і меншаму сыну,— самы большы к таму часу ўжо служыў у арміі, а сярэдні, Пецька, вучыўся ў тэхнікуме ў Магілёве,— сказаў, што паедзе пашукае добрага месца, і, калі спадабаецца там, прыедзе, забярэ іх...

І вось цяпер малодшы сын, якога Антон Ягоравіч некалі, шмат гадоў таму ашукаў і, мусіць, дзеля «кар'еры» баязліва пакінуў у нястачы, сядзіць перад ім. Кар'еры Антону Ягоравічу не ўдалося зрабіць: паступова ён «замёрз» на адным месцы. І вось цяпер гэты сын... Антон Ягоравіч разумее, што ім як хутчэй трэба пагаварыць — тады можа не будзе ўжо гэтай пакутлівай і зацятай маўклівасці, якая прымушае сціскацца сэрца. Але як падступіцца да яго, з чаго пачаць, пра што гаварыць, Антон Ягоравіч не ведае.

А машына тым часам, узнімаючы пыл, няспынна імчыць праз стэп.

# ШЧАСЛІВАЕ МЕСЦА

Вясна ў той год была ўзялася вельмі рана. У пачатку сакавіка снег пачарнеў і пад ім захлюпала вада. Ледзь не над самай зямлёй павіслі, як налітыя, хмары. Адвячоркамі над вёскаю слаўся не то дым, не то туман. Дзьмуў ёдкі, густы і парывісты вецер. За колькі дзён на рэках паадмывала ад берагоў лёд. Здавалася, вось-вось пачнецца крыгаход. Але неспадзявана пахаладала, і вясна спярша паспакайнела, пасля зусім нібы заснула: ці то ў яе сіл не хапіла, каб саўладаць з гурбамі снегу, ці то яна нарэшце зразумела, што перабрала меру, хапіла цераз край — не ў час пачалася. Снег, бадай за адну ноч, пабраўся бліскучай скарынкай. Лёд на рэках зрабіўся крохкі — не ступіць нагой. Неба зноў ачысцілася ад цяжкіх хмар, паднялося над зямлёй, стала высокае. Пачарнелыя дарогі перасталі пахнуць, пакарабаціліся. А наогул дарогі,— так, як іх сабе ўяўляюць людзі,— папсаваліся: па мелкаводных рэках, што без мастоў, ужо нельга было перабрацца на другі бок ні на падводзе, ні на машыне, нават пешкі мала хто адважыцца.

Мне не было як чакаць — я ўжо даўно, яшчэ некалькі дзён таму назад, павінен быў вярнуцца ў горад. І не мог. Спярша спадзяваўся, што хутка сыдзе лёд і мяне перавязуць праз раку на лодцы, а там ужо я і сам дабяруся да станцыі — нават на сваіх дваіх, калі не пашанцуе пад'ехаць. Адным словам, першыя дні, як пачалася вясна, была яшчэ надзея. Пасля, як раптам пахаладала і над зямлёй зноў закружыліся белыя мухі, і яе не стала. Але мяне ўсё ж выручыў ляснічы Затрымайлаў. Аказваецца, надышоў час палучкі і ў лясніцтве чакалі бухгалтара з лесгаса. Пераправіць яго цераз раку браліся леснікі.

— А заадно і вас перакінем на той бераг,— паабяцаў Затрымайлаў.— Бухгалтара даставяць да ракі на машыне. Якраз, дарэчы, пад'едзеце. Адным словам, прыходзьце ў лясніцтва.

На другі дзень, не паспела яшчэ добра развіднець, я быў у лясніцтве. Затрымайлаў, грузны, чырванашчокі і шыракаплечы чалавек гадоў пад сорак, ужо сядзеў у акаваным вазку і ледзь стрымліваў за лейцы маладую, бы наглянцаваную кабылу, якой ні хвілінačкі не стаялася ў аглоблях. Я таксама сеў у вазок і яшчэ не перастаў варушыцца на сене — усё ўсаджваўся, як кабыла рванулася з месца і, выгінаючы шыю, памчала нас па дарозе, што агінала вялікі сад, потым пакручаста збягала з горкі і праз мост выходзіла на бальшак, абсаджаны з двух бакоў старымі бярозамі, на якіх ужо не было макавак. Кабыла спрытна секла падковамі малады лядок на дарозе, а пад палазамі хрусцеў шарон.

Бальшак быў роўны, без калдобін і ўхабаў, вада ў каляінах за апошнія дні паспела вымерзнуць, і застаялая кабыла, адчуўшы волю, бегла лёгка, прыгожа раскідваючы пярэднія ногі.

Неўзабаве бальшак скончыўся, і дарога пайшла праз сасновы лес. На дрэвах снегу не было. Снег ляжаў толькі на зямлі, але ён быў нібыта пафарбаваны, амаль фіялетавага колеру, і ўвесь пабіты, бываспаваты — гэта як падалі з лапак камякі.

Мусіць, ляснічы быў чалавек неразгаворлівы, і мы доўгі час ехалі моўчкі. І толькі пасля таго, як я неяк пахваліў кабылу, ён павярнуўся да мяне і сказаў:

— Данская-а-а-ая.

Памаўчаў і зноў сказаў:

— Гэта нам у лесгас аднекуль з данскіх стэпаў прыгналі. Цэлы табун. Дык і мне вось дасталася. Хацеў жарэбчыка, але не далі. А на кабыле доўга не паездзіш...

Вазок раптам страсянула на павароце, ён нахіліўся на бок, нават праехаў колькі метраў на адным полазе, але Затрымайлаў у момант паспеў звесіць нагу і, упёршыся абцасам свайго вялікага ялавага бота, не даў яму перакуліцца. Кабыла адчула, што з намі нешта здарылася, стала, як укапаная, і па-разумнаму скасавурыла нібы заінелае вока. Затрымайлаў ад задавальнення ажно засмяяўся:

— Малайчына! Другая б упудзілася і дроў наламала, а гэтая... Каняка! — Ён паправіў вазок і сказаў: — Нават шкада будзе... Ці ж ад

жарабкоў яе ўсцеражэш? — Але прагучала гэта так, быццам ляснічы сказаў: «Ці ж ад ваўкоў яе ўсцеражэш?»

Гадзіны за паўтары мы прамінулі лес і ўехалі ў вёску. Сустрэў нас там рыжабароды ляснік у жоўтых бахілах. Ён зняў з галавы шапку, падобную на старую магерку, неяк смешна пакланіўся, не гледзячы на нас, і на хаду спрытна ўскочыў на палазы ззаду, учапіўшыся сваімі чырвонымі ад холаду рукамі ў высокую, пакатую спінку вазка. Калі мы нарэшце дабраліся да ракі, там ужо гатова была пераправа: праз усю раку, калі не лічыць падмытыя берагі, быў прасечаны лёд, каб магла праплысці лодка. Машына з бухгалтарам яшчэ не прыязджала. Леснікі — іх на гэтым беразе было чалавек дзесяць — сядзелі ля вогнішча на кучы саломы, курылі, а як убачылі Затрымайлава, падняліся разам, пачалі падыходзіць да яго і чынна вітацца за руку, кідаючы на мяне цікаўныя позіркі, у якіх можна было прачытаць адным часам і зайздрасць і рэўнасць.

Ляснічы спытаў:

— Няма яшчэ нашага Пятрычанкі?

— Ды штосьці няма,— адказаў за ўсіх той самы рыжабароды ляснік у жоўтых бахілах, які сустракаў нас на вуліцы.

Нехта падкінуў саломы ў агонь. Яна падыміла белым дымам і, успыхнуўшы раптам, пачала на вачах чарнець.

Усе — і леснікі, і мы з Затрымайлавым — пасталі вакол вогнішча, выстаўляючы рукі да агню і адварочваючы твары.

Ля берагу, у вялікай праламцы, гойдалася пацяху дашчатая лодка, пашпакляваная і прасмоленая.

Але бухгалтар прыехаў к абеду. Мяне леснікі павезлі на той бок толькі пасля таго, як убачылі лесгасаўскую машыну. Малады хударлявы шафёр, які нават не вылез з кабіны, чамусьці не стаў чакаць, пакуль перавозілі бухгалтара, і хуценька развярнуў машыну.

— Вы таксама хочаце ехаць? — спытаў ён.

— Ага, да станцыі,— сказаў я.

— Тады нам не па дарозе.— Ён ужо хацеў зачыніць кабіну, але перадумаў і пачаў такім тонам, быццам прасіў прабачэння: — У мяне пуцёўка... У Чэрыкаўскае лясніцтва. А гэта зусім у другі бок. Так што...— Нарэшце ён ляснуў дзверцамі, пасядзеў нейкі момант у кабіне і зноў высунуў галаву: — А вам на якую станцыю? Можа, усё роўна на якую?

— Ды мне абы на станцыю,— нявесела ўсміхнуўся я.— Адтуль я ўжо дабяруся...

— Ладна, сядайце.— Шафёр дружалюбна кіўнуў галавой.

Спярша мы ехалі палявымі дарогамі, і шафёр, абмінаючы замёрзлыя лужыны, усё хмурыў твар, пасля, кіламетраў якіх праз сорак, узбіліся на шашу — шафёр тады павесялеў, стаў насвістваць нейкую мелодыю, а я, закалыханы на выбоінах, на роўнай дарозе раптам пачаў драмаць.

Калі шафёр нарэшце павярнуў на абочыну і затармазіў машыну, сонца, якое ўжо выбліснула, павісла над лесам, што віднеўся здалёку на левы бок ад шашы. Наперадзе быў Сож. Да яго мы не даехалі можа метраў дзвесце, бо да моста нельга было прабіцца: на шашы, упрытык адна да адной, стаялі машыны — вялікая чарада машын.

— Пробка...— уздыхнуў шафёр, пачухаў пад шапкаю галаву і падміргнуў мне.— А наогул то, дзе пробка, там паблізу і пляшку шукай. Вы пахадзіце тут, разамніцеся, зрэшты, тут і «чайхана» ёсць. Ву-у-нь яна... А я схаджу паглядзець, чаму такі затор.

Я нейкі час тупаў вакол машыны і ўсё глядзеў, ці не ідзе шафёр.





Але той не спяшаўся. Машыны на шашы не рухаліся. Тым часам захацелася есці, і я не вытрымаў, зрабіў, як раіў шафёр: пайшоў у «чайхану». Гэта была звычайная закусачная, якіх шмат ля вялікіх дарог, з буфетам, дзе пад пукатым шклом выстаўлены на сподках смажаная салака і вінегрэты, з квадратным, ледзь не на ўсю сцяну акном, адкуль афіцыянткам павары падаюць гуляшы, ну і, вядома, з бакоўкай — невялічкім, сталоў на сем зальчыкам. Людзей у закусачнай было многа, відаць, пераважна шафёры з тых машын, што стаялі ў чарадзе на шашы, і я хацеў павярнуць ужо назад, калі ўбачыў у самым кутку адно свабоднае месца. Падышоў, сеў, не пытаючыся, і папрасіў афіцыянтку, каб прынесла гуляш і чаю. За сталом сядзела трое: адзін з іх быў пэўна шафёр, другі, можа таксама, як і я, пасажыр, а трэці — мажны, з вялікай, паголенай галавой мужчына. Неўзабаве першыя два даелі сваё, разлічыліся з афіцыянткай і выйшлі. За сталом асталіся адны мы. Я патроху пачаў прыглядацца да свайго суседа. На выгляд ён меў гадоў трыццаць сем, быў шырокі ў касці і чысты з твару. На ім быў марскі кіцель, з рукавоў якога вытыркаліся беласнежныя манжэты шаўковай кашулі, і зялёныя ватнікі, усунутыя ў чорныя валёнкі. Шынель — таксама марскі — ляжаў, складзены папалам, на спінцы крэсла і паблісквaў гузікамі. Крыху прыжмураныя карыя вочы яго мне здаліся стомленымі. Але адчуваў ён сябе за сталом спакойна, як дома.

Нарэшце афіцыянтка прынесла на алюмініевым падносе гуляшы, паставіла талеркі на стол. Мужчына пачакаў, пакуль адышлася афіцыянтка, і дастаў, нібы змоўшчык, з ватнікаў бутэльку каньяку.

— Выпі са мной, таварыш,— сказаў ён і наліў дзве поўныя шклянкі.

Запрашэнне было нечаканае, і я сумеўся.

— Адным чаем у дарозе не абыдзешся,— усміхнуўся чалавек і паглядзеў мне ў вочы: позірк яго быў мяккі і прыязны, быццам ён даўно ведаў мяне.

Я пасаромеўся адмовіцца. Паступова мы разгаварыліся.

Чарэнда — так назваўся новы знаёмы — пасля дэмабілізацыі (на флоце ён даслужыўся да капітан-лейтэнанта) два гады плаваў на цеплаходзе па Волзе.

— А цяпер вось пераехаў сюды. Буду плаваць па Сожы.— Ён паставіў пад стол пустую бутэльку, адсунуў у бок талеркі і аблакаціўся, падпёршы далонямі бараду.— Учора быў у Гомелі, у параходстве, далі там мне судна — чалавек дваццаць на борт буду падымаць. Чакаю навігацыі.

— На Волзе, нябось, прастору больш было! А Сож... Што гэта вас прымусіла памяняць месца?
Марак кіўнуў галавой:
— А можа яшчэ вып'ем, а? Каньяку, праўда, ужо няма. Гэта я ў Гомелі браў бутэльку. Думаў, з новымі знаёмымі вып'ю. Але знаёмых яшчэ не паспеў займець. Ты вось, таварыш, першы.
— Не, не трэба.
— Чаму, таварыш?
— Яшчэ мне дарога вялікая,— прытворна ўздыхнуў я.
Чарэнда недаверліва паглядзеў на мяне, але махнуў рукой:
— Ладна. Усё роўна ўсю яе не перап'еш. Гэта я на поўначы да градусаў прывык трохі. Цяпер, мусіць, адвыкаць давядзецца.
У закусачнай стаяў шум ад людскіх галасоў, людзі ўвесь час уваходзілі і выходзілі, але да нас чамусьці ніхто не падсядаў.
Чарэнда расшпіліў каўнер кіцеля і, нібы спявак, памасіраваў пальцамі на шыі скуру.
— М-да, Волга, Сож...— сказаў ён.— Ты вось пытаеш, чаму? Вядома ж, не з-за правіннасці памяняў я месца. А Сож гэты ваш я не сённяшнім днём... Ён, як прывід, стаў для мяне. Я болей па снах яго ведаю.
Мне падалося, што на момант чалавек нечага зазлаваў.
— Можа ж, недзе тут мая дачка жыве... калі, канешне, жывая... Дык я вось і прыехаў, каб знайсці яе.
І ён пачаў расказваць.
— Я ж не заўсёды быў мараком. На флот трапіў пасля. Ужо ў сорак другім, калі ваяваў на Карэльскім. А спярша служыў у Шапічах, у мотамеханізаваным палку. Раней там кавалерыя стаяла, а ўжо незадоўга перад вайной «чырвоных казакоў» пасадзілі на машыны.
Чарэнда сашчапіў кулак, чамусьці доўга глядзеў на яго, быццам вывучаў, пасля пацёр кончыкамі пальцаў сваю поўную шчаку і, мусіць, ад унутранай усхваляванасці, сарамліва ўсміхнуўся.
— Мяне накіравалі ў Шапічы малодшым палітруком, бо я скончыў ваенна-палітычнае вучылішча. Спадабалася мне ў Шапічах — прыгожа заўсёды тут, вадасховішча блізка. У нядзелю можна ў горад паехаць, калі хочаш. Але хутка я і сям'ю перавёз. Кватэру мне далі. Жонка ў мяне настаўніца па адукацыі была, але пакуль не рабіла ў школе, глядзела за малой — дачцы нашай тады яшчэ не споўнілася і двух. Вось я ўспамінаю тое жыццё наша і думаю: кажуць, сумна жыць у такім месцы, а нам не было сумна. Ужо дзела мінулае, жонкі няма, а я папракнуць сябе нічым не магу — справядлівы быў да яе, і яна ўсё рабіла так, каб не сорамна было нават за саміх сябе. Пахвалюся: харошая мне жонка дасталася, таму такое і жыццё было. Вось паглядзі, таварыш...
Марак дастаў з бакавой кішэні скураны бумажнік, выняў з яго фотакартку, пажаўцелую на краях, і падаў цераз стол мне.
— Прыгожая,— сказаў я.
— Прыгожая,— ціха выдыхнуў з грудзей паветра ён.
З фотакарткі на мяне глядзела кучаравая маладая жанчына з тонкімі рысамі твару. У яе ўсё было правільнае, можа акрамя толькі высакаватага лоба. Але выразныя вочы, якія трохі гулліва — так па крайняй меры тады здалося мне — пазіралі з-пад лоба, скрадвалі і гэтую, бадай, адзіную няправільнасць на яе твары.
Я доўга глядзеў на фотакартку, нарэшце аддаў яе і зноў сказаў:
— Прыгожая...
— І дачка падобная на яе.



Ён і сам доўга не зводзіў вачэй з жончынай фотакарткі. Затым акуратна паклаў у бумажнік.
— Але сам я не бачыў, як жонка загінула. Расказвалі знаёмыя. Іх тут, на Сожы, бамбілі, калі ехалі ў сорак першым з Шапічаў на машынах. Эвакуіраваліся. Я нават не ведаю дакладна, дзе гэта было. Мала хто ўцалеў тады са знаёмых, а шафёра, на машыне якога ехалі мае, я ўсё ж знайшоў. Адразу пасля вайны. Ён і расказаў. Жонку маю, бачыў ён сам, забіла асколкам, а дачка асталася жывая. Падабраў яе тады на шашы хтосьці з мясцовых. Значыць, дачка мая павінна недзе жыць. Так я думаю. Не можа быць, каб сярод людзей ды згубілася. Пасылаў я на пошукі паперы, але нічога суцяшальнага не атрымаў. Цяпер вось сам прыехаў.
Чарэнда заварушыўся на крэсле, выцягнуў пад сталом ногі.
— Ты ўжо, таварыш, даруй мне, што я так расказваю,— уздыхнуў ён.— Гэта ўжо, як хвароба, калі доўга ходзіш па дактарах — расказваеш усім, хоць, можа, не кожнаму і цікава. Але даў я сабе, таварыш, задачу адшукаць дачку. Чуе маё сэрца, жыве яна недзе тут сярод людзей добрых. Таму вось і памяняў я Волгу на Сож, а цеплаход на маленькі абшарпаны параходзік, на якім сапраўднаму мараку, па праўдзе кажучы, сорамна і на палубе стаяць. Але дачакаюся вады, стану за штурвал. Не можа быць, каб аднойчы яна не ўзышла на мой параходзік. Не, не праміне. Тут жа паблізу чыгунак няма. Дарога адна — па Сожы. А я пазнаю дачку сваю адразу. Яна ж так падобна была яшчэ тады на сваю маці.
— Дачку вы абавязкова знойдзеце,— сказаў я.
— І ты так лічыш, таварыш? — нібы не паверыў маім словам Чарэнда.
Я развёў рукамі — маўляў, па-другому тут і быць не можа.
— Паслухай, таварыш, а ты прыязджай сюды, ну, хоць бы і гэтым летам. А можа адразу, як лёд сыдзе, а? Парыбачым...
Я паабяцаў і развітаўся — ужо заходзіла сонца, заліваючы нясмелай пазалотаю вокны. Але ні ў тое лета, ні ў наступнае я не сустрэўся з Чарэндам. Тым часам пачаў паступова забываць і пра яго, і пра раннюю вясну, што неспадзявана заспела мяне ў міжрэччы.
На параходзе плыць па Сожы мне давялося ажно праз колькі гадоў. Тады я і пачуў зноў пра Чарэнду. Недзе паміж Кармой і Слаўгарадам невялічкі рачны параход, які гнаў ад сябе да берагоў пакорлівыя хвалі, раптам нечакана даў тры доўгія гудкі на ўсю моц. Рэха разлеглося над плёсам, шуганула праз лугі да асмужаных бароў і там, абяссіленае, назаўсёды згубілася.
Малады механік, што якраз падняўся на палубу, пацёр з задавальненнем рукі, шырока ўсміхнуўся:
— Шчаслівае месца!.. Для нашага карабля шчаслівае. Таму і вітаем гудком. І так заўжды: туды едзем — пратрубім, і адтуль таксама. Капітан наш тут знайшоў сваю дачку. Ад самае вайны шукаў, і знайшоў! Пазнаў якраз на гэтым месцы.
— А як прозвішча вашага капітана? — не ўстрымаўся я.
— Чарэнда,— адказаў механік.
— Чарэнда... Ну, вядома ж, Чарэнда! — усклікнуў я.
Механік здзіўлена паглядзеў на мяне.
— Вы яго таксама ведаеце? Але ж Сяргей Васільевіч у адпачынку. Паехаў на поўдзень. І Наташу павёз,— сказаў механік.
І я пашкадаваў, што не магу пацiснуць капітану руку, паглядзець, які ён, калі шчаслівы.





Мікола МІЦКЕВІЧ







ёгка быць рэхам.
Яно зусім бязгрэшнае,
Яно аб сабе не расказвае,
Яно ні за што не адказвае.
Рэха маё гучнае
Да мяне зноўку імчыцца
І птушкаю прыручанай
Даверліва на плечы садзіцца.
Рэхам гукае над пожнямі
Эпоха мая трывожная.
Чую, рэха «Аўроры»
Над Афрыкаю ўторыць.
Чую рэха з-пад кельмы муляра,
Які цагліну кладзе ў будынак,
Чую рэха з'ездаў мудрых,
Рэха заводаў дымных,
Чую рэха песні шчаслівай,
Чую рэха кожнай расліны,
Рэха матчынай калыханкі,
Рэха сэрцаў усіх закаханых,
Рэха касмічных сокалаў,
Чую рэха зямных воплескаў.
Ты чалавечна,
Ты вечна,
Ты адказна,
Парою грэшна,



Маёй эпохі рэха.
Недзе з ім
Рэхам лятае
Мой голас строгі.
— Кім хочаш быць? —
Рэха маё пытае.
— Быць рэхам эпохі.





рачнуўся я ад цішыні.
І толькі зрэдку
Мароз
Кульбакаю па плоце стукаў,
Нібы сляпы,
Шукаючы дарогу.
А ў вокны
Ноч глядзела цёмнымі вачыма.
Здавалася,
Што на зямлі
Застаўся я адзін.
Крычалі недзе цягнікі,
Як патрывожаны табун грывастых...
Я выйшаў з хаты
(Мо яшчэ каму не спіцца),
Па вуліцах рыпучых,
Нібы паркецінах нацёртых,
Рыпеў,
Курыў зацята.
Ужо дымы фанталілі ўгары,
А хаты,
Быццам паравозы,
Збіралі пару,
Каб рвануцца насустрач сонцу.





зяцінства —
Ты і далёкае,
І блізкае;
Дзяцінства —
Тут кожны крок
Перасцярогамі стрыножаны.
Самастойнасць праявіш —
Папруга маланкай заблісквае:
— Вырасцеш —
Тады можна!

Самастойнасць —
Ты, як зорка нябёсная,

Што так жадана
І так недасягальна на справе.
Як хацелася нам
У трынаццаць няпоўных вёснаў
Сапраўднага,
Узмужнелага права.

І самастойнасць прыйшла
Зусім незаўважана,
Толькі пух на губе
Сведчыць —
Яна на парозе.
Сябры мае сталі
Мажнымі
Важнымі,
А мая самастойнасць,
Напэўна,
Яшчэ у дарозе.

І здаецца —
Мне шаснаццаты вось-вось
скончыцца,
А дваццаць з лішкам мае́ —
Мне прысніліся можа:
Мабыць таму
З дзяцінствам развітацца
не хочацца,
Ці ад таго,
Што самастойнасць
І страшная,
І цяжкая ноша.

Вечаслаў АДАМЧЫК

●

Мастак
Валянцін ДОЛГАЎ

●

# УРОК АРЫФМЕТЫКІ

■ Апавяданне

Празрысты верасень. Ранняя восень.

Мне ўспамінаецца дарога з нашае вёскі ў мястэчка: зялёнае, крышку фіялетавае, нядужае жыта на ўзгорках, маладыя сасьнякі за жытам, сыры пах скошанае атавы аднекуль з блізкіх балот, белыя хаты з краю мястэчка, чыгуначны пераезд, раптоўны свісток счэпшчыка і цяжкае лязганне вагонаў каля станцыйных складаў, гамана людзей, што стаяць у чарзе па хлеб каля орсаўскага магазіна. І нарэшце школа: яе бляшаны дах праз рэдкія сосны здалёк блішчыць светлым нерухомым азярцом.

І мой пяты клас, што супаў з апошнім годам вайны.

...Кожнае раніцы, перад першым урокам, уся школа выстройвалася ў калідоры і вучань з дзесятага класа, лысы і, мне здавалася, гэтакі самы стары, як усе настаўнікі, чытаў нам зводкі Саўінфармбюро. І я ўяўляў, як нашы салдаты лёгка бяруць гэтыя белыя з чырвонымі чарапічнымі дахамі нямецкія гарады, якія бачыў я на паштовых карт-

ках, што прысылаў недзе з фронту з Германіі да мае мамы яе брат — мой дзядзька.

Мне думалася, што вайна была неразборліваю і страшэнна цяжкаю толькі ў нас. Наша школа пахла лякарствам, і ля плота валяліся доўгія бінты, парудзелыя ад крыві,— казалі, што ў нашай школе размяшчаўся медсанбат,— і скрозь па ямах у смецці ржавелі пустыя кулямётныя стужкі, падобныя на хрыбты нейкіх страшэнных вужакаў.

За школаю едкім, удушлівым гарам пахла свежае пажарышча, і ў тонкай сасне маладою цягучаю смалою заплываў незаржавелы асколак ад бомбы.

Напамінак пра вайну прыносілі ў школу і настаўнікі: на іх было ўсё вайсковае — кірзавыя боты, зялёныя не перашытыя яшчэ галіфэ, кіцелі з петлямі ад нядаўніх пагонаў.

У фізрука на галаве тонкаю маладою скуркаю дыхала глыбокая рана. Ён расказваў нам, як хадзіў у тыл да немцаў браць «языка». Пра рану ў яго мы чамусьці не пыталіся.

Ды з мужчын, што выкладалі ў нашым класе, было ўсяго два: гэты самы фізрук — худы, высокі, адзеты ва ўсё старое, падношанае, у чаравіках з падранымі і сашчэпленымі медным дротам насамі, і дырэктар школы, казалі, татарын — нізкі, пругкі ў нагах, круты плячыма. Касаватыя вочкі яго млява бліпічэлі, калі ён уваходзіў у клас, туга падпяразаны шырокаю папругаю паверх гімнасцёркі, у накінутым наапашкі доўгім шынялі. А калі ён зачыняў дзверы — шынель з яго падаў. Ён паднімаў шынель, кідаў яго на парту і садзіўся на парту сам, ставячы адну нагу на сядзенне.

Дырэктара мы не баяліся: адказвалі ўрок гісторыі заўсёды з месца і нават чыталі слова ў слова з падручніка, што ляжаў на папярэдняй парце, а пераростак Капейка, які сядзеў ззаду, праз жалезную ручку страляў у нашыя патыліцы размоклым у роце хлебам.

Настаўніцы былі, найбольш, пажылыя. Яны туга закручвалі вакол шыі цёплыя хусткі, як нашы мацяркі, і, як нашы мацяркі, насілі прыпаленыя на галяпішчах валёнкі. Толькі адна Часлава Карлаўна,— маладзейшая за ўсіх, далікатная з твару, з прыгожым, дзіўным для мяне прозвішчам — Вератынская,— прыходзіла ў школу кожны дзень па-новаму і хораша адзетая. Ласкава з намі віталася, нязвыкла кіўнуўшы галавою, лёгка і сціпна ўсміхнуўшыся куточкам вільготнага рота, шчодра-густыя яе валасы свежа рассыпаліся, мякка адсвечваючы залацістай чырванню, і ў вушах мігатліва калыхаліся цяжкія завушніцы.

У класе наставала цішыня, толькі за вокнамі тамліва шумелі і роўна пахістваліся блізкія сосны, і на апошняй парце, змарыўшыся за доўгі перапынак, густа адсопваўся Капейка.

Часлава Карлаўна бязгучна адстаўляла крэсла далей ад стала, абедзвюма рукамі туга прыгладжваючы каля ног спадніччку, садзілася, раскрывала журнал, правярала, ці ўсе ў класе, і ішла між партаў, праглядала нашыя сшыткі,— а выкладала яна арыфметыку,— прыпыняючыся каля кожнага з нас: на нашыя твары ад яе ружовага світара падала агністае святло, і мы на нейкі час дзіўна і нечакана радасна харашэлі.

А я кожны раз з нейкай шчымлівай затоенасцю чакаў гэтага агністага непякучага святла, ледзь улоўнага хмельна-прыемнага паху духоў, раптоўнай яе блізкасці, калі яна нагіналася нада мною, лёгка абапёршыся выразна белаю рукою аб маю парту, шчырага нямоцнага голасу ў сябе каля шыі, калі яна пра што-небудзь пыталася.

І кожны раз я ішоў за ёю назіркам, калі яна вярталася са школы з сынам, крышку большым за мяне, што вучыўся ў сёмым класе і быў з твару гэтакі самы, як яна, і гэтак жа мякка хаваў пад густымі вейкамі свае вочы.

Я ішоў з адчуваннем свае незразумелае адзіноты, наіўнага шкадавання, што ў мяне не гэтакая прыгожая, маладая мама і, мусіць, не гэтакі прыгожы я сам, і не гэтак хораша адзеты, як сын Чаславы Карлаўны, і не маю гэтакае самае скуранoе вайсковае сумкі, як мае ён, і столькі грошай, што дае таму вусатаму салдату ў заячай шапцы, які вартуе за школаю склад,— аж тры рублі! — каб дазволіў стрэліць са свае вінтоўкі.

Дома мне мроілася школа, Часлава Карлаўна. З тамлівай радасцю я чакаў урока арыфметыкі, а калі ён прыходзіў, я сядзеў, сціпаны ў сваіх думках, з нейкай патаемнаю асцярогай углядаўся ў Чаславу Карлаўну. А яна стаяла ля дошкі, зрэдку адкідваючы з грудзей на шыю нячутна лёгкі, дымны шалік, спрытная, свабодная ў паставе. І мне думалася пра нязнаны празрысты свет, пра вялікі горад, куды я паеду, як вырасту, у той горад, дзе ўсе прыгожыя людзі, дзе ўсе хораша адзяюцца, смачна ядуць — булку з маслам — як Кіра Фахрушава, што прыехала ў нашую школу недзе з Масквы. Вярнуся сюды хораша адзеты і нават з залатым зубам, як дырэктар школы, і мне падасць руку Часлава Карлаўна, як падае яна дырэктару школы, і хораша засмяецца, як смяецца з ім, злёгку закідваючы назад галаву.

— Слухай, што я тлумачу,— сказала аднойчы Часлава Карлаўна,— і глядзі на дошку.

Я адчуў, як у мяне загарэліся шчокі. Мне здалося, што пра мае думкі ведае Часлава Карлаўна і ўсе вучні.

Зазваніў званок. Званіў наш маўклівы вартаўнік, што заўсёды хадзіў, адкапыліўшы ніжнюю цяжкую губу, і зняпацку біў нас памялом. Мы ўцякалі і толькі тады нарэшце прыгадвалі, што гэта за ўчарашняе выбітае акно.

Часлава Карлаўна ўзяла пад паху журнал і пайшла з класа: у вушах яе павольна калыхаліся цяжкія завушніцы. За ёю наперабой пацягнуліся дзеці.

На вялікім перапынку мы бегалі на таўкучку: яна была праз дзве вуліцы ад нашае школы. Там смачна пахлі смажаныя семячкі, якія прадавалі па дзве шклянкі на рубель, і нехта вялікі ў дзіравым паліто, з якога лезлі касмылі бруднае ваты, іграў у тры тузы. Каля яго заўсёды стаялі людзі і цэлаю плоймаю таўкліся мы. Тут, на таўкучцы, можна было даведацца і пра свой «лёс». Кожны чалавечы лёс быў у папяровым канверціку. Канверцікі ляжалі ў фанернай скрыначцы, якую трымала на каленях жанчына з цвёрдым, абветраным тварам і без аднае рукі. Пад фуфайкай у жанчыны ціха драмала, мякка заплюшчваючы вочы, марская свінка.

— Хто хоча ведаць свой лёс — адзін рубель, адзін рубель...— нямоцна крычала абветраная жанчына і гладзіла рукою рахманага звярка.

Кабеты з пустымі кашамі ў руках, з бідонамі, што віселі ўжо без накрывак за плячыма, падыходзілі да абветранае жанчыны і клалі ёй у адстаўленую кішэнь фуфайкі пампяты рубель.

Жанчына даставала з-пад фуфайкі марскую свінку і тыцкала яе вусатаю, востраю, як у крата, пыскаю ў белыя канверцікі. Свінка доўга прынюхвалася, доўга шукала чалавечы «лёс» і нарэшце цягнула яго. Кабета брала канверцік, адыходзілася, разгортвала і, шавелячы губамі, чытала. Да яе падбягалі другія і заглядвалі ў паперку.

Мне таксама хацелася ведаць пра свой лёс. Назаўтра я папрасіў

у мамы рубель — на сшыткі — і пасля ўрокаў пайшоў на таўкучку.

Абветраная кабета трымала на каленях фанерную скрыначку, але ў ёй, здаецца, яшчэ болей ляжала чалавечых лёсаў. «Які тут мой?» — падумаў я і кінуў жанчыне ў пустую кішэнь свой мокры ад поту,— бо нёс, заціснуўшы ў руцэ, аж да школы,— рубель.

Свінка, не прынюхваючыся, выцягнула самую першую і блізкую ад яе паперку. Нікуды не адыходзячыся, я разгарнуў паперку. І перад маімі вачыма нейкай незразумелай радасцю замільгалі дзіўныя словы: «І спраўдзіцца воля твая, і прыйдзе шчасце тваё...»

З памяці выплыў прыгожы твар Чаславы Карлаўны — я аж заплюшчыў вочы; твар хіснуўся, як у люстры вады, і знік. Нехта трымаў мяне за плячо. Я адкрыў вочы: перада мной стаяла Часлава Карлаўна; нехта ў вайсковай форме, немалады, хмуры, чырвоны ў твары, трымаў яе пад руку. У яго каля грудзей калыхаліся завушніцы Чаславы Карлаўны.

— Што ты тут робіш? Аддай мне гэтую паперку! — Часлава Карлаўна нахмурылася і прытупнула нагою.— І болей ніколі не хадзі сюды.

Я аддаў паперку, так і не дачытаўшы яе да канца.

Часлава Карлаўна згарнула паперку, зажмурылася і разарвала. Я пайшоў, думаючы, што там было напісана. Услед за мною вецер нёс маленькія кавалачкі — яны круціліся і падалі людзям пад ногі. Я ўспомніў дзіўныя словы: «І спраўдзіцца воля твая, і прыйдзе шчасце тваё...» — і перад вачыма зноў стаяў прыгожы твар Чаславы Карлаўны, яе цяжкія завушніцы і хмуры муж.

Я ішоў у культмаг слухаць сіні патэфон. Я слухаў яго заўсёды, ён спяваў пра цёмную ноч, пра свіст куль у гэтай ночы. Стаяць каля прылаўка і зацята сумаваць, уяўляючы недзе аднаго сябе ў гэтай страшэнна цёмнай ночы, а потым глядзець на доўгую чаргу па хлеб, што калыхалася, густа збіўшыся каля орсаўскага магазіна. Хлеб прывозілі ў чырвонай скрыні на возе. Ён цёпла і свежа пах. Чарга тады выроўнівалася, расцягвалася яшчэ далей: пачыналася таўханіна, крычалі каля дзвярэй. Я ішоў на чыгуначную станцыю: там спыняліся таварнякі, на платформах стаялі ўкрытыя брызентам «кацюшы», у доўгіх саставах везлі палонных немцаў. Прыходзіў пасажырскі цягнік: у вокны глядзелі незнаёмыя людзі, да тамбураў беглі местачковыя кабеты, несучы ў талерках вараную бульбу. На перон выходзілі пасажыры, чыталі на будынку вакзала назву станцыі і куплялі цёплую бульбу. Я глядзеў на цягнікі: яны ішлі ў далёкі свет, ля перона яшчэ доўга ўздрыгвалі і ляскалі рэйкі. Я вяртаўся дадому, думаючы пра белыя гарады, куды некалі паеду і я.

Над дарогаю калыхаўся, мроіўся ранні верасень. Лятала павуцінне, чаплялася на ўзмежках за сухі быльнік і востра блішчэла. Нізка і шумна плылі цераз дарогу зрудзелыя пад восень шпакі. У мяккай сырасці млеў позні шэры дзень. Весялела маладое жыта па ўзгорках. Шчыльна цямнелі лясы за жытам. Пры лясах у лагчыне шарэла нашая вёска, жоўклі бярозы над хатамі. І мне было дзіўна, што за сінімі лясамі не канчаецца свет, што недзе там стаяць другія вёскі, над хатамі жоўкнуць бярозы, падае лісце на стрэхі, і што недзе там, як і тут пры дарозе, жанчыны ў доўгіх спадніцах капаюць бульбу, і гэтак сама стаяць, абапёршыся на капачы, каб адышла спіна. І гэтак жа цяжка скрыпяць нагружаныя белымі мяшкамі вазы, натужваюцца коні, гэтак сама на іх цмокаюць і падпіраюць плячом воз.

Недзе ў мяне за спіною хілілася на вечар сонца і дагарала ў вокнах крайніх хат нашай вёскі, а на грудку, там, дзе было нашае поле,





дзе мама капала бульбу, мігцела шкельца. Цягнуліся, рваліся, ніклі і зноў, успыхнуўшы, туга трымцелі тонка-бліскучыя праменні.

Папалуднаваўшы дома, я ішоў на тыя грудкі памагаць маме падносіць кошыкі з бульбай і ссыпаць. Сонца ўжо не было — толькі там, за мястэчкам, дзе яно схавалася, светла чырванела неба. Выразна цямнела над мястэчкам высокая вадакачка. А пасля неба рабілася карычнева-фіялетавае. Мы з мамай сядзелі на мяшках і чакалі падводу.

— Будзе калгас, то ўсім будзе аднолькава...— казала мама, і цёмныя, патрэсканыя рукі яе ляжалі на прыполе.— А то за калодзеж — адрабляй, за каня — адрабляй...

У нашай вёсцы ўжо гаварылі пра калгасы, і кожнае суботы ціхім чорствым вечарам па вёсцы хадзіў старшыня сельсавета і разам з ім, расслабіўшы цёплыя хусткі, настаўніцы з нашае школы.

Аднойчы разам з імі ў нашую хату прыйшоў дырэктар школы і Часлава Карлаўна.

— А-а, стары знаёмы,— сказала Часлава Карлаўна, мусіць, з радасці, што ўбачыла мяне. Я сядзеў за сталом — якраз рабіў урокі.

Я засаромеўся і схаваў пад лаўку босыя ногі. Мама засаромелася таксама — пачырванела і пачала спешна прыбіраць у хаце.

— Нічога, нічога, хадзяйка...— старшыня агледзеў нашую хату, і вочы яго спыніліся недзе на сцяне, на мамінай, яшчэ дзявочай, павялічанай фатаграфіі.— Ну, дык як нашчот калгаса, хадзяйка?..

— Як усе добрыя людзі, так і я.— Мама змахнула фартухом з услона.— Во садзецеся... А я вам скажу, якая з мяне калгасніца... Няхай во багацейшыя — у іх коні ёсцека.

Настаўніца і дырэктар школы таксама разглядалі маміну фатаграфію — мама там яшчэ была прыгожая.

Часлава Карлаўна падышла да стала.

— Ты рашыў задачу? Помні — яна з двума невядомымі.— Вочы ў яе былі цёмныя і ціха мільгалі.

— Ага...

Яна абняла мяне адной рукою, і на тонкім пярсцёнку ў яе бэзавым святлом мільгануў каменьчык. Я стаіўся ад нечаканага шчасця, з памяці зноў выплылі тыя дзіўныя словы: «І спраўдзіцца воля твая, і прыйдзе шчасце тваё...»

— А як з пастаўкаю? Нябось, слаба, га? — старшыня гаварыў ужо недзе з сяней.— Дык думай пра калгас, хадзяйка.

— Што я... Я ўжо ні першая, ні апошняя...— сказала мама, стоячы каля дзвярэй.

За старшынёю выйшлі настаўніцы. Дырэктар школы працягнуў з сенцаў руку. Часлава Карлаўна ўзялася за яе і асцярожна ступіла за парог. У сенцах, мусіць, на нешта спатыкнулася — залілася смехам. Зарагатаў дырэктар школы, і яны доўга чамусьці шукалі клямку.

У той вечар маме не спалася: яна гаварыла пра вайну, пра калгасы, а я драмаў пад гэтую гаворку, успамінаючы цёмныя вочы Чаславы Карлаўны, яе прыгожы твар і тонкі пярсцёнак з бэзавым каменьчыкам. І ноччу яе сніў. Мы хадзілі з ёю за рэчку ў карычнева-сіняваты голы алешнік, што пах ветрам і сырым холадам шэрае восені, зграбаць лісце. Набіралі яго поўныя дзяружкі і неслі дадому на подсціл каровe,— як неслі з мамай, па гнуткай кладцы, праз чужыя падворкі,— і з дзяружкі ў Чаславы Карлаўны ўсё падала мне пад ногі зрудзелае альховае лісце. Я ішоў па гэтым лісці — мне было хораша і мякка пад нагамі.

Назаўтра мне ўспамінаўся гэты сон. А Часлава Карлаўна ўвайшла



ў клас па-новаму прыгожая, іншая, чым у той вечар,— у шэрай куртачцы з пазалочаным замочкам, у просценькай спадніцы, у гумавых бліскучых ботах, завязаўшы пад бараду выцвілую празрыстую касынку,— выдавала зусім маладою, жваваю, як дзесяцікласніца.

— Дзеці, мы паедзем у лес,— сказала яна, і на шчоках у яе задрыжэлі ямачкі.

Клас зашумеў, затупаў ад радасці нагамі.

— Мы будзем загатаўляць дровы.

На школьным двары, выстраіўшыся, ужо стаялі старшакласнікі — падпяразаныя, з піламі, з сякерамі ў руках. Сякеры блішчэлі халодным і вострым лязом. Наш клас прыстроіўся самы апошні. Мы пайшлі на вакзал. Дзесяцікласнікі не ў лад, збіваючыся, зацягнулі песню.

Да нас падбегла Часлава Карлаўна і ўзмахнула белымі рукамі:

— Ну, памагайце і вы!

Але песня ў нас не выходзіла. Мы заспявалі толькі ў вагоне. Часлава Карлаўна адчыніла акно — у вагон хлынуў тугі вецер і закруціўся разам з салодкім паравозным дымам. Часлава Карлаўна нямоцна зажмурылася, мусіць, радасна прыслухоўваючыся, як па твары чутна плыў і плыў вецер, як лёгка трапяталася над брывом, над вокам празрыстая пасма валасоў. Я ўсё глядзеў і глядзеў на яе.

З лесу варочаліся толькі мы — пяцікласнікі, старшыя класы засталіся начаваць. Усе пахлі дымам, смалою — мы сцягвалі і палілі галлё. Рукі ў мяне млява шчымелі і нылі. Каля мяне ў вагоне сядзела Часлава Карлаўна і таксама прыемна пахла сырым дымам, так, як пахла мая мама, калі паліла ў печы зялёным сасновым галлём.

Асалавелыя, маўклівыя, мы яшчэ цягнуліся з вакзала ў школу — па свае сумкі.

— А заўтра пойдзем яшчэ? — хітра пытала ўжо ў класе Часлава Карлаўна, і на шчоках у яе весела дрыжэлі ямачкі.

— Пойдзем,— як заўсёды, за ўсіх нас крыкнуў з апошняй парты Капейка.

— Толькі не забывайцеся пра арыфметыку. Ці ж усе рашылі задачу?

— Усе-е-э...

— А можа, хто хоча рашыць яшчэ адну? Я дам свой задачнік.

Усе маўчалі, бо ва ўсіх былі свае задачнікі, толькі я перапісваў умовы задач у Кіры Фахрушавай. Часлава Карлаўна падышла да мае парты.

— На табе, Мечык.

Яна паклала задачнік на маю парту — я пачуў, як ён лёгка запах светлымі духамі.

Потым ён гэтак сама пах у нашай хаце — і, мне здавалася, у хаце зрабілася хораша, як бывае хораша перад вялікаднем, калі ў нас пахлі свежыя яловыя лапкі, пазатыканыя пад бэльку, і сыры жоўты пясок, якім мама пасыпала гліняны ток. Цэлы вечар я рашаў задачы, а мама ўпраўлялася з вячэраю — у печы патрэсквалі і стралялі на хату чырвонымі вугольчыкамі дровы.

— Будзе госць,— гаварыла мама і, не баючыся, брала пальцамі яшчэ неастылы, што пераліваўся чырвона-сіняватым адлівам, вугольчык і кідала назад у печ.

І мне думалася, што гэтым госцем у нашай хаце будзе зноў Часлава Карлаўна, думалася пра тое, як мы заўтра зноў будзем ехаць у лес, будзе калыхацца жоўты вагон і будзе насупраць мяне сядзець Часлава Карлаўна, а я буду глядзець на яе прыгожы твар, на завушніцы, якія будуць лавіць сонца, што будзе коса свяціць у наш вагон.

Але назаўтра раніцаю рэдка і буйна пасыпаўся дождж, і ў школу ўсе прыйшлі мокрыя, невясёлыя, што ніхто нікуды не паедзе. І пасля званка чакалі Чеславу Карлаўну,— меўся быць яе першы ўрок,— прыслухоўваючыся, як у вадасцёкавай трубе холадна, аж шэрхне скура, шуміць дажджавая вада і нудна крычыць на школьным двары мокрая варона.

У клас, прыпазніўшыся, увайшоў фізрук, паныла сказаў, што будзе ваенная падрыхтоўка, і паслаў Капейку па тую самую вінтоўку, у якой мы ўжо каторы дзень разбіралі затвор. Толькі перад апошнім урокам, перапалоханая, здзічэлая, Кіра Фахрушава прынесла ў клас нечаканую навіну: сёння ноччу ў лесе параніўся і, можа, памрэ сын Чаславы Карлаўны — ён укінуў у агонь снарад. Кіра сціснула каля грудзей худыя кулачкі і заплакала першая, за ёю мокра зашморгалі насамі ўсе дзяўчаткі. Хлопцы панура маўчалі. Мне чамусьці было шкада не сына Чаславы Карлаўны, а яе самую. У мяне ў нейкай дзіўнай асалодзе закружыліся, замільгалі нечаканыя думкі: некалі Чеслава Карлаўна забудзецца, што ў яе быў сын, а я прыйду і скажу, што хачу быць у яе за сына. І яна спярша заплача, а потым засмяецца, абдыме, пацалуе мяне, павядзе дадому. І я стану жыць у хаце з белымі фіранкамі, з цёплай, пафарбаванай падлогай, з мяккімі ходнікамі — у такой самай хаце, у якую я заходзіў аднойчы з мамаю, яшчэ пры немцах, калі мы насілі прадаваць у мястэчка малако. І мяне будзе наведваць мама. А Чеслава Карлаўна будзе нячутна хадзіць па ходніках у блакітным доўгім халаце з бліскучымі кветкамі, і з-пад халата будуць відны чырвоныя пантофлі з пушыстым белым кутасікам, як у той пані, якой мы прадавалі малако.

На другі дзень у нашым класе замест арыфметыкі была зноў вайсковая падрыхтоўка. Была яна і на трэці... Міналі дні — ужо ў нашай школе ўставілі падвойныя рамы, ужо мы з мамаю на агародзе высеклі капусту, заклалі кастрыцаю падваконне, ужо раніцаю скрозь на стрэхах шарэў марозік, шэрхла і цвярдзела зямля на дарогах — усе чакалі зімы, і да нас прыйшла выкладаць арыфметыку хімічка з сёмага класа — Чаславы Карлаўны не было.

Ужо аднойчы за акном марудна сыпаўся густы снег — у класе стала цёмна. Мы ўсе прыўставалі і глядзелі ў акно і не маглі дачакацца перапынку. І беглі ўсе на двор, дзе ляжаў снег і крохка хрумсцеў пад нагамі, дзе ўжо мільгалі снежкі і цяжка гупалі ў дашчаны ганак, пакуль нехта не рассадзіў акно, пакуль не выбег той самы пануры вартаўнік, перавярнуўшы ў руках памяло. А Чеслава Карлаўна ўсё не прыходзіла ў школу.

Я стаў адчуваць адзіноту, сумную шэрасць апошніх дзён восені і нейкую невыразную тугу, што Чеслава Карлаўна не прыйдзе ніколі, хоць хімічка казала, што Чеслава Карлаўна хутка выздаравее, што з бальніцы ўжо выйшаў яе сын — але мне, невядома чаму, не верылася, і я думаў, што Чеслава Карлаўна не будзе ведаць, што я яе любіў і што яна для мяне была самаю прыгожаю на свеце. А можа і добра, што яна не дазнаецца пра гэта і ёй не будзе сорамна, як бывае мне, калі я думаю пра яе і ад сораму заплюшчваю вочы. Але мне хораша ад гэтых думак, асабліва раніцай, калі я адкрываю вочы і раптам успамінаю яе — і гляджу ў яснае акно, бачу новы дзень, уяўляю блізкасць зімы, празрыстага марозу, зыркага, пякучага снегу, сініх ценяў на снезе і зноў яе — Чеславу Карлаўну.

У школу Чеслава Карлаўна прыйшла на трэцім тыдні: ужо была зіма, за акном сцішна і роўна калыхаліся сосны, ахапкамі з галля сыпаўся пухкі снег, церушыўся на ветры, калюча мігцелі на сонцы драбнюткія сняжынкі, бязважка плылі ў нашыя вокны і прыставалі да шкла. А Чеслава Карлаўна глядзела недзе туды, за вокны, на сінявата-ясны дзень, на косае, разарванае на лапікі сонца, што калыхалася на сцяне ля дошкі, і раптам сціхала і пачынала зноў гаварыць нямоцным, ціхім голасам, бо ёй, мусіць, было цяжка.



На трэцім тыдні прыйшоў у школу яе сын. З забінтаванаю, падвязанаю левую рукою, ён хадзіў па калідоры, вочы ў яго раз'ятрана блішчэлі, за ім цугам цягнуліся дзеці, а поруч з ім хадзіў Капейка, ліслівa яму ўсміхаўся і адпіхаў дзяцей. Я патаемна ўсё цікаваў за ім, за сынам Чаславы Карлаўны, і, невядома чаму, сцераніўся яго.

А раз я стаяў на ганку. Была раніца, было адліжна: са страхі мякка капала ў рыхлы снег празрыстая вада, на страсе недзе на коміне валтузіліся і крычалі галкі, біліся дзеці ў мокрыя снежкі, знарок прытворна, як дарослыя, пішчалі дзяўчаткі і, засланяючы твар локцямі, уцякалі ў школу. Іх гнаў сын Чаславы Карлаўны. Расчырванелы, задыханы, ён спыніўся на ганку, сцягнуў з галавы ўсю ў снезе вушанку з бліскучаю какардаю, абабіў аб калена, набычыўся і спытаў у мяне:

— Ты чаго ўставіўся?..

Я, мусіць, зачырванеўся і пастараніўся, каб саступіць яму з дарогі, але ён падставіў падножку, я слізгануўся і, ускінуўшы рукі, расцягнуўся тут жа на парозе.

Каля нас ужо сабраліся і рагаталі дзеці. Я ўстаў, адчуваючы нейкі раптоўны глухі звон у вушах, а ў вачах у мяне, мусіць, ужо дрыжэлі слёзы.

— Стой! — сын Чаславы Карлаўны дыхнуў адкрытым ротам мне ў твар.

Я пхнуў яго ў грудзі. Ён хапіўся рукою за ашаляваны вугал ганка, хацеў яшчэ ўстояць на нагах, але аступіўся і неяк бокам, забінтаванаю падвязанаю рукою паляцеў з высокага ганка. З галавы ў яго звалілася і пакацілася аж пад капеж вайсковая вушанка з бліскучаю какардаю.

Пачуўся раптоўны крык. Я ўбачыў, як з весніцаў ужо сюды, коўзаючыся на слізкай, зледзянелай сцежцы, бегла Чеслава Карлаўна.

Ад страху, ад нечаканасці ў мяне закалацілася сэрца.

Сын Чаславы Карлаўны ўжо ўстаў і круціўся на адным месцы, шукаючы сваю шапку.

— Вось, сынок, вось...— Чеслава Карлаўна падняла шапку, рукі ў яе дрыжэлі.— Ты не пабіўся, не? Хто ж гэта цябе?

Яна стаяла белая, нейкая раптоўна збянтэжаная.

— Ён,— паказаў на мяне яе сын, не паднімаючы вачэй: яму, пэўна, было брыдка.

— Ну, хадзем... Ты не лепшы...— яна тузанула яго за руку і бокам прайшла каля мяне. Зусім блізенька, моўчкі — за ёю віўся лёгкі і светлы пах духоў.

Я стаяў, адчуваючы нейкую невядомую для сябе віну, сорам, брыдасць,— усё разам.

Празвінеў званок. І гэтак сама мы чакалі Чеславу Карлаўну — а яна ўвайшла ў клас гэтак сама прыгожа і чыста адзетая, і гэтак павольна калыхаліся яе цяжкія завушніцы, лавілі каля пляча сонца, але яго не было.

— Даруйце, Чеслава Карлаўна,— я падняўся з лаўкі, трымаючы ў руках задачнік.

Вочы яе насцярожана глянулі на мяне, здзівіліся і зусім не мігалі. Яна падалася да мяне.

— Ну, добра, Мечык,— збянтэжылася і залілася чырванню.

— Вось ваш задачнік. Дзякуй...— я апусціў вочы.

— Дзіўны ты...— у голасе была спагада і нейкая далёкасць.

«Няўжо вы не ведаеце, што я люблю вас. І сына вашага буду любіць. Усё, што вы хочаце»,— але я маўчаў.

Яна ўзяла задачнік — на пальцы ў яе ясна мільгануў тонкі пярсцёнак.

Я сеў, і на мяне раптам нахлынула цяжкая крыўда, што яна ніколі не будзе ведаць пра гэта, і пэўна і не хоча — у яе ёсць свой клопат, сын, той хмуры муж, сталасць, а я яшчэ зусім малы.

На другі год яе не было ў нашай школе. Крыўда мая прайшла, застаўся сум, нейкі невыразны сум, як сум перад восенню па яснай вясне, па першаму грому, празрыстаму лістку і маладой пяшчотнай траве, ціхі сум, што ў наш клас ніколі болей не прыйдзе Часлава Карлаўна. І ў мяне яшчэ доўга тлела туга па ёй. Недзе ў старэйшых класах прайшла і яна — у мяне было ўжо нешта другое, я вастрэй і больш стала думаў пра вялікія гарады.

І вось цяпер, праз дваццаць з нечым год, калі я бываю дома, дзе лячуся ўспамінам пра няблізкае і харошае даўняе і свяжэю душой, да мяне зноў чамусьці прыходзіць радасная туга па стрэчы з Чаславай Карлаўнай. Я ж бачыў далёкія гарады, нешта ў маім жыцці спраўдзілася, і я крышку задаволены гэтым. Але, пэўна, і цяпер я не сказаў бы ёй пра тое, што я любіў яе, любіў смешнай, неразважнай дзіцячай затоенасцю. Не сказаў бы. Бо мы заўсёды мала добрага гаворым другім, баючыся чужое радасці, і, мусіць, гэтак трацім сваю.



# ВЕЧНЫ ДАР МАЛАДОСЦІ

*Споўнілася 60 гадоў народнаму паэту Беларусі Петрусю Броўку. Арганізатар камсамольскай ячэйкі і яе сакратар, а пасля інструктар акруговага камітэта камсамола, Пятрусь Броўка прыйшоў у беларускую літаратуру як палымяны пясняр маладосці. Адну са сваіх першых паэм, у якой на фактычным матэрыяле з гісторыі барацьбы камсамола Беларусі ў часе белапольскай акупацыі паказана гартаванне волі і характару савецкіх людзей, паэт назваў «Так пачыналася маладосць». З таго часу ў яго творчасці нямоўчна гучаць высокія, маладыя ноты, а камсамольская нястрымнасць паэтавай душы надзяліла яго паэзію вечным дарункам маладосці.*

*Паэтычнае слова Петруся Броўкі з самых першых крокаў было моцна звязана з савецкай сацыялістычнай яваю, з палітычным жыццём краіны. Біяграфія роднай паэту Беларусі поўна адбілася ў яго лірыцы і прозе, і можна ўпэўнена сцвярджаць, што не было той значнай падзеі ў жыцці, на якую не азваўся б чулы да ўсяго новага талент паэта.*

*Першыя ж кнігі Петруся Броўкі — «Гады, як шторм» і «Цэхавыя будні» — сведчылі пра тое, што паэт не быў сузіральнікам, а настойліва імкнуўся адлюстроўваць жыццё.*

*Пафасам стварэння будаўніцтва новага свету адзначаны і ўсе наступныя творы паэта даваеннага часу — паэмы «Праз горы і стэп», «Кацярына», зборнікі «Прыход героя», «Вясна рэспублікі», «Шляхамі баравымі».*

*«У яго вершах, за нямногімі выключэннямі, адчуваецца сапраўдны паэт, у іх чуецца свежы, часамі страсны голас, навізна вобразаў, глыбокая іронія, суровая праўда і трапнасць слова»,— пісаў Якуб Колас яшчэ ў трыццатыя гады.*

*Глыбокі патрыятызм паэта, яго цесная сувязь з народам асабліва яскрава раскрыліся ў грозныя гады Вялікай Айчыннай вайны. Яго вершы і паэмы ваеннага часу — «Надзя-Надзейка», «Рана», «Партызан Бумажкоў», «Беларусь», «Паэма пра Смалячкова», «Кастусь Каліноўскі» — гэта паэзія, якой суджана доўгае жыццё.*

*Яшчэ не закончылася вайна, а Пятрусь Броўка адзін з першых у беларускай літаратуры загаварыў аб мірнай працы савецкіх людзей. Гэтай тэме прысвечаны паэмы «Ясны кут», «Хлеб» і пазнейшыя — «Чырвон-Гарадок» і «Родныя берагі».*

*Шчодрасцю пачуцця, аптымізмам, багаццем светлых фарбаў, радасцю мірнай творчай працы прасякнута лірыка паэта пасляваенных*

*год. Шырока вядомы нашаму чытачу зборнікі вершаў паэта: «Сонечнымі днямі», «Цвёрдымі крокамі», «Пахне чабор», «А дні ідуць», «Высокія хвалі», раман «Калі зліваюцца рэкі».*

*У выніку паездак за мяжу П. Броўка напісаў зборнік вершаў «Далёка ад дому», які сведчыць аб вострай публіцыстычнасці таленту паэта.*

*Многія вершы і паэмы Петруся Броўкі прысвечаны барацьбе за мір. Адным з лепшых твораў паэта на гэтую тэму з'яўляецца паэма «Голас сэрца», якая натхняе людзей на барацьбу супраць вайны.*

*Сталасць прынесла паэту небывалы творчы ўздым. На старонках газет, часопісаў, на прылаўках кнігарняў чытач часта знаходзіць новыя вершы нястомнага паэта і чэрпае ў іх рэвалюцыйны пафас, камуністычную ідэйнасць, глыбокую веру ў камунізм. Убіраючы ў сябе вялікі жыццёвы вопыт паэта, жывячыся сокамі мастацкай творчасці народа, паэтычнае слова Петруся Броўкі з гадамі становіцца ўсё больш яркім, аб'ёмным, дасканалым, і лепшы доказ гэтаму — прысуджэнне паэту за зборнік «А дні ідуць» Ленінскай прэміі за 1962 год.*

*Чытачы «Маладосці» сардэчна віншуюць народнага паэта з яго шасцідзесяцігоддзем і шчыра жадаюць яму вольнага арлінага лёту ў высокім небе паэзіі.*

**Пятрусь БРОЎКА**

# Красаванне



**сць прыгажосць у ранку праменным,**
**ёсць і ў змярканні,**
**Толькі нічога не знаю прыгожай,**
**як час красавання.**

**Як разліюцца белыя вішні,**
**а слівы, а бэры,**



**А буйныя ружы, а мак легкакрылы,**
**а сціплы той верас.**

**А гляньце, як тварам сваім ганарыцца**
**сланечнік высокі...**
**Чакайце, прыгледзьцеся, вось-вось успыхнуць**
**дзявочыя шчокі.**

**Глядзіце, вакол нас бушуе і пеніць**
**ад краю да краю,**
**Мільёны гадоў для планеты юнацтва —**
**зямля маладая!**

**І мы маладыя, і думак узлёты,**
**і радасць кахання,**
**Нічога, нічога найлепшага ў свеце,**
**як час красавання!**

# Струны



**іба на скрыпцы толькі струны,**
**Хіба ўсе тыя, што відны?**
**Ах, колькі струн ёсць незлічоных,**
**Ды ўсе нябачныя яны.**

**Але ў грудзях у чалавечых**
**Прытулак кожная знайшла.**
**Ёсць струны радасці і смутку,**
**Чарнейшай ночы і святла.**

**І ёсць жа ёсць, яна такая,**
**Занадта тонкая струна,**
**Што чуе, як пяе травінка,**
**Што чуе, як пяе сасна.**

**І вельмі чулая да вёсен,**
**Калі салоўка запяе,**
**Яна хвалюецца бясконца,**
**Да рання спаць нам не дае.**

**А найглыбейшая, што ў сэрцы,**
**Яна ў маленькага маўчыць,**
**Як закранулася ў юнацтве**
**Ажно да гэтых дзён звініць.**



Мікола АЎСЕЕНКА

●

Мастак
Віктар ШРАМЯКОЎ

●

# Маленькія апавяданні

## СОН

Кацярына не магла заснуць. На сэрцы ў яе было трывожна. Ужо другі тыдзень гарэлі па Забяседдзі вёскі. Лютавалі карнікі.

У іхнюю вёску вестка аб карніках прыйшла ў першы ж дзень. Усе жыхары падаліся ў лес, але скора холад выжыў іх адтуль, і яны вымушаны былі вярнуцца ў свае хаты, спадзеючыся, што немцы не прыйдуць сюды. З усіх бакоў вёску абступаў густы сасновы бор. Цяпер ён глуха шумеў, і ад гэтага на сэрцы рабілася яшчэ трывожней.

Кацярыне здалося, быццам нехта крадзецца да хаты. Затаіўшы дыханне, яна чакала. Потым ёй пачулася, быццам рыпяць палазы. Ціха адчыніўшы дзверы, яна выйшла з хаты, прыслухалася. Вёска спала. Нізкія, пад саламянымі стрэхамі хаты, здаваліся, пужліва туліліся да зямлі. І нідзе ні гуку. Толькі лес шуміць таямніча і грозна.

У хаце заплакала дачка. Кацярына вярнулася з двара, узяла малую на рукі і пачала карміць. Прыемная цеплыня разлілася па грудзях, калі прыпала да іх дзіця. Кацярына супакоілася. Яна паклала малую ў калыску, прылегла на ложак і не заўважыла сама, як заснула.







...У вокны свяціла зарава. А Кацярына бачыла сон. Быццам яна ў полі. Жне жыта. Поле залівае яркае сонца. Вось яна разгінаецца і — бачыць Алёшку. Ён ідзе да яе па жыце. Відны яго плечы і галава. Толькі ён чамусьці не ў вайсковай форме, а ў белай з вышыванай манішкаю сарочцы. Чорныя валасы акуратна прычасаны. Алёшка радасны, усміхаецца. Такі ён быў у дзень іхняга вяселля. Кацярына хоча бегчы да яго, але ногі не слухаюцца, яны анямелі, зрабіліся чужымі. Яна працягвае наперад рукі, і ў тую ж хвіліну ўзнімаецца віхор. Ён гоніць па полі клубы пылу, смецця, і вось яна ўжо не бачыць Алёшку. Шум, крыкі хлынулі аднекуль. Кацярына рванулася наперад і... прачнулася.

Трапяткое святло залівала хату. З вуліцы даносіліся галасы, стрэлы. Кацярына падхапілася з пасцелі, падбегла да акна. І зжахнулася: гарэла вёска... У водблісках агню на вуліцы відаць былі людзі. Вакол іх мітусіліся постаці ў шынялях і дзюбатых шапках. Карнікі выпраўлялі людзей да гумна, што стаяла на ўскраі вёскі. Плакалі дзеці, галасілі жанчыны. Нехта з мужчынірвануўся да постаці ў шынялі. Аўтаматная чарга, і ён ткнуўся тварам у снег, заціх...

У Кацярыны млелі рукі, ногі. Прыгадаўся сон, Алёшка. Стала да болю шкада дачкі. Кацярына падскочыла да калыскі, схапіла малую на рукі і замітусілася па хаце. Ратавацца! Бегчы! Яна надзела басанож валёнкі, ускінула на плечы кажух. Але доўга не магла знайсці хустку. Так з голай галавой і выбегла на вуліцу.

Да хаты ўжо спяшалі карнікі. Кацярына, правальваючыся ў снег, пабегла да лесу. Яна мінала ўжо агароды, калі ззаду дагналі зычныя галасы, потым затрашчала аўтаматная чарга...

Нешта вострае праткнула ёй грудзі. Кацярына ўпала, і адразу зніклі і лес, і водбліскі пажару. Больш яна не чула ні стрэлаў, ні таго, як плакала яшчэ на снезе дзіця, ні таго, як яно перастала плакаць...

## НЕ ПРЫЙШЛА

Ён ляжаў ніцма ў няскошанай грэчцы. Малады. Рослы. Куля прашыла яму галаву. Яго не пахавалі разам з іншымі забітымі салдатамі. Відаць, не знайшлі, не заўважылі. Мы, хлапчукі, наткнуліся на яго на другі дзень, калі вярнуліся з лесу, у якім пераседжвалі фронт, і кінуліся на поле збіраць патроны.



Пры ім знайшлі дакументы. Нехта з вяскоўцаў прапанаваў адаслаць іх па адрасу, што быў пазначаны на канверце.

І вось у вёску прыйшла прыгожая маладая жанчына і папрасіла, каб ёй паказалі магілку таго салдата. Я павёў яе пад лес, дзе ў нас былі могілкі. Жанчына заўважыла свежы пагорачак і моўчкі паглядзела на мяне. Я кіўнуў ёй галавой: гэта. Яна ўпала і доўга плакала. Я і цяпер нібыта чую яе адчайнае, безнадзейнае галашэнне.

Жанчына была недалёка аднекуль. Бо кожнае вясны пасля прыходзіла якраз у той дзень, калі ў нас збіраліся на могілкі сваякі памёршых. Як і ўсе, жанчына папраўляла магілу, абкладвала зялёным мурагом, высаджвала кветкі. Зрабіўшы ўсё, садзілася, доўга глядзела на яе і тужліва думала пра нешта.

Потым яе клікалі да «стала».

Тут жа на могілках на траве рассцілаліся абрусы, і ў памяць памёршых наладжваўся абед. Дзядзькі суцяшалі ўдаву, казалі ёй, каб надта ўжо не гаравала. Такой маладой ды прыгожай знойдзецца яшчэ добры чалавек...

Аднойчы вясной у нас зноў сабраліся на могілках людзі. Пазасцілалі магілы абрусамі, панавешвалі на крыжы ручнікі... З хвіліны на хвіліну ўсе чакалі, што вось з'явіцца яна. Перад абедам ужо маці мая схадзіла дамоў, прынесла чысты абрус, накрыла ім магілу салдата і, як па родным, паплакала.

А жанчына больш не прыйшла ні ў той раз, ні ў наступную вясну...

# КРЫЎДА

Іх было двое ў бацькоў — Пеця і Вася. Васю пайшоў шосты гадок. А Пеця толькі яшчэ навучыўся тупаць. Прыгожы такі пухнацік. Маці не спускае Пецю з рук, пяшчотна яго цалуе і ў вялікай любасці прыгаворвае:



— Ой, з'ела б я цябе, салодзенькі, харошы мой!

І бацька таксама, як толькі прыходзіць з работы, дык адразу бярэ на рукі Пецю. Падкідвае аж пад столь, забаўляецца.

А на Васю бацька і маці быццам забыліся. І ў яго маленькім сэрцы пачынае варушыцца крыўда.

За крыўдаю прыходзіць рашэнне...

Аднойчы, калі маці не было дома, Вася павёў Пецю ў лес. «Хай,— думаў ён пра меншага брацíка,— ваўкі яго з'ядуць».

Да лесу — рукой падаць. І скора Вася прывёў Пецю на невялічкую палянку.

Хораша ў лесе. Пеця бачыць на ўскраі палянкі высокія дрэвы, між іх укапаныя ў зямлю «табурэтачкі» і многа-многа кветак.

Пеця пацягнуўся ручкамі да кветак, а Вася, усцешаны, павярнуўся і пайшоў дадому адзін. Цяпер ужо тата і мама будуць шкадаваць яго...

Але не выйшаў ён яшчэ і на дарогу, як у лесе пачуўся плач. Вася спыніўся. За ельнікам, што рос паўз дарогу, ён заўважыў Пецю. Валюхаючыся з боку на бок, той тупаў услед за ім. Вось ён спатыкнуўся аб корань, распластаўся на жываце і яшчэ мацней заплакаў. Вася пабег да яго. Яму ўжо не хацелася ісці дамоў аднаму. Нейкае новае пачуццё — не то страх перад маці, не то жаласць да Пеці — працяла яго маленькае сэрца. Ён падняў з зямлі Пецю, але той так расплакаўся, што ўжо і ісці не хацеў. Тады Вася абхапіў яго аберуч і панёс перад сабою. Ужо на дарозе, стомлены, Вася апусціўся з Пецем на зямлю і заплакаў сам.

Тут, абодвух заплаканых, і знайшла іх маці. Яна падхапіла на рукі Пецю і накінулася на Васю:

— Гэта ты яго сюды завёў! Навошта?

Вася, які ўжо трохі супакоіўся, раптам расплакаўся зноў, ды так горка:

— А што ж ты ўсё Пеця ды Пеця...

Нейкі момант маці здзіўлена глядзела на яго, потым падхапіла на другую руку і па чарзе пачала цалаваць сыноў.

— Ах вы, крыўдзюлькі мае харошыя!

Дома маці шаптала нешта на вуха бацьку, і яны весела, шчасліва смяяліся.

І больш не «забываліся» пра Васю...





*Дзмітрыю КАВАЛЁВУ*

*пяцьдзесят гадоў*



*Вядомы рускі паэт Дзмітры Кавалёў нарадзіўся 17 чэрвеня 1915 года ў Ветцы, на Гомельшчыне. Скончыў вячэрні рабфак у Гомелі, працаваў у калгасе, у суднарамонтных майстэрнях, настаўнічаў.*

*У гады Вялікай Айчыннай вайны быў стралком марской пяхоты. Пасля вайны працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх выданняў Беларусі, у выдавецтве «Молодая гвардия» (Масква).*

*Дзмітры Кавалёў аўтар паэтычных зборнікаў «Далёкие берега», «Стихи», «Мы не расстаёмся», «Рябиновые ночи», «Тишина», «Тихая молния», «Солнечная ночь», «Солдатские думы», «Молчание гроз» і іншых. Ён вядомы і як перакладчык на рускую мову твораў беларускай літаратуры.*

*Чытачы «Маладосці» віншуюць паэта з пяцідзесяцігоддзем, жадаюць яму добрага здароўя і новых творчых поспехаў.*

**Дзмітры КАВАЛЁЎ**





ут забываюся,
Усё забываю.
Самім сабой
з табой бываю я.
Твой хлеб
вадой тваёю запіваю.
Хінецца да цябе
ступня мая.
Змярканне
тут заўважыць немагчыма,
як і світанне,
калі б не цяпло
вады ў рацэ



і шоўк травы ў лагчыне,
вільготнасць лесу
і палёў святло.
Мысок за поймай
ад цвіцення сіні,
пясок ля сосен
жоўты, бы ў агні.
Напэўна, касманаўт еў апельсіны:
раскідана лупінне ў вышыні —
і ад яго на завадзі вішнёвай
суцэльная палае рабізна,
як свечкі алыя.
І серп маладзіковы
падобны ў асацэ
на бацяна.
Стаіць, высокі,
і, відаць, аскому
набіў вясновай зеленню квакух...
Усміхаешся ты бачанню такому,
праявай гэта называеш, друг.

# Не герой



ярод рабочых —
розныя ў сталіцы.
Ды гэты
век не стане ў грудзі біць.
— Ну, група трэцяя.
— Жанаты на ўдавіцы.
— Даруйце,
ў ссылцы не прыйшлося быць.

Не надта жвавы з выгляду мужчына.
Звычайны рост і шырыня плячэй.
Як з сонца промні,
зморшчынкі — з вачэй...
І ён смяецца кожнаю маршчынай.

Хто скажа:
што жыццё яго прыгрэла
траіх сірот —
не кволыя ж яны.
Што партызан уцёк быў з-пад расстрэлу
і выратаваў сябра ў дні вайны.

І вось —
у многіх доля ўжо такая —
нямала год уладара свайго
былая слава па зямлі шукае:

не ўзнагароду — ён,—
яна — яго...

Не ў гэтым крыўда.
І яго адзначаць.
Бо ён людзьмі ўсё ж вырасціў траіх...
Ды больш
герояў у ахвярах бачаць.
І ў кніжках пішуць
больш усё пра іх.





е так сабе ўсё ў даль глядзім мы:
зіма на доўгім бальшаку.
Асфальт
чарнее сінню льдзіны.
Яліна
ў снежным башлыку.
Сасна
з парошай на вушанцы.
На камені,
як сып, мароз.
Снег —
як варкоцік на ляжанцы,
дзе цёплы мел сухіх бяроз...
Башлык той і вушанка
ў памяці
з агнём марозных сінякоў...
Ды
цеплыня пячная ў замеці,
расталасць —
у цішы снягоў.
Баец зноў ураджай прыгадвае
і мірнасць радасці людской.
Вясна трывожыць нас і радуе.
Спакою не дае спакой.
Не церпіцца цярпенню ўвесну.
Жаданні бурныя ў цішы.
І ў галаве — не толькі песні:
жыві —
агнём агонь тушы!
Дзе касцякі сумётаў сотамі,
дзе пырскі фараў, як раі,—
вясна жыве сваімі водамі,
і сонца ў іх — ў яе крыві.
Пад Серпухавам і пад Рузаю,
дзе хмурны дзень зіхціць ад рос,
яе душа сапраўды руская
выглядвае ўжо з-за бяроз.

Пераклаў з рускай мовы
Мікола АЎРАМЧЫК.







Яўген ЛУКАШЭВІЧ





е першы раз
Праводзіш у дарогу,
У чамадан кладзеш
Вандроўны скарб,
А разам з ім —
Жаночую трывогу
Без крыўдных слоў,
Без роспачы і скарг.

Як першы золак
Зазірне у вокны,
Мяне разбудзіць
Грукат цягнікоў.
А хлопцы мараць
Пра дзяўчат глыбоцкіх,
Пра полацкіх
Нафтавікоў.

Кладу руку сяброўскую
На плечы.
Напэўна, гэтак
Аж да скону дзён

Мы будзем вечна марыць
Пра сустрэчы
І ўсё чакаць —
Ці прыйдзе паштальён.

# Вясновыя прыкметы



ясновы водар б'е у твар,
Запахла сонцам і пшаніцай.
Іграе ў зелені абшар,
Пайшла за Свіслач навальніца.

Зямля, абмытая дажджом,
Як бохан хлеба наздраваты.
Дастань вясёлку над сялом
І паднясі — не скрыўдзіш свата.

Прыкметы добрыя у нас,
Багатым будзе ў вёсцы лета
На хлеб, вяселлі, хмельны квас
І на касмічныя ракеты.





ясновыя навальніцы
І першы гром
Адамкнулі зямлі таямніцы
І сагрэлі палеткі цяплом.
Пастухі, як знарок, на світанні
Прачынаюцца не ў пару.
Іх даўно праляцела каханне
Між чаромхавых завірух.
А матуля дачку-непаседу
Не разбудзіць ніяк.
Не бяда, што пара ужо снедаць,
Хай дзяўчыне прысніцца юнак.
Вы, матулі, не будзьце у злосці:
Вінавата ва ўсім тут вясна.
Хіба ж вы ў маладосці
Не гулялі аж да відна?



Генадзь ЛАНЕЎСКІ

●

Мастак
Васіль ШАРАНГОВІЧ

●




## ГАРА ЛЫСАЯ

Паплавок павяло да вялікага ліста, і ён раптам знік пад вадой. Падсякаю. Гнецца вудаўё. Дзед Рыгор ускоквае, хапае сачок, выкідвае шчупака ў човен і бурчыць нешта сабе пад нос.

Каб неяк супакоіць старога, пытаюся, што прыходзіць у галаву:

— Ці не ведаеце вы, дзеду, чаму гэтак называецца наша возера?

Рыгор Гаўрылавіч лагаднее. Ён вялікі мастак расказваць незвычайныя гісторыі. Шмат бачыў і ведае. Яшчэ пры цары служыў у войску, удзельнічаў у войнах, баявыя крыжы атрымаў. Калісьці быў адзіным чалавекам у вёсцы, які ўмеў чытаць і пісаць. Некаторы час нават настаўнічаў.

— Назва возера Вулька-Целяханскае,— кажа ён,— пайшла ад Целяхан, а Целяханы ад слоў «цела хана». Вось адкуль...

Я гляджу на яго са здзіўленнем.

— А было гэта так,— і плюе на чарвяка, як плююць толькі рыбаловы.— Здаўна ў нашай мясцовасці раслі стройныя бары. Сосны вунь пад самыя хмары, у тры абхваты... Ну і людзі здаравейшыя тады жылі. Лясы спальвалі, ляды карчавалі, папялішчы сукаватымі калодамі баранавалі, жыта сеялі. А з балотнай руды жалеза выплаўлялі. Тут недалёка ёсць вёска Рудня, дык там шмат домніц было. Бортнічалі таксама — збіралі мёд дзікіх пчол. Умелі рабіць гарлачы гліняныя, каменныя жорны, драўляныя ступы і зброю розную. Нядаўна тут старажытную баявую сякеру знайшлі. Вельмі насечка прыгожая...

Рыба з'ела нажыву. Дзед пасмейваецца:

— Памінай як звалі!..

Начапляю чарвяка. Закідваю. Разыходзяцца кругі. Адразу клюнула. Выцягваем разам. У праменнях сонца ляшчы пераліваюцца вясёлкамі. Дзедаў лешч

значна больш. Закідваем зноў. Чакаем. Маўчым. Не клюе. Рыгор Гаўрылавіч кажа:

— Пінск тады быў стольны горад. Там князь сядзеў з дружынаю. Збіраў даніну, суды чыніў, вёў войны з князямі.

Недалёка ад нас на ваду садзіцца чародка дзікіх качак. Дзед углядаецца на іх з-пад рукі. Чародка плыве да чаўна, і мне здаецца, што птушкі нібы адчуваюць дзедаву да іх спагаду. Асабліва прыгожая першая качка з высокай шэрай шыяй.

— У князя дачка была прыгожая,— кажа дзед.— Алесяй звалася. Ногі стройныя, стан тонкі, валасы светлыя, бы кужаль чэсаны, а вочы гарэць, як у дзікай рысі.

Нечым устрывожаныя, качкі ўзнімаюцца.

— Распуджалі птушак, каб іх нялёгкая...— гаворыць Рыгор Гаўрылавіч.

Як бы ў адказ на яго словы, на балоце за возерам раздаўся стрэл. Вочы дзеда робяцца сумныя, сам ён хмурнее.

— У адно лета пад сцены Пінска падскакаў атрад невядомых воінаў. Піну яны пераплылі на мяхах скураных, учапіўшыся за хвасты коней. Пратрубілі ў рог і знакамі паказалі варце, каб пусцілі іх у горад. Назваліся яны пасланцамі вялікага хана.

Па звычаях таго часу, іх, як паслоў-гасцей, хацелі завесці ў лазню княжыцкую, пасля пасадзіць на покут, але яны адмовіліся. Сказалі, што мыцца ў іх няма звычаю, а ісці ў пакоі баяцца.

Былі тыя воіны чорныя ад сонца і вятроў. Кожны ўзброены сякерай, крывым мячом, арканам-вяроўкай з конскага воласу і двума лукамі. Апрануты ў скуры поўсцю наверх. Патрабавалі яны, каб жыхары Пінска скарыліся перад ханам, які ідзе заваёўваць іх землі. Дружыннікі княжацкія пачалі рагатаць ды і выгналі тых воінаў з горада.

Вецер шамаціць у чароце і гойдае човен. Пераязджаем у затоку — аблюбаванае дзедам месца. Рыба не клюе і тут.

— Самая надзейная нажыва для рыбы — цярплівасць,— заўважае дзед, зручней уладкоўваецца на чаўне і гаворыць далей.— Тыдні праз два княжацкія разведчыкі прывялі з лагера чужынцаў раба, і той расказаў, што яны прыйшлі са стэпаў, што яны не аруць, не сеюць, а вандруюць усё жыццё. Ядуць мяса, п'юць кумыс — малако кабылячае. У спёку і маразы нікуды не хаваюцца. Зімой на снезе спяць. Стаяць над імі ханы. Яны падзялілі ўсіх людзей на дзесяткі, сотні, тысячы. Калі ў часе бою хто з іх палохаецца і з дзесятка ўцякае, увесь дзесятак знішчаюць, а калі з сотні — і сотню ўсю. Хто супраць хана выступае, тым храбты ламаюць або жывымі ў катлах вараць.

Заваяваўшы горад, усё спальваюць, палонных знішчаюць. Рамеснікаў закоўваюць у ланцугі і ў няволю вядуць. Скуру з забітых здзіраюць, і калчаны для стрэл з яе робяць.

Хан вырашыў заваяваць увесь свет. Шле ён на Пінск малодшага брата з ардой.

Рыгор Гаўрылавіч змаўкае. Пасля кажа:

— Позна ўжо. Рыба не бярэцца. Паедзем да берагу.

Я не пярэчу. Праз колькі хвілін мы на беразе. Гарыць касцёр. Дзед рыхтуе рыбу для юшкі.

— Заваявалі вандроўнікі Пінск? — пытаюся.

Рыгор Гаўрылавіч маўчыць. Калі, бразгаючы лыжкамі аб вядро, даядаем смачна прыгатаваную юшку, ён раптам кажа:

— Моцна задумаўся князь, выслухаўшы разведчыкаў. Паявілася ў яго чорная думка — здаць горад без бою чужынцам і прасіць літасці. Алеся ў нагах князя валялася, прасіла ваяваць з захопнікамі, а калі пераканалася ў бацькавай здрадзе, падсыпала атруты ў мёд. Ад імя князя разаслала Алеся ганцоў — падымаць народ на вайну.

Даведаўшыся пра смерць князя, сын з войскам прыйшоў з Турава. А тым часам драпежнікі спустошылі Турава-Пінскія землі. Палалі паселішчы, кроў лілася. Жанчыны з дзецьмі і скацінай у пушчы ўцякалі, мужчыны і юнакі на бітву ішлі.

Алеся з братам сабралі вялікае войска. Сышлося тое войска з заваёўнікамі на раўніне, ля гэтага возера, недалёка вось ад таго берагу,— паказвае дзед рукой.— Развіднела, узышло сонца, ударылася арда аб княжацкае войска. Валяцца раздушаныя і пасечаныя людзі і коні, ракой кроў ліецца, вада ў возеры стала чырвонаю, віхор узняўся.

Падалося назад войска княжацкае. Тады і кінулася наперад Алеся, без мяча і панцыра, толькі з узнятым сцягам. Кінулася, і, лавай усё змятаючы, пайшла за ёю конніца!

Люты і ўпарты быў хан. Узняў каня дыбкі, у самую гушчу бітвы кінуўся. Пасыпаліся з плеч галовы, але вываліўся меч і з ханскай параненай рукі. Заціснуў ён рану рукой здаровай, галаву ўзняў, каб баявы кліч ардзе кінуць, і тут ударыла страла калёная ў ханаву шыю. З раны хлынула са свістам кроў.





Наляцелі дружыннікі, перабілі акружэнне ханскае, схапілі і павезлі ў палон хана.

Схамянулася арда і рассыпалася. Уцякаць кінуліся. Пазабівалі ўсіх тых воінаў, толькі дваіх пакінулі і адправілі да хана галоўнага. Спалохаўся галоўны хан. Склікаў нараду шаманаў і военачальнікаў, думаў, як адпомсціць за разгром арды. Доўга стаяў са сваімі ордамі, пагражаючы нашым пушчам, пасля на захад пайшоў, так і не заваяваўшы гэтыя землі.

Здабычу ў той бітве захапілі вялікую: коней, абозы, рабоў у калодкі і ланцугі закутых. Параненага хана паклалі на зямлю. Князі і военачальнікі паглядзець на яго пад'ехалі.

Убачыўшы Алесю, хан прыўзняўся і прахрыпеў:

— Калі б балоты і лясы гэтай праклятай зямлі не перашкодзілі маёй конніцы, уставіў бы гэтую кветку ў свой букет.

Пакуль талмач пераводзіў яго словы, хан дагары адкінуўся, забіўся ў сутаргах і сканаў.

Цела хана паклалі ў кібітку і ў яр ссунулі. Туды ж, да цела хана, тыдзень сцягвалі трупы палеглых воінаў. Пасля ўсіх іх зямлёй засыпалі, насыпалі курган. Час ідзе, гады за стагоддзямі мінаюць, а на кургане не расце нічога. І празвалі яго — Гарой Лысай. Вы хадзілі да гэтай гары? Ведаеце, дзе яна?

— Хадзіў,— кажу.

— А гарадок, што вырас пасля ля гары, назвалі Целяханамі. Ад слоў «Цела хана».

— Целяханы сталі вядомыя,— кажу я,— калі па загаду літоўскага гетмана князя Агінскага прыгонныя канал прарылі. Праз Выганаўскае і Вулька-Целяханскае возеры каналам злучылі рэкі Шчару з Ясельдай, а праз іх Нёман з Пры-

пяццю, прытокам Дняпра. Агінскі канал праходзіць праз Целяханы. У даўніну па ім шмат лесу сплаўлялі, ездзілі з Балтыйскага ў Чорнае мора. Хутка тут будзе збудаваны вялікі Дняпро-Нёманскі канал. Пойдуць марскія судны, а Пінск стане портам.

— Дай жа бог,— кажа Рыгор Гаўрылавіч і, пачакаўшы, дадае: — Вось і ўся гісторыя.

— Як жа ўся? А што здарылася з Алесяй?

— Яна не княжыла. У манастыр пайшла. Усё ж, бацьку атруціла. Кажуць, пазней у пінскім манастыры нейкую кніжку пісалі. У ёй бітва з вандроўнікамі апісана і як назва Целяхан пайшла, сказана. Толькі гэтая кніжка не захавалася. Як дужа каштоўная, быццам бы французамі была ўкрадзена і некуды вывезена. А магчыма і тут дзе схавана. Хто ведае?..

Маўчым, глядзім на вогнішча, што пачынае дагараць.

— Пара спаць,— кажа, пачакаўшы, Рыгор Гаўрылавіч. Падсцілае галлё, закручваецца ў плашч і кладзецца.

Ціха набягаюць хвалі, б'юцца аб карму чаўна. Касцёр дагарэў. Вуголлі гаснуць і рассыпаюцца на попел. Дзед спіць. Углядаюся ў далячынь возера, але перад вачамі паўстаюць успененыя морды коней, чорныя касматыя воіны, прыгажуня Алеся.

Вось каб знайсці тую старажытную, напісаную пінскімі манахамі кніжку!

# КНЯЗЁЎНА ПОЛАЦКАЯ

Гляджу на край пісьмовага стала, застаўленага знаходкамі, на белую руку старога прафесара. Ён у хатнім халаце, глыбока сядзіць у крэсле і расказвае мне гэтую гісторыю, час ад часу адпіваючы глыток кавы і неяк загадкава ўсміхаючыся. Калі б не гэтая ўсмешка, я гатоў бы паспрачацца, што ўсё ім расказанае — праўда.

— З групай навуковых супрацоўнікаў,— кажа прафесар,— я раскопваў Полацкае замчышча. За два тыдні не знайшлі нічога цікавага. Перад нядзеляй супрацоўнікі папрасілі выхадны. Я згадзіўся. Раніцай у нядзелю мяне зноў пацягнула да месца раскопак, на Замкавую гару. Быў усхваляваны і прыўзняты настрой, нечаму радаваўся. Прыйшоўшы на замчышча, агледзеў участкі. Увагу прыцягнуў жоўты пласт глебы. Здавалася, што гэта перапрэлая за стагоддзі цэгла. Асцярожна выбіраю глебу, і раптам — збан!

Як гэта ўмеем рабіць толькі мы, археолагі, ачышчаю знаходку. Чым больш працую, тым больш пераконваюся — вельмі старажытны збан. Аб гэтым сведчыць пласт глебы, у якім ён ляжаў, сам выгляд збана, упрыгожанага лінейным і хвалістым арнаментамі. Неўзабаве ачысціў збан зусім і тады прачытаў: «Ефрасіння Полацкая». Я выцягнуў хустачку і выцер лоб. Вы разумееце маё хваляванне? Такая ўдача ў нас, археолагаў, бывае не часта.

Збан добра захаваўся. Падсоўваю пад яго рукі, прыўзнімаю. І — во дзіва! — у ім нешта боўтаецца. Дрыжаць рукі. Каб не выпусціць збан, стаўлю на глебу. Адчыняю покрыўку. Пахне ружамі. Кружыцца галава, і я хілюся на дол.

...Чую гул вялікага звона. Прыслухаўся, устаў. Насупраць Сафія і княжацкі палац. Варта з алебардамі. На людзях нейкія дзіўныя белыя плашчы. Бачу за Дзвіной дамы. На рацэ плывуць пад ветразямі лайбы. Купцы выгружаюць з суднаў тавары. Ля Палаты атрад княжацкіх дружыннікаў вядзе закутых у калодкі і ланцугі сялян. А звон усё звініць. Людзі спяшаюцца на плошчу. Іду за імі. Да веча не даходжу. Насустрач, па вуліцы, ідзе дзяўчына. Неяк адразу пазнаю яе. Не па пышным, затканым золатам, абшытым гарнастаямі адзенні, а хутчэй па кніжках, якія трымае ў руцэ. Гэта князёўна — Ефрасіння Полацкая.

«Хто ты?» — пытаецца.

«Прафесар археолаг з Мінска»,— кажу.

Бачу яе здзіўлены позірк і дадаю: «З дваццатага стагоддзя».

І яна неяк адразу ўсё зразумела. Працягвае мне кніжку ды кажа: «Перапісваю і прадаю кніжкі гараджанам. Ці ведаюць пра гэта ў дваццатым стагоддзі?»

Трымаю ў руках лісткі пергаменту, добра ўсведамляючы, што яны з адзінаццатага стагоддзя. «Да гэтага мы не бачылі вашых кніжак, але праз вякі да нас





дайшло, што вы пісалі і прадавалі іх народу,— кажу я.— У вас былі паслядоўнікі. Сын полацкага купца — Георгі-Францішак Скарына ў XVI стагоддзі разгортвае далей вашу справу. Ён першадрукар нашага краю. А ў XX стагоддзі ў нас бібліятэкі з сотнямі тысяч кніжак». «Бібліятэкі...» — сказала яна, і... пайшла, а потым вярнулася і падала мне руку. Бліснулі каменні пярсцёнкаў. Нахіляюся, цалую руку князёўны. Рука сцюдзёная. Апускаюся на калена і цалую крысо яе белага, атарочанага гарнастаямі, плашча.

Яна пайшла. Князёўну сустрэлі два стражнікі, адсалютавалі ёй алебардамі, падышлі да мяне. Разумею, трэба ўцякаць, але ногі неяк прыраслі да месца. «Аддай!» — кажуць яны і паказваюць на кнігу. Я пабег. За плячыма тупат і цяжкае сапенне. Насцігаюць! Адчуў укол у плячо алебарды. Ірвануўся, дабег да нейкага кірмашу. Малады хлопец, відаць, ратуючы мяне, катнуў пад ногі стражнікам бочку. Яны абодва пакаціліся. Агледзеўся, стражнікі, лаючыся, лупцуюць хлопца. За мной ужо гналіся не два, а з дзесятак стражнікаў.

Акружылі мяне на гары ля палаца. Малады стражнік кінуўся з алебардай. Я падумаў — смерць! Але нейкі іх начальнік, ударам мяча адбіў ад маіх грудзей алебарду. «Жывым пакінуць, адабраць кніжку!» — загадаў ён.

Далей усё перамяшалася. Накінуліся ўсе адразу. Моцным ударам па сківіцы збілі з ног. Біўся мужна! Быў гатоў аддаць нават жыццё, чым кніжку выпусціць з рук. Рашучасць надавала сілы. Вырваўся ад стражнікаў, але ўбачыў, як адзін з іх ступіў нагой на знойдзены мной пры раскопках збан і патрушчыў яго на чарапкі. Я закрычаў...

...Калі апрытомнеў, заходзіла сонца. Знойдзены збан быў патрушчан, чарапкі ўтаптаны ў глебу. Масла выцекла і высахла. Я ўвесь быў пабіты, заплыло адно вока, з пляча цякла кроў. Самае дзіўнае было тое, што ў руках я трымаў кавалачак пергаменту.

Стары вучоны захваляваўся.

— Вы бачылі ў музеі знойдзены мною збан, злеплены з чарапкоў?

Я кіўнуў галавою. Неяк загадкава ўсміхнуўшыся, ён падышоў да стала, адчыніў шуфляду і паказаў кавалачак пергаменту. Гляджу са здзіўленнем на гэты стары, пажоўклы шматок.

— Самае дзіўнае,— кажа прафесар,— пергамент. Астатняе можна лёгка растлумачыць. Я сапраўды знайшоў збан з ружавым маслам. Ён праляжаў у зямлі больш за дзевяцьсот год. Панюхаўшы гэтае масла, страціў прытомнасць і зваліўся. Пачаліся галюцынацыі. Арганізм змагаўся за жыццё. Кідаючыся, мусіць, я патрушчыў збан. Але адкуль пергамент? І вучоны загадкава глядзіць на мяне.

А і сапраўды — адкуль?





НА АРБІТУ КАМУНІЗМА



# ХТО ТЫ ТАКІ, АЛЯКСЕЙ?

**З блакнота журналіста**

1

Сакавік — вясновы месяц. У сакавіку хутка прыбывае дзень. Але іншы раз, калі ўсходзіцца завіруха, дык усё кіпіць, як у гаршку...

У такі дзень Аляксей быў у дарозе. Не знайшоўшы спадарожнай машыны, ён падхапіў свой чамаданчык і падаўся з райцэнтра пешкі. Вецер падштурхоўваў у спіну, ісці было лёгка. На адзіноце чамусьці ўспаміналася даўняе. Прыгадаўся той далёкі пасляваенны год. У іх хату не вярнулася тады двое старэйшых братоў. Трэці прыйшоў без ног. Неўзабаве памёр бацька.

— Засталася хата без касца, без сейбіта, — бедавала маці.

— Мама, а я? — напомніў пра сябе Аляксей.

Які з яго, дзевяцігадовага, быў сейбіт? Маці сама як-небудзь перабівалася, старалася, каб Аляксей вучыўся. Ён шчыраваў і ў школе, і ў інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі. І вось стаў сельскім інжынерам. Цяпер ён спяшаўся ў саўгас, на новае месца работы.

Што яго там чакае? Як сустрэнуць? У канторы саўгаса поўна народу.

Змітрок Аляксандравіч Мітлашкоў, дырэктар, падняўся насустрач інжынеру.

— Што, пешкі з Лагойска? Ачмурэў, хлопец!.. Чаму не пазваніў? Машыну падаслалі б!..

— Я яшчэ на гаручае не зарабіў, — жартам адказаў Аляксей.

Мужчыны засмяяліся.

— А ён, брат, гаспадарлівы.

— Ну, то распранайся, грэйся, — прапанаваў дырэктар, — у нас пакуль што цёпла. Потым будзем думаць пра твой начлег.

Сядзелі, бавілі час, чакаючы, каб аціхла завіруха. З дарогі пачалі і да яе вярнуліся. Галоўны агранам Антон Паўлавіч Пятроўскі, мажны мужчына сярэдніх гадоў, расказваў:

— Нядаўна я вяртаўся з Масквы, з выстаўкі, і трэба ж — са сваім аднакашнікам сустрэўся! Некалі разам у тэхнікуме вучыліся. Гляджу, здаецца, ён, Міша. Толькі чаму ў форме чыгуначніка? Пытаюся: «Што ты тут робіш?» «Ды во, праваднікам працую. Не жыццё, а маліна. Цёпленька, сухенька... Магу і цябе прыстроіць. Шкадаваць не будзеш». Ах ты, думаю... Яго дзяржава вучыла, а ён сухенькага ды цёпленькага шукае! А сумленне, сумленне дзе?..

2

Аляксея прызначылі загадчыкам рамонтнай майстэрні. У майстэрню ён пайшоў адзін, ад праважатага адмовіўся.

— Ну, адзін дык адзін, — згадзіўся Змітрок Аляксандравіч. — Ідзі ў гараж, там спытаеш — пакажуць...

Аляксей з парога ўбачыў некалькі чалавек, якія курылі, стоячы ля акна. Адзін з іх насвістваў нейкую песеньку, штосьці шукаючы на доле.

— Скажыце, дзе майстэрня? — запытаў Аляксей.

Адзін адлучыўся ад гурту, ступіў колькі крокаў да яго.

— Што вы сказалі? — загаварыў ён са здзіўленнем.

— Дзе тут, кажу, саўгасная майстэрня?

— А вы хто такі будзеце?

Хацелася сказаць: чалавек. Але, памарудзіўшы крыху, Аляксей адказаў:

— Я — новы загадчык майстэрні.

— Ах, загадчык! Вось яно што! Дык як вам сказаць? Вельмі цяжка да той майстэрні прайсці. Трэба было б компас узяць...

У гэты час і астатнія падышлі бліжэй. Нарэшце адзін з іх не вытрымаў, загаварыў:

— Ды кіньце вы, дзядзька Мікола, не жартуйце. Вось гэта і ёсць майстэрня. Чаго там!

— А дзе ж абсталяванне? — не вытрымаў Аляксей.



**Аляксеевы памочнікі — токар Віктар Багдановіч і каваль Аляксандр Маркевіч. І ім не спіцца, калі надыходзіць гарачая пара рамонту ўборачных машын.**

— Абсталяванне? Мы без яго абыходзімся.

Першае знаёмства не ўзрадавала Аляксея. Тэхнікі ў саўгасе многа, яе рамантаваць трэба. А як? Доўга хадзіў ён па двары, аглядаў трактары, камбайны, аўтамашыны, хмурыўся, заклапочана думаў, што рабіць. Потым прыспешыў хаду, кіруючыся да канторы, а ззаду пачуў голас усё таго ж дзядзькі Міколы: «Бачылі, як інжынерык лыжы навастрыў. Мусіць, не спадабалася?..»

— Змітрок Аляксандравіч, далей гэтак нельга, — загаварыў Аляксей да дырэктара, зайшоўшы ў кабінет. — Трэба неяк майстэрню агарадзіць, а тады за рамонт брацца.

— А я хіба кажу, што не трэба... Трэба — рабі. Ты цяпер там поўны гаспадар, — адказаў дырэктар і, памаўчаўшы, дадаў: — Бярыцеся за абсталяванне. Калі што якое, заходзьце — будзем раіцца...

І зноў Аляксей ішоў у майстэрню.

— Ці-кава, — пазіраючы на Аляксея, які завіхаўся побач, загаварыў дзядзька Мікола. — Штосьці я не памятаю, каб загадчык майстэрні працаваў як звычайны рабочы. Усё ж інжынер...

Аляксей працаваў моўчкі, заўзята. Дзень пры дні ў майстэрні не змаўкаў гул такарнага станка, чуўся перастук малаткоў. Механізатары рыхтаваліся да вясны. Для Аляксея Герасімёнка гэта быў экзамен, які ён трымаў перад людзьмі, перад зямлёй, што чакала вострых лемяхоў.

3

У тую вясну многа гаварылі пра кукурузу, многа сеялі яе, многа працы трацілі на яе. У саўгасе «Лагаза» таксама не паскупіліся — тысячу гектараў адвялі. Аляксей амаль начаваў і дняваў у полі. Кошкаўся з мерным дротам, разбіваў загоны. Не атрымоўваліся квадраты, а трэба, каб атры-



**А дома Аляксея, як заўсёды, чакаюць жонка Людміла, якая працуе выкладчыцай біялогіі ў сярэдняй школе, ды дачушка Ірынка.**

маліся. Паступова дапяў. Квадраты ішлі без затрымкі. Тады і адшукаў яго аднойчы ў полі дырэктар.

— Чуеш, Васільевіч,— сказаў ціха,— там з раёна званілі. У нашым саўгасе хочуць рэспубліканскі семінар па кукурузе правесці. Так што ты ўжо тут старайся, а я падскочу ў Гарадзішча, пагляджу, як там... Каб не сорамна было!..

Аляксей стараўся. Да іх у саўгас прыязджалі такія ж, як ён, маладыя інжынеры, механізатары. Аляксей паказваў і расказваў, як і што трэба рабіць. Вяртаючыся дадому, садзіўся за кнігі. Успамінаў старое, знаходзіў новае.

...Аляксей расшпільвае каўнер сарочкі, дыхае на поўныя грудзі. Горача. А гэта добра, што цёплыя ночы. Кукуруза будзе добрая! Аляксей любіць іншы раз, калі адарвецца ад кнігі, крыху памарыць. Тады, нібы кадры кінастужкі, праносяцца ў памяці розныя эпізоды. Успомніцца вясна, уявіцца жніво, і ён сярод поля, потым камбайны, машыны, радасныя твары людзей...

4

Дзень, як заўсёды, пачаўся рана. Калі бег у гараж, сустрэўся з Верай Лапаровай, даглядчыцай свіней.

— Прывітанне, ранняя птушка!.. — кінула дзяўчына Аляксею.

— Як быццам сама позняя! — адказаў ён.

— Хоць і не позняя, але які толк? Амаль днюеш і начуеш на ферме. І не адна я. Аж сямёра нас. Паспрабуй управіцца з такой плоймай, ды ўсё рукамі. Нанасі бульбы, нанасі вады, перамый, выцягні, засып у катлы, звары, стаўчы, размяшай, разнясі. Ажно рукі адрываюцца...

Аляксей слухаў моўчкі. Ён і сам ведаў, што на свінаферме механізацыі няма ніякай. Усё на заатэхніка ківаў: ён не можа працу наладзіць. Выходзіць, сам вінаваты, і больш за другіх.

Увесь той дзень з галавы не выходзіла свінаферма. Разы са два ён забягаў туды, і кожны раз Вера даводзіла яму, як гэта проста ўстанавіць кормазапарнік. Потым прыйшоў з Паўлам Петракоўскім, які ўзначальваў звяно па механізацыі працаёмкіх работ. Удвух глядзелі, меркавалі, прыкідвалі.

— Зрабіць, вядома, можна. Але калі? Работы вунь колькі!.. Ты ж сам гаварыў, што да новага ўраджаю трэба зрабіць зернесушыльны ток, — разважаў звеннявы.

— І ток патрэбен, і кормазапарнік патрэбен. І рабіць яго трэба летам. Ты пагаварыў бы з рабочымі, можа пасля змены сюды...

— Падумаем. Летні дзень доўгі. Пасля шасці, пакуль сцямнее, можна чорту рогі скруціць. Але з рабочымі нам трэба перагаварыць удвух.

Знайшліся добраахвотнікі. Працавалі, хто колькі мог. Кожны дзень прыходзілі сюды ўсе вольныя ад работы — трактарысты, шафёры, камбайнёры.

Неўзабаве кормазапарнік змантыравалі. Калі праводзілі яго выпрабаванне, на свінарнік заявіліся даяркі:

— Ага, пра свінаферму дык вы ўспомнілі, а нам кожны раз цягай кароў праз увесь кароўнік да гэтай даілкі, каб на яе... Добра гэта?

Давялося ўсім атрадам перабазіравацца на кароўнік. Перш-наперш усталявалі электрадаілку на падвяснай дарозе. Трэба даіць — пад'язджай да каровы, а не цягні яе праз увесь кароўнік да станка. Здаецца, не такая ўжо гэта і навінка, а колькі палёгкі, радасці прынесла яна людзям.

5

Довады інжынера былі слушныя. Сапраўды, кожны год павялічваецца машынна-трактарны парк саўгаса. А механізатары? Іх мала, не хапае. Не хочуць рабочыя саўгаса на некалькі месяцаў адлучацца ад дому, каб вучыцца ў школе механізацыі.

— Значыць, трэба арганізаваць курсы ў саўгасе.

Аляксей гаварыў і паглядаў на дырэктара, аграномa, сакратара партыйнай арганізацыі. А яны слухалі яго і, мусіць, штосьці прыкідваючы, маўчалі. Нарэшце загаварыў дырэктар:

— Справа добрая... І калі сам загаварыў, то табе і карты ў рукі. Кіруй саўгаснай акадэміяй. Як вы думаеце, таварышы, правільна я кажу?

Пярэчанняў не было.

Першы, хто папрасіўся на гэтыя курсы, быў прычэпшчык Яўген Качан. Следам за ім прыйшлі Валодзя Партневіч, Жэня Паўлоўскі.

Заяў набралася шмат. Так Аляксей Герасімёнак стаў выкладчыкам саўгаснай «акадэміі». Крыху нязвыкла гэта для яго, і, між іншым, прыемна.

Тры гады, тры выпускі саўгаснай «акадэміі» механізатараў шырокага профілю.

6

...Ніва, як свежавыпечаны бохан. Дзесьці ў паднябессі чорнай кропкай павіс жаўрук і вызвоньвае ў танюткі званочак сваю радасную песню.

— Зямля дыхае,— ціха гаворыць Аляксей, гледзячы, як падымаецца з раллі пара.

Ён бярэ кавалак зямлі, расцірае яе ў руцэ, нюхае і не то жартам, не то ўсур'ёз гаворыць да брыгадзіра Васіля Пляваки:

— Паслухай. Табе не здаецца, што яна пірагамі пахне?

— Ну, калі ўжо табе, прапахламу бензінам і мазутам, так здалося, то і сапраўды, мусіць, яна хлебам пахне...— жартам адказвае Васіль і дадае: — Будуць тут пірагі, вось паглядзіш, калі лета настане.

Аляксей ведае: брыгадзір не выхваляецца. Ён і сапраўды майстар высокага ўраджаю. Што яму ў гэтым памагае? Можа, вучоба ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, можа, бязмежная любоў да сваёй хлебаробскай прафесіі, але кожны год у Васілёвай брыгадзе самы высокі ўраджай. Вось і летась у іншых брыгадах саўгаса атрымалі з кожнага гектара па 10—12 цэнтнераў збожжавых, а ў Васілёвай — па 16—18. А сёлета ён думае і пра большае.

З другога канца загона, дзе ракоча трактар, наўпрасткі праз поле ідзе да іх Яўген Качан. У кірзавых ботах, самавіта ступае па раллі, махае рукой, каб пачакалі. Жэня — выхаванец саўгаснай акадэміі самага першага выпуску, а цяпер ужо брыгадзір трактарнай брыгады. Растуць вучні Аляксея Герасімёнка, растуць!..

Жэня моцна паціскае ім рукі, задаволена ўсміхаецца і хітра пазірае на Васіля:

— Ну, вось, яшчэ некалькі загонаў, і — з сяўбой скончым... А ты баяўся, што спознімся. Тэхніка, брат!..

Яны стаяць, слухаюць суладны рокат матора. Вясна апошняга года сямігодкі, вясна вялікіх здзяйсненняў і надзей, угрунтаваных рашэннях сакавіцкага Пленума ЦК КПСС.

**Уладзімір КУЗЬМЯНКОЎ.**
**Фота С. Чэрэшкіна.**

Саўгас «Лагаза»
Лагойскага раёна.



Лягчэй стане даяркам Настассі Белай ды Ганне Залівака, калі механізацыя завітае і на іх ферму.

◆ ◆ ◆

# АБ'ЯЎЛЯЕЦЦА ПАСАДКА

**Нататкі аўтакантралёра**

## НА СТАРЦЕ

Першы мой рабочы дзень пачаўся з непрыемнасцей. Уночы я тройчы прачынаўся, каб не праспаць на работу. Аднак жа праспаў і спазніўся ледзь не на гадзіну.

Брыгадзір змены Сяргей Андрэевіч Мікульчык, пажылы чалавек у кіцелі чыгуначніка з трыма паверхамі ордэнскіх планак на грудзях, паказаў мне парадак праверкі білетнай дакументацыі.

Праз кожныя 5—10 хвілін над плошчай аўтавакзала дынамікі выгуквалі хрыплымі галасамі: «Аб'яўляецца пасадка...» Аўтобусы становяцца на старт. Да іх пады-

ходзяць людзі з чырвонымі павязкамі «Кантралёр», «Адміністратар».

Усхваляваныя і радасныя, пасажыры прад'яўляюць білеты. Закончылася пасадка — пачынаюць вырашацца спрэчкі, канфлікты: то адзін заняў чужое месца, то другі пад выглядам праважатага прашмыгнуў у машыну... А во ў старога няма грошай на білет, ён едзе з бальніцы дамоў. Яму трэба аформіць даведку на бясплатны праезд. Клопатаў — па горла.

Добра набегаешся, калі гучыць: «Аб'яўляецца пасадка...»

## ЛЮБА

На Лагойскай шашы дзяжурыў з Любай Чаркашынай. Пра Любу кантралёры кажуць, што яна ўмее не толькі «зайцоў» лавіць, але і жорава ў небе за нагу схапіць. На плошчы імя Якуба Коласа Люба перабягае праспект.

— Ужо і старая, а стомы ў нагах не адчуваю, — хваліцца яна.

— Вам бы ў спартыўную каманду, — жартую. — Іткіну абагналі б...

Люба ў часе вайны страціла бацькоў, сясцёр, братоў — іх расстралялі немцы, а яна ўцякла ў партызаны. Стала разведчыцай. Пасля вайны ў Любы цяжка склалася сямейнае жыццё. Мужа свайго яна называе не інакш як «старым чортам». І з дому на поўнач уцякала ад яго. Ён пажыве адзін, пасумуе, знойдзе яе адрас, прыедзе, папросіць прабачэння. Расчуліць абяцанкамі, што больш не будзе наладжваць «мамаевы папоішчы». Пашкадуе Люба мужа, прыедзе дадому. Пройдзе дзень-два, і зноў яго саракаградусная «багіня» шпурляе на крывую сцяжынку.

Узлавалася, нарэшце, Люба. Узяла пілу, сякеру, дошкі і адгарадзіла палавіну дома. Пачала жыць з дзецьмі ў адным пакойчыку, назаўсёды развітаўшыся з шалапутным прапойцам.

Шафёры, мінскія і літоўскія, з Масквы і Рыгі, як агню, баяцца Любы на дарогах. Колькі яна перalавіла махляроў за баранкай. Колькі да яе «парламянцёраў» з поўнымі кашалямі прыязджалі на перагаворы «на высокім узроўні», але з гэтага ніколі нічога не выходзіла.

— Не куплююся і не прадаюся, — і Люба гнала няпрошаных гасцей з хаты.

У Ракаве ў чайной я аднойчы чуў, як падпіўшыя шафёры выгукалі тост:

— За тое, каб не трапіць на праверку да Чаркашынай!

## ВЫБРЫКІ МАХЛЯРА

Нас у машыне трое: шафёр Эдуард Язерскі, мой напарнік Міхаіл Дзячук і я. «Волга» ляціць, ледзь кранаючыся коламі стужкі заледзянелага асфальту. За акном мільгаюць тэлеграфныя і кіламетравыя слупы, таблічкі з дарожнымі знакамі і назвамі вёсак. Каля Карзуноў, што на Магілёўскай шашы, мы прыцішылі ход, спыніліся. З цемры пырснула святло фар, паказаўся грузавік з трафарэтам «Мінск — Чэрвень». Між фарамі на чорным белыя літары нумара: «МІБ 17-03».

— Праверым, — кінуў мне напарнік.

Падаю сігнал шафёру грузавіка. Твар яго скрывіўся. Ён умомант пераключае скорасць, і аўтобус праносіцца міма нас, знікаючы ў начной цемры. Мы разварочваемся і — за ім... Наперадзе перад намі мітусяцца, скачуць два малінавыя гузікі.

Ліхач нясецца ледзь не з касмічнай скорасцю. Яму не да правілаў руху: з гары, на прыпынках і паваротах нясецца на злом галавы.

— Даездзіцца, шэльма! — злуецца Язерскі.

Нарэшце, мы абагналі ліхача. Зноў сігналім, але ён і не думае спыняцца — верне машыну ўбок...

Трапіўшы ў бязвыхаднае становішча, ён усё ж спыніўся.

Заходзім у аўтобус.

— Чаму не спыніліся? — пытаемся вадзіцеля Мікалая Токарава.

— А я вас не заўважыў...

Пачалі правяраць білеты. З 24 пасажыраў 17 ехалі «зайцамі».

Егіпецкія іерогліфы куды лягчэй разгадаць, чым ухмылку хапугі Токарава. Але мы яе разгадалі. Токараў «угаварыў» 17 пасажыраў і, не выдаўшы нікому з іх білета, паклаў сабе ў кішэню пятнаццаць рублёў.

Токараву далі вымову. Але ён не адмовіўся ад махлярства. Уваходжу я аднойчы ў аўтобус «Жодзіна — Мінск» і правяраю ў пасажыраў білеты. Адзін паказвае мне стары білет, другі, трэці...

— Дзе вы іх узялі? — пытаюся.

— Шафёр даў, — адказваюць яны.

Сабраўшы фальшывыя білеты, я склаў на Токарава новы рапарт. Як ні стараўся ён выкруціцца з гэтай нячыстай гісторыі, але гэта яму не ўдалося.

Забаранілі яму паказвацца без кандуктара на маршрутных лініях.

## «ГАЛАЧКА»

Трапіў неяк я ў Дзяржынску ў дыспетчарскую і ўбачыў такі малюнак. Каля дзвярэй таўкліся шафёры, і ніхто з іх не адважваўся зайсці ў пакойчык. Яны пакручвалі ў руках пуцёўкі і баязлівым шэптам падганялі адзін аднаго:

— Валі ты, братан, першы. Часу няма доўга стаяць...

— Не, ты давай. Я не хачу без пары развітвацца з баранкай...

Шафёр з доўгім носам і быстрымі вачыма схапіўся быў за клямку, але тут жа адскочыў ад дзвярэй і схаваўся за плечы сяброў.

Зайшоў я у пакой пацікавіцца, што там такое.

Каля стала ў позе пераможцы сядзела пышная сімпатычная дама, а перад ёю, пераступаючы з нагі на нагу, стаяў разгублены шафёр.

Дама доўга і прыдзірліва разглядала пуцёўку. Потым, чыркнуўшы нешта чырвоным алоўкам, акцёрскім жэстам працягнула яе збянтэжанаму шафёру. У таго — быццам гара з плеч звалілася. Ён подбегам кінуўся да свайго аўтобуса, а следам важна падалася і дама.

— Хто такая? — пацікавіўся я.

— Жданкіна. Пазалетась кіравала ў нас у Дзяржынску гурткам крою і шыцця. Цяпер перабралася ў Узду і там заварочвае мастацкім промыслам, — адказаў адзін з касіраў.

— У яе ёсць тэхнічная адукацыя?

— Дзіркі ў мяхах умее зашываць, а гэта вось у грамадскія інспектары запісалася. Каб дарма ездзіць у аўтобусах, яна і заглядвае сюды па дарозе. У якой машыне праедзе бясплатна, там і адзнаку аб праверцы зробіць.

Ой, мала карысці ад такіх грамадскіх інспектараў, як гэтая «Галачка»!

## АСЕЧКА

— Сёння будзеце кантраляваць работу таксі, — сказаў нам інжынер Міхаіл Баранчыкаў.

Перад выездам у дарогу ён праінструктаваў рэвізораў, раздаў нарады. Мы трапілі на Слуцкую шашу. Стаім з напарнікам на адзінаццатым кіламетры, спыняем «Волгі», «ЗІЛы».

Размаўляем у часе праверкі з таксістам Палтаракам.

— Куды едзеце?

— На Возера, з Мінска, на адлегласць дваццаць кіламетраў.

Адзначаем у пуцёўцы: «КРС 11 км, 17 гадзін, 4 пасажыры па таксаматору «Мінск — Возера».

Развітваемся, пажадаўшы шчаслівай дарогі пасажырам і шафёру.

Шафёр прыемна ўсміхнуўся, а ў думках пасмяяўся з нас: «Здорава я іх абвёў...»

Каля Возера шафёр адключыў таксаматор.

Але каля Валяр'янаў на 62 кіламетры яго спыніла другая група кантралёраў.

— Куды везяце людзей?

— З Возера на Слуцк.

Тут ён і папаўся.

Навошта яму спатрэбілася хлусня? А вельмі проста: хацеў адчытацца за рэйс да Возера двума рублямі, а 11 рублёў пакласці сабе ў кішэню.

Але атрымалася асечка! Урвіцеля злавілі за руку.

## ЯЕ АПОШНІ РЭЙС

Мне расказвалі, што кандуктар Кацярына Малахава вельмі спрытная на махлярства: то гро-

шы ў косы і за пазуху схавае ў час рэвізіі, то назапасіць фальшывых білетаў...

Неяк перад новым годам з Мінска ў Валяр'яны прыйшоў аўтобус, у якім працавала Малахава. Пасажыры, якія сабраліся ехаць у Мінск, кінуліся ў касу па білеты. Выстраіліся ў чаргу, але тут да іх падбегла Кацярына Малахава і сказала:

— Білеты ў мяне купіце. Не трацце марна часу!..

Перад самай адпраўкай аўтобуса мы нечакана завіталі на праверку. (Малахава не ведала новага кантралёра.) І тут выявілася, што ў пасажыраў яна сабрала 12 рублёў, а білеты ім выдала старыя, якія былі прададзены раней.

Гэта быў апошні рэйс Кацярыны Малахавай. Але дзіўна, чаму яе толькі звольнілі, а не аддалі пад суд?..

### ГОНАР ШАФЁРА

— Абавязкова завітайце да нас у Маладзечна, пазнаёміцеся з цудоўным чалавекам — Георгіем Коміным, — параіў мне аднойчы знаёмы шафёр і дадаў: — Георгі чвэрць веку круціць баранку. І кантралёры не патрэбны былі б, каб усе былі такія прынцыповыя, як Комін...

Некалькі разоў мне даводзілася быць у Маладзечна і ніяк не ўдавалася сустрэцца з Георгіем Піліпавічам: ён то на экскурсію якую паедзе, то на нараду.

І ўсё ж я яго сустрэў, і не на шырокай дарозе, як мне ўяўлялася, не ў кабіне аўтобуса, а ў полі, за плугам. Я здалёк убачыў высокага немаладога чалавека ў клятчатай кашулі з закасанымі рукавамі. Прыгнуўшыся, ён адной рукой трымаў лейцы, другой — поручні плуга і падганяў буланага. Пад нагамі з-пад плуга клаліся пульхныя грывы чарназёму з карчамі чырвонай, нібы медзь, бульбы.

Разагнаўшы некалькі барознаў, Георгі адпусціў каня на лужок пасвіцца.

Мы пазнаёміліся.

— Сядайце, калі ласка, з намі абедаць, — запрасіў мяне Комін, і пачаў разгортваць газету, раскладваць на ёй полуднік. — Гэта яшчэ што!.. Гэта рай... А на вайне, бывала... Эх, колькі нашаму брату давялося тады перавезці снарадаў і толу! А як трапіў у Беларусь са штабам партызанскага злучэння, даводзілася мець і другую нагрузку: механікам радыёстанцыі...

Шмат аб чым пагутарылі мы ў той раз. Георгі Піліпавіч расказаў, што ён, бывае, так парадніцца ў дарозе з людзьмі, што не хоча з імі раставацца.

— А ў сваім калектыве мы змагаемся з крахаборамі і рвачамі, якія прыніжаюць гонар пасажыраў, вымагаюць у іх на «чаёк». Брыдка глядзець на такіх шафёраў, якія не шануюць свой гонар: украдуць рубель і дрыжаць ад страху, баяцца зірнуць у вочы пасажыру. Мятлой вымятаем такіх скурадзёраў.

Кажуць, што шафёрская справа сумная: сядзі і круці баранку ад змены да змены. Няпраўда. Хіба ж гэта не рамантыка — ведаць родны край? Колькі аб'ездзіў Георгі Комін гарадоў на сваім быстраходным «ЛАЗе». Ён ведае і беспамылкова знойдзе кожную вуліцу ў Мінску, Кіеве, Маскве, Ленінградзе, Вільнюсе, Рызе...

З Георгія Коміна бяруць прыклад усе шафёры Маладзечанскага аўтапарку.

...Я сардэчна развітаўся з Георгіем Піліпавічам Коміным і паехаў дамоў. На душы ў мяне было светла і радасна.

**Алесь КУЗНЯЦОЎ.**



# СЛАВЕ ПЕРАМОГІ ЖЫЦЬ ВЕЧНА

**Фотарэпартаж В. Ждановіча, Ю. Бясполава і А. Сасіноўскага.**

**Былі часіны змрочныя, былі часіны гора і слёз, калі аб свяце маглі толькі марыць. Тады жыццё апранулася ў шэры салдацкі шынель, а прыладамі працы былі штыкі. На тых савецкіх штыках пераможны сцяг дайшоў да Берліна. І вось сёлета, на свяце слаўнага юбілею Вялікай Перамогі, радасць наша была такая ж бязмерная, як і дваццаць гадоў назад.**

**Яшчэ напярэдадні свята радыё прынесла нам вестку аб тым, што Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР горад Масква і Брэсцкая крэпасць атрымалі ганаровыя званні Герояў і ўзнагароджаны ордэнамі Леніна і медалямі «Залатая Зорка».**

**Першымі на беларускай зямлі вайну сустрэў гарнізон Брэсцкай крэпасці. Многія з яе абаронцаў загінулі ў няроўнай барацьбе, іх кроўю чырванеюць прастрэленыя сцены цытадэлі. Подзвіг абаронцаў Брэста нашчадкі прыраўнялі да подзвігаў абаронцаў Масквы, Сталінграда, Адэсы, Ленінграда, Севастопаля, Кіева.**

**Ніхто не забыты, нішто не забыт. Пасмяротнае званне Героя Савецкага Саюза прысвоена дванаццаці беларускім партызанам і падпольшчыкам. Сярод іх Мікалай Кедышка — кіраўнік Мінскай падпольнай камсамольскай арганізацыі «Андруша», пятнаццацігадовы партызан-разведчык Марат Казей... Ардэнамі і медалямі СССР узнагароджана 3 269 народных мсціўцаў.**

**Каму ў 1944 годзе было хоць шэсць гадоў, той, пэўна, памятае, як выйшлі з лясоў партызаны і бясконцымі калонамі рушылі ў Мінск, на партызанскі парад. Тады яшчэ не было дакладна вядома, калі людзі вымавяць цудоўнае слова Перамога. Але тыя, што проста з параду пайшлі на фронт, як і тыя, што тры гады ўжо змагаліся на фронце, добра ведалі: дзень перамогі будзе самым сонечным святам на зямлі.**

**20-годдзе з дня перамогі над фашысцкай Германіяй беларуская сталіца святкавала ў сонечны, па-сапраўднаму майскі дзень.**

**На Цэнтральнай плошчы, побач з падраздзяленнямі Мінскага гарнізона**







выстраіліся ветэраны вайны — франтавікі і партызаны. На цывільных пінжаках блішчаць баявыя ўзнагароды, грудзі ўпрыгожаны ордэнскімі стужкамі. З усіх канцоў Беларусі з'ехаліся пераможцы на свята. На трыбунах — Героі Савецкага Саюза, беларусы і іх баявыя таварышы з братніх рэспублік.

Калона за калонай праз плошчу сталёвым крокам ідуць воіны: пяхота, артылерысты, лётчыкі, маракі, пругка крочаць самыя маладыя ўдзельнікі параду — суворазуцы, якія ведаюць вайну толькі па кніжках і кіно. Іх вітаюць людзі, вынесшыя на сваіх плячах увесь цяжар вайны, ім апладзіруюць Героі Савецкага Саюза Зінаіда Тусналобава, Леанід Філіпенка, Васіль Дзямідаў, Цімафей Лядскі. З сардэчнай усмешкай сустракае іх былы камандзір узвода разведкі Рыгор Акопаў, які застаўся без ног, размініруючы будынак 9-й мінскай школы. І для народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова гэты дзень стаў векапомным.

А на плошчы ўжо — бронетранспарцёры, артылерыя, грозныя ракеты, наша магутная зброя, якая памагае нам захоўваць мір на зямлі. Гэтай зброі яшчэ не ведаў вораг, гэтая зброя выкавана ў пасляваенныя гады. «Мы не жадаем бразгаць зброяй. Гэта не ўваходзіць у нашы звычаі, не з'яўляецца нашай палітыкай. Але сёння, у знамянальную гадавіну Вялікай Перамогі, мы з пачуццём законнага гонару гаворым аб баявой магутнасці нашых Узброеных Сіл, аснашчаных усім неабходным для таго, каб даць дастойны адпор любому агрэсару»,— сказаў Л. І. Брэжнеў на ўрачыстым пасяджэнні ў Крамлёўскім палацы з'ездаў 8 мая 1965 года.

Гул воплескаў коціцца ўслед за калонамі былых воінаў да плошчы Перамогі. І там, ля помніка загінуўшым, які нібы вырас з кургана кветак і вянкоў, ля вечнага агню жывыя ўшаноўваюць памяць мёртвых. Чалавечы натоўп разліўся на ўсю плошчу, і цесна стала. Так, як у памяці нашай цесна ад успамінаў ваенных год.

З захаду, з-за акіяна міру зноў пагражае небяспека. Але магутны многамільённы савецкі народ ніхто не пераможа. Няма на зямлі такой навалы, што прымусіла б нас стаць на калені. Аб гэтым гаварылі ўдзельнікі мітынгу на рэспубліканскім стадыёне «Дынама»: першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў, член Ваеннага Савета БВА генерал-лейтэнант В. А. Грэкаў, Герой Савецкага Саюза, былы партызанскі камандзір П. Г. Лапацін, сталявар трактарнага завода А. І. Азараў, студэнтка ўніверсітэта Тацяна Галынка.

У вернасці свайму народу кляліся юнакі і дзяўчаты — удзельнікі свята. З рознакаляровых шарэнг яны выткалі слова «ПАБЕДА», якое аднолькава дорага і пасівелым ветэранам і шчаслівому юнацтву. Нашчадкі герояў у мірнай працы здабываюць сваю славу, а слава працоўная — помнік славе ратнай.















Адам СЦЕПАНЕНКА

# МСЦІЎЦЫ З ПРЫСЫНКА

*Займаючыся расследаваннем злачынстваў карнікаў у Смалявіцкім раёне, я даведаўся пра слаўныя патрыятычныя справы падпольшчыкаў вёскі Прысынак і гарадскога пасёлка Смалявічы. Апынуўшыся ў акупацыі, прысынкаўскія камсамольцы стварылі падпольную камсамольскую арганізацыю і сталі на шлях барацьбы з ворагам. Летам 1942 года яны наладзілі сувязь з партызанскай брыгадай «Смерць фашызму», і пад кіраўніцтвам партызан іх барацьба супраць фашыстаў набыла яшчэ больш актыўны характар. У пачатку 1944 года некаторыя падпольшчыкі былі арыштаваны, некаторыя растраляны ці адпраўлены ў Германію. Многім удалося пайсці ў партызаны.*

*Пра смелых патрыётаў і іх баявыя справы ў тыле ворага і расказваецца ў гэтых запісках.*

*Аўтар.*

**ТРЫВОЖНЫЯ ДНІ.** Дома ўсе былі рады, што Ліда Кірыльчык вярнулася, і пачалі цікавіцца, як яна дабралася з Барысава і што там робіцца ў горадзе. Расказваючы пра бежанцаў і пра бамбардзіроўкі на шашы, Ліда ўвесь час абдумвала, як паведаміць бацькам аб сваім намеры прасіцца ў Чырвоную Армію.

— З Мінска ж прыйшлі Вера Кірыльчык і Люба Кучмель...—сказала сястра Надзя.

Ліда павесялела і рашыла зараз жа пабачыцца з сяброўкамі, а размову з бацькамі адкласці на пасля, калі сходзіць у ваенкамат.

У ноч на 26 чэрвеня 1941 года немцы высадзілі дэсант. Жорсткі бой з ім на аўтамагістралі і чыгунцы ішоў увесь дзень. З абодвух бакоў Прысынка рваліся бомбы і снарады, чуліся аўтаматныя і вінтовачныя стрэлы. На досвітку прысынкаўскія жыхары пачулі страшную вестку—у вёсцы немцы...



Неўзабаве гітлераўскія ўлады стварылі ў Прысынку ўправу. За старасту стаў былы кулак Навіцкі. Ён адкрыта пагражаў, што таму-сяму прыгадае сваё бадзянне на чужыне.

У хаце Ліды Кірыльчык цяпер часта збіралася моладзь. Завешвалі вокны, запальвалі каганец, і пры яго мігатлівым святле хлопцы і дзяўчаты абменьваліся навінамі, пачутымі за дзень. Гэта былі сумныя і трывожныя навіны. Фашысцкія салдаты гаварылі, што акружаны Ленінград і хутка будзе захоплена Масква. Гэтаму не хацелася верыць, і кожны выказваў нешта суцяшальнае, абнадзейваючае.

— Напалеону Маскву ўдалося захапіць,—гаварыла Люба Кучмель,—але перамога ўсё роўна была за рускімі...

— І як яшчэ французы беглі з Pacii!..—падхапіла Вера Кірыльчык.—Вось убачыце, дзяўчаткі, і немцы пабягуць ад Масквы. Убачыце, што пабягуць!..

— Не толькі ад Масквы,—уступіла ў размову Ліда Кірыльчык,—з усёй савецкай зямлі будуць бегчы фашысты. Памятаеце, як беглі іншаземныя і белагвардзейскія войскі ў часе грамадзянскай вайны, аж пяткі блішчэлі!

Познім вечарам моладзь разыходзілася па хатах. Над вёскай стаяла цёмная, ціхая ноч. Здавалася, што ўсё навокал павымірала. Дзяўчаты прыслухоўваліся да гулу нямецкіх аўтамашын, што рухаліся па шашы, сумна ўздыхалі.

Аднойчы дзяўчаты затрымаліся каля хаты Кірыльчыкаў. Не хацелася ісці дамоў. Разам было весялей. Прыгадвалі, як спявалі калісьці ў школе, як было тады весела і добра.

— Ці думалі мы калі, што давядзецца жыць без песень,—сказала Люба Кучмель.

— Давайце, дзяўчаткі, спяём на ўвесь голас,—раптам прапанавала Ліда.—Спяём што-небудзь наша, савецкае.

Дзяўчаты сумеліся, а што, калі заўтра іх паклічуць у паліцыю? Але ж яны камсамолкі, хіба да твару ім баяцца?..

Широка страна моя родная,
Много в ней лесов, полей и рек...—

заспявала Ліда, і ўсе дзяўчаты падхапілі:

Я другой такой страны не знаю,
Где так вольно дышит человек!

Песня мацнела, шырылася. Ніколі дзяўчаты не спявалі з такім уздымам і радасцю.

Часам да іх далучаліся хлопцы, і перш за ўсё тры цёзкі—Косця Кірыльчык, Косця Знайда і Косця Лучонак. Разам з імі прыходзілі чырвонаармейцы Павел Бужан, Васіль Светцаў, Змітрок Мірошын і Сцяпан Сцяпанаў, якія апынуліся ў акружэнні і спыніліся ў вёсцы.

Брат Веры Кірыльчык Косця перад вайной



Ліда Кірыльчык.



Вера Кірыльчык.



Косця Кірыльчык.

вучыўся ў танкавым вучылішчы. У першыя дні вайны курсанты біліся з нямецкім авіядэсантам каля мястэчка Зембін. На левым беразе Беразіны яны некалькі дзён стойка стрымлівалі немцаў, а потым узарвалі масты і вымушаны былі адступіць. Апынуўшыся ў лесе, Косця доўга блукаў без ежы і боепрыпасаў. А потым, калі не ўдалося адшукаць сяброў, пачаў прабірацца ў сваю вёску.

Косця Знайда ў Прысынку з'явіўся пазней, але зусім нечакана. Яшчэ перад вайной ён з бацькамі выехаў на Украіну, дзе ўвосень 1940 года быў прызваны на вайсковую службу. А цяпер, знясілены і хворы, у пашарпанай вопратцы, апынуўся ў роднай вёсцы, у свайго дзядзькі Міхаіла Скуратовіча.

Сустрэўшыся, сябры расказвалі аб тым, што бачылі і перажылі, але паступова размова заходзіла пра тое, што рабіць далей. Сыходзіліся на тым, што трэба змагацца, што і ў тыле можна біць ворага.

З таго часу, як хлопцы вырашылі разгарнуць у Прысынку падпольную дзейнасць, прайшло каля месяца. Знешне яны засталіся такімі ж, як і былі: разам хадзілі на работу, у вольную часіну збіраліся ў Кірыльчыкаў. Але ніхто не ведаў, чаму яны па вечарах, а іншы раз і ўдзень, пачалі адлучацца з вёскі. Каб хто ўважліва за імі назіраў, то мог бы заўважыць, што, пабыўшы ў Смалявічах, яны рабілі вялікі крук, ішлі ў лес, адкуль вярталіся з цяжкімі скруткамі на плячах. У лесе хлопцы збіралі зброю і боепрыпасы, хавалі іх у надзейных тайніках, а часта прыносілі і з сабою ў вёску.

Непадалёку ад Прысынка на полі ляжаў савецкі самалёт, збіты ў першыя дні вайны. Хлопцы ўсё часцей пачалі наведвацца туды. Косця Кірыльчык і яго сябры шмат начэй запар правялі там, пакуль знялі кулямёты, перанеслі іх у тайнік.

Аднойчы Сцяпан Сцяпанаў знайшоў у лесе разбітую ваенную рацыю. Ведаючы радыёсправу, бо ў арміі служыў радыстам, ён выцягнуў з апарата нейкія дэталі, адарваў навушнікі, наматаў вялікі скрутак розных правадоў і ўсё гэта забраў з сабой. Сваім сябрам Бужану, Светцаву і Мірошыну, а таксама Кірыльчыку, Знайдзе і Лучонку ён сказаў, што паспрабуе змайстраваць радыёпрыёмнік.

— Вось каб удалося паслухаць Маскву!.. — радасна ўсклікнулі сябры.

Вырашылі, калі прыёмнік будзе гатовы, устанавіць яго ў Косці Кірыльчыка.

...Канец кастрычніка. Невядома адкуль у Прысынак дайшлі чуткі, што недзе над вёскамі Юр'ева і Бабін Лес праляцеў савецкі самалёт і скінуў лістоўкі. Ліда, Вера, Люба і Зіна ўзялі ў валасці пропускі і на досвітку адправіліся ў дарогу — нібы праведаць сваякоў. На самай справе, яны рашылі назбіраць лістовак. Давялося доўга блукаць па тых мясцінах, дзе, як ім сказалі знаёмыя, праляцеў самалёт. І, нарэшце, першая знаходка — мокры ліст паперы, на ім буйныя друкаваныя словы: «Слухай нас, моладзь акупіраваных фашыстамі раёнаў!»

Увечары дзяўчаты вярнуліся дадому стомленыя, але шчаслівыя. Не паспелі пераапрануцца і павячэраць, як у хату пачалі збірацца хлопцы і дзяўчаты. Ліда разумела, што яны пачнуць дапытвацца пра знаходку, і сказала гучна, каб чулі ўсе:

— І ўсё ж мы знайшлі тое, што шукалі!

Яна раскрыла старую кнігу і дастала з яе лістоўку. Усе акружылі Ліду, прасілі, каб пачытала хутчэй, што там напісана. Ліда падала лісток Косцю Знайдзе, ён падышоў да каганца, пачаў чытаць:

— «У цябе была Радзіма. Прыйшоў крывавы фашызм і адабраў яе...

...У цябе была сям'я. Гітлер разбурыў яе — адных забіў, другіх замучыў, трэціх узяў у няволю...»

У гэты вечар у доме Кірыльчыкаў доўга і горача гаварылі, а назаўтра ўсе жыхары вёскі ведалі пра лістоўку і радаваліся, што атрымалі першую дарагую вестку ад сваіх.

У той час у падпольшчыкаў Прысынка з'явіўся верны, надзейны друг і дарадца — Сцяпан Сямёнавіч Лучонак, удзельнік грамадзянскай вайны, арганізатар і першы старшыня Прысынкаўскага калгаса. Перад вайной ён



працаваў сакратаром Смалявіцкага пасялковага Савета, а потым начальнікам пашпартнага стала ў міліцыі. Усе ведалі, што Сцяпан Сямёнавіч перад прыходам фашыстаў выехаў на ўсход, але з'яўленне яго ў вёсцы нікога не здзівіла. У той час многія, хто імкнуўся эвакуіравацца ў савецкі тыл, вярнуліся ў родныя мясціны. Ніхто ў Прысынку не ведаў, што Сцяпан Лучонак пабываў пад Масквой, прайшоў падрыхтоўку ў групе парашутыстаў і быў засланы ў Беларусь для падпольнай дзейнасці ў тыле ворага. На тым часе ён прыглядаўся да аднавяскоўцаў, назіраючы за іх жыццём.

У тыя асеннія дні Сцяпан Лучонак рашыў памагчы моладзі згуртавацца ў падпольную групу, якая здолела б ахапіць сваім уплывам і моладзь навакольных вёсак. Яму ўдалося сабраць маладых патрыётаў на сваёй кватэры. Калі размова зайшла пра бліжэйшыя задачы, Сцяпан Сямёнавіч параіў падпольшчыкам, каб яны, дзе толькі можна, расказвалі насельніцтву праўду аб Чырвонай Арміі, аб яе гераічнай барацьбе з фашыстамі, выкрывалі хлусню гітлераўскай прапаганды. Далей абставіны пакажуць, што рабіць.



Канстанцін Знайда.

**ГОЛАС МАСКВЫ.** Неяк увечары ў доме Кірыльчыкаў сабраліся ўсе падпольшчыкі. Каб неяк скараціць чаканне, яны распачалі гуляць у даміно. Сцяпанаў прыкметна хваляваўся. Ён некалькі разоў выходзіў на двор: на разгалістай ліпе каля хаты, у верхавіне была замаскавана антэна.

Хваляваўся і Сцяпан Сямёнавіч, назіраючы за гульнёй. Ён думаў пра Маскву, з якой не так даўно развітаўся, адлятаючы ў тыл ворага, і для яго асабліва было важна пачуць вестку з дарагой сталіцы. Калі гадзіннік паказаў адзінаццаць, падпольшчыкі падселі бліжэй да Сцяпанава, які, узброіўшыся навушнікамі, сядзеў каля невялічкага апарата. Падсунуўшы бліжэй каганец, хлопцы і дзяўчаты напружана сачылі за яго тварам, і раптам усе зразумелі, што Сцяпанаў пачуў голас дарагой Масквы. Цікаўнасць і нецярплівасць ахапіла ўсіх, кожнаму хацелася самому пачуць голас Радзімы, але Сцяпанаў, зняўшы навушнікі, перадаў іх Лучонку, потым, перадаючы навушнікі Косцю Кірыльчыку, папрасіў дзяўчат, каб падрыхтавалі паперу і алоўкі. Ён сказаў, што зараз пачнуць перадаваць зводку савецкага Інфармбюро.



Люба Кучмель.

З рук у рукі пераходзілі навушнікі, і кожны падпольшчык імкнуўся як мага больш патрымаць іх. Сцяпанаў сядзеў шчаслівы і час ад часу гаварыў:

— Асцярожней, хлопцы, не тузайце шнур, бо саб'еце наводку...

Амаль даслоўна дзяўчаты запісалі першую зводку, прынятую па радыё, а потым, не згаворваючыся, размножылі яе ў некалькіх экземпля-



Канстанцін Лучонак.

рах. Кожны разумеў, што заўтра, а можа і ў гэтую ноч, трэба паведаміць навіну ў вёсках. У мэтах канспірацыі было вырашана ў Прысынку зводак не распаўсюджваць, а толькі расказаць іх змест на вячорцы ў Ліды, а таксама ў асабістых гутарках. За гэтую справу ўзяліся Ліда, Вера і Люба, а хлопцы падмеліся занесці зводку ў Смалявічы і ў навакольныя вёскі.

Праз усю зіму 1941—1942 гадоў зводкі паяўляліся на платах, тэлеграфных слупах і дарожных знаках, усюды, дзе можна было іх наклеіць. Цяпер жыхары Прысынка і навакольных вёсак не былі адарваныя ад роднай краіны, ад спраў на фронце. Людзі спачатку здзіўляліся: адкуль і як паяўляюцца гэтыя зводкі! Але калі ў пачатку 1942 года ўсё часцей пачалі гаварыць пра партызан, ніхто больш не сумняваўся, што гэта справа іх рук. Нікому і ў галаву не магло прыйсці, што гэтыя весткі ўжо даўно прымаюцца ў вёсцы ў доме Косці Кірыльчыка.

Хтосьці з хлопцаў выпадкова дазнаўся, што на складзе, які стаяў на ўскраіне вёскі, ляжыць аманал у папяровых мяшках, узрывальнікі і бікфордаў шнур. Усё гэта ляжала забытае яшчэ з даваеннага часу, і дзіўна, як немцы не заўважылі. За дзве ночы падпольшчыкі перацягнулі каробкі з узрывальнікамі, шнур, а таксама мяшкі ўзрыўчаткі ў надзейнае месца і старанна схавалі.

Неяк пасля таго, як была запісана чарговая зводка, дзе гаварылася пра баявыя справы партызан, Косця Знайда сказаў:

— Сябры, а што, калі і нам прыдумаць фашыстам сюрпрыз к Новаму году? Вось было б здорава!

— У цябе ёсць канкрэтная прапанова?—спытаў Косця Кірыльчык.

— Так, ёсць,—рашуча адказаў Знайда.—Вы бачылі, колькі гітлераўцы развесілі правадоў на тэлеграфных слупах уздоўж шасейкі? Мне здаецца, што гэта іх галоўная лінія сувязі з фронтам. Каб нам удалося знішчыць гэтую сувязь хоць бы на невялікім участку, вось гэта быў бы сюрпрыз фашыстам!

Косця Кірыльчык прапанаваў падпілаваць дзесяткі паўтара тэлефонных слупоў. На дыверсію падпольшчыкі выйшлі апоўначы. Хлопцы выбралі ўчастак шасейкі кіламетраў за сем ад Прысынка, дзе амаль да самай дарогі падступаў лес. Вера і Люба засталіся на пасту каля шасейкі, каб у выпадку небяспекі папярэдзіць хлопцаў. Разбіўшыся на пары, усе ўзяліся пілаваць слупы. Дрэвы шумелі, і ў гэтым шуме не чуваць быў віск піл. Падпілаваўшы больш дзесяці слупоў, пайшлі дадому. К таму часу ўзнялася завіруха: здавалася, сама прырода памагала патрыётам.

Толькі праз некалькі дзён смельчакі дазналіся, колькі турбот яны далі фашыстам у навагоднюю ноч. Падпілаваныя слупы неўзабаве ж рухнулі, і лінія на некалькі соцень метраў парвалася. Гітлераўцы палічылі, што гэта зрабілі партызаны.

**СУСТРЭЧЫ Ў ЛЕСЕ.** Прайшла першая цяжкая ваенная зіма. Настала вясна. Зазеленелі дрэвы і кусты. Зацвілі сады. Яшчэ зімой Ліда, Вера, Люба, сёстры Марыя і Надзя Якубіцкія, Надзя і Зіна Кучмель па даручэнню сяброў двойчы хадзілі на пошукі партызан. Падоўгу яны блукалі ў лесе, крычалі на ўвесь голас, спадзеючыся такім чынам прыцягнуць увагу, але ўсё было дарэмна.

Падполле ў Прысынку за зіму папоўнілася новымі людзьмі. Соня Якубіцкая, сёстры Ліды Кірыльчык—Надзя і Зося, Шура Бароўская, Надзя Кішчук, Зоя Прышывалка і Вольга Савіцкая ахвотна памагалі распаўсюджваць зводкі, лістоўкі па розных вёсках раёна.

Жывучы ў бабулі ў Прысынку, Вольга Савіцкая часта наведвалася да сваёй маці ў Расошнае. Аднойчы, вярнуўшыся ад маці, яна паведаміла сябрам радасную вестку аб тым, што ў лесе паблізу вёсак Бабін Лес і Расошнае паявіліся партызаны і што многія жыхары, у тым ліку і яе маці, ужо сустракаліся з імі.

— Табе, Ліда, пэўна давядзецца ісці з Оляй у Расошнае,—сказаў Сцяпан Сямёнавіч.—Не вяртайцеся, пакуль не ўбачыцеся з партызанамі. Абавязкова пагаварыце з партызанскім камандзірам. Перадайце яму, што



прысынкаўскія камсамольцы не сядзяць склаўшы рукі. Раскажыце яму аб нашых справах,—Сцяпан Сямёнавіч паглядзеў на моладзь, што сядзела вакол яго, і закончыў, усміхаючыся:—Перадайце, што ў нас зброі шмат прыхавана. Скажыце партызанам, што хлопцы і дзяўчаты рвуцца на баявыя справы!..

Змяркалася, калі Ліда і Вольга дабраліся да Расошнага. На двары, куды яны зайшлі, іх сустрэла Вольчына маці.

— Што здарылася, дачушка?—спытала яна.—Учора з дому, а сёння зноў бяжыш?..

— Не хвалюйся, мама, нічога не здарылася. У нас ёсць справа да партызан, і ты павінна памагчы нам сустрэцца з імі.

Надзея Іванаўна пачала расказваць аб тым, як радасна сустрэлі партызан у Расошным. Камісар атрада расказваў пра навіны з фронту, пра баявыя справы партызан, раздаваў газеты і часопісы.

— Вось з імі вы і павінны пагаварыць,—параіла Надзея Іванаўна.—Заўтра ўвечары ён прыйдзе да майго гаспадара.

...25 чэрвеня 1942 года па рашэнню ЦК КП Беларусі ў паўночна-ўсходнюю частку Смалявіцкага раёна з-за фронту прыбыў невялікі партызанскі атрад на чале з камандзірам Сіваковым, камісарам Панкевічам і памочнікам камісара па камсамолу Дзядзюлем. Ён стаў ядром будучай партызанскай брыгады «Смерць фашызму», якая дзейнічала на аўтамагістралі і чыгунцы Мінск—Масква.

Партызан ведала насельніцтва, якое забяспечвала іх харчаваннем, перадавала зброю і боепрыпасы, папаўняла іх рады. З гэтым атрадам і была наладжана сувязь прысынкаўскай падпольнай камсамольскай арганізацыі.

Перагортваючы пажаўцелыя ад часу архіўныя матэрыялы брыгады «Смерць фашызму», мы знаходзім шмат дакументаў, якія адносяцца да падпольшчыкаў Прысынка.

«...Камсорг Кірыльчык Ліда кіруе групай падпольшчыкаў і ўцягнула ў работу ўсіх камсамольцаў сваёй арганізацыі. Звязала з райкомам камсамола многіх камсамольцаў, якія прыцягнуты да работы. Гэтая ж арганізацыя перадае вінтоўкі, гранаты і шмат боепрыпасаў»,—чытаем у справаздачах Смалявіцкага падпольнага райкома партыі.

У дзённіках і данясеннях партызанскай брыгады знаходзім такія запісы:

«...Кірыльчык Ліда накіравала ўсіх камсамольцаў сваёй арганізацыі на падрыў магутнасці нямецкай арміі. Для партызанскага атрада перадала шмат медыкаментаў, паперы, пішучую машынку...»

«...Камсорг Кірыльчык Ліда працуе па разлажэнню варожага гарнізона ў Смалявічах, а таксама сярод войск СС для пераводу іх на бок партызан, дастае і перадае партызанам боепрыпасы, паперу, медыкаменты...»

У гэтых лаканічных запісах, датаваных 1942—1943 гадамі,—выдатная баявая характарыстыка не толькі Ліды Кірыльчык як камсамольскага важака, але і ўсёй падпольнай камсамольскай арганізацыі.

**У АДНЫМ СТРАІ.** Ліда вярнулася з Расошнага праз два дні і расказала падпольшчыкам пра сустрэчы з ляснымі салдатамі.

— Іх цікавіла кожная дробязь з нашага жыцця,—гаварыла Ліда сваім сябрам.— Яны пыталіся, хто нашы бацькі, дзе мы вучыліся, калі і дзе ўступалі ў камсамол, якія даручэнні выконвалі...

— А пра нас што пыталі?—нецярпліва перапыніў яе Косця Кірыльчык.

Ліда паглядзела на яго і сказала:

— А цябе, Косця, яны прасілі, каб сам прыйшоў для размовы. Яны вельмі ўзрадаваліся, калі я расказала, што мы збіраем зброю і боепрыпасы.

— А не гаварыла аб нашым рашэнні ўступіць у партызанскі атрад?—запытаўся Павел Бужан.

Доўга яшчэ ішла гамонка ў доме Сцяпана Сямёнавіча Лучонка. Гаспадар сядзеў каля печы і ўважліва слухаў маладых. Ён радаваўся разам

з усімі, што нарэшце наладжана сувязь з партызанамі. Мусіць, цяпер і яму час збірацца ў лес, да іх.

— Дзядзька Сцяпан, — перапыніла яго думкі Ліда, — калі я расказала пра вас, партызаны зацікавіліся, кім вы працавалі да вайны, з якога года ў партыі, як апынуліся ў акупацыі. Я ім сказала, што вы камуніст.

— Дарэмна, Ліда, ты гэта сказала. Я ж беспартыйны...

Камсамольцы здзіўлена паглядзелі на дзядзьку Сцяпана. Яны ведалі яго як актыўнага савецкага работніка, лічылі, што ён член партыі. Нібы ўгадаўшы іх думкі, Сцяпан Сямёнавіч узрушана прамовіў:

— Я рады, што мяне лічаць камуністам.

Праз некалькі дзён у атрад прыйшлі Ліда і Косця Кірыльчыкі. Камандаванне параіла, каб усе камсамольцы засталіся на месцы, спынілі прыём радыёперадач і паспрабавалі паступіць на работу ў нямецкія ўстановы Смалявіч.

Пачуўшы такое рашэнне, многія хлопцы разгубіліся. Яны лічылі, што іх месца ў лесе з партызанамі: яны са зброяй у руках будуць знішчаць фашыстаў, і раптам такое...

— Я не разумею, як яны могуць пакідаць нас тут, калі ў атрадзе патрэбны людзі, — загаварыў было Павел Бужан.

— А тут і разумець няма чаго, — перапыніў яго Сцяпан Сямёнавіч. — Проста вы зараз тут патрэбны больш, чым у атрадзе.

Глыбокай ноччу пачуўся ціхі стук у акно. Косця Знайда асцярожна выскачыў за дзверы. Адчуўшы нешта таемнае, за ім пасунуўся і гаспадар Міхаіл Скуратовіч. Ён убачыў на двары фурманку і групу ўзброеных людзей. Яны хадзілі ад хлява да фурманкі, нешта, відаць, пераносячы. Падышоўшы бліжэй, Скуратовіч убачыў Косцю і зразумеў усё. Ногі нібы прыраслі да зямлі, а па спіне забегалі мурашкі. Утрапёны, ён стаяў і пазіраў, як партызаны пераносілі вінтоўкі і яшчэ нейкія скрынкі і мяшкі з хлява і ўкладвалі на фурманку. Колькі разоў на дні ён заходзіў у хлеў і ніколі не думаў, каб тут ляжала столькі зброі...

Міхаіл Скуратовіч ачомаўся, калі фурманка, парыпваючы коламі, выехала з двара.

— Што ж гэта такое, Косця? — ледзь не плакаў Скуратовіч. — Я цябе прыняў як сына, а ты хочаш загубіць маіх дзяцей!..

— Дзядзька Міхаіл, цяпер у вашым доме зброі ўжо няма і вы не хвалюйцеся, — стараўся супакоіць гаспадара Косця.

Неяк, зноў жа ўночы, у Прысынак з групай партызан прыйшоў памочнік камісара атрада па камсамолу Іван Дзядзюля. Ён доўга расказваў аб тым, як пад Масквой фарміраваўся іх атрад, як пераходзілі лінію фронту, колькі ўжо ў іх ёсць герояў-партызан, якія праславіліся ў баях...

— Вы выбралі правільны шлях, сябры, — пахваліў Дзядзюля падпольшчыкаў і параіў, каб прыцягвалі ў сваю арганізацыю больш моладзі.

Праз некалькі дзён, вяртаючыся з работы, Косця Кірыльчык наведаў Міхаіла Апацкага, якога ён ведаў яшчэ з даваеннага часу. Невялікі ўтульны домік Апацкіх у ціхім завулку на ўскраіне Смалявіч Косця знайшоў хутка. Перш чым зайсці ў хату, Косця добра агледзеў наваколле. Адразу ж за гародам пачыналася невялікае балота з хмызам, пасярод яго вузкая рачулка Пліса, а далей пагоркі, за якімі вёска Прысынак. «Гэта ж кароткі і зручны шлях. Можна, мінаючы нямецкія пасты, трапіць у Прысынак і да партызан», — адзначыў сам сабе Косця, разглядаючы мясцовасць.

Косця ў доме Апацкіх затрымаўся позна. Гутарылі шчыра і доўга. Калі зайшла гаворка пра партызан, Апацкія з захапленнем гаварылі пра гэтых смелых людзей, якія, нягледзячы ні на што, пайшлі ў лясы, каб бязлітасна біць фашыстаў.

Міхаіл расказаў, што да яго ў дом часта прыходзяць па вечарах надзейныя і смелыя хлопцы: Іосіф Міклашэўскі, Кастусь Суша, Яўген Траян, Мікалай Пілюга, Леанід Касарэўскі, Браніслаў Максімовіч. Яны ўжо даўно шукаюць магчымасці звязацца з партызанамі. Тады Косця расказаў Апацкаму пра падпольшчыкаў Прысынка і іх сувязі з партызанскім атрадам, а таксама пра сустрэчу з Іванам Дзядзюлем. Так узнікла баявая група падпольшчыкаў у Смалявічах, якая згуртавалася вакол Міхаіла Апацкага. Да гэтай групы прымыкалі і дзяўчаты: сёстры Апацкія — Зося, Вольга, Ліда і Валянціна, Насця Прыстром, Ліда Пілюга, Валя Томуць, Ганна Касарэўская і Тацяна Суша.





Міхаіл Аляксееў (Павел Бужан).



Браніслаў Максімовіч.



Міхаіл Апацкі.

Косця Кірыльчык, Павел Бужан і іншыя часта наведвалі дом Апацкіх, дзе сустракаліся з падпольшчыкамі, перадавалі ім заданні партызан, лістоўкі, а ад іх атрымлівалі інфармацыю. Міхаіл Апацкі, у сваю чаргу, хадзіў у Прысынак, а іншы раз і да партызан.

...Пасля таго, як наладзіліся сувязі з партызанамі, дзейнасць падпольшчыкаў Прысынка і Смалявіч стала больш актыўнай і мэтанакіраванай. Партызанам спатрэбіліся звесткі аб дыслакацыі нямецкіх часцей у Смалявічах, аб раённай жандармерыі і паліцыі, і за гэтую справу ахвотна ўзяліся падпольшчыкі.

Павел Бужан паступіў на работу пісарам у ветэрынарны аддзел Смалявіцкай раённай управы. Міхаіл Апацкі афарміўся шафёрам у дарожным аддзеле ўправы. Валя Томуць пачала працаваць у ларку, дзе атрымлівалі прадуктовыя пайкі паліцэйскія, а Тацяна Суша і Ганна Касарэўская ўладкаваліся медсёстрамі ў бальніцу. Косця Суша стаў білецёрам у нямецкім клубе.

Знаходзячыся ў Смалявіцкім раёне, брыгада «Смерць фашызму» адразу ж наладзіла сувязі з мінскім падполлем і патрыётамі Барысава. Кожны візіт у Мінск і Барысаў быў звязаны з вялікай рызыкай. І выконваць заданні партызан у гэтых гарадах маглі толькі смелыя і спрактыкаваныя сувязныя.

Партызаны атрымалі данясенне з Мінска аб тым, што там падрыхтаваны батарэі для рацыі і падрабязная карта Беларусі. Камандаванне брыгады пасля дакладнага абмеркавання вырашыла паслаць у Мінск каго-небудзь з камсамольцаў Прысынка. Выбар выпаў на Веру Кірыльчык і Любу Кучмель, якія да вайны вучыліся ў Мінску і добра ведалі горад. Дзяўчаты ахвотна згадзіліся. На наступны дзень, напакаваўшы кошыкі, яны выправіліся ў дарогу. План быў просты: падкупіць даверлівых немцаў.

Дабраўшыся да Мінска, дзяўчаты ўпэўніліся, што прайсці назад праз нямецкія пасты з небяспечнымі рэчамі ім не ўдасца. На першым пасту ва Уруччы немец з перакладчыкам вельмі пільна праглядалі іх кошыкі. Каля парка Чалюскінцаў іх зноў прымусілі вывернуць кішэні і высыпаць усё, што было там. Не памаглі ні гарэлка, ні яйкі.

7*

— Што ж мы будзем рабіць цяпер, Вера? — разгублена спытала Люба, калі яны праходзілі па вуліцах горада.

— Партызаны даверылі нам гэта заданне, і мы павінны выканаць яго абавязкова, — адказала сяброўка.

Дом яўкі на вуліцы Усходняй адшукалі хутка. Гаспадар дома прытварыўся хворым, але калі дзяўчаты назвалі пароль, ён устаў з ложка і пачаў распытваць, як яны дабраліся і што новага ў партызанскім краі. Потым ён выйшаў на двор і вярнуўся з батарэямі, якія памог дзяўчатам упакаваць у кошыкі. Загорнутую ў пачак карту падаў дзяўчатам і загадаў, каб схавалі яе пад вопраткай.

Дзяўчаты адправіліся дадому. Спачатку ім здавалася, што кожны прахожы падазрона глядзіць на іх, на кошыкі ў іх руках. Выйшаўшы на цэнтральную вуліцу, дзе часцей пачалі сустракацца афіцэры і паліцэйскія, дзяўчаты з напружаннем чакалі, што іх вось-вось аклікнуць. Ужо блізка і парк Чалюскінцаў, а яны яшчэ не ўяўлялі сабе, якім чынам ім удасца выбрацца з горада. Смелы і рызыкоўны план прыйшоў нечакана. Адкрытая легкавушка, скрыгатнуўшы тармазамі, спынілася каля дзяўчат, што стаялі на абочыне шасейкі з паднятымі рукамі. Прад'яўляючы пропускі, атрыманыя ў Смалявічах з дапамогай Паўла Бужана, і паказваючы на кошыкі, дзяўчаты сказалі, што ім трэба пад'ехаць да Смалявіч. Тоўсты, у пенснэ нямецкі афіцэр сярэдніх год, што сядзеў побач з шафёрам, сказаў нешта па-нямецку, потым, перагнуўшыся, адкрыў дзверцы:

— Біттэ, фраў! Вы может езжайт нах Барысаў!..

Трымаючы перад сабой кошыкі, дзяўчаты ўскочылі ў легкавушку. Але ж наперадзе яшчэ пасты: што, як спыняць, як пачнуць трэсці?.. А раптам афіцэру ўздумаецца паглядзець іх кошыкі?..

Неўзабаве Вера і Люба зноў хадзілі ў Мінск па бланкі «аўсвайсаў». І на гэты раз таксама смела і з вялікай рызыкай скарысталі спадарожную машыну гітлераўцаў.

Не драмалі ва ўправе Павел Бужан і Міхаіл Апацкі. Яны далі партызанам каштоўныя звесткі аб дзейнасці акупацыйных улад, іх намерах і планах. З улікам гэтых звестак баявыя дзеянні партызан праходзілі найбольш паспяхова. Усё часцей зрываліся дасканала прадуманыя аперацыі работнікаў сельгаскамендатуры разам з паліцыяй, бо партызаны дзейнічалі там, дзе іх не чакалі.

Многіх чырвонаармейцаў, часта са зброяй, падпольшчыкі перапраўлялі да партызан. І ў гэтым не малая заслуга Паўла Бужана.

Увосень 1942 года Павел Бужан паведаміў партызанам, што акупанты рыхтуюцца да стварэння ў Смалявічах батальёна самааховы. З гэтай прычыны ў раённую ўправу паступілі розныя нямецкія дырэктывы. Патрыётам Прысынка было даручана выкрасці гэтыя важныя паперы. За справу ўзяўся Павел. Яму памагала Ліда, якая павінна была забраць паперы і перадаць партызанам.

Усё ішло паводле плана. Калі ўсе работнікі ўправы разышліся, Павел прабраўся ў пакой ваеннага аддзела, загадзя падабраным ключом адчыніў шафу. Ліда цікавала паблізу пад вокнамі і пільна сачыла, каб ніхто не прыйшоў ва ўправу. Але сігнал аб небяспецы падаў нечакана сам Павел. Ён падышоў да акна спакойна, але калі выкінуў за акно сумку і вярнуўся назад у пакой, Ліда адчула трывогу. Аказваецца, укладваючы дакументы ў сумку, Павел пачуў крокі ў калідоры. Запіхнуўшы паперы зноў у шафу, ён выкінуў сумку за акно, і толькі пачаў зачыняць шафу, як дзверы адчыніла прыбіральшчыца. Яна здзіўлена пазірала на Бужана. Трымаючыся як мага спакайней, Павел сказаў:

— Загадчык вось пайшоў, а шафу пакінуў адчыненую...

Прыбіральшчыца не паказала выгляду, што з падазрэннем аднеслася да ўчынку Паўла. І гэта яго супакоіла. Расказаўшы ўвечары сябрам аб правале, ён запэўніў, што прыбіральшчыцу яму ўсё ж удалося абхітрыць. Сябры параілі яму не ісці на работу, аднак ён усё ж раніцай з'явіўся ва ўправу.

Сярод дня ў Прысынак нахлынула паліцыя і пачала шукаць Паўла Бужана і яго сяброў-прыпіснікоў. Дазнаўшыся пра гэта, Сцяпанаў, Мірошын і Светцаў непрыкметна гародамі пачалі прабірацца за вёску. Іх заўважылі карнікі і наладзілі пагоню, страляючы па іх з вінтовак. Сцяпанава куля насцігла ў той момант, калі ён пераадолеў апошнюю перашкоду — плот, за якім чакаў яго ратунак, бо адразу ж тут гусцеў хмызняк. Гэты ж хмызняк уратаваў Светцава і Мірошына.

Пад вечар адзінокая фурманка, акружаная з усіх бакоў п'янымі паліцэйскімі, прагрукацела па вуліцы ў Смалявічы. І хоць вёска здавалася бязлюднай, з вокан і хлеўчукоў жыхары пахмурным маўчаннем праводзілі ў апошні шлях Сцяпана Сцяпанава. Камсамольцы-падпольшчыкі, баявыя сябры Сцяпанава, з болем у сэрцы і слязамі на вачах перажывалі яго смерць, і кожны ў думках пакляўся спаўна адпомсціць гітлераўцам.

Праз некалькі дзён Косцю Кірыльчыка ноччу наведаў Павел Бужан. Ён зайшоў развітацца са сваімі сябрамі і дазнацца пра навіны ў Прысынку. Вестка аб смерці Сцяпанава ўзрушыла Паўла. Крыху супакоіўшыся, расказаў, што калі ён з'явіўся на работу ва ўправу, яго арыштавалі, прывялі ў паліцыю. Калі на некалькі хвілін пакінулі аднаго ў калідоры, ён выскачыў на двор, у дзвярах сутыкнуўся з паліцаем, але той ударыў яго па твары і прыкрыкнуў, каб убіраўся з вачэй. Гэта бачыў вартавы ў варотах і прапусціў Паўла, мяркуючы, што з ім ужо разабраліся. Павел схаваўся ў Смалявічах, праседзеўшы ў хляве двое сутак.

— Хіба ж я ведаў, што так здарыцца, — у роспачы сказаў Павел, нібы апраўдваючыся ў нечым перад сябрамі, хоць яго ніхто не вінаваціў.

...1943 год. Па ўсёй Беларусі гарэла зямля пад нагамі фашысцкіх захопнікаў. Народныя мсціўцы не давалі ім спакою ні ўдзень, ні ўночы. Уся паўночная частка Смалявіцкага раёна да Маскоўскай магістралі ўяўляла сабой партызанскую зону. Тут дзейнічалі брыгады «Смерць фашызму» і «За Савецкую Беларусь». На поўдні за дзесяць кіламетраў ад Смалявіч размяшчаліся партызанскія атрады брыгады «Разгром». Узмоцнена ахоўвалася фашыстамі толькі чыгунка і аўтамагістраль. На кожным кіламетры былі ўмацаванні, дзе круглыя суткі дзяжурылі гітлераўцы. Аднак усё часцей ляцелі пад адхон нямецкія эшалоны з тэхнікай і жывой сілай, падрываліся аўтамашыны на шашы, ляцелі ў паветра нямецкія склады і ваенныя аб'екты ў Смалявічах. У гэтых слаўных баявых справах побач з партызанамі дзейнічалі камсамольцы Прысынка і Смалявіч.

Вёска Прысынак, блізкая да камунікацый і ваенных аб'ектаў, набыла для партызан вялікае значэнне. Нямецкі прыслужнік Навіцкі збег з сям'ёй у Смалявічы, і цяпер партызанскія баявыя групы былі частымі гасцямі ў вёсцы, начавалі, а іншы раз і днявалі, чакаючы зручнага моманту для дыверсіі. Калі яны мелі патрэбу ў дапамозе, то Косця Кірыльчык, Косця Знайда і Косця Лучонак з вінтоўкамі далучаліся да іх і абходнымі сцежкамі, мінаючы нямецкія пасты і бункеры, праводзілі на заданне. Падпольшчыкі разам з партызанамі хадзілі на падрыў эшалонаў і ваенных аб'ектаў, удзельнічалі ў баях з карнікамі.

Аднойчы разам з групай партызан-падрыўнікоў падпольшчыкі ўзарвалі эшалон на перагоне Смалявічы — Барысаў. Аперацыя прайшла паспяхова. У сваім дзённіку аб выніках гэтай аперацыі партызаны запісалі: «Група партызана Юрчанкі (4 чал.) і сувязныя з вёскі Прысынак падарвалі эшалон, які ішоў у Барысаў. Скінуты паравоз і пяць вагонаў. У гэты ж час зрэзаны 43 слупы на аўтамагістралі, знята два кіламетры провада».

Цікава, што пасля выбуху на чыгунцы немцы ўзнялі трывогу і кінуліся ў пагоню. Ведаючы, што партызаны будуць адыходзіць у сваю зону, гітлераўцы ўзмацнілі ахову аўтамагістралі. Партызанам, заціснутым паміж чыгункай і шасейкай, здавалася, што яны акружаны з усіх бакоў. Што рабіць?

Кірыльчык, Знайда і Лучонак, якія былі недалёка ад шасейкі, ударылі з вінтовак, каб адцягнуць увагу варты, а партызаны тым часам непрыкметна перайшлі шашу. Адышоўшыся, яны далі сігнал, і хлопцы, карыстаючыся цемрай, знаёмымі сцежкамі дабраліся дадому.

Аднойчы партызаны з атрада «Дзядзі Колі» прабіраліся цераз шашу. Аднаго з іх параніла, і ён не здолеў адысці ў партызанскую зону. Хлопцы-

падпольшчыкі аказалі яму першую дапамогу і схавалі ў вёсцы. А на наступны дзень прыдумалі і ажыццявілі смелы план — даставілі яго ў вёску Куркова, у партызанскую зону. Параненага пасадзілі на сані і з Верай Кучмель, якая апранулася нявестай, адправілі ў дарогу. Аўтамагістраль моцна ахоўвалася, але дзяўчаты адважыліся на рызыкоўны шлях — цераз Смалявічы. З вясельнымі песнямі яны праехалі на вачах у немцаў і паліцэйскіх. А варта было сцягнуць коўдру з ног маладых, і можна было б убачыць, што ў жаніха толькі на адной назе быў валёнак, а другая — у акрываўленых бінтах. Побач ляжалі гранаты і зараджаны пісталет.

...У цэнтры Смалявіч, у будынку былой сінагогі, гітлераўцы адкрылі клуб, дзе дэманстраваліся кінакарціны і наладжваліся танцы для нямецкіх салдат і афіцэраў. Але туды заходзілі і цывільныя. З таго часу, як білецёрам у клубе стаў Косця Суша, смалявіцкія падпольшчыкі пачалі выкарыстоўваць клуб у сваіх мэтах. Пасля сеансаў гледачы знаходзілі партызанскія лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро. Каб яго не западозрылі, Косця іншы раз падбіраў у зале адну-дзве лістоўкі і перадаваў у паліцыю. А калі яго пачыналі дапытваць, каго ён з жыхароў падазравае ў гэтых партызанскіх справах, Косця паціскаў плячамі:

— У клубе знаходзіліся нямецкія салдаты, а з цывільных былі ў асноўным служачыя...

Не мог жа ён сказаць, што ў часе дэманстрацыі фільма ён у залу прапускаў сваіх сяброў Леаніда Касараўскага, Міколу Красінскага і Яўгена Траяна з лістоўкамі ў кішэнях.

Неяк хтосьці прапанаваў:

— А што каб міну пакласці ў клубе?

— Для гэтага трэбаналучыць момант, каб нікога не было ў зале з нашых савецкіх людзей, — папярэдзілі хлопцаў партызаны. Згадзіўшыся з гэтым планам, яны прасілі паведаміць, калі будзе такая магчымасць. І яна неўзабаве надарылася. Білецёр Кастусь Суша паведаміў, што прыслалі сакрэтны кінафільм, які будуць паказваць толькі для нямецкіх салдат і афіцэраў. Удакладніўшы час і дзень, Кастусь праз Апацкіх паведаміў аб гэтым партызанам. За суткі да пачатку сеанса да Сушы позна ўвечары Браніслаў Максімовіч прывёз партызана Бараноўскага, і яны ў адной з печаў замаскавалі міну замаруджанага дзеяння.

— Ну, Косця, цяпер табе трэба неяк уцякаць са Смалявіч, — развітваючыся, параілі яму сябры. Яны не ведалі, што партызаны аб гэтым паклапаціліся загадзя. Білецёр атрымаў заданне ў тую ж ноч адвезці да партызан сям'ю Віктара Туміловіча, а наступнай ноччу прыехаць па яго самога да вёскі Пастухі пад Мінскам.

Партызанскі сувязны Віктар Туміловіч некаторы час працаваў касірам у Смалявіцкім банку. Атрымаўшы распараджэнне выехаць у Мінск для абмену савецкіх грошай на нямецкія маркі, Віктар вырашыў, што гэта самы падыходзячы момант пайсці ў партызаны і павезці з сабой мільён грошай. Ён звярнуўся за дапамогай да Міхаіла Апацкага. Узнік план, па якім Апацкі даставіць Туміловіча спачатку ў Мінск, дзе ён атрымае нямецкія маркі, а потым да вёскі Пастухі, дзе іх будзе чакаць з падводай Кастусь Суша.

...Выбух страсянуў трухлявую сінагогу дакладна ў вызначаны час, калі дэманстраваўся кінафільм. Паляцела цэгла, тынкоўка і шкло. Здавалася, абрушыўся ўвесь дом. Чорныя ад пылу і дыму, з вокнаў і дзвярэй у паніцы выскоквалі аглушаныя і пакалечаныя немцы, разбягаючыся хто куды.

У тую ж ноч жандармерыя пачала арышты. Сярод падазроных аказалася і сям'я білецёра. Кастуся арыштавалі раніцай, калі ён вярнуўся ў Смалявічы ад партызан. Яго доўга дапытвалі, білі, а ў яго быў адзін адказ: «Ездзіў у Мінск і пра выбух нічога не ведаю». Праз два тыдні Кастуся Сушу вызвалілі.

Узмацніўшы з вясны 1943 года дыверсійную дзейнасць у раёне, партызаны пачалі шырэй выкарыстоўваць у гэтых мэтах сваіх сувязных і падпольшчыкаў. Вера Кірыльчык некалькі разоў у сваёй сумачцы прыносіла



ў Смалявічы ад партызан міны для падпольшчыкаў. Калі патрыёты падрыхтаваліся да ўзрыву вадакачкі, партызаны перадалі ім праз прысынкаўскіх камсамольцаў узрыўчатку. Косця Знайда ў малочных бітонах адвёз узрыўчатку тым, хто меўся пусціць у паветра вадакачку. Косця Кірыльчык перавозіў з канспіратыўнай кватэры ў Дубняках партызанскія міны ў вядры з квашанкай...

**ЗА ПАРТЫЗАНСКУЮ МАЦІ.** Той жа вясной вялікае і непапраўнае гора спасцігла сям'ю Савіцкіх. За сувязь з партызанамі фашысты расстралялі Івана Васільевіча Савіцкага. Застаўшыся з чатырма дзецьмі, яго жонка Надзея Іванаўна не пала духам. Яна мужна перанесла цяжкую страту дарагога чалавека, яшчэ бліжэй звязала свой лёс з партызанамі, даючы ім прытулак у цяжкі час. Вяртаючыся з заданняў, стомленыя і змакрэлыя, яны заходзілі да Савіцкай, як да роднай маці.

— Ну, цяпер мы дома, — звычайна гаварылі партызаны, заходзячы ў дом да Савіцкай. Скінуўшы мокрую вопратку, яны клаліся на салому, прынесеную гасцціннай гаспадыняй, і засыналі мёртвым сном. А Надзея Іванаўна паліла камінок, развешвала над печчу мокрую вопратку і бралася абіраць бульбу. Праз дзве-тры гадзіны, адпачыўшы і падсілкаваўшыся, партызаны працягвалі свой шлях.

Аднойчы, калі ў дом да Савіцкай зайшоў партызанскі камандзір, Надзея Іванаўна звярнулася са сваёй старой просьбай:

— Ведаю, што вам патрэбен такі чалавек, якім быў мой Іван. Я хацела б замяніць яго...

Неўзабаве яе пачалі накіроўваць з заданнямі ў Жодзіна і Смалявічы. Калі пачалася новая блакада супраць партызан, людзі з вёсак кінуліся ў лес. Надзея Іванаўна разам з аднавяскоўцамі хавалася недалёка ад вёскі. У часе адной з аблаў яе схапілі гітлераўцы. Жанчына ішла, унурыўшы галаву, знаёмай дарогай у бок сваёй вёскі. Яна не чула злосных крыкаў канваіраў, бо ўсе думкі яе былі пра дачок, якіх праводзіла ў лес: «Што з імі цяпер будзе? Ці дазнаюцца, дзе мяне расстраляюць?» Ніякага страху не было, толькі ва ўсім целе адчуваўся нейкі незвычайны цяжар. Дыхнуў ветрык, і Надзея Іванаўна ўлавіла гаркавы пах. На тым месцы, дзе быў яе двор, чарнела папялішча ды ўзвышалася абгарэлая печ. Нейкая невыказная трывога напоўніла душу: «Дзе цяпер будуць мае дачушкі? Хто іх прыгорне і абагрэе?»

Ля пажарышча жанчына прыпынілася. У апошні раз захацелася паглядзець на тое месца, дзе пражыла жыццё, выгадавала дзяцей, але ў гэты час з лесу данесліся страляніна і крыкі. Яна не чула каманды лажыцца. Карнік прыкладам збіў яе з ног. Толькі тады яна заўважыла, што ўсе, хто ішоў з ёю, і жанчыны і канваіры, ляжаць на зямлі пры дарозе. Яна пачала адпаўзаць убок і хутка апынулася на сваім дварышчы каля студні з падгнілым зрубам. Думка аб паратунку прыйшла нечакана. Яна намацала нагамі прагніўшую сценку і ціха спаўзла ў студню.

Як толькі да Прысынка дайшла чутка, што карнікі пайшлі ў кірунку возера Палік, Вольга Савіцкая з трывогай у сэрцы падалася ў Расошнае. Яна знайшла сясцёр на пагарэлішчы. Трое сутак галодныя і стомленыя яны бадзяліся па лесе. Вярнуўшыся ў вёску, дазналіся, што ў іх няма маці, няма хаты. Аднавяскоўцы расказалі, што фашысты злавілі іх маці ў лесе і расстралялі. Зося, Зіна і Марыся расказвалі Вользе, як яны з маці хаваліся ў лесе. Потым маці адправіла іх у гушчар, а сама засталася на ўскрайку, каб схадзіць па харчы. Больш яны яе не бачылі. Слухаючы сясцёр, Вольга плакала разам з імі. Трохі супакоіўшыся, дастала з торбы хлеб і бутэльку малака.

— Паешце, — сказала яна дзяўчынкам, — а я пайду бульбы накапаю, зварым...

Увечары на пагарэлішча прыйшлі двое партызан. Дзяўчынкі адразу пазналі іх, бо не адзін раз бачылі ў сваім доме. Партызаны наважылі дазнацца, дзе знаходзіцца з сям'ёй сувязная Надзея Іванаўна Савіцкая. І цяпер



Надзея Іванаўна Савіцкая.

моўчкі, з суровымі тварамі слухалі ўсё, што расказвалі ім усхваляваныя і перапалоханыя дзеці.

Раптам з таго боку, дзе была студня, данёсса слабы, прыглушаны крык, а потым стогн. Услухаўшыся, партызаны зразумелі, што нехта ў студні. Дзяўчынкі кінуліся туды і ў адзін голас закрычалі:

— Мама наша ў студні, ратуйце яе!

Партызаны выцягнулі Надзею Іванаўну адтуль. Прамоклая, з сінякамі і драпінамі, маці праляжала ў студні амаль чацвёра сутак. Апрытомнела яна толькі ля партызанскага кастра. Папраўіўшыся, пайшла з дзецьмі ў Прысынак.

З таго часу сувязь падпольшчыкаў з партызанамі ішла праз спецыяльна вылучанага для гэтага партызана Рыгора Якімовіча. Прыход у Прысынак Рыгора Якімовіча, як і ўсякага іншага пасланца ад партызан, ператвараўся ў своеасаблівы камсамольскі сход. Да глыбокай ночы патрыёты чыталі зводкі, газеты і лістоўкі, раіліся, як лепш выканаць чарговае заданне.

Трэба было распачаць работу сярод салдат чэхаславацкага гарнізона, каб яны перайшлі на бок партызан. Улетку акупацыйныя ўлады зноў пагналі моладзь на торфараспрацоўкі. Па дарозе на балота дзяўчатам даводзілася хадзіць ля нямецкай воінскай часці. Яны звярнулі ўвагу, што салдаты не надта строга адносяцца да рускіх — спыняюць дзяўчат і дружалюбна з імі размаўляюць, жартуюць. Адчувалася, што яны незадаволены вайной і службай і выказваюць сімпатыі да партызан. Гэта было падраздзяленне чэхаславакаў, якіх рыхтавалі да адпраўкі на фронт.

Неўзабаве ў дзяўчат паявіліся знаёмыя чэхі. Падпольшчыцы пачалі насіць ім зводкі і заклікі партызан. Потым настаў час, калі знаёмыя чэхі ад імя групы таварышаў заявілі аб жаданні перайсці да партызан і папрасілі дзяўчат наладзіць сувязь з камандаваннем. Позняй ноччу дзяўчаты сустрэліся з узброенай групай салдат-чэхаў, праводзілі іх за аўтамагістраль, дзе чакалі партызаны.

У тое лета падпольшчыкі шмат зрабілі, каб забяспечыць партызан медыкаментамі. Яны пазнаёміліся з надзейнымі людзьмі ў бальніцах, аптэках і шпіталях і атрымлівалі ад іх патрэбныя матэрыялы. Тут вызначыліся падпольшчыцы Таццяна Суша, Ганна Касарэўская, Надзежда Якубіцкая, а таксама Надзея Кішчук, якую не адзін раз пасылалі па медыкаменты ў Мінск.

Не ведалі немцы спакою і на торфараспрацоўках. Прыгледзеўшыся як мае быць, Косця Знайда прапанаваў сябрам план знішчэння торфамашын. Праз некалькі дзён, ідучы з работы, ён паклаў пад гэтыя машыны міны з гадзіннікавым механізмам, і раніцай рабочыя ўбачылі груды металу, раскіданага выбухам.

Як вядома, участак аўтамагістралі паблізу Прысынка знаходзіўся пад наглядам падпольшчыкаў. Яны выявілі, што ў гэтым месцы гітлераўцы праклалі падземны кабель. Адразу ж выспела рашэнне зрабіць дыверсію на гэтай важнай лініі сувязі. Прабраўшыся ноччу хмызнякамі да месца, дзе праходзіла ледзь прыкметная канаўка, хлопцы адкапалі ў трох месцах кабель, перасеклі яго, пабралі кавалкі і закапалі ў ямы.

**ВЫБУХ У СМАЛЯВІЧАХ.** Праз усю дарогу з Смалявіч да вёскі Каменка Ліду Пілюгу не пакідала думка, чаму партызаны выклікалі іменна яе. Ну, няхай бы каго з Апацкіх, Валю Томуць ці каго з хлопцаў, якія часта хадзілі да іх, а то раптам яе — невядомую дзяўчыну.

Каля самай вёскі Ліду сустрэў Іосіф Міклашэўскі, які нядаўна пайшоў





Мікалай Красінскі.



Ліда Апацкая.



Ліда Пілюга.

да партызан. Ён адразу загаварыў пра тое, каб Ліда пайшла з ім да камандзіра.

— Ты не бойся, будзь смелай, згаджайся, — падбадзёрваў ён дзяўчыну. — Ведаеш, якая гэта будзе справа!..

— З чым згаджацца, якая справа? — недаўменна перапытвала Ліда. Міклашэўскі тлумачыў:

— Я расказаў камандзіру атрада, што ў вашым доме пасяліўся нямецкі афіцэр з ад'ютантам, і прапанаваў план знішчэння іх.

Яшчэ не разумеючы як след, што ад яе патрабуюць, Ліда спытала:

— Як жа ты збіраешся яго знішчыць, калі ён толькі на ноч прыходзіць у хату, а на двары круглыя суткі стаіць варта.

— Справа ў тым, што не мне, а табе давядзецца яго знішчаць, — сказаў Міклашэўскі. — Я рашыў папярэдзіць, каб ты была смялейшая і больш рашучая ў размове з камандзірам.

Ад нечаканасці Ліда спынілася. І сапраўды, як жа знішчыць гэтага фашыста? Хто ёй можа дапамагчы? Што здарыцца потым з маці і сястрычкай? Аб усім гэтым ёй хацелася спытаць, але Міклашэўскі, нібы здагадаўшыся пра яе намер, сказаў:

— Пойдзем, Ліда, пагаворыш з камандзірам, там будзе відаць.

Ліда разгубілася, калі размаўляла з партызанскім камандзірам. І той, паглядзеўшы на Міклашэўскага, сказаў:

— Гэта ты, Юзік, дзяўчыну гэтак напалохаў ці яна такая нясмелая?

— Ды не, таварыш камандзір, гэта я хацеў падрыхтаваць яе да размовы з вамі і сказаў, што ёй трэба будзе рабіць, — вінавата прагаварыў Міклашэўскі.

— Вось гэта называецца падрыхтаваў! — засмяяўся камандзір, а потым сур'ёзна, звяртаючыся да Ліды, пачаў: — Вам, Ліда, лягчэй за ўсё будзе выканаць гэта адказнае заданне, бо вартавыя дазваляюць заходзіць вам у дом...

— Гэта правільна, таварыш камандзір, мне і маці немцы дазваляюць заходзіць у хату па прадукты, — крыху смялей загаварыла Ліда.

— А вас абшукваюць вартавыя, калі ідзяце ў дом з кошыкам ці з мяшком?

— Іншы раз паглядзяць, што ў кошыку ці ў мяшку, а то і так пускаюць, — адказала Ліда.

Камандзір узняўся ад стала, некалькі разоў прайшоўся па хаце, а потым падышоў да Ліды і, гледзячы ёй у вочы, спытаў:

— Ліда, ці не здолееце вы пранесці ў дом міну і ноччу прыйсці сюды, каб больш не вяртацца ў Смалявічы?

Дзяўчына адказала рашуча і цвёрда:

— Здолею. — І,памаўчаўшы, дадала: — Я толькі хачу спытаць, як мне быць з мамай і сястрычкай?

— Як толькі вернецеся ў Смалявічы, адразу ж адпраўце іх у Каменку, — адказаў камандзір. — Юзік сустрэне і правядзе іх.

...Апоўдні Ліда Пілюга вярнулася ў Смалявічы. У рэчавым мяшку з мукой яна пранесла завадную міну. Праводзіўшы маці і сястру Галю ў Каменку, яна да вечара поркалася на гародзе. Парвала на градках цыбулю, а потым узялася пераносіць яе на гарышча. Вартавы праводзіў яе да хаты толькі з першым кошыкам і, упэўніўшыся, што яна пераносіць цыбулю, не стаў так пільна сачыць за ёю. Паклаўшы ў кошык міну, яна накідала зверху цыбулі, аднесла на гарышча і замаскіравала яе ў кучы гародніны. Цяпер можна было ісці назусім, але Ліда ведала, што выбух павінен быць раніцай, таму яна рашыла яшчэ развітацца з Апацкімі.

У доме Апацкіх яна застала Браніслава Максімовіча, Леаніда Касарэўскага і Міколу Красінскага. Хлопцы сядзелі, не запальваючы святла, і ціха размаўлялі з Антонам Фамічом Апацкім — гаспадаром дома. Ліда Апацкая завіхалася ў мыцельніку, памагаючы маці. Убачыўшы сяброўку, яна правяла яе на другую палавіну.

— Ну, расказвай, Лідачка, што новага прынесла ад партызан? — запальваючы каганец, загаварыла Апацкая.

— Ды нічога асаблівага, — няпэўна адказала Ліда. — Я прыйшла развітацца з вамі. Мне загадана ісці ў лес, да партызан...

Гэта вестка здзівіла ўсіх. Сябры зашумелі, загаварылі, але ніхто больш не пытаўся, чаму яна так паспешна пакідае вёску. Для ўсіх было ясна, што яна выконвае нейкае важнае заданне.

— Тады пойдзем, дачка, паеш на дарогу, — загаварыла старая Апацкая і павяла Ліду да стала.

...З работы прыйшлі Міхаіл Апацкі і Косця Кірыльчык. Антон Фаміч пайшоў у бакоўку. Да хлопцаў далучылася і Ліда Пілюга. Яна дамовілася, што Косця праводзіць яе да Прысынка.

Браніслаў Максімовіч, суха і часта кашляючы, сказаў, што перададзеныя яму лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро ён раздаў у саўгасе. Яму памагалі ў гэтым Віктар Сасіновіч, Іван Раманенка і Нічыпар Хайкоў.

Нягледзячы на цяжкую хваробу лёгкіх, Браніслаў Максімовіч з першых дзён акупацыі ўключыўся ў актыўную барацьбу з фашыстамі. Ён перадаваў партызанам каштоўную інфармацыю пра гітлераўцаў, што размяшчаліся на сядзібе саўгаса, распаўсюджваў лістоўкі і зводкі, з дапамогай прысынкаўскіх падпольшчыкаў перапраўляў чатырох чырвонаармейцаў да партызан. Займаючыся з дзяцінства фотасправай, Браніслаў па заданню партызан сфатаграфаваў мост цераз раку Пліса і расправу над патрыётамі ў Смалявічах. Валянціна Апацкая перадала здымкі партызанам.

Кранутыя ўвагай і клопатамі партызан, Браніслаў Максімовіч, звяртаючыся да Ліды, сказаў:

— Перадай, калі ласка, хлопцам маю падзяку за пасылку і скажы, што я адчуваю сябе лепш...

Пачалі раіцца наконт таго, як зрабіць дыверсію на прамкамбінаце. Былі дзве спробы, але кончыліся яны няўдачай. Цяпер за гэту справу добраахвотна браўся Леанід Касарэўскі. Ён сказаў:

— Даручыце мне, бо я працую качагарам і гэта зрабіць мне будзе спадручней...

— Ты ж ведаеш. Лёня, на прамкамбінаце шмат нашых таварышаў, і хаты вашы побач. Таму партызаны не спяшаць з гэтай справай, — сказаў Косця Кірыльчык і пайшоў з Лідай дадому.

А Браніслаў, Мікола і Леанід не маглі ісці так позна па гарадку. Яны засталіся начаваць у Апацкіх. Такое здаралася часта.

Раніцаю домік Апацкіх здрыгануўся ад блізкага, моцнага выбуху. З вокан са звонам паляцела шкло. На двары пачуўся тупат ног, лязганне



зброі і крыкі нямецкіх салдат. Усе ў доме падхапіліся, але ніхто не ведаў, што здарылася. Вярнуўшыся са двара, Антон Фаміч паведаміў, што ўся ўскраіна ачэплена немцамі. Неўзабаве ў дом зайшлі гітлераўцы і ўсіх выгналі на вуліцу. Там было ўжо шмат мужчын, жанчын і дзяцей, якіх карнікі акружылі з кулямётамі. У натоўпе разносіліся чуткі: «Узарваны дом Пілюгаў, дзе жыў важны нямецкі афіцэр».

Апоўдні людзей распусцілі па хатах. Стала вядома, што афіцэра не было дома. А знікненне гаспадыні з сям'ёй са Смалявіч выдавала вінаватых у дыверсіі.

Увечары ў доме Апацкіх зноў сабраліся патрыёты. Доўга спрачаліся, што так няўдала атрымалася з выбухам, але ўсе сыходзіліся на думцы: не ўдалося сёння, удасца заўтра, фашыстам не будзе спакою ў Смалявічах.

Неўзабаве ўзляцеў у паветра будынак смалявіцкай паліцыі, грымнуў выбух на пошце. Напярэдадні Кастрычніка на будынку раённай управы былі вывешаны чырвоныя сцягі, а партызанскія лістоўкі цяпер даводзілася здымаць не толькі з платоў і слупоў, але і з дзвярэй жандармерыі.

**АПОШНІЯ ВЫПРАБАВАННІ.** Настала яшчэ адна ваенная зіма. Савецкая Армія вызваляла родную зямлю ад фашысцкіх захопнікаў. З набліжэннем фронту ўсё больш звярэлі гітлераўцы, шнырылі ўсюды, шукаючы, да каго б прычапіцца. У Смалявіцкім раёне пачаліся масавыя арышты і вобыскі мірных жыхароў.

2-га лютага 1944 года начальнік Смалявіцкай паліцыі Хагемаер з двума паліцэйскімі арыштавалі Косцю і Веру Кірыльчыкаў. Іх абвінавацілі ў сувязі з партызанамі. Пратрымаўшы два тыдні ў Смалявічах, іх, збітых і акрываўленых, адправілі ў мінскае СД. Брат і сястра разумелі, што наперадзе новыя выпрабаванні, але рашылі лепш памерці, чым сказаць хоць слова пра сваіх сяброў-падпольшчыкаў.

На першым допыце ў Мінску, прытварыўшыся дуракаватым хлопцам, Косця бажыўся і кляўся, што ён ніколі не бачыў партызан і не ведае нават, дзе тая вёска Дубнякі, а таксама, хто такія Чарнуха і Шымко, у сувязі з якімі іх абвінавачвалі. Афіцэр узлаваўся, і па яго сігналу двое гестапаўцаў накінуліся на Косцю, пачалі біць і здзекавацца. Непрытомнага, яго аблілі халоднай вадой і чакалі, пакуль ачуняе. А тады задалі пытанне, якое прагучала, як абвінавачванне:

— Скажаш праўду, перастанем біць, адпусцім дадому!..

Косця ўзняў галаву і ціхім, хрыплым голасам прамовіў:

— Нічога не ведаю, не вінаваты я...

І зноў на яго пасыпаліся ўдары. Потым яго кінулі ў камеру, дзе ён праседзеў усю ноч, не маючы магчымасці прылегчы, бо ўсё цела было ў крывавых рубцах і сіняках.

На наступным допыце Косцю Кірыльчыка зноў катавалі, але ён трымаўся мужна, паўтараў адно і тое ж: «Нічога не ведаю, не вінаваты». Стойка і мужна перанесла на допыце ўсе катаванні і яго сястра Вера.

Не атрымаўшы ад патрыётаў прызнання, гестапаўцы кінулі іх у канцлагер на вуліцы Шырокай, а адтуль неўзабаве адправілі на катаргу ў Германію.

Пасля арышту Косці і Веры найбольш актыўныя падпольшчыкі — Ліда Кірыльчык, Леанід Касарэўскі, Яўген Траян і іншыя — пайшлі да партызан. Прыхапіўшы з сабой зброю, у лес падаліся і Косця Знайда з Косцем Лучонкам.

У сакавіку Ліда Кірыльчык з адказным заданнем была накіравана партызанамі ў Мінск. Але выканаць гэтае заданне ёй не ўдалося. На адным з пастоў каля Мінска гітлераўцы затрымалі яе і пакінулі пад аховай паліцэйскага ў каравулцы. Ліда ведала, што пропуск яе фальшывы, і таму ясна ўяўляла свой правал, але думка яе напружана працавала над тым, як знішчыць партызанскае пісьмо, што было пры ёй. З хвіліны на хвіліну маглі прыйсці гітлераўцы, і тады пры вобыску ўсё выявіцца. Робячы выгляд, што прыводзіць сябе ў парадак, Ліда хутка і непрыкметна дастала пісьмо і заціснула яго ў рукаве. Не зводзячы вачэй з палаючай печкі, Ліда



Валя Томуць.

ўся сціснулася, намерваючыся кінуцца да печкі. Паліцэйскі нібы разгадаў намер Ліды, падышоў бліжэй, шчыльна прыкрыў дзверцы і, прыхінуўшыся да дзвярэй, стаў ля печкі. Ліда збялела: няўжо не ўдасца кінуць канверт у агонь. У гэты момант прамільгнула новая думка — праглынуць пісьмо: яна чула, што так рабілі, але з жахам зразумела, што гэта ёй не ўдасца. Тады, узрушаная, не ведаючы іншага выйсця, Ліда адважылася на крайні крок — ступіла да паліцэйскага і, выхапіўшы з рукава канверт, рашуча і цвёрда сказала:

— Ты рускі чалавек і таму дазволіш мне спаліць гэты канверт!

Разгублены паліцэйскі кляцнуў затворам і спалохана замармытаў:

— Не падыходзь, не дазваляю!..

Усё ж праз колькі хвілін, якія для Ліды здаліся гадзінамі, паліцэйскі палахліва зазірнуў у калідор, апусціў вінтоўку і адышоў да акна. Ліда падбегла да печкі і шпурнула канверт у агонь. Узрадаваная, яна памкнулася нешта сказаць паліцэйскаму, але ён зразумеў яе намер і кінуў:

— Не трэба. Маё прозвішча Шарсцяк. Я родам са Смаленшчыны...

Злавіўшы Ліду з фальшывым пропускам, гестапаўцы падазравалі, што яна звязана з партызанамі, і таму на допытах намагаліся развязаць ёй язык. Упэўніўшыся, што не атрымаюць ад яе ніякіх вестак, адправілі ў Германію.

У красавіку раптоўна былі арыштаваны ў Смалявічах Марыя, Надзея і Зося Якубіцкія. А неўзабаве пасля гэтага і Валя Томуць, Мікола Красінскі, Насця Прыстром, Зіна Кучмель, Зося і Надзя Кірыльчыкі. Іх дапытваў сам начальнік жандармерыі Зольтан у прысутнасці начальніка паліцыі Хагемаера і яго намесніка Жылінскага. Дзяўчат спачатку палохалі, падманвалі, стараючыся выпытаць, хто ў Прысынку і ў Смалявічах звязаны з партызанамі, да каго яны прыходзяць, хто распаўсюджвае лістоўкі, але калі зразумелі, што такім метадам ім не ўдасца атрымаць патрэбныя звесткі, пачалі біць іх чым папала, катаваць. Камсамольцы не прасілі літасці ў катаў, мужна перанеслі ўсё, не выдалі сваёй тайны і не здрадзілі таварышам.

Майскім днём 1944 года Валянціну Томуць, Міколу Красінскага і Насцю Прыстром гітлераўцы расстралялі на двары гестапа. Зося і Надзя Кірыльчыкі, якія сядзелі з Валяй Томуць у адной камеры, бачылі, як з горда ўзнятай галавой Валя пайшла на расстрэл.

— Не плачце, дзяўчаты, нашы прыйдуць і адпомсцяць за мяне, — сказала яна на развітанне.

Перад расстрэлам мужна трымалі сябе Мікола Красінскі і Насця Прыстром. Геранчна вытрымаўшы апошнія выпрабаванні ў сваім кароткім, але слаўным жыцці, яны загінулі як героі.

У тую ж вясну Марыя, Надзея і Зося Якубіцкія, Зося і Надзя Кірыльчыкі, Зіна Кучмель і Люба Лойка былі вывезены ў Германію. На дарозе сёстры Якубіцкія ўцяклі з эшалона і прабраліся да партызан. У адным з баёў загінула, як салдат у страі, камсамолка Надзя Якубіцкая. Загінулі ў партызанах таксама Мікола Пілюга, Леанід Касарэўскі і Васіль Светцаў.

Не дажыў да вызвалення і Косця Знайда. 9 мая 1944 года ён геранчна загінуў у няроўным баі з гітлераўцамі. Разам з групай партызан яны былі ў разведцы. Недалёка ад вёскі Мглё пад Смалявічамі нечакана сутыкнуліся з атрадам немцаў. Завязалася перастрэлка, і Косця Знайда быў цяжка паранены ў абедзве нагі. Акружаны з усіх бакоў, Косця біўся да апошняга патрона, а потым падарваў сябе гранатай. Пасля бою сябры-партызаны пахавалі Косцю Знайду ў брацкай магіле ля вёскі Юр'ева.

Вясной 1944 года, не дачакаўшыся радаснага дня вызвалення, памёр Браніслаў Максімовіч.



* * *



Валя Апацкая.

Кожны год у першую нядзелю чэрвеня былыя партызаны брыгады «Смерць фашызму» збіраюцца па традыцыі ў Юр'еве каля помніка загінуўшым воінам. Успамінаюць дні свяшчэннай вайны з фашызмам і імёны баявых сяброў, якія аддалі сваё жыццё за мір і шчасце на зямлі. На гэтых традыцыйных сустрэчах-памінках часта можна бачыць былых падпольшчыкаў, сярод іх... Кастуся Кірыльчыка і Кастуся Лучонка. Яны прыходзяць, каб ускласці жывыя кветкі на магілу свайго сябра Кастуся Знайды.

Дзе цяпер былыя мсціўцы з Прысынка і Смалявіч, што засталіся ў жывых?

Зося Кірыльчык і Кастусь Лучонак жывуць у Прысынку. Яны пажаніліся ў хуткім часе пасля вяртання Зосі з Германіі, і цяпер у іх трое дзяцей. Яны працуюць у саўгасе імя Леніна. Тут жа, у Прысынку, жыве і Ліда Кірыльчык. Яна паважаны ў вёсцы чалавек, прымае актыўны ўдзел у культурна-асветнай рабоце.

Яе сяброўкі Вера Кірыльчык і Люба Кучмель пераехалі ў Мінск. Пасля вайны закончылі медыцынскую школу і цяпер працуюць лабаранткамі — першая ў інстытуце пералівання крыві, а другая ў бальніцы. У Мінску жывуць і працуюць былыя падпольшчыкі Зіна Кучмель, Марыя Якубіцкая, Соф'я Якубіцкая і Надзея Кішчук.

Ліда і Валянціна Апацкія жывуць у тым жа доміку ў Смалявічах. Антон Фаміч Апацкі памёр у студзені 1964 года. Міхаіл Апацкі пабудаваў сабе домік паблізу той патаемнай сцежкі, па якой ён хадзіў з сябрамі на сустрэчы з партызанамі. З любімай прафесіяй шафёра ён не расстаецца з часоў вайны.

Ліда Пілюга жыве і працуе ў горадзе Жлобіне.

Міхаіл Аляксеевіч Аляксееў, якога ў Прысынку і Смалявічах ведаюць як Паўла Бужана, цяпер знаходзіцца ў Ленінградзе. Ён атрымаў вучоную ступень кандыдата гістарычных навук і займаецца навуковай працай.

Сёння ўсе былыя падпольшчыкі ўжо людзі ў гадах. У некаторых ужо свае дзеці-камсамольцы. Пра вайну і пра сябе падпольшчыкі расказваць не любяць, але ўсё ж калі іх просяць падзяліцца ўспамінамі, яны адказваюць, не задумваючыся:

— Нас выхаваў камсамол!

# У свеце прыгожага

## І ФАРБАЎ, І ЎДАЧЫ...

Усё пачалося з песні. Можа таму, што Леанід у свой час займаўся музыкай і нядрэнна спяваў. А магчыма, таму яшчэ, што хлапчук, які намаляваў сонечны круг на аркушы паперы, падмацаваў свой няхітры малюнак па-дзіцячаму простымі і па-дзіцячаму светлымі словамі: «Хай заўжды будзе сонца!» Леанід якраз тады думаў над сваёй новай карцінай. Хацелася напісаць светлае і праўдзівае палатно пра нашых дзяцей. І яшчэ хацелася, каб на карціне было шмат сонца, каб яна сама спявала пра шчаслівыя дні маленства. «А што, калі?..» Пасля доўгіх роздумаў малады мастак адважыўся.

Перадаць змест песні на палатне было б, вядома, не так складана. Але тады твор атрымаўся б не самастойны, а Леаніду хацелася вырашыць тэму пасвойму, шырэй, чым яна вырашана ў песні. Паступова ў думках акрэслівалася агульная форма карціны, яе кампазіцыя, пасля пачалася праца над эскізамі, замалёўкамі з натуры. Дзеці, што жывуць, вучацца, спяваюць свае песні і гуляюць у свае гульні на вуліцах нашых гарадоў і вёсак, пад мірным небам Радзімы, паступова як бы «нараджаліся» нанава пад пэндзлем маладога мастака.

...Іх на карціне пяцёра. Усе дзяўчынкі, гарэзлівыя, напэўна, крыху сварлівыя, але ж дружныя паміж сабой. Мастак умела размясціў іх у самым цэнтры карціны. Сяброўкі сабраліся ў летні сонечны дзень пагуляць у сваю любімую гульню — «у класы». Дзве з іх, напэўна, ужо школьніцы. Адна расказвае, як маляваць «класы», а другая старанна выводзіць іх крэйдай на асфальце. Дзве меншыя, што ў самым цэнтры, затаіўшы дыханне, сочаць за старэйшымі. Ды і не дзіва! Яны першы раз будуць гуляць «у класы», іх запрасілі сюды старэйшыя сяброўкі! Пятая, што стаіць



**Леанід Асядоўскі са сваімі выхаванцамі.**

Фота **В. Ждановіча.**

крыху далей, на нейкую хвіліну адвярнулася назад, магчыма, пачула шум аўтамабіля, магчыма, што-небудзь цікавае ўбачыла. Пройдзе некалькі хвілін, і пачнецца захапляючая гульня. Захапляючая і зусім бесклапотная. Так задумаў мастак сваю карціну, якую мы ўзнаўляем на другой старонцы вокладкі.

Агульнаму, светламу настрою карціны адпавядае такі ж жыццерадасны фон. Тут няма нічога лішняга. Прыступкі лесвіцы сучаснага новага горада, асфальт вуліцы і ярка выпісаны летні дзень. І хоць самога сонца на карціне не відаць, неяк фізічна адчуваеш, што яно свеціць. Шчодра свеціць і грэе...

Мне ўпершыню давялося бачыць гэты твор на Рэспубліканскай мастацкай выстаўцы, прысвечанай дваццацігоддзю перамогі над фашысцкай Германіяй. Гэтая карціна была адной з тых, перад якімі часцей за ўсё спыняліся наведвальнікі. Жаданне больш падрабязна пазнаёміцца з мастаком павяло мяне ў майстэрню Леаніда Асядоўскага. Аднак яна аказалася зачыненай. Знайшоў я Леаніда ў майстэрнях мастацкага вучылішча. Там ён вядзе ўрокі жывапісу.

Леанід крышку расказвае пра сябе. Ён карэнны мінчанін. Калісьці вучыўся спяваць, потым займаўся ў мастацкім вучылішчы, у тым, дзе цяпер сам выкладае. Потым паступіў у Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут. Дарэчы, тут хочацца ўспомніць словы дэкана жывапіснага факультэта Паўла Канстанцінавіча Любамудрава, якія ён сказаў пра выпускніка Асядоўскага: «Таленавіты. На працягу ўсёй вучобы экзамены здаваў на добра і выдатна. Актыўны мастак».

Леанід выцягвае з кутkoў майстэрні эцюды і эскізы. Іх дзесяткі: пейзажныя замалёўкі, замалёўкі з натуры. А вось і знаёмыя ўжо нам дзяўчынкі — кожная паасобку і кожная яшчэ не такая, як на карціне. Пазнаю на эцюдах і пейзажных палотнах знаёмыя мясціны Міншчыны і Лагойшчыны. Яны напісаны вопытнай рукой. Некаторыя я палічыў бы ўжо закончанымі, але гаспадар майстэрні моўчкі ўсміхаецца: «Усё гэта робіцца не так проста...»

Леанід Асядоўскі за апошнія гады некалькі разоў пабываў у Салігорску і на будаўніцтве нафтаправода «Дружба». Карціна пра салігорцаў была яго дыпломнай работай. Аб ёй добра адзываюцца спецыялісты і мастакі.

Цяпер мне давялося быць адным з першых, хто бачыў новую, яшчэ незакончаную работу мастака. Яна прысвечана будаўнікам нафтаправода. На фоне раскапанага экскаватарамі пяску чатыры чалавечыя постаці. Яны ў напружанай працы, у руху наперад. Фарбы пакладзены на палатно так, што бачыш суровую абстаноўку, у якой працуюць будаўнікі нафтаправода, адчуваеш непагадзь і вецер. Асабліва, калі ўглядаешся ў чалавека, што кіруе пракладкай. Ён павернуты да нас спіной, ён ідзе на месца, куды следам двое рабочых — пажылы і зусім яшчэ малады хлапец — нясуць цяжкую трубу. Мужчына справа, відаць, ужо не адзін нафтаправод праклаў сваімі рукамі, ён цвёрда стаіць на зямлі. І вецер, што, здаецца, зрывае з яго плашч, не перашкодзіць яму дайсці да мэты. Гэтая дэталь падкрэслівае і перадае галоўную думку: мы бачылі не такія цяжкасці і мы іх перамагалі...

Цікавы і другі вобраз карціны — малады хлопец, што падставіў плячо пад цяжкае жалеза. Ён зусім яшчэ нядаўна на будоўлі, таму на яго твары і здзіўленне, і напружанасць, і рашучасць — не адставаць ад старэйшых, ад людзей, якіх мы называем ветэранамі працы.



**Пейзаж.**

Вядома, пісаць падрабязна пра карціну мастака, якая яшчэ ў майстэрні, было б вельмі паспешліва. Але ж калі гаворыш пра штодзённую напружаную працу мастака, пра яго роздум, пра пошукі і знаходкі, дык ніяк не ўстрымаешся ад такой спакусы.

Побач з «Нафтаправодам» — яшчэ адно няскончанае палатно. Яго ўмоўная назва — «Раніца ў трамвайна-тралейбусным парку».

...Раніца. Яшчэ не абудзіўся ад сну горад. Але ён вось-вось прачнецца. Заспяшаюцца на працу людзі — адны пехатою, другія на трамваях, тралейбусах ці ў аўтамашынах. Каб яны не спазніліся, для гэтага не спалі другія людзі, тыя, хто ноч працаваў,— прыводзіў у парадак трамваі і тралейбусы. На карціне няма гэтых людзей, але ў першай ранішняй дымцы застылі гатовыя адпраўціца ў дарогу вагоны. Мастаку, на маю думку, вельмі трапна ўдалося перадаць гэтую гатоўнасць. Калі глядзіш на карціну, дык чамусьці ўспамінаюцца кінакадры, на якіх адлюстраваны ракеты ў апошнюю мінуту перад стартам.

І чамусьці, пакідаючы майстэрню Леаніда Асядоўскага, хочацца хутчэй убачыць яго новыя творы закончанымі, у выставачных залах, перад вачыма тых людзей, якіх ён малюе на сваіх палотнах.

Няхай будзе цвёрдай твая рука, Леанід! Як кажуць — і фарбаў табе, і ўдачы!

**Уладзіслаў НЯДЗВЕДСКІ.**



**Фрагмент карціны «Будаўніцтва нафтаправода».**

# КАШТОЎНЫЯ САМАРОДКІ

У глядзельных залах Мінска выступалі лепшыя калектывы мастацкай самадзейнасці — удзельнікі Трэцяй рэспубліканскай дэкады, а ў гэты самы час, у самы разгар вясны, адкрылася выстаўка народнай творчасці. Самадзейныя артысты, танцоры, спевакі, музыканты і дэкламатары паказвалі сваё майстэрства на сцэнах, а мастакі, скульптары, разбяры па дрэву, ткачыхі і вышывальшчыцы дэманстравалі сваю творчасць у новых залах Дзяржаўнага музея БССР. І можна смела сказаць, на іх долю выпаў не меншы поспех. На выстаўцы экспанавалася каля паўтары тысячы твораў жывапісу, скульптуры, графікі, керамікі, ткацтва, вышыўкі і іншых відаў народнага мастацтва. Расказаць пра кожны з іх асобна амаль немагчыма. А пра выстаўку ў цэлым лепш за ўсё гаворыць запісы наведвальнікаў у кнізе водгукаў: «Малайцы! Так трымаць! Дзякуем за эстэтычную асалоду!»

Група масквічоў і ленінградцаў запісала: «Цудоўная разьба. Каб пачуць, як можа спяваць дрэва, трэба прыехаць у Беларусь». Што





Ваза «Белавежская пушча». Выканана з дрэва ў мастацкім вытворча-тэхнічным вучылішчы (Бабруйск).

ж, гэта справядліва. У руках многіх народных умельцаў дрэва сапраўды спявае. Разьба па дрэву ў наш час займае першае месца сярод скульптурных работ народных майстроў. Радасна адзначыць і тое, што яны паспяхова вучацца ў такіх чараўнікоў драўлянай скульптуры, як Сяргей Канёнкаў і Аляксандр Грубе. Вынікі гэтай творчай вучобы лепш за ўсё адчуваюцца ў работах Міхаіла Івінскага, Канстанціна Саломкі, Аляксандра Шахновіча, Дзмітрыя Сталярова, Барыса Хрушчова.

Многія з разбяроў узнагароджаны за свае творы медалямі Усесаюзнай выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі. Узяць хоць бы аднаго з іх — народнага ўмельца Апалінарыя Фларыянавіча Пупко. Ён жыве і працуе ў горадзе Івянцы. Яго дом — гэта цэлы краязнаўчы музей. Многія творы Пупко прысвечаны рэвалюцыйным

Д. Сталяроў. Вольная хвіліна. Разьба па дрэву.



Валянцін Валкавы. Конюх.

падзеям і падзеям Айчыннай вайны. Сам Апалінары Фларыянавіч у часе вайны выратаваў жыццё многім воінам і партызанам. Цяпер ён пенсіянер і ўвесь свой вольны час аддае скульптуры, кераміцы і лепцы. Ён стварыў цэлую галерэю народных персанажаў, сярод якіх вылучаюцца «Лірнік», «Пастушкі», «Несцерка», «Жэня» і «Далоў вайну!»

Вялікае месца на выстаўцы займаюць гумарыстычныя і сатырыч-

Валянцін Валкавы. Бабуля.





Валянцін Валкавы. Першы анекдот.

ныя народныя персанажы, цэлыя сцэнкі заўважаны аўтарамі непасрэдна ў жыцці і перададзены з дабрадушным народным гумарам. Нельга без добрай усмешкі прайсці, скажам, міма тэматычнай кампазіцыі мінчаніна Станіслава Гуткоўскага «Сон старшыні калгаса» і



Валянцін Валкавы. Страшны звер.

яго работы «Рэвізор». Цікава глядзіцца твор рабочага мінскай цацачнай фабрыкі Аляксандра Царкоўскага «Лайка ў космасе». На сабачку, што ўзняўся ў космас, з зайздрасцю і захапленнем гля-





**Валянцін Валкавы. «Любіць не любіць...»**

дзяць лясныя звяры, што стоўпіліся ля тэлевізара. Поспехам карыстаюцца мініяцюры гамяльчаніна Васіля Катлярова — «Гусі і яйка», «Лясная казка», «Галубы» і «Салаўі».

Усё, чым жыве цяпер калгасная вёска, цікавіць таленавітага разбяра па дрэву, крывіцкага паштальёна Леаніда Шостака. Ён умела раскрыў характары людзей у сваіх работах «Свінарка», «Буракавод», «Цялятніца», «Ільнаводка».

Арыгінальную вазу «Белавежская пушча» стварылі з кавалка ліпавага ствала навучэнцы Бабруйскага прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча.

Усеагульную ўвагу і захапленне выклікаюць таленавітыя і ўнікальныя творы былога выхаванца Чавускага дзіцячага дома Валянціна Валкавога. Зала, дзе размешчаны два стэнды з яго работамі, была ўвесь час цэнтрам выстаўкі. Тут заўсёды было мнагалюдна і весела, можна было чуць адно захапленне: «Вось здорава! Гэта — сапраўдны мастак! Віртуоз!» Так высока ацэньвалі наведвальнікі працу Валкавога. І гэта заслужаная пахвала.

Свае персанажы ён стварае з самага звычайнага, як кажуць,



**Валянцін Валкавы. Філін.**

падручнага матэрыялу — з рознае кары, сучкоў, галінак, карэнняў, шышак, стружак, моху.

**Валянцін Валкавы. Самагоншчык.**

Валкавы выконвае свае скульптуры з дасціпнасцю і выдумкай. У яго творах усе дэталі перадаюць не толькі вонкавы выгляд персанажа, але і характар. Вось перад намі «Калгасны вартаўнік». Ён апрануты ў кажух з бярosты, замест шапкі — звычайная шышка. Стары спіць. Спіць, хоць і не выпускае з рук стрэльбу. Спіць спакойна, таму... што побач маленькі сабачка з натапыраным вухам.

Цікавы ў Валкавога таксама «Конюх». На вуліцы восень, дождж, слата. А хлопец стаіць сабе босы, у галіфэ. Гэта тыповы вобраз вясковага франта і працаўніка.

Знішчальнай сатырай на аматараў брудных спраў выглядае «Самагоншчык». Тут усё правільна — і самаробны апарат-змеявік, і сам забулдыга-п'яніца, які сядзіць і чакае першаку.

Простая шышка. Колькі разоў паднімалі яе ў лесе і дарослыя і дзеці. Але мала хто здагадваўся, што з яе можна зрабіць твор мастацтва. «Філін», створаны Валкавым з гэтай самай шышкі, выглядае, як жывы — ён калматы, злосны, насуплены, сярдзіта блішчаць адны вочы.

Шмат можна пісаць і гаварыць пра творчасць Валянціна Валкавога. Галоўнае, што ў яго форма і змест складаюць адно цэлае. Аб гэтым сведчыць амаль уся серыя работ, і асабліва «Стылягі», «Страшны звер», «Першы анекдот».

Аўтар гэтых цудоўных твораў заканчвае Ленінградскае вышэйшае мастацкае вучылішча імя Мухінай. Было б вельмі добра, каб наш Саюз мастакоў меў яго на ўвазе і запрасіў таленавітага разбяра на працу ў Беларусь.

Заслугоўвалі ўвагі на выстаўцы таксама работы Міхаіла Івінскага, Станіслава Быка, Канстанціна Казелкі, Мікалая Ячмянкова.

На выстаўцы шмат было твораў беларускага народнага ткацтва і вышыўкі. Хоць, праўда, яны з'яўляліся, галоўным чынам, дэкаратыўным упрыгожаннем выстаўкі. Вядома, было б значна лепш, каб

**Валянцін Валкавы. Калгасны вартаўнік.**





**Валянцін Валкавы. Касец.**

іх паказалі як самастойныя экспанаты. У самабытных пасцілках, андараках, ручніках, дыванах і паясах умела скарыстаны і новыя сінтэтычныя матэрыялы. На жаль, дамы народнай творчасці яшчэ вельмі мала збіраюць гэтыя ўзоры самабытнага мастацтва. Не маюць калекцыі з гэтых твораў і нашы мастацкія навучальныя ўстановы.

Успамінаецца выдатны музей, створаны ў трыццатыя гады студэнтамі Віцебскага мастацкага вучылішча. Тады наладжваліся планавыя экспедыцыі, студэнты з любоўю збіралі па вёсках узоры ткацтва, замалёўвалі беларускі арнамент. Арыгінальныя ганчарныя вырабы скарыстоўваліся ў вучэбных мэтах. Думаецца, што гэтую традыцыю варта аднавіць, таму што без ведання мінулага



цяжка гаварыць і аб высокім майстэрстве ў паказе сучаснасці.

Народны беларускі дэкаратыўны жывапіс радуе вока сваёй арыгінальнасцю. Яго творы простыя па форме, выдатныя па тэхніцы выканання, і, галоўнае, кожны з іх глыбока індывідуальны. Аб гэтым сведчаць работы Зінаіды Баравіковай і Марыі Ліпай, Ванды Кулда, Ядвігі Стацына, Ефрасінні Янькова й, Надзежды Мігай, Марыі Грыневіч.

Варта было б лепшым з народных умельцаў устанавіць ганаровае званне «Народны майстар Беларускай ССР», а таксама адкрыць Рэспубліканскі музей народнай творчасці.

Поспех выстаўкі народнай творчасці радуе і да многага абавязвае. Мастацкія саветы прадпрыемстваў, Саўнаргас і гандлёвая палата павінны больш цікавіцца народнай творчасцю і адбіраць лепшыя ўзоры для ўкаранення ў масавую вытворчасць, як гэта, напрыклад, зрабілі кіраўнікі цэнтральных мастацкіх майстэрняў і Саюза мастакоў БССР.

Поспехі самадзейных мастакоў у галіне жывапісу, скульптуры, графікі таксама значныя. Асабліва прыемна, што пачаў адраджацца беларускі самадзейны эстамп.

Паспяхова выступілі на выстаўцы і кераміcты. Гэта ў першую чаргу івянецкія майстры Франц Целішэўскі, Апалінары Пупко, Мікалай Несцяроўскі і іншыя.

У кароткім рэпартажы цяжка расказаць пра ўсю выстаўку. Хай гэтыя расказ дапоўняць здымкі, змешчаныя ў гэтым нумары часопіса. Хочацца ад шчырага сэрца сказаць: «Дзякуй вам, народныя ўмельцы, за тую эстэтычную асалоду, якую вы прынеслі сваімі творамі!»

**Мікалай ТАРАСІКАЎ,**
**мастак.**

Фота **А. Дзітлава, В. Ждановіча, Д. Прэса.**

# ДУМКІ АБ ЛЕЦЕ

Адпачынак чалавека — не прыватная справа. Гэта адна з важных сацыяльных праблем, ад вырашэння якой залежыць і палепшанне здароўя, і прадаўжэнне жыцця чалавека, і павышэнне прадукцыйнасці яго працы.

Лета ўсе аднолькава чакаюць з нецярпеннем. Лес, рэчка, мора, свежае паветра і цішыня — найлепшыя лекары і сябры чалавека. Куды паехаць? Гэта зусім не пустое пытанне. У санаторый? У дом адпачынку? Але ж здароваму чалавеку не патрэбны санаторны рэжым. Мо па турысцкай пуцёўцы? У спартыўны лагер? Моладзь любіць такі адпачынак. Але чаму толькі моладзь? А дзе адпачыць бацькам з дзецьмі?

У Праграме КПСС падкрэсліваецца, што грамадскае выхаванне дзяцей павінна арганічна спалучацца з выхаваннем у сям'і. У часе адпачынку сярод прыроды і ствараюцца найбольш спрыяльныя ўмовы для блізкага кантакту дзяцей і бацькоў. Між тым адпачываць бацькам з дзецьмі амаль няма дзе.

У Беларусі запланавана будаўніцтва пансіянатаў — найбольш зручных устаноў для адпачынку сямейных — на Нарачы і Мінскім моры. Аднак і пансіянатаў летам не хопіць для ўсіх, хто пажадае адпачыць у іх.

Дзе ж выйсце?

Яно ў тым, каб шырока разгарнуць будаўніцтва летніх гарадкоў і лагераў адпачынку. Гэта самы танны від будаўніцтва і эксплуатацыі. У летніх гарадках і лагерах адпачынку поўнае самаабслугоўванне і самыя простыя памяшканні для жылля — лёгкія домікі, дачы-прычэпы (трэйлеры), палаткі, якія ўстанаўліваюцца на загадзя падрыхтаваных пляцоўках.

Спальныя павільёны і палаткі размяшчаюцца вакол памяшканняў, якія абслугоўваюць жыхароў гарадка. Архітэктары стварылі шмат цікавых прапаноў для будаўніцтва загарадных гарадкоў здароўя і радасці. На трэцяй старонцы вокладкі нашага часопіса — адзін з такіх праектаў. Гляньце!

Праўда, гэта прыгожа, зручна і танна? Лёгкія і яркія «буданчыкі» радуюць вока, яны выдатна спалучаюцца з навакольнай прыродай. Для іх не патрэбны падмуркі, а значыць — будуць цалейшыя карэнні дрэў.

Вельмі зручныя і павільёны з бескаркасных, сагнутых па парабале азбацэментных лістоў. Дарэчы, іх выпускае васкрасенскі камбінат «Чырвоны будаўнік». Павільёны ўжо будуюцца як у сярэдняй паласе СССР, так і на поўдні. Варта прымяняць іх і ў нас.

Будаўніцтву лёгкіх зборных домікаў памагае хімія. Першыя крокі ўжо зроблены. Турысцкія базы і пансіянаты Маскоўскай вобласці сёлета будуць абсталяваны пластмасавымі домікамі, якія выпускае Мыцішчанскі камбінат. Такі домік важыць 200—500 кілаграмаў. Брыгада з дваццаці рабочых можа змантіраваць цэлы гарадок адпачынку за адну змену.

У цэнтры такіх гарадкоў — лёгкая летняя сталовая з кухняй, пункт пракату газавых плітак і пасуды. На невялікіх пляцоўках абсталяваны навесы, сталы, лаўкі. Калі лагер разлічаны больш як на сто чалавек, у ім плануецца адміністрацыйна-гаспадарчы корпус. Для культурна-масавай работы можна прыстасаваць перасоўныя кінатэатры, канцэртныя ўстаноўкі. І, вядома, у такім лагеры не абысціся без спартыўных пляцовак. А для тых, хто прыязджае на сваіх машынах, матацыклах, трэба прадугледзець спецыяльныя месцы стаянак і рамонту.

Арганізаваны адпачынак падоўжыць жыццё не толькі чалавеку, але і прыродзе. Хто мог прадбачыць, што ваколіцы Нарачы зменяць сваю маляўнічасць з наплывам вялізных мас «дзікуноў». А, на жаль, гэта так. Несумленныя людзі сякуць дрэўцы, паляць кастры, пакідаюць пасля стаянак горы смецця, незараўняныя ямы, раўкі. Пляжы, вядома, прыбіраюцца, а зайдзіце далей у лес... Папера, бляшанкі, бітыя бутэлькі — вось што напаткаеш пад кожным кустом. А вытаптаная трава, аголенае карэнне? Усё гэта скарачае жыццё лесу.



Арганізаваны адпачынак будзе памагаць тым, хто сочыць за аховай прыроды. У арганізаваным адпачынку зацікаўлены ўсе. Справа толькі ў тым, каб за гэта ўсур'ёз узяліся грамадскія арганізацыі.

Мы за адпачынак змястоўны, карысны, радасны, які памагае людзям у іх жыцці.

**Ала СЫЧОВА,**
**архітэктар.**

# НЯСУ МУЗЫКУ

Бусел... Казачны птах. У народзе кажуць, што ён беражэ шчасце. На высокай бярозе каля рэчкі Малінаўкі змайстраваў ён буслянку. Побач, на беразе, вялікая хата.

Кожную раніцу бачыць бусел гаспадара хаты за працай: то ён страху ладзіць, то двор прыбірае. Усюды ў яго парадак. У хаце заўсёды весела, бо дружна жыве сям'я Бурковічаў. З раніцы завіхаецца дома Ганна Усцінаўна, і дзеці памагаюць ёй. Старэйшыя Аня і Анатоль парасят кормяць, малодшы Веня — гусей пасе. Гусям раздолле. Рукой падаць — рэчка, а крыху далей — вялікая сажалка і лес побач. Усёй сям'ёй, бывала, пойдуць Бурковічы па грыбы ці ягады, і малодшы просіць:



Перад тым, як выступіць у канцэрце, Веніямін шмат працуе.

Фота **У. Крука.**

«Мама, заспявай песню». Маці чыстым, моцным голасам спявала свае любімыя песні. А ўсе падпявалі. Увечары, калі вяртаўся з працы бацька, да сямейнага хору далучаўся гармонік. Расцягне бацька мяхі, і льецца родная беларуская песня...

Ведалі ўсе ў вёсцы гарманіста. І не толькі ў Калачах, дзе ён жыў, але і ў Крамянцах, Старынках, Янушкавічах. Часам збяруцца жанчыны каля хаты Бурковічаў, раяцца. А тады самая смелая выходзіць наперад:

— Дзядзька Антось, сыграйце нам вечарам сёння...

— Трэба паслухаць людзей,— кажа ён жонцы. А тая падае ўжо яму вышытую кашулю і боты.

Музыка была сталым спадарожнікам сям'і, дзе вырас Веніямін. Дзядзька Юзік добра іграў на скрыпцы. Усім сэрцам прыслухоўваўся хлопчык да мелодыі. У музыцы ён адкрываў для сябе свет прыгожага. Часта Веня прападаў на сажалцы. Ён заўважыў: калі доўга нерухома сядзець на беразе, то цябе перастаюць баяцца птушкі. У веснавую пару слухаць іхнія звонкія песні, хадзіць па сырой зямлі босаму — гэта ж вялікае шчасце! І часта раніцай па расе бег хлапчук да сажалкі. Сядзе маўкліва і ўсім сэрцам ловіць гоман лесу, спеў птушак, пералівы ручайка.

Аднойчы з далёкай вёскі зазірнуў да Бурковічаў сваяк з цымбаламі. Хлапчук не адыходзіў ад яго. Вясковы музыка пайграў добрым людзям, пагасцяваў і пайшоў.

— Калі я першы раз пачуў ігру на цымбалах, дак зразумеў, што са мной здарылася штосьці такое, чаго і зараз не магу растлумачыць,— расказвае лаўрэат Міжнароднага конкурсу Веніямін Бурковіч.— Гэта была нейкая светлая, вялікая радасць. І пазбавіць мяне гэтай радасці — гэта ўсё роўна, што пазбавіць сонца.

З таго часу не было спакою на сэрцы ў хлапчука. У яго нібы ўсялілася нейкая незвычайная сіла. Родныя адшукалі для яго старыя цымбалы з іржавымі струнамі. Падклеілі дэку, начапілі струны, замацавалі калкі. Для малога зрабілі палачкі, але такія, як і для дарослага. І Веня ледзь трымаў іх між пальцаў.

Цымбалы захапілі Веніяміна. Ён ніколі не разлучаўся з імі і ўсё калаціў ды калаціў палачкамі па струнах. А музыкі — ніякай. Не маглі слухаць у хаце такую ігру. Вынеслі цымбалы ў хлеў. Перабраўся туды і малы. Сядзе ў хляве на дровах і «ляпае», як гаварылі тады пра яго людзі.

Нарэшце надышоў дзень, калі Веніяміну ўпершыню давялося іграць на вечарынцы. Ён нічога не бачыў навокал — твар яго расчырванеўся, вочы гарэлі. З кожным днём усё спрытней і шпарчэй бегалі рукі хлапчука па струнах. А як толькі ён чуў што-небудзь новае, дык адразу спяшаўся да цымбал. Тут і вальс, і казачок, і полька, і кадрыля. Не адыдзе, пакуль не падбярэ мелодыю, не сыграе па-свойму. Звонка і выразна іграў ён свае найгрышы. Хутка да яго цымбалаў далучыліся скрыпка і гармонік. Музыкі не ведалі нот, ігралі на слых.

— Як хораша іграюць! — казалі людзі.—Быў бы жывы Антось, дык нанарадаваўся б на сына.

Любілі хлопчыка за яго ігру, проста на руках насілі. Дзе б ён ні з'явіўся, яго тады ж абступалі людзі. «Перапёлачка», «Юрачка», «Крыжачок», «Лявоніха», «Мікіта» — усе гэтыя мелодыі напаўнялі хату. І ўсё ён іграў па-свойму, ніколі не паўтараў адну і тую ж варыяцыю ці падгалосак.

Шмат народных талентаў у беларускіх вёсках. Іграюць яны не толькі на вечарынках — лепшыя з іх удзельнічаюць у аглядах мастацкай самадзейнасці. Удзельнічаў у аглядзе і Веніямін. Цяжка давялося хлапчуку. Малы быў, ледзь данёс цымбалы ў Лагойск. Памагалі Іосіф і Канстанцін Рогачы. Так з цымбаламі, скрыпкай і гармонікам прыйшлі яны на раённы агляд мастацкай самадзейнасці, адтуль — на абласны. Было гэта ў 1951 годзе...

Хлопчык не ўтойваў ад слухачоў, як весела і цікава яму іграць. Бадзёра гучалі беларускія танцы ў яго выкананні. У вялікіх братавых ботах, у сіняй кашулі сядзеў Веня на сцэне.

— Музыка — яго прызванне, стыхія,— гаварыў членам журы народны артыст рэспублікі Іосіф Жыновіч пра юнага музыканта.— Калі я паслухаў Веню, дык адразу палюбіў яго.

Пасля выступлення Іосіф Жыновіч паклікаў Веню і параіў яму:

— Калі скончыш школу, дык абавязкова паступай у музычнае вучылішча.

Не мог дачакацца гэтага дня Веніямін. А іграў на цымбалах усё больш і больш, і яны гучалі ўсё выразней. З цымбаламі прыехаў ён у Мінск, паступіў у музычнае вучылішча. Так пачалася яго вучоба на цымбаліста-прафесіянала.

Працавітасць, цярпенне і вытрымка — усё гэта памагала хлапчуку ў вучобе. Усе чатыры гады на экзаменах па спецыяльнасці ён атрымліваў толькі выдатныя адзнакі. Прырода надзяліла хлапчука талентам, дала яму добрую памяць. І цяпер Веніяміну дастаткова адных сутак, каб развучыць твор складанай формы.

Педагог не паспяваў падбіраць праграму па спецыяльнасці. Справа ў тым, што ў той час нот для цымбалаў амаль не было. Добра гучалі ў яго выкананні «Полька», «Шумныя бярозы» Пукста, вальсы Шапэна, канцэрціна для цымбал Глебава і іншыя творы. Іграў ён прыгожа і віртуозна. Самымі любімымі ў яго рэпертуары сталі творы Баха, Моцарта, Чайкоўскага, Глінкі. У «Жаваранку» Глінкі цымбаліст знайшоў вельмі пераканаўчыя прыёмы для раскрыцця зместу гэтай цікавай класічнай п'есы. Яркае ўражанне пакідаюць у яго выкананні творы беларускіх кампазітараў. Глыбока народныя па зместу, характэрныя сваім нацыянальным каларытам, яны вельмі блізкія сэрцу музыканта.

Неяк непрыкметна прайшлі чатыры гады напружанай вучобы, і вось скончана вучылішча. У 1956 годзе Веніямін Бурковіч становіцца студэнтам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Ён вучыцца ў прафесара Жыновіча. Моцная, вопытная рука педагога павяла яго па новаму творчаму шляху. Юнаку было цікава вучыцца, яму падабалася патрабавальнасць педагога.

Цяжкі твор, калі з ім удаецца справіцца, прыносіць Веніяміну вялікае задавальненне. У выкананні В. Бурковіча гучаць шэдэўры музычнай літаратуры: інтрадукцыя і рондa-капрычыёза Сен-Санса, «Кампанэла» Паганіні-Крэйслера, «Цыганскія напевы» Сарасатэ і іншыя.

Кожны раз праграма была новым экзаменам, новым творчым пошукам. А прафесар ставіў усё новыя і новыя задачы. Творы розных аўтараў прымусілі інакш, больш востра адчуць своеасаблівасць стылю кожнага з іх. У той час якраз пачалася падрыхтоўка да ўсесаюзнага і міжнароднага конкурсаў выканаўцаў на народных інструментах.

Многа чуў Веніямін пра Маскву. І вось ён ідзе па яе вуліцах. Усюды радасныя твары гасцей фестывальнай сталіцы. Гэтыя дні былі для юнака днямі вышэйшага творчага напружання. Бліскучае выкананне на першым туры конкурсу прыцягнула да маладога выканаўцы вялікую ўвагу публікі. І вось адгучалі апошнія такты... Высокааўтарытэтнае журы ўручыла юнаку з маленькай беларускай вёскі два залатыя медалі лаўрэата.

Пасля ён выступаў на адной з плошчаў Масквы. Акустыка была здзіўляючая, і госці з усіх краін свету з захапленнем слухалі беларускага музыканта. Да позняй ночы гучалі цымбалы.

Поспех цымбаліста — у шчырасці яго таленту, у яго ўсхваляванай рамантычным адчуванні музыкі, у яго непаўторнай манеры выканання. Любіць ён іграць у суправаджэнні фартэпіяна. Гэта вельмі цікавае і прыгожае спалучэнне — фартэпіяна і цымбалы. Тысячы людзей на Урале, у Паўночным краі, у Крыму, Сярэдняй Азіі, на Каўказе слухалі ў выкананні В. Бурковіча творы класікаў. Венгерскія, румынскія, малдаўскія, балгарскія мелодыі знайшлі ў выкананні на беларускіх цымбалах новых сяброў.

І заўсёды так... Асветленая яркімі агнямі зала. Наступае тая чыстая, як крышталь, цішыня, якая папярэднічае нараджэнню музыкі. Піяністка кладзе рукі на клавішы, а ў пальцах цымбаліста — палачкі; ледзь прыкметны ківок, і нараджаецца свет хвалявання і роздуму. Мелодыя падкрадваецца да людзей і зачароўвае іх.

Цесная творчая дружба існуе паміж выканаўцам і кампазітарамі. Канцэрты для цымбал беларускіх аўтараў Я. Глебава, І. Ронькіна, Я. Дзягцярыка прысвечаны іх першаму выканаўцу — Веніяміну Бурковічу.

Моцнае ўражанне пакідае і выкананне партыі раяля. Яно непадзельнае ад душэўнага вобліку піяністкі Серафімы Бялькевіч, музыканта з тонкай душой і вялікай унутранай сілай. Бліскуча валодаючы майстэрствам акампанементу, піяністка ведае, што характару цымбаліста пры выкананні беларускіх аўтараў ці народнай музыкі найбольш адпавядае су-

**Веніямін Бурковіч і Серафіма Бялькевіч на канцэрце.**



праваджэнне-імправізацыя. Такая ігра стварае вялікае ўражанне, захоплівае.

Слухаючы В. Бурковіча, многія ўспамінаюць яго канцэрт у зале Беларускай кансерваторыі на XXIII выпуску. Зала была перапоўнена. І не дзіва: кансерваторыю заканчваў лаўрэат Міжнароднага конкурсу, цымбаліст-віртуоз Веніямін Бурковіч.

У шумнай зале ціхенька сядзела вясковая жанчына ў белай хусцінцы. Гэта была Веніямінава маці. Яна, як зачараваная, слухала ігру свайго сына і ражком хусткі выцірала слёзы. Малюнкі мінулага жыцця зноў паўсталі перад вачыма... Бусел... Казачны птах. Як кажуць у народзе, ён не падпускае бяды, беражэ шчасце. Дзеці Ганны Усцінаўны шчаслівыя. Яна часта атрымлівае пісьмы ад Анатоля, які вучыцца ў Свярдлоўскім горным інстытуце. Піша таксама дачка Аня з Эстоніі. Чацвёра ўнукаў у Ганны Усцінаўны. Задумалася яна і не заўважыла, як падышоў сын. Падняла вочы і ўбачыла — ім апладзіравала ўся зала. Маці ўстала і нізка пакланілася людзям.

Канцэрт закончан. Агні ў зале пагаслі. У фае ўзрушаныя слухачы чакаюць цымбаліста.

Веніяміну дваццаць сем гадоў, а колькі ён ужо іграў для людзей! І заўсёды яго выкананне прыносіць ім светлую радасць.

Для таго, каб дабіцца дасканалага майстэрства, неабходна заўсёды працаваць над сабой. Зараз Веніямін Бурковіч і піяністка Серафіма Бялькевіч рыхтуюць новую цікавую праграму з твораў сучасных савецкіх кампазітараў, якую пакажуць у сваіх сольных канцэртах.

Ад ігры нескладаных мелодый на вясковых паўтараактаўных цымбалах да выканання музычных шэдэўраў, ад ігры ў хаце пры святле газнічкі, да ззяючай асляпляльнымі агнямі рампы — такі шлях сціплага хлапчука з маленькай беларускай вёскі Калачы. Шлях цяжкі і радасны.

**Зоя НАСЦЕНКА,**
**педагог Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі.**

◆ ◆ ◆

**З МАСТАЦКІХ ВЫСТАВАК**

**СЯБРОЎСКІЯ ШАРЖЫ**

Мастак **Міхась ЛІСОЎСКІ.**
Эпіграмы **Міхася ДРОЦІКА.**



**Б. Забораву**

Глядзіце,
 з якою сілаю
Я зблізіў несумяшчальнае:
Трашчыць ад абстрактных сімвалаў
Мая галава рэальная.

**В. Грамыку**

Лаўлю я гармонію века,
Тэхнікі і чалавека.
Таму раздзірае маю душу
Пытанне пакутнае:
 як прапішу
Я на адным палетку
Трактар,
 любоў і кветку...







Гравюра Барыса Аракчэева.

# ДРУКАР КНІГ, ПЕРАД ТЫМ НЯЗНАНЫХ

**475 гадоў з дня нараджэння Францыска Скарыны**

У верасні 1519 года каравелы Магелана, пакінуўшы берагі Іспаніі, узялі курс на паўднёвы захад. Яны выйшлі ў вялікае падарожжа вакол свету, каб адкрываць невядомыя яшчэ землі, пракладваць новыя марскія шляхі. Чалавецтва, пазнаючы планету, пазнавала і самое сябе. У гэты ж час з Прагі на паўночны ўсход, у кірунку Беларусі, цягнуліся, парыпваючы, вазы. Вазы з... кнігамі. Кнігі адпраўляліся ў вялікую дарогу па Усходняй Еўропе таксама асвойваць новыя землі, адкрываць чалавечыя сэрцы. Беларусь атрымала **друкаваную** кнігу. Гэты подзвіг надзвычайнай грамадскай важнасці, які знаменаваў сабою новую эпоху ў культурным развіцці ўсяго ўсходняга славянства, учыніў вялікі асветнік і гуманіст, беларус Францыск Скарына.

А ўсё пачалося з таго, што дзесьці між 1485 і 1490 гадамі ў слаўным і старадаўнім горадзе Полацку ў сям'і мясцовага купца Лукі Скарыны нарадзіўся яшчэ адзін сын. Кажуць, што ў той год было зацьменне Сонца. Мо таму і



Загалоўныя літары з «Бібліі», што выдадзена ў Празе (1517—1519 гады).

суджана было Францыску асвяціць сваім магутным розумам, сваёй тытанічнай дзейнасцю сярэдневечны змрок невуцтва і застою. Энергічны, дасціпны юнак, атрымаўшы першапачатковую адукацыю на Беларусі, у 1504 годзе паступае ў Кракаўскі ўніверсітэт, які заканчвае праз два гады з навуковай ступенню бакалаўра. Жаданне ведаў цягне яго далей на захад. Там — Адраджэнне ў самым росквіце. Людзі думаюць, спрачаюцца, ствараюць, адкрываюць, высмейваюць старое, сцвярджаюць новае. Чалавечае Я вернута самому Чалавеку. Клопат пра жыццё на тым свеце змяніўся на клопат аб рэальным зямным жыцці. Гэта была вялікая перамога чалавека над самім сабою, над сваёй уласнай адсталасцю, грубасцю нораваў, заскарузласцю думак.



КОФІЛИМОНУ
ПОСЛАНИЕ СВЕТОГО ПАВЛА

Глава а

Апынуўшыся ў спрыяльным асяроддзі, Францыск Скарына прагна пачаў убіраць у сябе ўсё лепшае, чым была багата Заходняя Еўропа пачатку XVI стагоддзя, бо добра ведаў, што ніва яго далёкай бацькаўшчыны яшчэ чакае свайго сейбіта. І ён увесь аддаецца навукам. Граматыка, логіка, рыторыка, музыка, арыфметыка, геаметрыя, астраномія, філасофія, права, гісторыя, класічныя мовы — вось кола яго інтарэсаў. За кароткі час Францыскавы веды дасягаюць такой дасканаласці, што вучоны савет аднаго заходнееўрапейскага ўніверсітэта прысвойвае яму высокую навуковую ступень «доктара свабодных навук». Але волатаўская натура Скарыны не супакойваецца і на гэтым. Ён імкнецца далей, у Італію — сэрца рэнесанснай Еўропы, і там паглыбляецца ў вывучэнне медыцыны ды прыродазнаўчых навук. Потым у славутым Падуанскім універсітэце бліскуча здае экзамены на годнасць доктара лекарскіх навук. 9 лістапада 1512 года здзіўленая вучоная Еўропа ганарова ўскладае на першага беларуса пурпуровую доктарскую мантыю.

Перад маладым доктарам свабодных і лекарскіх навук адкрывалася неблагая кар'ера: ён мог вярнуцца на Беларусь і стаць тут прыдворным лекарам у якога-небудзь буйнага магната. Выгадна ажаніўся б і стаў жыць спакойна, забяспечана. Але не такога шчасця ён прагнуў, не да такой славы імкнуўся. Ён не шукаў спакою і не выбіраў лёгкіх дарог.

Муж вялікай навукі, чалавек шырокіх поглядаў, гарачы патрыёт сваёй бацькаўшчыны, Францыск Скарына выдатна адчуваў патрэбы свайго часу. Каб вырвацца з пут рэлігійнага дурману, «люду паспалітаму» патрэбна была асвета. Але яна была немагчыма без кнігі, **друкаванай** кнігі, масавай, таннай, каб купец, рамеснік, земляроб, як зусім звычайную рэч, маглі лёгка набыць яе. І Францыск Скарына вырашыў, што

Першая старонка з «Апостала», выдадзенага ў Вільні. 1525 год.

б там ні стала, даць яе свайму народу. Кнігу-сябра, спадарожніка, дарадчыка, якая прымушала б думаць, памагала б жыць і змагацца, а не кнігу-малітоўнік.

Што ж друкаваць у першую чаргу? Францыск Скарына быў вельмі далёкабачным, каб пачынаць справу з канца. «Люд паспаліты» Беларусі на пачатку XVI стагоддзя яшчэ не быў падрыхтаваны для ўспрыняцця зусім свецкай навукі, і зборнік філасофскіх трактатаў ці кніга антыцаркоўных памфлетаў не знайшлі б сабе масавага чытача. Наш вялікі першадрукар знайшоў адзіна правільны шлях: ён пачаў з «Бібліі», кнігі тады вельмі папулярнай і вядомай. Але каб непасрэдна дайсці да простага чалавека, яна павінна быць выдрукавана толькі на зразумелай яму мове. Асвета народа не можа быць ненацыянальнай.

І Скарына перакладае «Біблію» на беларускую мову. Ён вырывае з рук царквы ініцыятыву быць абавязковым пасрэднікам між кнігай і чытачом, адзіным тлумачом «святога пісьма». Бяры «Біблію» ў рукі, сам чытай, сам думай, сам разважай, сам вучыся — цяпер яе можна зразумець і без папы! Даць непасрэдна народу ў рукі поўную «Біблію» на яго роднай мове — на такі крок яшчэ ніхто ў Еўропе пасля Яна Гуса не адважваўся, нават сам Марцін Лютар, смелы рэфарматар, самы страшны для рымскага папы ерэтык.

Гэта быў учынак вялікай грамадзянскай мужнасці, сапраўдны подзвіг першага беларускага друкара Францыска Скарыны.

І вось надышоў памятны для чалавецтва і для Беларусі 1517 год. Ужо адкрыта Калумбам Амерыка, але яшчэ збіраецца ў вялікую дарогу Магелан. Заканчвае жыццёвы шлях велічны Леанарда да Вінчы, і толькі распраўляе магутныя крылы непаўторны Тыцыян. У росквіце Альбрэхт Дзюрар і Мікеланджэла. Рафаэль страсна працуе над сваёй лебядзінай пес-



«Пабудова Ерусалімскага храма» з трэцяй кнігі «Царстваў». 1518 год.

няй — «Сікстынскай мадонай», а Капернік натхнёна ўглядаецца ў неба, прадчуваючы разгадкі таямніц руху Сонца і планет. З'едліва смяюцца з дурноты цёмных людзей Эразм Ратэрдамскі і Ульрых фон Гутан. Бы ў пераднавальнічнай цішы, Германію ўскалыхвае магутны ўдар грому — Марцін Лютар абнародвае свае 95 антыпапскіх тэзісаў. Пачалася Рэфармацыя. А 6-га жніўня таго ж года ў Празе з-пад станка Францыска Скарыны выходзіць першая друкаваная кніга беларусаў — **«Псалтыр»**. Потым адна за адною на працягу 1517—1519 гадоў з'яўляюцца на свет 22 кнігі **«Бібліі»** на беларускай мове.



«Руф у полі» з кнігі «Руф». 1519 год.

Не для праслаўлення бога, не для ўмацавання праваслаўя і рэлігійных забабонаў пачаў выдаваць свае кнігі Францыск Скарына. Ён яшчэ не адкідаў зусім рэлігію, але, як і першыя заходнееўрапейскія гуманісты, быў ужо і абыякавы да яе. Аб гэтым перакануча сведчыць увесь характар яго рознабаковай, чыста свецкай дзейнасці. «Людзям простым паспалітым для ўжытку і для размнажэння добрых звычаяў», для «паспалітага добрага і размнажэння мудрасці», — гранічна ясна і дакладна характарызаваў сам Скарына мэту свайго гістарычнага пачынання. «Біблія» для яго — не боскае «откровение», а кніга, напісаная філосафамі, людзьмі смяротнымі; яна для яго — не кодэкс хрысціянскай веры, а энцыклапедыя навук, крыніца ведаў.

У сваіх арыгінальных прадмовах Скарына выкладае цэлую праграму навучання па «Бібліі» сямі свабодным навукам. Ён дае дадатковыя звесткі па геаграфіі і філасофіі, знаёміць чытачоў з гісторыяй і правам іншых народаў, папулярызуе антычную навуку і літаратуру. Ён праслаўляе чалавечы розум, ухваляе здаровае імкненне чалавека да славы. Яго мараль свецкая, гуманістычная, у аснове якой — павага да чалавечай асобы, любоў да свайго народа, да сваёй бацькаўшчыны. Як чалавек новага часу, Францыск Скарына поўны ўсведамлення ўласнай чалавечай годнасці, надзвычай ганарыцца вучонай ступенню доктара медыцыны, неаднаразова ўказвае ў прадмовах, што гэтая «Біблія» выдаецца іменна яго, доктара Францыска Скарыны, «працаю і пільнасцю». Больш таго, ён тройчы змяшчае ў выданых ім кнігах свой партрэт (выпадак унікальны ва ўсіх выданнях «Бібліі» ўсходніх славян), з якога ва ўсіх сваіх доктарскіх рэгаліях глядзіць на нас вучоны і асветнік, акружаны кнігамі, рознымі астранамічнымі і геаметрычнымі знакамі, навуковымі прыладамі. Яго герб — Сонца, сімвал святла, сімвал жыцця. У сваіх прадмовах Францыск Скарына заклікае чытачоў заўсёды карыстацца сваёй роднаю мовай, ніколі не шкадаваць «працы і скарбаў для паспалітага добрага і для Бацькаўшчыны сваёй».

У адносінах да «Бібліі», як да крыніцы ведаў, у перакладзе яе на мову простага народа, у вольнай перадачы тэксту «святога пісьма», у змене парадку следавання біблейскіх кніг і раздзелаў у іх, у змесце прадмоў, у свецкім афармленні ўсіх выданняў, пражскіх і віленскіх, праявіліся вялікая глыбіня магутнага розуму першага беларускага гуманіста, яго дэмакратызм і рацыяналізм. Не выпадкова праваслаўныя артадоксы называлі кнігі Скарыны «растленными» і «перепорченными».

Францыск Скарына бачыў у кнізе не толькі крыніцу ведаў, але і твор мастацтва. Кніга павінна прыносіць чалавеку эстэтычную асалоду і сваім знешнім выглядам, павінна быць зручнай і практычнай у карыстанні. І ў гэтым ён дасягнуў найвялікшых вышынь. Па сваёй тэхнічнай дасканаласці кнігі Скарыны стаяць на ўзроўні самых выдатных заходнееўрапейскіх узораў пачатку XVI стагоддзя, венецыянскіх і нюрнбергскіх. Яны — сапраўдныя шэдэўры друкарскага майстэрства. Невялікія памерам (у $^1/_4$, $^1/_8$ і $^1/_{12}$ друкарскага ліста), упрыгожаныя цудоўнейшымі гравюрамі, застаўкамі і ініцыяламі, якія праслаўляюць прыроду і чалавека, з прanумараванымі (упершыню ва ўсходнеславянскай кнізе) лістамі і тытульным лістом, — кнігі Скарыны ўяўляюць сабою зусім адметную, непаўторную ў гісторыі кнігадрукавання з'яву. Надзвычай прыгожы і арыгінальны іх шрыфт. Ён — выдатны сінтэз лепшых традыцый беларускага пісьма канца XV — пачатку XVI стагоддзяў.

«Тая прыгажосць малюнка, тое майстэрства гравюры, якія на такі кароткі час прамільгнулі ў выданнях... скарынінскіх, — пісаў выдатны рускі гісторык мастацтва і музычны крытык У. Стасаў, — ніколі ўжо больш не паўтаралася ні ў адным выданні царкоўнаславянскага друку на працягу ўсёй другой палавіны XVI, усяго XVII і першай паловы XVIII стагоддзя». Дакладней кажучы, кнігі беларускага першадрукара былі тым узорам, тым ідэалам, да якога на працягу двух стагоддзяў няспынна імкнуліся лепшыя друкары Беларусі, Расіі, Украіны, але так і не змаглі яго пераўзысці.

Жыццё Францыска Скарыны было бурлівым, змястоўным, але не лёгкім. Выданне кніг не прыносіла яму матэрыяльнага прыбытку. Але ён ахвяраваў усім, нават не грэбаваў дапамогай багатых мецэнатаў, абы здабыць сродкі для здзяйснення сваёй гістарычнай задумы. Пасля Прагі Скарына пераязджае ў Вільню і адкрывае тут у 1525 годзе першую друкарню. Нам вядомы толькі дзве яго друкаваныя кнігі гэтага перыяду — «Апостал» і «Малая падарожная кніжка», якія былі далейшым крокам наперад у яго друкарскім майстэрстве.

Выданне кніг у Вільні з-за цяжкіх матэрыяльных умоў хутка перапыняецца. Судовая цяганіна з-за маёмасці жонкі, часовая турма з-за даўгоў брата, гібель у пажары любімай друкарні і іншыя нягоды турбуюць Францыска Скарыну ў гэты час. У 1530 годзе яго запрашае да сябе на працу ў Кенігсберг прускі герцаг Альбрэхт, называючы ў граматах нашага першадрукара чалавекам «выдатнага і вялікага ведання», «непараўнанага таленту і пахвальнай вучонасці». У 1532 — 1535 гадах Францыск Скарына — асабісты сакратар і прыдворны лекар віленскага біскупа. З 1535 года ён зноў у Празе, дзе закладае другі ў Еўропе (пасля Падуанскага) батанічны сад. Тут на пасадзе каралеўскага садавода-батаніка ён і памірае дзесьці ў самым пачатку 40-х гадоў XVI стагоддзя.

Дзейнасць Францыска Скарыны склала цэлую эпоху ў культурным жыцці беларускага народа і садзейнічала яго сацыяльнаму і нацыянальнаму абуджэнню. Яна зрабіла вялікі ўплыў на культурнае развіццё нашых братоў-суседзяў, рускіх і ўкраінцаў, якім таксама адрасаваў свае выданні вялікі асветнік («маёй брацііі Русі»), і пакінула значны след у гісторыі культуры чэшскага і літоўскага народаў. Будучы піянерам Адраджэння на Беларусі, ён спрыяў пранікненню гуманістычных ідэй на сваю бацькаўшчыну і садзейнічаў вызваленню светапогляду сярэдневечнага чалавека ад путаў рэлігійнай схаластыкі. Клапоцячыся пра асвету для простых людзей, ён даў ім першую друкаваную кнігу на роднай мове, а перакладўшы «Біблію» на беларускую мову, ён тым самым узнімаў гэтую мову да ўзроўню класічных моў Еўропы. Такой гіганцкай асобай, як Францыск Скарына, мог бы ганарыцца кожны народ. З дзейнасцю вялікага палачаніна звязана далейшае развіццё кнігадрукавання на Беларусі і ўзнікненне яго ў Расіі, на Украіне. Кнігі Скарыны разышліся па ўсёй Усходняй Еўропе, іх старанна перапісвалі і распаўсюджвалі. Яны перамагалі, хоць і было ў іх няммала ворагаў.

Кніга сёння стала для нас сапраўдным сябрам і спадарожнікам жыцця. І беручы з асалодаю ў рукі кожную новую, прыгожую, блізкую па сэрцу нам кнігу, мы не павінны забываць, што гэтай радасцю мы абавязаны таксама і Францыску Скарыне. У 1967 годзе будзе 450 гадоў беларускага друку. Можна спадзявацца, што да гэтай вялікай даты ўдзячныя нашчадкі, свята ўшаноўваючы памяць свайго вялікага першадрукара, гуманіста і асветніка, шчыра аддзякуюць яму і ўстановяць помнікі ў яго родным горадзе Полацку і ў Мінску — сталіцы Беларусі, якую ён так любіў і дзеля шчаслівай будучыні якой ён аддаў усе свае сілы, усё сваё жыццё.

**Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ.**




# З ПАВАГАЙ ДА РЭЧАІСНАСЦІ




**Аляксей ПЫСІН. «Мае мерыдыяны». Лірыка. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1965**

Каб правільна і праўдзіва ацаніць вельмі цікавую, скажам адразу, новую кнігу Аляксея Пысіна «Мае мерыдыяны», зусім не трэба перакрэсліваць яго ранейшыя кнігі: яны — прыступкі, па якіх узнімаўся і рос паэт. І ўсё ж, паставіўшы побач і параўнаўшы «Мае мерыдыяны» са зборнікам «Сіні ранак» (1959), нельга не заўважыць, што Пысін не проста вырас,— ён стаў **прынцыпова** іншы і новы.

І ў «Сінім ранку» было нямала такога, што выклікала сімпатыю да паэта, да сур'ёзнасці яго назіранняў над рэчаіснасцю, да яго імкнення ўбачыць і перадаць суровае, «непараднае» ў жыцці.

Апетыя многа раз матчыны ручнікі «ў непаўторных веснавых узорах» набылі ў Пысіна сваю сапраўдную, яшчэ не апетую непаўторнасць праз тое, што яны «ў партызанскіх баравых лясах... на ранах **абгаралі**», «**тлелі** пад снягамі і дажджом на магільным помніку героя». Знаёмая па многіх вершах тых гадоў сюжэтная сітуацыя — старая сялянка, калгасніца пазіруе перад фотаапаратам, вырашана Пысіным так, што бачыш жывога чалавека, а не абстрактнага «перадавіка»: «Перад фатографам жанчына хавае рукі пад фартух... Палола лён... Снапы вязала... Дзяцей люляла па начах... Часіны ж гэткае не знала, каб не трымаць чаго ў руках». Тэма патрыятычнай любві да роднага краю прагучала ў Пысіна з нечакана новай страснасцю і глыбінёй:

Не ведаю, якім вузлом
Навекі я прывязан
Да старых сосен за сялом,
Да яблынь, груш і вязаў...

Адно я знаю: гэткі меч
На свеце не скуецца,
Каб мог ён вузел мой рассеч,
Не закрануўшы сэрца...

Карацей, і ў папярэднім зборніку А. Пысіна мы сустракалі вершы, народжаныя самім жыццём, адзначаныя душэўнай актыўнасцю аўтара, яго жаданнем сказаць сваё ўласнае слова пра тое, што ён убачыў, перажыў, уведаў. Але адначасова мы заўважалі, як гэта паэтава жаданне перабівалася супрацьлеглай тэндэнцыяй да «нічыйнай» паэзіі, да ціснутага ў многіх копіях абыходкавага стандарту, які ўжо не меў нічога агульнага з індывідуальным аўтарскім поглядам на свет, на людзей.



Так паяўляецца ў паэзіі Пысіна і пачынае пераходзіць з верша ў верш адна нежывая постаць дзяўчыны. І не проста дзяўчыны, а нейкага сімвалу маладосці і чысціні: «Упершыню блакітныя вяснянкі ўбачыў я тады ў тваіх вачах»; «лясная чаромха дыміцца ў руках, і цёмныя косы ляжаць на плячах»; «дзявочая ўсмешка, чаромхавы цвет»; «дзяўчына папраўляе косы, што ў люстры возера відны» і г. д. і г. д. Так, з усяго багацця фарбаў жыцця чамусьці перавага аддаецца адной — **сіняй**, і вершы Пысіна літаральна захліствае глянцавітая сінява «паэзіі», якой ужо даўно няма ніякай справы да колеру «жывога» неба альбо вады: «сіні ранак», «вечар сіні», «светласіні май», «сіні змрок», «сініх вачэй васількі», «вочы — сінія васількі» і г. д.

Можна, гаворачы пра недахопы «ранейшага» Пысіна, вытлумачыць іх, прыкладна, так: паэт ведаў і любіў жыццё, аднак яму нехапала майстэрства, настойлівасці ў пошуках патрэбнага слова, якое часцей замянялася словам прыблізным, тым, што траплялася пад руку. Думаецца, гэта павярхоўнае тлумачэнне.

Слабасці многіх вершаў паэта паходзілі ад недастатковай **павагі** да рэчаіснасці, ад нявер'я ў тое, што яна, гэта рэчаіснасць, узятая ў сваім непрыхарошаным выглядзе, з усімі радасцямі і трывогамі, зможа выліцца ў паэзію высокай пробы. І яшчэ ад таго, што сам паэт нярэдка стаяў у баку ад тэмы, не ўдзельнічаў у тэме альбо ўдзельнічаў вельмі нясмела, як бы баючыся ўвесці сябе ў верш **усяго...**

І вось перад намі новая кніга Аляксея Пысіна «Мае мерыдыяны». Дзе-нідзе адчуваюцца яшчэ і тут інерцыя, руціна старога «метаду»: непераадоленая спакуса прывесіць арнаментальны «райскі хвосцік» (Маякоўскі) нават да харошага, праўдзівага верша.

Паэт прыпамінае пасляваенную пару: «Аддавалі мы маткам бушлаты, як вярталіся з поля вайны... Вось і новыя латкі прышыты, быццам круглае лісце лягло». Добрыя, моцныя радкі, якія адразу і без усякага тлумачэння пераносяць і нас, чытачоў, у атмасферу першага мірнага года. Здавалася б, якое яшчэ «хараство» трэба вышукваць ці выдумляць, калі ты ў самім жыцці адкрыў гэты прыгожы ў сваёй суровасці праўдзівы вобраз. «Мала»,— думае аўтар, і вось ужо маткі ў латаных франтавых бушлатах сталі «падобны... на ракіты, на бярозкі, што йдуць за сяло», і чароўнасць невыдуманай падрабязнасці пачала адступаць перад дэталлю «залітаратуранай» і ўмоўнай.

Аналагічная карціна ў другім вершы — «Пяць патронаў у абойме...». І тут нас не могуць не ўсхваляваць радкі пра ваенную пошту, што «цэлы месяц будзе везці праз краіну спавяшчэнне у канверце, **быццам міну**», паведамленне аб смерці сына-салдата. Навошта ж было заканчваць гэты верш неўласцівай яму па духу стылізацыяй пад фальклорную песню:

Цэлы месяц будзеш верыць,
Што жыву я,

Скажаш яблыням і вербам:
Ён ваюе...

**Тут**, па суседству з «мінаю ў канверце», абсалютна лішнія гэтыя вербы і яблыні, і матчына размова з імі: яны міфалагізуюць тое, што павінна паліць сваім аголеным болем, без «псеўданімаў».

Выхадцам з ранейшых кніг паэта выглядае ў новым зборніку верш пра заставу над Бугам, у прыватнасці гэтыя «белыя, нібы нявесты, ціхія, нібы нявесты, яблыні ля вышкі вартавой». Стрыманы, мужны верш «Калінінскія сопкі» відавочна псуюць рытарычныя радкі: «І кожны ішоў да сваёй (сопкі.— **Р. Б.**), нёс сэрца сваё — замест

вымпела». З добрага верша, прысвечанага другу-паэту, выпадаюць радкі пра «касцоў у Мікулічах», што, дабіўшы пагорак, «часопіс на каленях перагорнуць, мо напісаў зямляк ім новы верш?» Так ужо і не церпіцца касцу!..

Усё гэта — рудыментарныя з'явы, вынік таго, што зрэдку яшчэ пакідаюць паэта «такт рэчаіснасці», вера ў яе здатнасць жывіць паэзію сваім **уласным**, незапазычаным зместам: сваімі здзяйсненнямі і нягодамі, святлом і ценем. І менавіта таму, што з'явы гэта перажытачныя, што ў зборніку «Мае мерыдыяны» яны займаюць параўнаўча невялікае месца і што зборнік у цэлым якраз і вызначаецца рэалістычнай, «цвярозай» змястоўнасцю і паўнатой, мы маем усе падставы гаварыць пра новую кнігу Аляксея Пысіна як пра радасную падзею ў нашай літаратуры...

Аляксандр Твардоўскі пісаў у «Правде» пра новыя вершы А. Куляшова: «Тут няма ніякіх слоўных, фразеалагічных эквівалентаў паняцця «культ асобы», няма намінальна гэтай тэмы, матываў, якія паспелі ў многіх сучасных вершах ужо стаць агульнай мясцінай. А між тым, уся гэта свабода лірычнага выказвання, гэта няздаленасць тону, смеласць нечаканага збліжэння строгай думкі і простай сардэчнасці — іх не аднесці да іншага, чым нашы дні, перыяду — яны належаць цяперашняму часу і народжаны ім».

Тое ж самае можна сказаць і пра некаторыя іншыя творы нашай паэзіі, у тым ліку і пра «Мае мерыдыяны» Аляксея Пысіна. У гэтай кнізе вы таксама не знойдзеце простых «фразеалагічных эквівалентаў паняцця «культ асобы», калі не лічыць аднаго і даволі выразнага чатырохрадкоўя пра людзей і «бога»:

Былі б сягоння мы намнога
І прыгажэй, і маладзей,
Каб паважалі больш, чым бога,
Для нас народжаных людзей.

Але новыя вершы Пысіна, таксама, як і куляшоўскія вершы (уздзеянне якіх адчуваецца, дарэчы, у маладзейшага паэта-магілёўчаніна), цалкам «належаць цяперашняму часу», з яго непрыняццем усяго ілюзорнага, прадыктаванага воляй аднаго «празарліўца», з яго чуласцю да жывога, хай сабе і складанага, **рэальнага** вопыту жывых людзей. Іменна наяўнасцю гэтага вопыту, што фармаваў непаўторны паэтаў лёс, цесна і шчыльна звязаны з лёсам **многіх** людзей, перш за ўсё і хвалюе новая кніга Пысіна.

Гэта кніга куды больш аптымістычная і жыццесцвярджальная за ранейшыя кнігі паэта, хоць «шчаслівых усмешак» і «росамі абмытых садоў» тут вельмі нямнога. І толькі там, дзе ім належыць быць па логіцы сумленна-праўдзівага погляду на рэчаіснасць, па праву паэтавай дабраты. Скажам, у цудоўным вершы пра фабрычнае дзяўчаня:

Праменьчык серабрысты сонца
Гарэза юная ўзяла,
І той праменьчык-валаконца
Да верацёнаў падвяла.
Круціся, сонейка, круціся,
Праменьчык з-пад рукі не ўцёк;
Свяціся, нітачка, свяціся
І на аснову і на ўток.

Аўтар «Маіх мерыдыянаў» умее падгледзець і бесклапотныя гульні маленькай дачкі, калі яна хоча злавіць матыліны цень на рамонку. Паэт умее паразумецца і з прыручаным алянём, ахрышчаным хлопцамі на заставе «Алёшкам», ён нават чуе голас цёзкі: «А чаму ты не вайсковы?» Ён ловіць прыхільным вухам мілыя яго сэрцу адцені сваёй магілёўскай гаворкі:

— Куды, сусед, хадзіў ты сянні?
— Мядзведзя пасвіў на аўсянні.
Не раз былі з табой спатканні,
Як полаз, выгнутае — сянні.
І часам нават генерала
Яно ў бяседзе выдавала...



Не, Аляксей Пысін — ніякі не мізантроп, не аскет, а тым больш ніякі наўмысны «ачарніцель» жыцця, і калі з яго вуснаў усё-такі скупа і рэдка зрываюцца «сонечныя ўсмешкі», то не таму, што ён абыякавы да людскога шчасця, да простых радасцей і ўцех людскіх, а таму, што ён добра помніць, якая дэвальвацыя радасці панавала ў нашай паэзіі ў недалёкім мінулым і як сарамліва, нясмела мы гаварылі пра тую сапраўдную цану, якой адплачваецца шчасце.

Сённяшні, сталы Пысін, якому свет ужо не здаецца суцэльным святам, які ўмее бачыць кантрасты і супярэчнасці, спрачаецца з сабою ранейшым. І выяўляецца гэта спрэчка часам у другарадным, у такім, што і не адразу заўважыш.

Прыкладам, у спробе паэта, які так многа і часта апяваў толькі прыгажуню-бярозку, «рэабілітаваць» «непаэтычнае» дрэва — асіну, што «кожным лісточкам дробным б'ецца і ў спёку ў азнобе». У новым незвычайным эпітэце для традыцыйнага верша пра вырай: «Спяваць **хрыпатым** жураўліным трубам...» У нейкай «перапаленасці» каларыту там, дзе ў ранейшага Пысіна нярэдка пераважала «блакітная» падмалёўка: «Было ў спякоту дно — з глухога попелу, нібы агонь у берагах патух».

Прырода ў Пысіна жыве сваім напружаным і «суверэнным» жыццём. Ніякага алегарызму, ніякіх карнавальных убораў, ніякай наіўна-рамантычнай веры, быццам самае «прыемнае» для прыроды — ствараць адпаведны фон нашым чалавечым перажыванням. Прырода ў Пысіна прастуджаная, задымленая, з цяжкімі, маруднымі досвіткамі, з учэпістым, густым карэннем, з раз'ятранымі дажджамі. Тая ўнутраная работа, той несупынны працэс аднаўлення, што адбываецца ў **такой** прыродзе, менш за ўсё нагадваюць «эстафету»: лета — восені, восень — зіме. Не, тут ёсць і ахвяры, і страты, і жаданне спаліць «успамінаў жоўты лістапад», як і жаданне захаваць і запомніць самае павучальнае, самае «мудрае» ў мінулым. І перад усім ёсць у паэтавай прыродзе актыўнае намаганне высветліцца да дна, паўтарыцца **па-новаму**, на вышэйшай аснове, і толькі ў гэтым сэнсе — не дыдактычна, без просталінейных збліжэнняў — пераклікаецца яна з душэўным светам чалавека ў вершы.

Лёгка адчуць выразны адбітак ваеннага вопыту аўтара. Як быццам гэта ўсё **тая ж** прырода, яе працяг, яе непабляклы след у паэтавай памяці. Вайна і прырода пераблыталіся галасамі, і хоць «замкнуліся глыбокія пласты над пройдзеным», а «зямля ўсё глыбей вайну хавае»,— успамін аб пройдзеным і перажытым увесь час прабіваецца напаверх, папярэджвае і трывожыць, быццам асколак пад сэрцам.

Латвія, зямля сяброў, «зямля рыбацкіх ніў» — паэт яе наведаў праз дваццаць год. І стоячы над месцам, дзе калісьці быў «балотнамінны пояс Ліепаі», ён ніяк не можа адгадаць, што там стракоча ў хмызняку: «конікі ці стрэлкі тыя», стрэлкі схаванай у траве гадзіннікавай міны.

Спозненая вясна, халодная прорва, блытаніна вады і ветру, а паэту ўспамінаецца адно і тое ж:

Перакатным валам б'е стыхія,
Круціць валуны і пер'е траў.
Ну, а хіба мы былі сухія
На любой з бяздонных пераправ?..
Абдымалі хлопцы не русалак,
Абдымалі чорныя дубы.
Ты, вада, учора паласкала
Асаку ці шорсткія чубы?

І ўсё яшчэ паэту чуюцца за «хрыпатай» жураўлінай трубой «франтоў няроўнае дыханне», бяссонныя галасы каманды, «што на золку стане дыханнем ураганнай паласы».

Вельмі неразумна было б пачаць упікаць Пысіна за тое, што ён ніяк не расстанецца з ваеннай тэмай: нельга перашкаджаць паэту выгаварыцца да канца. А зрэшты, ці ёсць у гэтай тэмы канец? І ці вычэрпваецца наогул паняццем «ваенная тэма» тое, пра што гаворыць, над чым задумваецца паэт у зборніку «Мае мерыдыяны»?

Светаўспрыманне Аляксея Пысіна звязала ў адзіны вузел усе яго ўражанні, увесь душэўны запас, і з гэтага вузла не так ужо і лёгка выцягнуць па нітачцы вайну, пейзаж, каханне, працу. Усё, паўтараем, звязалася, пераплялося, матываванае біяграфіяй Пысіна-чалавека, сына свайго пакалення, якое вырасла, загартавалася ў грымотных выпрабаваннях вайны з фашызмам і захавала ўспаміны пра яе на ўвесь свой век.

Так стаміўся, прысесці ўжо нехаць,
Да парома ішоў тры гады,
Каб на бераг другі пераехаць,
Каб напіцца без дыму вады.

Пра што гэта? — пытаемся мы ў сябе. Калі толькі пра звычайны паром на Дняпры, адкуль жа гэтыя «тры гады», пройдзеныя паэтам? Калі толькі пра вайну, то навошта лакальныя фарбы сённяшняга, рэальнага дняпроўскага ранку, двух берагоў у смузе? Відаць, галоўнае ў вершы тое, што злучае яго разнародныя элементы,— вынашаныя з вайны і сягоння яшчэ жывая няўтольная прага «без дыму вады», і чыстага хлеба, і неба без хмар для ўсіх, для кожнага.

Паэт успамінае сваіх таварышаў, аднагодкаў, што загінулі, так і не паспытаўшы вады без дыму: «Па колькі, хлопцы, вам? — Па дваццаць. А камандзіру — дваццаць шэсць»; «хлопцаў, загінуўшых цені ў вачах засталіся маіх»; «байцам спявае рэквіем сасоннік, карэннем дол сплятаючы гусцей, а я іх помню юнымі...» У лепшых вершах гэтая памяць аб тых, хто не вярнуўся з вайны, дасягае вялікай сілы гучання:

Узышлі травой і гарыцветам,
Узышлі на радасць ці жальбу?
Вунь стаіць Іван па-над кюветам,
Галавой ківае: «Вось жыву.
Не здзіўляйцеся, што ўвесь чырвоны:
Восем куль было — крывёю сцёк.
Скора восень. Каркаюць вароны.
Жоўты каля ног маіх лісток.
Хочаш — пачастую нашым чаем...
Я ж цяпер навекі вадахлёб.

І далей, пасля шчымлівых, з болем сказаных слоў мёртвага,— такія ж праўдзівыя, вольныя ад сантыментаў салдацкія словы жывога:

Не, Іване, з чаем — пачакаем,
Закурыць не лішняе было б.
Мы цыгарку скруцім па-былому,
Пусцім шызы дым на правады.
Першая зацяжка — мне, жывому,
Бо занадта ў сэрцы гаркаты.

І, нарэшце, заключны радок, што падымае і боль, і гаркату трагічнага дыялогу да нечага вышэйшага — да ўсведамлення нашага абавязку перад мёртвымі і жывымі, перад сучасным і будучым:

Чырвань, чырвань, колер праваты...

Рэзка, страсна і пераканаўча напісаны верш! А такіх вершаў у зборніку Пысіна нямала, і ўсе яны, пры вельмі вострым драматызме свайго зместу, пакідаюць у сэрцы не страх і разгубленасць, а свята і надзею.

Зразумелы і блізкі чалавек у вершах Пысіна. Яго высокая стойкасць, натхнёная «колерам праваты», чырванню рэвалюцыйнага сцяга. Незвычайная чуласць да гора, крыві, слёз. Умельства заўважаць самую дробязную прыкмету станаўлення, развіцця, руху: «Прачнецца кропля, што была ільдзінкай, і варухнецца...» Заўсёдная



схільнасць да самакантролю, прага аднаўлення, гатоўнасць вызваліцца ад лішняга перад кожным новым адрэзкам шляху:

Разумею са сваёй аглядкі
На дажджы, на дрэвы пад дажджом:
Шмат гадоў, забралі перасадкі
З нейкім непатрэбным багажом.

Шчыра і поўна раскрываючы свой самабытны характар, лірычны герой паэта таму і выклікае спагаду і спачуванне, што сам ён спагадліва і сардэчна ставіцца да тых, хто побач.

Маленькая, але характэрная дэталь: паэт расказвае аб сваім прыездзе пасля многіх год у родную вёску, ён бачыць засыпаны калодзеж, што хваляваў у маленстве «трывожнай глыбінёй». І далей ідзе залаты радок пра гэты самы калодзеж: «Ён слухаў споведзь самай ціхай жонкі»... Прызнацца, было трохі боязна, думалася: вось-вось і вырасце пры калодзежы чарнакосая маладзіца з вёдрамі на каромысле. І раптам гэта «самая ціхая жонка» ў споведзі! І мы ўдзячны паэту за яго далікатнасць і такт, за добрую здольнасць ўбачыць няяркае, пачуць нягучнае.

Гэткая далікатнасць, такая павага да годнасці, радасці і турботы «чужога» чалавека, такое адмаўленне самаўлюбёнасці і эгацэнтрызму яшчэ не раз сустрэнецца ў зборніку «Мае мерыдыяны». Хоць бы ў вершы «Асенні лес, асенні лес...»:

Сказаў бы дзятлу, як цябе люблю,
Сказаў бы дзятлу, як нялёгка мне.
Ды ён, адзіны субяседнік мой,
Выстуквае, выслухвае свой бор;
Тут столькі дрэў са скрухаю нямой,
Што лішнім здаўся б нейкі мой дакор.

І ў вершы «Баркалабаўскія салаўі», бясспрэчныя вартасці якога найлепей выявяцца, калі мы яго параўнаем з падобным па тэме вершам «Магілёўскія дзяўчаты» (1958).

І тут, і там адзін сюжэт: рамантычна настроеныя дзяўчаты пакідаюць родны край і едуць у далёкі белы свет. Стары верш апавядаў пра гэта бяздумна і малавыразна: «А трэба — едуць смела (?) ў вёску, і на Іртыш, на Ангару». У новым ёсць ужо і складанасць, і роздум, і жыццёвая дыялектыка ўсіх «за» і «супраць». Дзяўчаты едуць? Ну што ж, шчаслівай дарогі: на тое яна і моладзь, каб рвацца туды, дзе цяжка... Але ж павінны быць у моладзі і пэўныя абавязкі перад бацькоўскай зямлёй — як спалучыць адно з другім?

Пысіну хочацца, каб яго маладыя землячкі адчулі сваю прыналежнасць да народнай гісторыі, і таму паэт дае словы песні, складзенай у народным стылі:

Ля чорнай кладкі плавала
Гусінае пяро.
Дзяўчыну з Баркалабава
Павезлі за Дняпро.
Палонам ёй і згубаю
Той род чужы і дом:
Лепш кукаваць зязюляю
У матулі пад акном.

Але ў паэта няма ілюзій: «унучкі саманадзейныя» ўжо «Рэчаньку» «не бяруць», ім мала «Рэчанькі», і ў баркалабаўскім клубе «салісткі самадзейныя пра Ангару пяюць» і дзень пры дні чакаюць вярбоўшчыка, і ў гэтым іх права, права пакалення, што хоча скласці сваю ўласную песню. І верш заканчваецца радкамі, даволі складанымі па настрою,— ёсць у іх і сум, і спагада, і прызнанне чужой праваты, і яшчэ многае, што з ходу не «фармулюецца», бо яно паміж словамі, у тоне:

Будзь, рэчанька, раўніваю,
Не помсці ты, а ўсё ж
Паджгай, паджгай крапіваю,
Як выйдуць басаnож.

Нарэшце, самае нечаканае: за дзяўчатамі следам падаўся «на Іртыш, на Ангару» і аўтар верша, але пра гэта ўжо расказваюць ін-

шыя творы, і таксама добрыя сваёй сур'ёзнасцю, сваёй цікавасцю да таго, як жывуць, што робяць, пра што мараць людзі, якія ўзрошчваюць у стэпе хлеб...

Паэзія Аляксея Пысіна вабіць сваёй арганічнай звязанасцю з усім: «Сыходзяцца сустрэчныя арбіты і раздаюцца ўшыр кругі, кругі...» Тым, што, пры ўсёй індывідуальнай своеасаблівасці, яна абапіраецца на нешта вельмі істотнае, першапачатковае ў гістарычным, у працоўным быцці народа, у яго маральна-этычных ідэалах: «Зямное, кроўнае знаходжу ў тым, што вызначае корань і аснову», «з драбнюткага зярнятка — ўсе калоссі, і толькі плуг ўзнімае цаліну», а ў таварышаў, што загінулі на франтах, «з маленства клопат быў, каб рунню дыхаў дол зялёны».

І менавіта адсюль, ад гэтай адданасці «кораню і аснове», ад цвёрдага ведання, што перад абавязкам паэта ёсць абавязак грамадскага чалавека і што гэты чалавек адказвае за ўсё ў свеце сучасным і заўтрашнім, паходзяць і тая прасветленасць, і тая спеласць, якія, у канчатковым выніку, на вышэйшым «вітку» вянчаюць паэзію Аляксея Пысіна:

Да сустрэчы, зоркі, да спаткання,
У акно б'юць ластаўкі мае.
Белае высокае світанне
Ў яснасці цвярозай паўстае...

Цяжка сказаць, у чым праяўляецца больш за ўсё манера Пысіна як паэта. Мабыць, яна — у адсутнасці ўсякай манеры, у адсутнасці мітуслівай маленькай турботы пра тое, каб абавязкова быць «непадобным». Але пры гэтым можна, як здаецца, гаварыць пра суровую прастату і энергію пісьма, пра тую засяроджанасць аўтара на праўдзе перажывання ці з'явы, якая не дазваляе яму быць бязмэтна «эфектным», безадносна «майстэрскім». За ладам верша — лад душы. Пошуку слова папярэднічае пошук праўды.

Толькі пільная патрэба падзяліцца важным магла спарадзіць такія ясныя навылёт і строгія радкі:

Даўно збіраюся маўкліва
Ступіць на сцёртыя сляды.
Пайду да самага абрыва
Вялікалуцкае грады,
Дзе трое сутак бралі сопку,
Што дыхала, нібы вулкан,
Дзе паміралі паасобку
І ўзводамі — ад немых ран...

І толькі непадманная ўнутраная паўната і свабода маглі выліцца ў такія стройныя і лірычна раскутыя строфы:

Гул вакзалаў у шкляным блакіце,
Бесканечнасць рэек пазнаю.
Паязды начныя, пакажыце
Станцыю маленькую маю...
І мяне бярозавай вясною
Падхапіла з сцежкай карусель.
Тысяча зямель перада мною
І за мною тысяча зямель...
Аж да белых зор чагосьці чакаю,
Аж да белых зор кагосьці малю...
Пад шчакой, здаецца, адчуваю
Станцыю маленькую маю.

А вось як ненадакучліва і разам з тым вельмі пластычна гукапіс Пысіна перадае нам рокат і гудзенне Домскага аргана ў Рызе:

Абыдзённасць губляе уладу,
І — няма нейкіх дробных турбот;
Чуеш вечнасці гулкай баладу,
Дум нядзейсненых чуеш палёт.

Гэта гучыць велічна і ўрачыста. Як адмаўленне «дробных турбот». А вось і радкі якраз пра дробнае, несапраўднае, прывіднае — пра перакаці-поле:

Стэп уздыхне — і зябка дрогне
Ў стаўку хмурынка-паплавок.
Выкатваецца на дарогу
Бясшумны прывідны клубок.
Травы, што з кораня знялася,
Травы, што высахла ад спёк;
Саломінка пераплялася,
Учапіўся з зернем каласок...



Калісьці Кузьма Чорны раіў маладым празаікам «трымацца непасрэдна свайго героя, ісці толькі яго следам, не ствараць у часе і прасторы пэўных сітуацый, незалежных ад героя». Сказанае датычыць паэзіі не ў меншай, а нават і ў большай ступені. Бо ў паэзіі (а вузей — у лірыцы) узаемазвязанасць і ўзаемазалежнасць характару і верша, як гарманічнай цэласнасці, выступаюць з гранічнай наглядпасцю; тут проста не існуюць знешнія, незалежныя ад аўтара і героя «час і прастора», і кожная спроба «ствараць сітуацыі», безуважныя да аўтарскага светаўспрымання, нічога іншага спарадзіць не могуць, як толькі рытарычную ці ўяўна «майстэрскую» псеўдапаэзію.

Што да Аляксея Пысіна, то не толькі ў яго тэмах, ідэях альбо эмоцыях — нават у ягонай паэтыцы «разліта» светаўспрыманне жывога, канкрэтнага чалавека, чыя ўласная сутнасць пазнаецца ва ўзаемаадносінах з іншымі людзьмі, там, дзе крыжуюцца «сустрэчныя арбіты» многіх.

І шкада, што ў асобных выпадках Пысіна пакідае яго істотнасць, яго ўнутраная засяроджанасць на значным. Тады ён пачынае не ў меру зацята спрачацца з тымі, хто «букеты... носіць на кірмашны рад»,— і верш робіцца ардынарным. Здараецца, паэт трапляе ў палон рамансавага распеву — і верш пачынае гучаць манерна, у чужой танальнасці: «Ты апусці далоні мне на плечы, і я змаўчу... Лепш пададзі нячутнаю ступою і абнімі...»

І вось што яшчэ. Існуе — у тэорыі і на практыцы — закон паэтычнай градацыі. Іван Франко бліскуча паказаў, што ён азначае, на Шаўчэнкавым «Запавеце»: «Ужо слова «пахавайце» абуджае ў нашым уяўленні вобраз дамавіны; адным узмахам паэт паказвае нам гэтую дамавіну, як частку вялікага цэлага — высокай магілы; зноў адзін узмах, і гэта магіла робіцца адным пунктам у большым цэлым — бязмежным стэпе; яшчэ адзін крок, і перад нашым духоўным зрокам уся Украіна, сагрэтая вялікай любоўю паэта».

Аляксей Пысін ведае гэты закон: ад часткі да цэлага, ад прыватнага да агульнага, але падчас рэалізуе яго не вельмі ўдала — не рухаючы верш уперад, не разгортваючы закладзеную ў вершы вобразную думку, а як бы сшываючы яго з розных кавалкаў.

«Вятры і дождж — такая блытаніна...» Палова верша — карціна позняй вясны, што «забыла каляндар», другая — напамін аб пагрозе вайны: «Дажджы, дажджы... А можа смертаносны, атрутны дождж упасці над зямлёй» (дарэчы, калі «ўпасці», дык на зямлю)... Дзве часткі верша зніталіся не ўнутранай, а «знешняй» думкай, да таго ж і вельмі агульнай, скарыстанай у многіх творах. Масткі паміж часткамі — хісткія. «Прыкрыцца нельга будзе парасонам...» — сказана дробна і наводзіць на думку, быццам і араты, пра якога гаворыцца вышэй («аб многім думае араты у гэты дзень размыты, дажджавы»), ратуецца ад дажджу парасонам. Здаецца, прычатаны два розныя вершы, прыштукаваныя адзін да аднаго.

Часам паэт бывае недастаткова эканомны ў слове. «Высакавольтная спякота б'е ў скроні, бы электраток»,— калі «высакавольтная», навошта яшчэ «электраток»?..

Можна было б адзначыць асобныя прыватныя хібы зборніка «Мае мерыдыяны». Але галоўнае ў іншым — гэтым зборнікам Аляксей Пысін, якога мы раней ведалі як паэта здольнага, але нероўнага, заявіў аб сабе як аб паэце вельмі багатых, шырокіх і разнастайных магчымасцей. У нашу паэзію ўваходзіць новы і своеасаблівы майстар з добрым адчуваннем жыццёвай праўды.

**Рыгор БЯРОЗКІН.**

# ПРОСТА АБ СКЛАДАНЫМ




**Анатоль САБАЛЕЎСКІ. «Уладар дум чалавечых». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1964.**

Кніга Анатоля Сабалеўскага прысвечана творчасці народнага артыста СССР Барыса Віктаравіча Платонава. Напісана яна ўсхвалявана, горача, аўтар яе валодае ўменнем аб складаным гаварыць проста, ясна, але без дылетанцкага спрашчэнства.

Прыемная асаблівасць літаратурнай манеры аўтара ў тым, што разважанні яго прафесійна сталыя, абгрунтаваныя, зрок — чэпкі на дэталі, без якіх мы не змаглі б сабе ўявіць так выразна партрэты герояў, створаных Платонавым. Сярод нарысаў, якія выдадзены ў апошнія гады пра выдатных акцёраў Савецкай Беларусі, кніга А. Сабалеўскага вылучаецца шырокім асвятленнем творчага шляху артыста, увагаю да станаўлення яго майстэрства.

Аўтар не адлучае акцёра ад ансамбля. Пра што б ні вялася размова,— пра «Канстанціна Заслонава» ці «Рамеа і Джульету», пра «Мілага чалавека» ці «Даходнае месца»,— мы ўяўляем увесь твор у цэлым і месца ў ім Платонава.

У кнізе паказаны станоўчы ўплыў, які зрабілі на фармаванне таленту, эстэтычных густаў і мастацкай сталасці Платонава рэжысёры Я. Міровіч, Л. Літвінаў, І. Раеўскі, Б. Эрын, увесь калектыў Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Падкрэслена асаблівае значэнне савецкага рэпертуару ў творчай біяграфіі артыста.

Нельга не згадзіцца з А. Сабалеўскім, што мастацтва Платонава прываблівае сваёй жыццёвасцю, шчырасцю, цеплынёй, сардэчнасцю. «...У той час, калі Платонаў стварае вобраз,— чытаем мы ў кнізе,— проста забываешся пра рамяство акцёра, пра яго тэхніку. Наогул нават не думаеш пра майстэрства. Захапляешся іншым — жыццёвай верагоднасцю, дакладнасцю знойдзенага характару».

Не ўсё ў кнізе Сабалеўскага бездакорнае. З некаторымі сцвярджэннямі яго хацелася б паспрачацца. У апошнім раздзеле кнігі аўтар піша: «Барыс Платонаў — артыст-лірык. Другое, больш дакладнае вызначэнне знайсці цяжка». Між тым вядома, што найбольш тыповыя вобразы ў біяграфіі майстра якраз не лірычныя, а гераіка-рамантычныя, трагедыйныя і сатырычныя. Можна згадзіцца з А. Сабалеўскім, што да самых выдатных сцэнічных герояў Платонава належаць: Эзоп («Ліса і вінаград»), Заслонаў («Канстанцін Заслонаў»), Пратасаў («Жывы труп»), Быкоўскі («Паўлінка»), Лявон («Лявоніха на арбіце») і некаторыя іншыя. Аднак, Эзоп — гэта паэт-філосаф з трагічным лёсам, Заслонаў — мужны воін, народны герой, Пратасаў — драматычны герой, які становіцца ахвярай ілжывай буржуазнай маралі, Быкоўскі і Лявон — востра сатырычныя персанажы.

Нават у аналізе ролі Рамеа—Платонава слушна падкрэслена, што там ёсць і рысы гамлетызму, і «не толькі полымя непасрэднага юнацтва, але і сіла думкі» (тут аўтар спасылаецца на рэцэнзію «Праўды»). А. Сабалеўскі сам пацвярджае, што ў гэтым вобразе пераважае не «чыстая» лірыка, а філасофскі роздум.

Такім чынам, сярод асноўных вобразаў, створаных Платонавым, няма ніводнага, які можна было б назваць чыста лірычным. Асобныя лірычныя інтанацыі, адценні, сцэны, эпізоды не вызначаюць профілю выдатнага мастака, які з'яўляецца акцёрам шматпланавым, многажанравым.

Не зусім ясна даведзена думка пра нацыянальныя элементы ў спектаклі «Рамеа і Джульета». Тэатразнаўца спасылаецца на рэцэнзію М. Марозава, у якой напісана: «Гэты спектакль узнаўляе тое, што закладзена ў самой прыродзе беларускага тэатральнага мастацтва — мяккасць, лірычную задуменнасць, імкненне да праўдзівай перадачы шчырых чалавечых пачуццяў». А. Сабалеўскі далучаецца да гэтай ацэнкі. Але чаму толькі беларускаму тэатру ўласціва мяккасць і лірычная задуменнасць? А хіба ўкраінскаму і рускаму тэатру яны не ўласцівы?

Шкада, што аўтар сур'ёзна не зацікавіўся шматгадовым вопытам выступленняў Б. Платонава па радыё, у кіно, на тэлебачанні, а гэта ўзбагаціла сцэнічнае майстэрства артыста, пашырыла яго выяўленчыя сродкі.

Ёсць свае недахопы ў кампазіцыйным размяшчэнні матэрыялаў у кнізе. Сцэнічная біяграфія артыста разглядаецца па жанрах спектакляў, з падзелам на класіку і сучасны рэпертуар, а не праз паказ мастацкай эвалюцыі майстра, яго творчага станаўлення. Гэта ўскладняе агульнае ўяўленне аб паэтычнай індывідуальнасці Б. Платонава.

Аднак і пры ўсіх сваіх прыватных недахопах, кніга А. Сабалеўскага сведчыць пра тое, як пасталела за апошнія гады беларускае тэатразнаўства, як узбагацілі гэтую галіну маладыя мастацтвазнаўцы і крытыкі.

**Міхась МОДЭЛЬ.**

## Адкуль узяліся вясна і лета?

Мовазнаўцы ўсяго свету згодны з тым, што да гэтага часу не знойдзена бясспрэчнага тлумачэння паходжання славянскіх назваў вясны і лета.

Агульнаславянскім з'яўляецца толькі слова лета і яго фанетычныя варыянты: балгарскае лето, польскае lato, украінскае літо. У рускай, беларускай, славацкай, чэшскай, сербахарвацкай і македонскай мовах слова лета — leto гучыць аднолькава.

А вось слова вясна ёсць толькі ў слоўніку ўсходніх славян, а з заходніх — у палякаў. У чэшскай мове wesna з'яўляецца толькі малаўжывальным сінонімам jaro (яро). У паўднёвых славян вясна называецца пролет (балгарскае і македонскае), пролеће — пролече (у сербахарватаў).

Паходжанне ўсіх славянскіх назваў вясны і лета праясняюць якраз паўднёваславянскія словы пролет-вясна і лета. Хутчэй за ўсё, лета з'яўляецца асколкам першапачатковага слова пролет(о), якое азначала і вясну і лета, аб'яднаных, відаць, агульнай прыкметай: вясной і летам усё лётае, усё імкнецца ў вышыню. Бясспрэчна, што славянскае пролет нарадзілася спачатку як гукаперайманне ўзлёту птушак, іх пырхання, накшталт таму, як spring у англійскай мове, што азначае вясну, паходзіць ад першапачатковага значэння гэтага слова — успуджванне птаха.

Македонцы, што пасяліліся ў гарах, закансервавалі такія гукапераймальныя словы: првта — лапатаць крыламі, првка або прка — успырхваць, пркне, првне — узляцець. У кожным з гэтых слоў лёгка адчуць блізкасць іх да выклічніка «пырх». Калі адбываўся працэс прэфіксацыі, г. зн. шырокага скарыстання прыставак і прыназоўнікаў, гукапераймальнае «пр» ператварылася ў про, пере, пред, нават у лічэбнік «первый». Пырле-то ператварылася ў пролето, адкуль паходзіць і лето. А пазней вылучыўся дзеяслоў лететь, які ў сваім гучанні зусім аддаліўся ад гукаперaймання. Такім чынам, лето і лететь у славянскіх мовах словы блізкія па паходжанню, а значыць і па сэнсу.

Калі прасачыць чэшскае яро або славацкае яр — вясна, дык можна заўважыць, што яно супадае са старажытнагрэчаскім то еар або то ир — вясна. А ў грэчаскую мову яно, мабыць, трапіла з арабскай, дзе та'ир — птушка і тара — лятаць. Такім чынам і тут слова вясна блізкае ад дзеяння лятаць.

Усходнія славяне яшчэ звязвалі слова вясна з вяршыняй года — яны нават год лічылі з сакавіка, з вясны, калі ўсё ў прыродзе абуджаецца, імкнецца ўвысь. Па македонскіх словах (виши — узвышаць, узлятаць, вишина — вышыня, вишен — высокі) не цяжка здагадацца, што слова вясна звязана з вышынёй.

Характэрна, што і ў румынскай мове вясна (варэ) звязана з паняццем вяршыня (вырф). А ў лацінскім altus — высокі, узвышаны лёгка чуецца той жа корань «лт», што і ў славянскім «лето». Ды і чэшскае яро выглядае як бы варыянтам лацінскага ver (вясна) ці старажытнагрэчаскіх еар, ир (вясна). Адсюль, мабыць, узніклі такія паняцці, як яркі (сонца наймацней свеціць увесну), яравы (веснавы). Ды і назва бога сонца ў старажытных славян — Ярыла, Ярміла — звязана з вясной, калі нябеснае свяціла найярчэйшае.

Такім чынам, нельга аддзяліць глухой сцяной назвы вясны і лета ў індаеўрапейскіх мовах ад тых жа паняццяў у іншых мовах. У старажытныя часы плямёны мігрыравалі на далёкія адлегласці і пры гэтым мяшалася лексіка. Усходнеславянскім словам вясна лёгка вытлумачыць санскрыцкае васантас, што азначае тое самае. Блізка наша слова вясна і тамільскаму васандам, што значыць «прыходзіць год». Славянскай лексікай вытлумачваецца і паходжанне раманскага слова ver — вясна. З ver звязаны і вестуны вясны — вярба, вішня.

Прыхільнікі індаеўрапейскай першаасновы спрабавалі вытлумачыць паходжанне вясны ад выдуманага імі кораня иес — свяціць. Але варта прасачыць паняцце вясны ў многіх мовах і не цяжка будзе пераканацца, што слова «вясна» ўсё ж бліжэй звязана з такой прыкметай, як прылёт птушак. Вясну часам паказваюць у вобразе жар-птушкі, а слова «жар» не што іншае як варыянт слова «яр», як і слова «птица» вельмі блізкае да гукапераймальных «прхтица, прхетица». Адсюль узнікла і слова «пернатые».

Так што слова вясна і лета ўзніклі як пераасэнсаванне тых самых характэрных з'яў у прыродзе, што адбываюцца ў гэтую пару года.

А. БІРЫЛА.

# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ЗВЫЧАІ



**Вясёлы вадаспад.** Самае люднае і самае радаснае свята ў Бірме — «фестываль вады». Усе абліваюць адзін аднаго вадою — дома, на рысавым полі, у канторы, на заводскім двары; абліваюць аўтобусы, вазы, жывёлу, сцены будынкаў. Нават прэзідэнт Бірманскага Саюза ў дні фестывалю не міне нагоды выліць на каго-небудзь шклянку-другую вады. Ніхто не крыўдзіцца на імправізаваны душ: фестываль заўсёды прыпадае на самую спякотную пару лета.

**Смачная каланада.** За два тыдні да свята інданезійцы, жыхары вострава Балі, пачынаюць ладзіць двухметровыя калоны з рысу ў дарунак багам. У апошнія дні ўрачыстасці балійцы дружна з'ядаюць усю каланаду, лагічна разважыўшы, што багі ўжо ёю здаволіліся.

**Абед на даху.** Пабываўшы ў дні нацыянальных свят у шведскім ці нарвежскім пасяленні, вы ўбачыце на дахах будынкаў неабмалочаныя снапы пшаніцы ці ячменю, прывязаныя да жэрдак. Над дахамі з радасным крыкам лятаюць стаі птушак. Скандынаўцы любяць пярнатых і лічаць, што на свята павінны як след наесціся і птушкі.

**«Патлач».** Старажытны звычай індзейцаў Паўночнай Амерыкі «патлач» — вымагае ад сваіх прыхільнікаў шырокай натуры. Адзін раз у некалькі год індзеец, запрасіўшы на гулянку сваякоў і суседзяў, пасля мудрагелістых рытуальных скокаў, раздае гасцям усю сваю маёмасць: шкуры, чаўны, плашчы, упрыгожванні. Сабе ён пакідае толькі зброю. Гэты звычай згуртаваў племя, выхаваў пагарду да жыцця ў раскошы. Вядома, у нашы дні паўночнаамерыканскія індзейцы, якія жывуць у спецыяльна адведзеных для іх каланізатарамі пасяленнях, не могуць дазволіць сабе хоць зрэдку наладзіць «патлач».

**Вінаватыя музыкі.** Невялікі шынок у чэшскай вёсцы, святочны вечар, традыцыйнае піва, вясёлая гамонка, танцы. Маленькі аркестр — адна-дзве скрыпкі, флейта, габой, кларнет — іграе Дворжака. Раптам нехта з музыкантаў бярэ фальшывую ноту. Усе, страпянуўшыся, патрабуюць пакараць вінаватага, а заадно і яго калег — для прафілактыкі. Умомант абіраюцца суддзі. Яны вырашаюць, у якой позе павінен далей іграць аркестр. Музыкі пад агульны рогат самі «выконваюць прысуд». Іграюць, стоячы на аднэй назе, а то і седзячы або нават лежачы на падлозе. Нічога не зробіш! Такі старадаўні народны звычай чэхаў.



**Блінцовы крос.** Вам пашанцавала — у масленіцу вы апынуліся на Пікадылі-сэркус, плошчы ў Лондане, дзе перакрыжоўваюцца галоўныя вуліцы англійскай сталіцы — Рыджэнт-стрыт, Пікадылі, Гласхауз-стрыт і Шэфтсберы авеню. Што гэта? Па вуліцах з патэльнямі ў руках бягуць навыперадкі пажылыя жанчыны. На патэльні ў кожнай — гарачыя блінцы. Я ж сказаў, што вам пашанцавала: вы бачыце традыцыйны штогадовы «блінцовы крос» лонданскіх хатніх гаспадынь, крос па вуліцах горада. Не мае значэння, што кожнай удзельніцы адведзена невялікая дыстанцыя — метраў сто-паўтараста. Гэтага дастаткова, каб жанчыны з гарачымі патэльнямі спынілі вулічны рух. Затое жыве даўні звычай!

**Выбухі на плошчы.** Іншаземцу, які наведае Эквадор, сярод цікавых звычаяў краіны назавуць святочны абрад «Парахавая стужка» на традыцыйным індзейскім рынку ў Атавала. Праз усю рыначную плошчу да галоўнай вуліцы гарадка цягнецца каляровая стужка, набітая порахам. З аднаго канца яе падпальваюць, і над плошчай грымяць выбухі. Рынак зацягваецца сінявым парахавым дымам. І гандляры і пакупнікі намагаюцца стаць бліжэй да стужкі, каб яна выбухала каля самых іхніх ног. Твары ва ўсіх радасныя. Традыцыйны абрад адбыўся, думкі і душы яго ўдзельнікаў, паводле народнага павер'я, ачысціліся ў парахавым агні ад цемры, заган і нядобразычлівасці да свайго бліжняга.

**Свята кобраў.** Гэтая ўрачыстасць праводзіцца раз на год у індыйскім пасёлішчы Шырала (штат Бамбей). Жыхары паселішча наладжваюць змяінае спаборніцтва «ў бегу». Такое пабачыш толькі ў Шырале і больш нідзе! На старце стаўляюцца глякі. У кожным з іх ляжыць кобра — адна з самых ядавітых гадзюк зямнога шара. Па сігналу суддзі, паслухмяныя палачцы свайго гаспадара, кобры выпаўзаюць з глякоў, «прабягаюць» дыстанцыю і вяртаюцца кожная ў свой гляк. Балельшчыкі ў часе гэтых спаборніцтваў крычаць не менш, чым аматары футбола на стадыёне!

**Вершаваны прысуд.** Калі жыхары баварскага сяла хочуць вылечыць каго-небудзь ад скнарства або адвучыць перамываць чужыя костачкі ці хлусіць, усе яны пад бой барабанаў, крыкі і спевы, віск і свіст збіраюцца апоўначы пад дзвярыма «злачынцы». «Каты», аблічча якіх схавана пад маскамі, вымазана сажаю або закрыта капюшонамі, выцягваюць перапалоханага «злачынцу» з хаты. «Галоўны суддзя» чытае пералік яго «злачынстваў» у вершах, або нават спявае, сведкі дапаўняюць абвінавачанне жартаўліва-грознымі «сведчаннямі», якія нагадваюць нашы прыпеўкі. Калі «абвінавачаны», даведзены ўшчуваннямі да слёз, пачынае прасіць літасці, усе па сігналу суддзі разбягаюцца. Ідавочцы сцвярджаюць, што гэты вясёлы суд — някепскі спосаб выхавання.

Цікава, што, хоць Баварыя і знаходзіцца вельмі далёка ад Аляскі, абрад вясёлага суда пашыраны і ў эскімосаў Амерыкі. Прычым ён амаль не адрозніваецца ад баварскага, толькі з папраўкаю на снег.

**Маўклівая флатылія.** Судна плыве па акіяну дзень, тыдзень, месяц... Экіпаж маўчыць, толькі зрэдку старэйшы на борце аддае кароткія загады матросам. Што здарылася? Маракі далі абяцанне маўчаць?

Не, гэта звычай рыбакоў вострава Ява. Яны павінны маўчаць увесь час, пакуль трывае пуціна, каб улоў рыбы прайшоў удала. «Рыбацкае маўчанне» іншы раз доўжыцца больш за месяц.

**Першая баразна.** Шмат стагоддзяў існуе ў дзяржаве кхмераў Камбоджы звычай «першай баразны». Міністр земляробства (а раней — кароль Камбоджы) выводзіць на поле перад галоўным храмам у горадзе Пном-Пені свяшчэнных быкоў і чырвоным плугам уласнаручна пракладае першую баразну. Потым быкоў падводзяць да чаш, поўных зерня. Калі быкі ядуць зерне з ахвотаю,— значыць, будзе добры ўраджай.

Я. ЦЭРКОВЕР.



# БУДУЧЫНЯ «КАРАЛЕВЫ» —

Апошні год для лёгкай атлетыкі, якая заваявала вялікую папулярнасць у свеце, быў цяжкі як у нашай краіне, так і за рубяжом. Сапраўды, савецкія лёгкаатлеты летась пацярпелі рад сур'ёзных няўдач. Яны ўпершыню прайгралі традыцыйны матч амерыканцам, занялі месца за імі на Алімпіядзе ў Токіо і страцілі некаторыя сусветныя рэкорды, якія раней належалі нам. Вядома, спецыялісты на кожны выпадак прыводзілі важкія аб'ектыўныя прычыны, але пры больш глыбокім аналізе выявіліся і сапраўдныя прычыны такога становішча. Яны характэрныя не толькі для зборнай краіны, але для асобных рэспублік. Беларусь зусім не з'яўляецца выключэннем.

Праўда, у мінулым годзе ў беларускіх лёгкаатлетаў была і вялікая радасць: кідальнік молата Рамуальд Клім вярнуўся з Токіо з залатым медалем. Але гэтая радасць была, бадай, адзіная. Славутая Марыя Іткіна, якая незадоўга да алімпійскіх гульняў абнавіла сусветны рэкорд, у Токіо ледзь прабілася ў залікковую шасцёрку, а трэці наш алімпіец Барыс Храловіч застаўся па-за яе межамі.

Заўважце: гэта два ветэраны і спартсмены сярэдняга пакалення. А дзе ж моладзь? Чым яна паказала сябе?

Летась у Варшаве ўпершыню праводзілася неафіцыйнае першынство Еўропы сярод юнёраў. У ім удзельнічала група савецкіх спартсменаў і сярод іх двое беларускіх. Брэсцкая школьніца Зіна Давідчык на працягу ўсяго сезону паказвала высокія вынікі, скакаючы ў даўжыню, перавысіла нарматыў майстра і давяла рэспубліканскі рэкорд для дзяўчат да шасці метраў пяці сантыметраў. Бягун Анатоль Марыненка з Гомеля стаў чэмпіёнам усесаюзнага першынства таварыства «Спартак». Аднак у Варшаве абодва выступілі пасрэдна. І да алімпійскіх рубяжоў ім было яшчэ вельмі далёка.



Зоя Гаданюк з Пінска — чэмпіён Беларусі па кросу — і яе трэнер Віталь Грыцкевіч.

Фота Д. Церахава.

Нашы трэнеры навучыліся знаходзіць таленты. Іх работа вельмі блізкая, бадай, да пошукаў геолага, які ў тайзе вышуквае алмазы. Але, як вядома, гэты камень не стане каштоўным да таго часу, пакуль да яго не дакранецца рука ювеліра. Толькі дасканала адшліфаваны алмаз зіхаціць усімі сваімі гранямі. Імення гэтая ювелірнасць — самая складаная ў нялёгкай працы трэнера. І тут зноў на памяць прыходзяць імёны.

Два гады назад мінчанін Валянцін Панкратаў, Ларыса Давыдзюк з Гродна, Ніна Ждан з Дзяржынска вярнуліся з усесаюзнай спартакіяды школьнікаў пераможцамі. Выдатна выступіла таксама віцебская школьніца Таццяна Качанава. Здавалася б, вось надзейны рэзерв не толькі для зборнай рэспублікі, але і для ўсёй краіны.

Прайшло два гады — тэрмін не малы. І што ж? Ні адзін з гэтай шматабяцаючай чацвёркі так і не ўвайшоў у «вялікі» спорт. Той-сёй спыніўся на здабытых выніках, а некаторыя нават зрабілі крок назад.

Пераход юнака ў катэгорыю дарослых спартсменаў — працэс складаны. Перашкод на гэтым шляху занадта ж многа! Уплывае і фактар маральны: юнак, выступаючы сярод сваіх аднагодкаў, паспеў ужо набыць звычку перамагаць. А сярод славутых яму, прынамсі на першым часе, часта даводзіцца задавальняцца сціплым становішчам «сераднячка». У іншага рукі апускаюцца. І як важны тут аўтарытэт трэнера, яго ўменне мабілізаваць волю юнага спартсмена, абудзіць у ім упартасць, жаданне змагацца з цяжкасцямі. Не кожны, аднак, гэта ўмее зрабіць.

Часам здараецца і такое. Непрадбачлівы трэнер не імкнецца зазірнуць у заўтрашні дзень. Ён бярэ ад вучня ўсё, на што той здатны сёння. Дзіцячай спартыўнай школе пяюць хвалу, паліцы ломяцца ад кубкаў, дыпломаў, грамат... Але далей у юнака аддаваць ужо няма чаго. У пагоні за найбольшымі вынікамі і рэкордамі ён не паспеў атрымаць трывалую аснову, салідную «школу», як кажуць спартсмены. А лепшыя гады, калі ўсё даецца ў ахвоту, прайшлі і растрачаны, выходзіць, дарэмна.

Сустракаюцца, бывае, і цяжкасці арганізацыйнага, ведамаснага парадку. На першы погляд, іх лёгка пераадолець, але, тым не менш, карэнні ў іх моцныя. У хлопцаў пераход у наступную ўзроставую катэгорыю звычайна супадае з заканчэннем школы — і агульнаадукацыйнай, і дзіцячай спартыўнай. Хлопец паступае ў вышэйшую навучальную ўстанову, а вярбоўшчыкі з таварыства ўжо напагатове. «Пішы заяву, пераходзь да нас, а не, дык...» І на галаву ні ў чым невінаватага першакурсніка сыплюцца пагрозы. Што ж застаецца таму рабіць? Ён развітваецца з ранейшым выхавацелем і трапляе да новага.

Але калі б новы настаўнік пайшоў да ранейшага, шчыра, па-таварыску пагаварыў пра свайго выхаванца і яны разам вызначылі б яго далейшы шлях — эфект мог бы стаць прыкметны. Толькі здараецца інакш. Трэнер-пераемнік выступае ў ролі новай мятлы, і пачынаецца ломка навыкаў, звычак, тэхнікі, характару...



Выхавацелі і выхаванцы першай мінскай дзіцячай спартыўнай школы: трэнер С. Хамчук, чэмпіён Беларусі ў бар'ерным бегу Валя Велігурская, мацнейшая спартсменка ў пяцібор'і Валя Рахманава, чэмпіён рэспублікі па скачках у даўжыню Людміла Бандарык і трэнер Юры Аўруцін.

Ці можна гэтага пазбегнуць? Як падумаеш, дык можна. Пра гэта сведчыць вопыт ленінградскай легкаатлетычнай школы, якую ўзначальвае заслужаны трэнер СССР В. І. Аляксееў. Фармальна яго школа належыць таварыству «Праца». Але тут, побач з членамі «Працы», трэніруюцца і двухразовая алімпійская чэмпіёнка дынамаўка Ірына Прэс, і небяспечная канкурэнтка яе старэйшай сястры маладая спартакаўка Надзея Чыжова. Пра школу Аляксеева сказана і напісана нямала. І, тым не менш, гэты каштоўнейшы вопыт застаецца мала вывучаным і не мае пашырэння.




Адзін з лепшых юных спартсменаў у бар'ерным бегу — Юра Горскі (Гомель).



Уладзімір Амвросіеў і яго трэнер Міхаіл Крываносаў.

І ў нас у рэспубліцы ёсць падобныя прыклады. Тую ж Ларысу Давыдзюк, якая цяпер стала студэнткай, трэніруе дынамаўскі трэнер Ю. А. Калатоўкін. Справы ў іх, здаецца, зрушыліся. Але такія прыклады адзінкавыя. Ведамасныя бар'еры на шляху маладых талентаў трэба крышыць рашуча і настойліва.

І, нарэшце, яшчэ адна важкая прычына — матэрыяльная база. У нас не хапае спартыўных збудаванняў, асабліва зімовых, для круглагадавых заняткаў лёгкаатлетаў. У недалёкім будучым іх стане больш. Аднак не менш важна правільна і ўмела выкарыстаць тыя, што ёсць. Беспарадку, безгаспадарчасці тут досыць.

Рэканструкцыя спартыўнай пляцоўкі ў сталічным дзіцячым парку імя Горкага, напрыклад, пачалася з таго, што разбурылі бегавую дарожку. Вельмі ўжо запушчана лёгкаатлетычнае ядро на стадыёне інстытута фізкультуры ў Мінску. Звычайна, сектары для кідання зімою занесены снегам, а ўлетку лёгкаатлетам на іншым полі даводзіцца бегаць у воблаках пылу. Пры сёлетняй сухой вясне ў Гомелі, напрыклад, да 1 мая не знайшлося ні адной бегавой дарожкі, на якой можна было б займацца.

Неяк мне давялося быць на спартыўным свяце ў чэрвеньскай сярэдняй школе № 2 на Міншчыне. Там моцны калектыў фізкультуры, школьнікі вельмі любяць спорт, і дырэкцыя школы падтрымлівае іх. Спаборніцтвы там былі арганізаваны ўрачыста. Судзейскія месцы занялі заслужаныя майстры спорту М. Іткіна, А. Юлін, суддзя ўсесаюзнай катэгорыі Л. Прупес. Праслаўленыя чэмпіёны ўручалі школьнікам прызы з самых шырокіх калекцый. Але дзе давялося спаборнічаць вучням? На алейках гарадскога сквера, на пыльным школьным двары. І гэта ў лепшай школе вобласці. А што гаварыць пра астатнія!

Ёсць цудоўныя праекты школьных стадыёнаў. Аднак, нягледзячы на ўсе рэкамендацыі і пастановы, калі справа даходзіць да будаўніцтва, стадыёны вельмі часта бязлітасна выкрэсліваюцца з плана. Стварыць жа сапраўднае спартыўнае збудаванне сіламі грамадскасці, а інакш кажучы, рукамі школьнікаў, справа зусім не лёгкая.

І ўсё ж не варта засмучацца. Падставы для аптымізму перш за ўсё даюць добрыя рэзервы лёгкаатлетаў. Нядаўна федэрацыя лёгкай атлетыкі зрабіла цікавы эксперымент. На зімовае першынство школьнікаў Беларусі ў Брэсце былі запрошаны не толькі выхаванцы дзіцячых спартыўных школ сталіцы і абласных гарадоў, але і з раённых цэнтраў. А раптам у глыбінцы знойдуцца таленты! І сапраўды, здольныя юныя лёгкаатлеты знайшліся і ў Драгічыне, і ў Івацэвічах, і ў Пухавічах, і ў іншых невялікіх гарадах.

Сёлетні ліпень — знамянальны для беларускіх лёгкаатлетаў. На пачатку месяца ў нашай сталіцы адбудуцца буйнейшыя міжнародныя спаборніцтвы на прыз памяці братоў Знаменскіх, а ў апошняй дэкадзе ў Мінск на фінал Усесаюзнай спартакіяды школьнікаў з'едуцца каманды ўсіх саюзных рэспублік. Трэба спадзявацца, што Беларусь будзе дастойна прадстаўлена ў гэтых спаборніцтвах. Абнадзейвае зборная каманда школьнікаў. У яе складзе здольныя спартсмены: бар'ерыст Юра Горскі з Гомеля, вучні заслужанага майстра спорту М. П. Крываносава юныя «малатабойцы» — мінчанін Уладзімір Амвросіеў і Васіль Хмялеўскі са Шчучына, бягунні Паліна Рубашэўская з Брэста, Лілія Юргялевіч з Пінска і многія іншыя.

Можна спадзявацца, што для многіх будучых алімпійцаў дарога ў Мехіка пачнецца ў Мінску, са школьнай спартакіяды. І хочацца верыць, што побач са сваімі таварышамі з іншых рэспублік па гэтым шляху пойдуць і нашы беларускія лёгкаатлеты. Яны не дадуць у крыўду «каралеву»!

**Міхаіл СУПАНЕЎ.**

*Для фотааматараў,*
*№ 6, чэрвень, 1965.*




# ДОБРАГА ВАМ СВЯТЛА!

Ранняй вясной мінскае гарадское прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча № 32 укамплектавала яшчэ адну групу навучэнцаў, каб рыхтаваць будучых фотажурналістаў.

Дваццаць пяць навічкоў прыехалі ў Мінск па накіраваннях рэдакцый газет. Большасць з іх ужо мае невялікі стаж работы па выбранай спецыяльнасці. Праз год яны вернуцца ў свае калектывы, каб узяцца за работу з новай сілай, узбагачаныя ведамі ў галіне майстэрства фатаграфіі.

Навучальны план прадугледжвае многае: агульнаадукацыйныя прадметы і паліграфія, асновы журналістыкі і фота-

Майстар вытворчага навучання Ісак Іосіфавіч Салавейчык кансультуе навучэнцаў.



рэпартажу... У дадатак да абавязковай праграмы — творчыя сустрэчы з вопытнымі журналістамі, удзел у рабоце Мінскага гарадскога фотаклуба.


Эдуард Трэгубовіч. У друкарскім цэху.


Яўген Вярбіцкі. Ідзе здымка.

Сучасны фотажурналіст павінен быць універсальным спецыялістам. Уменне добра здымаць — гэта толькі частка яго магчымасцей. Вярнуўшыся пасля здымання, ён абавязаны сам зрабіць клішэ на электрагравіравальным апараце. Ён павінен умець зрабіць і літаратурны рэпартаж, быць аўтарам тэкста ў зазнятым фотанарысе. Нароўні з іншымі супрацоўнікамі ён павінен дзяжурыць па рэдакцыі. І вядома ж, у кола яго штодзённых спраў уваходзіць арганізацыя аўтарскага калектыву фотааматараў, правядзенне кансультацый, арганізацыя выставак і г. д.

Вось якая шматгранная і цікавая прафесія фатографа-газетчыка! І не дзіўна, што навабранцы вучылішча № 32 з першых жа дзён самааддана заняліся вучобай. Дзень за днём запаўняюць яны сшыткі запісамі і канспектамі. Кожны дзень робяць новыя і новыя здымкі, развіваючы ў сабе мастацтва бачання, пачуццё публіцыста, уменне стварыць пераканальны бачны вобраз.

Добрага вам святла, сябры!

**Аляксандр ДЗІТЛАЎ.**


Валеры Бысаў. Добразычлівы суддзя.

Эдуард Трэгубовіч. Пасля заняткаў.




Аркадзь Мікалаеў. Пасля рэйса.

# КОНКУРС «ВОБРАЗ МАЛАДОГА СУЧАСНІКА»

Алег Нарцыс. У новую далячынь.





Сяргей Кузняцоў. Раніца.

# АД ФАТАГРАФІІ ДА КІНО

Яшчэ гадоў гэтак сем таму назад мастацкая фатаграфія ў нашай рэспубліцы рабіла свае першыя нясмелыя крокі. Можна ўспомніць прозвішчы трох-чатырох энтузіястаў, якія займаліся тады гэтай справай. Сёння ж мы можам назваць каля дзесятка фотаклубаў, якія аб'ядналі аматараў, што вучацца здымаць, жадаюць паказваць свае работы, гаварыць пра іх, спрачацца.

Пра нараджэнне аднаго такога клуба я і хачу расказаць. Гэта фотаклуб Палаца культуры глухіх у Мінску.

У людзей, якія страцілі слых, моцна абвастраецца зрок і бачанне. І можа таму адным з любімых відаў самадзейнай творчасці для глухіх стала фатаграфія. З'явіліся свае энтузіясты (Сяргей Кузняцоў, Ігар Бачанцаў), якія ў 1963 годзе пры Палацы культуры арганізавалі фотагурток і першую фотавыстаўку. Аматары сваімі рукамі абсталявалі лабараторыю, здымачны павільён, выставачную залу. Прайшоў год. І вось нарадзілася другая вялікая выстаўка работ — «У нагу з сямігодкай».

На выстаўцы прадстаўлена сто работ, Яны радуюць сваёй разнастайнасцю, індывідуальнасцю падыходу да тэмы. Уважліва прагледзеўшы выстаўку, не цяжка вылучыць фатаграфіі Сяргея Кузняцова, Віктара Максімовіча, Ігара Бачанцава, Міхася Маркава. Ім уласціва рэпартажнасць, непасрэднасць сюжэтаў. Рамонт трамвайных пуцей, прадаўшчыца лялек, рыбакі-падлёднікі і злоўлены на кручок шчупак, пажаўцелы лісток, што трапечацца на голай галінцы, вясёлая дзетвара, бусляняты, у якіх яшчэ не вырасла пер'е, лірычныя пейзажы — усё гэта па-сапраўднаму прыгожа, чалавечна і змястоўна.



Віктар Максімовіч. Не хапае сілы.



Мікалай Маркаў. Апошні штрых.

Ёсць у выстаўкі і свае пралікі: недасканалае ў многіх выпадках друкаванне, на стэндах мала партрэтаў. Няўдала падабраны таксама колер кардону для паспарту. Гэта некалькі зніжае ўражанне ад выстаўкі.

Увогуле выстаўка — шматабяцаючая заяўка на будучае. Ужо сёлета дзесяць лепшых работ з яе адабраны для рэспубліканскай выстаўкі «Сямігодка ў дзеянні». Гэта вялікі поспех.

На базе фотаклуба паспяхова працуе кінагрупа. Фотааматары пачалі асвойваць кіно. Ужо адзнята некалькі стужак, якія расказваюць пра жыццё свайго Палаца культуры. Вельмі паказальна, што фільмы іх выгадна адрозніваюцца ад стужак, знятых іншымі аматарскімі калектывамі, якія ігнаруюць фатаграфію і адразу ж прыступаюць да кіназдымкаў. Кінааматары Палаца культуры глухіх дасягнулі пэўнага поспеху — кадр будуецца па ўсіх законах кампазіцыі, пісьменна, эфектыўна выкарыстоўваецца святло.

У фотаклубе Палаца культуры пад кіраўніцтвам Яўгена Жуковіча займаецца каля трыццаці чалавек. Тут і слесары і канструктары, токары і вучні рамесных вучылішч. Неўзабаве фотаклуб аб'яднае ўсе фотагурткі глухіх рэспублікі і стане для іх метадычным цэнтрам. Тут будуць наладжвацца рэспубліканскія выстаўкі, якія стануць перасоўнымі. Іх убачаць у іншых гарадах рэспублікі.

**Віталь БАРАНОЎСКІ.**

# ФАТАГРАФІЯ ЯДНАЕ СЯБРОЎ

*Перапіска працягваецца*

У ліпеньскім нумары нашага часопіса за мінулы год мы паведамілі пра тое, што сярод пастаянных карэспандэнтаў «Маладосці» паявіліся фотааматары з Эрфурта. Мы апублікавалі два здымкі Хельмута Дыля і паслалі нямецкім сябрам наш часопіс, а таксама работы беларускіх фотааматараў.

Нядаўна зноў прыйшоў пакет з Эрфурта. «**Мы асабліва радаваліся,**— піша Хельмут Дыль,— **што нашы здымкі добра прыняты ў вас, і што нават некаторыя з іх змешчаны ўжо ў часопісе».** Хельмут Дыль расказвае, што іх фотаклуб аб'ядноўвае дванаццаць чалавек, якія займаюцца не толькі чорна-белай, але і каляровай фатаграфіяй. Члены клуба збіраюцца кожны чацвер. «**Цэнтрам увагі нашай работы з'яўляюцца дыскусіі аб фатаграфіі,**— піша далей Хельмут Дыль.— **Кожны член гуртка абавязаны выву-**

Хельмут Дыль. Рамонт.





Петэр Клейнерт. Цішыня на Балтыцы.



Якаб Кёлер. Нацюрморт.

**чаць фатаграфію і ўмець правільна меркаваць аб фатаграфіях».**

На адным з «чацвяргоў» гурткоўцы абмяркоўвалі здымкі нашых аматараў. Як відаць з пісьма, больш за ўсё эрфурцкія фатографы клапоцяцца пра якасць. Таму многія нашы здымкі, нягледзячы на цікавы змест, крытыкаваліся за буйное зерне або недакладнае друкаванне. Тон дыскусіі быў самы сяброўскі. І каб замацаваць дружбу, нашы сябры прапануюць не менш як чатыры разы ў год праводзіць абмен фотаздымкамі. Гэтым самым, спадзяюцца яны, бліжэй пазнаёміцца адзін з другім.

Нашы сябры з Эрфурта прыслалі на гэты раз адзінаццаць здымкаў. Акрамя Хельмута Дыля, прадставілі свае работы Якаб Кёлер, Петэр Клейнерт, Крысціян Шрэйтэрар. Некаторыя з іх мы змяшчаем тут.

Запрашаем усіх нашых чытачоў адгукнуцца на заклік эрфуртцаў. Прысылайце свае здымкі ў рэдакцыю «Маладосці». Самыя лепшыя з іх мы пашлем нашым сябрам у Эрфурт.

◆ ◆ ◆

## ЧАСОПІСУ „СОВЕТСКОЕ ФОТО“ 25 ГОД

Недалёка ад Краснай плошчы за белакаменнымі сценамі старадаўняга будынка знаходзіцца творчы цэнтр савецкай фатаграфіі. Яго арганізаваў Міхаіл Кальцоў, чыё імя стала ўвасабленнем вяршынь журналісцкага майстэрства. Дзецішча сваё ён назваў «карысным дапаможным выданнем» для ўсіх, хто вырашыў прысвяціць свае сілы «будаўніцтву савецкай фатаграфіі».

Ішлі гады. «Советское фото» нязменна прытрымлівалася гэтай першай запаведзі. «Часопіс, прысвечаны пытанням фотааматарства і фотарэпартажу», быў і застаецца добрым настаўнікам і другам кожнага з аматараў фатаграфіі. Ён умее знаходзіць шлях і да сэрца юнага гурткоўца, і да неспакойных думак няўрымслівага рэпарцёра, і да настроенага пафіласофску мастацтвазнаўцы...

Блізкае нам усім «Советское фото» нясе на сваіх старонках подых жыцця краіны. Часопіс парадніў нас з неўміручай Ленініянай, створанай шчаслівымі, якія наводзілі свае аб'ектывы на таго, хто «і цяпер жывейшы за ўсіх жывых».

Вобразы будаўнікоў першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы, вобразы герояў пяцігодак, беззапаветных абаронцаў Радзімы, пейзажы, мілыя сэрцу кожнага з нас,— не пералічыш нават малой часткі таго, да чаго прыкоўвае ўвагу часопіс. Ён вучыць нас камуністычнаму разуменню прыгожага, уменню ўслаўляць Чалавека.

Кожны з нас рады павіншаваць «Советское фото» з юбілеем і пажадаць яму вечнага працвітання.

**Рэдакцыйны савет фотаклуба «Маладосць».**



# СТУДЭНЦКІ МАТЧ

І вось прыйшоў час падвесці вынікі.

Напомнім: з надзеяй на перамогу фотааматары чатырох вышэйшых навучальных устаноў Мінска вырашылі памерацца творчымі сіламі. Іменна творчымі, таму што гутарка ішла не проста пра ўменне карыстацца фотаапаратам і правільна вызначаць экспазіцыю. Належала на старонках нашага фотаклуба апублікаваць вобразныя здымкі: цікавыя па задуме, жыццесцвярджальныя, закончаныя па форме, якія дакладна перадаюць стаўленне аўтара да падзеі... Гэты конкурс павінен быў паказаць, наколькі сур'ёзна ставяцца студэнты да магчымасцей фотамастацтва, у якой ступені вышэйшая школа скарыстоўвае фатаграфію як сродак эстэтычнага выхавання.

У лютаўскім выпуску фотаклуба сустрэліся каманды педагагічнага і політэхнічнага інстытутаў. Па ўмове можна было выставіць па пяць работ. Будучыя педагогі ледзь-ледзь наскрэблі чатыры здымкі. На пяты ў іх пораху не хапіла. І з гэтых чатырох лепшай з'яўляецца работа Рыгора Ермашкевіча «Песня сяброў»; тры іншыя — зроблены на сярэднім «аматарскім» узроўні. Такі вынік не надта суцяшальны, тым больш для будучых педагогаў, якім фатаграфія выкладаецца і якія самі павінны быць выхавацелямі высокіх густаў.

Каманда політэхнічнага інстытута прадставіла багата здымкаў, з якіх было адабрана пяць добрых. Сярод гэтай роўнай пяцёркі цяжка вылучыць самы лепшы. Поспех будучых інжынераў быў несумненны.

У другім туры перамогу атрымала каманда ўніверсітэта. Іх сапернікі — фотааматары інстытута народнай гаспадаркі — нягледзячы на тое, што іх многа, не рызыкнулі паказаць свае здымкі. Гэта было драматычна, але сумленна.

Да трэцяга туру часу было больш чым дастаткова. У вельмі выгадным становішчы апынуліся фотааматары ўніверсітэта, якім трэба было паказаць



Рыгор Кадзет. Сябар з Ганы.

Віктар Адзіян. Таварышкі.





Барыс Пальчэўскі. Перапынак.



Сяргей Шаўчэнка. Квартэт з акампанементам.

свае работы ўпершыню за ўсе чатыры месяцы, якія прайшлі з пачатку матча. Трэба ўлічыць і тое, што ўніверсітэт мог уключыць у каманду аўтараў, якія вывучаюць фатаграфію — будучых журналістаў, што аб'явілі нядаўна аб стварэнні ў сябе фотаклуба.

Здавалася, перамога будзе за ўніверсітэтам.

Але...

Але на справе ўніверсітэт пацярпеў няўдачу. Сярод вялікай колькасці здымкаў каманды ўніверсітэта вартымі паказу аказаліся толькі два.

Політэхнікі ж зноў стварылі калекцыю, разнастайную па тэмах, на добрым выканаўчым узроўні.

Рэдакцыйны савет фотаклуба «Маладосць» і бюро фотасекцыі Саюза журналістаў СССР прызналі фотааматараў Беларускага політэхнічнага інстытута бясспрэчнымі пераможцамі матча. Усе іх работы вылучаюцца вострым бачаннем, добрым густам аўтараў, дакладнасцю ў перадачы вобразаў. Лепшай работай з усіх дзесяці прызнаны здымак Саламона Чартова «Рыхтуючыся да дыплома». Камандзе інстытута і Саламону Чартову прысуджаны дыпломы і памятныя падарункі.

Журы матча дзякуе ўсім, хто прыняў удзел у гэтым творчым спаборніцтве. Матч пацвердзіў, што сярод мінскіх студэнтаў ёсць масавае захапленне фатаграфіяй, але гэтым відам творчасці, за рэдкім выключэннем, ніхто не кіруе. Журы спадзяецца, што вынікі матча будуць абмеркаваны ў студэнцкіх грамадскіх арганізацыях.

Мар'ян Акуліч. Узаемаразуменне.





Міхаіл Гераймовіч. Дваццаць дзевяты экіпаж.



Саламон Чартоў. Рыхтуючыся да дыплома.

# ПАСЛУЖЛІВЫ ПЛАСТЫР

Этыкеткі на шкляным посудзе вельмі зручна рабіць з палоскі медыцынскага лейкапластыру. Надпіс на яе наносіцца простым алоўкам. Такая этыкетка і даўгавечная, і яе лёгка можна замяніць на новую.

Палоску лейкапластыру раім размяшчаць на сценцы посуду такім чынам, каб верхні або ніжні яе край аднačасова служыў адзнакай для вызначэння аб'ёму. Гэта асабліва важна рабіць на шклянках з негатыўным праявіцелем, калі выкарыстоўваецца падмацавальнік.

Звычайную шклянку лёгка ператварыць у градуяваную мензурку з дапамогай таго ж лейкапластыру. Палоска прымацоўваецца па ўсёй вышыні шклянкі. Вымераныя аб'ёмы адзначаюцца на ёй алоўкам.

Для таго каб не забыць, якой плёнкай зараджаны апарат, сучасныя мадэлі забяспечаны спецыяльнай памятнай шкалой. На старых камерах гэтага няма. Ролю такой памяткі з поспехам выконвае кавалачак пластыру, наклеены на любое свабоднае месца, з падпісанай на ім велічынёй адчувальнасці. Надпіс гэты лёгка выпраўляць.

# Свет смяецца з фатаграфіі, фатаграфія смяецца са свету



**Міраслаў Дусіл (Чэхаславакія). Нуда заразлівая.**

Спачатку гэты смех быў далёка не ветлівы. Іранічная ўхмылка і высунуты па-мефістофельску язык былі хутчэй сведчаннем нянавісці, чым дабрадушнай весялосці.

І не дзіва. З самага таго часу, як прафесар Араго абвясціў аб вынаходстве фатаграфіі, мастакі ўбачылі ў чорных скрынках калі не свайго заклятага, дык, прынамсі, небяспечнага ворага. Пэндзлі, алоўкі і разцы ваяўніча рынуліся ў бой, з-за частаколу палітраў пасыпаліся снарады буйнага калібру.

На чале гэтай атакі мастакоў на фатаграфію стаў, — шкада, але супраць факта не пойдзеш, — адважны крытык буржуазіі і дваран Анарэ Дам'е. Алоўкам і крэйдай ён накідаў незлічонае мноства карыкатур на фатографаў, якія пад час бясконца доўгіх экспазіцый нудзяцца, а то і проста спяць за сваімі прыладамі. «Цярплівасць—заслуга аслоў»,—гучаў яго бязлітасны прысуд.

Фатаграфія, аднак, удасканальвалася, вырастала з дзіцячых пялёнак, міналі гады, Анарэ Дам'е старэў. Тым не менш, ён не скарыўся перад фатаграфіяй і да самага канца жыцця не пераставаў кпіць з фанабэрыстасці фатографаў, з розных шыракаполых капелюшоў, якія былі неад'емным рэквізітам кожнага атэлье, з імкнення зазняць якога-небудзь кандыдата так, каб перад вясковымі выбаршчыкамі ён стаяў з рыдлёўкай і лейкай у руцэ на нязграбна намаляваным пейзанскім фоне.

Адзіны, хто здолеў паспаборнічаць з Дам'е і абараніць фатаграфію, быў Фелікс Турнашон, больш вядомы пад псеўданімам Надар, кароль паветраплавання. Свае першыя фатаграфічныя здымкі ён зрабіў, знаходзячыся на велізарных паветраных шарах.

Услед за Дам'е падалася ў калатнечу шматлікая кагорта майстроў, чаляднікаў і вучняў. Яны высмейвалі «дагератыпаманію» і ледзь не лопаліся ад смеху. Яны малявалі, як ад доўгага чакання ламаюцца крэслы пад тымі, каго здымае фатограф, а няўдалыя здымкі (якіх тады, вядома, было больш чым дастаткова) лічылі доказам шарлатанства фатографаў і дадавалі да гэтага свой каментарый.

На старонках гумарыстычных часопісаў, у п'есах, скетчах і вадэвілях фатограф стаў «сваім чалавекам», гэтак жа, як зубны ўрач, ашуканы муж, залётная паненка і прыдуркаваты дзяншчык. Зрэшты, фатограф застаўся там аж да сённяшняга дня, але цэнтр цяжару смеху з чорна-белага мастацтва перамясціўся. Фатаграфічнае рамяство сёння служыць не мэтай, а сродкам высмейвання. Абвешаны незвычайнай колькасцю сумак, сумачак, патранташаў, штатываў, рэфлектараў, фатограф прабіраецца ўсюды і робіць сваю справу ў самых немагчымых сітуацыях—нават на ўзнятай у паветра вяроўцы, на другім канцы якой паказвае фокусы факір.

У люстэрку сусветнага гумару фатограф даўно перастаў быць аслом, дурнем і пазёрам, цяпер—гэта адважны, спрытны працаўнік, хоць, праўда, часам дзёрзкі і назойлівы (што ж, здараецца), але ўвогуле—фігура сімпатычная і хутчэй вясёлая, чым смешная.

Фатаграфія, зрэшты, таксама паказала зубкі і адплаціла свету за ўсе кпіны з яе. Спачатку, праўда, помста была не вельмі ўдалая, мізэрненькая. Фатографы заняліся драбязой—паказвалі дзяцей з дзедавай піпкай у роце, галышоў у востраканечных шлемах, таўсцякоў, што сумна заглядалі ў пустую талерку.

**Багуслаў Гебауэр (Чэхаславакія). У прэзідыуме.**

Але часопісы, наўздзіў, друкавалі гэтыя атэстаты духоўнага ўбоства сотнямі, і чытачы хапаліся за жываты: «Ну і малайцы, гэтыя фатографы!»

То быў першабытны век, каменная эпоха фатаграфічнага гумару. Пасля першай сусветнай вайны ад яе засталіся ўбогія рэшткі ў рубрыках часопісаў для сямейнага чытання, ды і то—фармату паштовай маркі.

Узнік новы жанр фатаграфічнага гумару—дзіўныя сутыкненні, якія трываюць у жыцці толькі імгненне і міма якіх мы звычайна праходзім абыякава, паглынутыя мітуснёй жыцця і хаосам навакольных форм і аб'ектаў.

А фатограф спыняе гэтае імгненне, выбірае самае галоўнае, прынцыповае, і гумар, зусім відавочны і зразумелы кожнаму, выскачыць раптам, як чорцік са скрыначкі, а мы са здзіўленнем пераконваемся, што не заўважалі цікавейшых спалучэнняў і камбінацый, па сутнасці, вельмі смешных. Жыццё само стварае глупствы, як назваў сваю рубрыку фотагумару часопіс «Дзікабраз», і толькі калі гэтыя глупствы сфатаграфаваны, робяцца відавочнымі, іх можна выправіць.

Гэты від фатаграфічнага гумару—першая і важнейшая ступень грамадскай крытыкі, уласцівай фатаграфіі, а таксама ўводзіны да наступнай, больш высокай і нават (калі ўжыць парадокс) больш прыкрай, калі камічнасць сітуацыі заўважаецца ў самой сутнасці з'явы, без супастаўлення якіх-небудзь працілеглых таблічак ці плакатаў. Другім полюсам гэтай фатаграфічнай камічнасці з'яўляецца сама рэчаіснасць, ад якой фатаграфія рэзка, хоць і з гумарам, адмяжоўваецца.

Фатаграфія можа, значыць, заўважаць камічныя сітуацыі, але з самага пачатку яна была здольна і ствараць гумар. Пачалося гэта фотакарлікамі, здымкамі ў крывых люстрах, мантажом. Сёння фатаграфія навучылася карыкатурызаваць, наўмысна дэфармаваць рэчаіснасць і, паводле вызначанага плана, аднаўляць яе ў новай камічнай плоскасці. Тут можна выкарыстоўваць не толькі спецыяльную адмысловую тэхніку, але і зусім простыя магчымасці—расхістванне звычайнай перспектывы аб'ектывамі з рознай фокуснай адлегласцю. Маланкавая ўспышка фіксуе дзеянне, якое ў наступную ж хвіліну адыходзіць у нябыт, у беззваротнае мінулае. Гэты від гумару ўласцівы толькі, і толькі, фатаграфіі, і, здаецца, фатографы гэта ведаюць і дасканала выкарыстоўваюць.



**К. Эшэр (Венгрыя). Палітыка чакання.**

Аднак даволі жартаў. Звернемся да святыні класікаў. Гобс вызначыў смех,—вынік і пробны камень любога гумару,—як «агульнавядомыя спазмы мускулаў твару і дыяфрагмы, выкліканыя ўздзеяннем непрадбачанага і зусім выразнага ўсведамлення нашай перавагі над іншым чалавекам».

Гэта геніяльнае вызначэнне. Яно захоўвае сваё значэнне і цяпер, хоць шляхі дасягнення смеху цяпер крыху больш складаныя. Ну што ж, фатографы, будзьце ў сваім гумары арыгінальнымі, непаўторнымі, зразумелымі і даступнымі!.. Выбірайце аб'ектам фотагумару тых альбо тое, над чым мы можам і павінны мець перавагу. Фотагумар тады перарасце ў фотасатыру. Але мы іменна гэтага і чакаем.

**Д-р Людвік СОУЧАК.**

**Пераклаў з чэшскай мовы Алесь МАЖЭЙКА.**

**Яраслаў Ваня (Чэхаславакія). Двое на пляжы.**



# НАВІНКІ БЕЛАРУСКАЙ ФОТАТЭХНІКІ

## «АРБІТА»

**Многім аматарам фатаграфіі ўжо вядомы першыя ў нашай краіне фотаапараты з аўтаматычнай устаноўкай экспазіцыі — «Зоркі-10» і «Зоркі-11». Гэтыя фотаапараты маюць адну праграму для ўстаноўкі экспазіцыі — гэта значыць, што кожнаму значэнню вытрымкі адпавядае толькі адно значэнне дыяфрагмы. Наяўнасць жорстка звязаных спалучэнняў вытрымак і дыяфрагмы (напрыклад, вытрымцы 1/30 адпавядае дыяфрагма толькі 1 : 16; 1/500 сек — толькі 1 : 2,8 і г. д.) зніжае магчымасці пры фатаграфаванні гэтымі фотаапаратамі, хоць для некваліфікаванага аматара і спрашчае выбар экспазіцыі.**

**У новым фотаапараце «Арбіта», распрацаваным беларускім Саўнаргасам, ужыта аўтаматычная ўстаноўка экспазіцыі з вольным выбарам вытрымкі. Гэты від аўтаматыкі дазваляе фатографу выбіраць значэнне вытрымкі ў залежнасці ад умоў здымання, а дыяфрагма ў залежнасці ад асветленасці аб'екта здымання ўстанаўліваецца аўтаматычна. Пры гэтым фатограф у візіры можа назіраць за дыяфрагмай і пры неабходнасці (напрыклад, для дасягнення максімальнай глыбіні рэзкасці) можа, змяняючы вытрымку, атрымаць любое значэнне дыяфрагмы пры дадзеным асвятленні аб'екта.**

**ТЭХНІЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ФОТААПАРАТА «АРБІТА»:**

**Фармат кадра — 18 × 24 мм.**
**Колькасць здымкаў пры стандартнай даўжыні плёнкі — 72.**
**Аб'ектыў — «Індустар-65» з лантанавай оптыкай.**
**Фокусная адлегласць — 28 мм.**
**Адносная адтуліна — 1 : 2,8.**
**Вуглавое поле зроку — 56°.**
**Затвор пялёсткавы з вытрымкамі ад 1/30 сек. да 1/250 сек. і «В».**
**Памеры фотаапарата: даўжыня — 100 мм, шырыня — 60 мм, вышыня — 82 мм.**
**Вага — 400 г.**

**Межы ўстаноўкі светаадчувальнасці плёнкі ад 16 да 250 адзінак па дзяржаўнаму стандарту.**

**Відашукальнік з павелічэннем 0,4 *. Рамка яго свеціцца. У поле зроку відашукальніка вынесена шкала дыяфрагм і стрэлка экспанометра, якая ўказвае велічыню прынятай дыяфрагмы, а таксама недастатковасць або залішнюю асветленасць аб'екта.**



**Здымаць «Арбітай» вельмі проста. На фотаапараце ўстанаўліваецца адчувальнасць плёнкі, а перад выбарам аб'екта здымання — вытрымка і адлегласць па сімвалах або па шкале адлегласцей. Пасля гэтага, удакладніўшы кадроўку ў візіры, застаецца толькі націснуць спускавы клавіш. Фатограф мае магчымасць змяніць дыяфрагму пераводам махавічка вытрымак, не мяняючы экспазіцыі, якую экспанаметрычнае прыстасаванне ўстанаўлівае аўтаматычна. Пры здыманні са светафільтрам экспазіцыю можна пракарэкціраваць дыскам устаноўкі адчувальнасці плёнкі.**

**Змяняючы становішча гэтага дыска, можна стварыць недатрымку і launch пeратрымку на рэжыме аўтаматычнай работы.**

**Аўтаматыку можна адключыць. Пры гэтым экспанаметрычнае прыстасаванне прадаўжае працаваць, і фатограф, выкарыстоўваючы яго паказанні, устанаўлівае дыяфрагму ўручную.**

**«Арбіта» — другі айчынны мініяцюрны фотаапарат з фарматам кадра 18×24 мм. Ён сучасны па форме, зручны для работы, кампактны, мае мяккі футарал і цямляк, каб насіць на руцэ.**

**Ігар ПРЫЕЗЖАЎ.**






**Пад рэдакцыяй гросмайстра Аляксея СУЭЦІНА**

## АРХІВЫ ВЕЧНА ЖЫВЫЯ

Гаворка тут пойдзе пра тыя шахматныя партыі, якія, абышоўшы прэсу ўсяго свету, становяцца ўзорамі, каштоўнымі творамі шахматнага мастацтва. Да іх заўсёды звяртаюцца шахматныя літаратары, аўтары падручнікаў, манаграфій, а таксама педагогі-метадысты. Натуральна, што такія партыі прааналізаваны з асаблівай дасканаласцю, кожная іх дэталь любоўна адшліфавана, як гэта і трэба ў найлепшым узоры, гатовым для дэманстрацыі.

І ўсё ж у вельмі многіх выпадках такія ўзоры мінулага ў святле сучасных ідэй патрабуюць значнай пераацэнкі.

Спынімся вось на такіх дзвюх ілюстрацыях.

Напомнім спачатку нашым чытачам папулярную для свайго часу партыю **Алёхін — Бек** (Маргет, 1938), дзе быў разыграны наступны варыянт прынятага ферзевага гамбіту: 1. d4 d5, 2. c4 dc, 3. Kf3 Kf6, 4. e3 e6, 5. С : c4 c5, 6. 00 Кc6, 7. Фe2 a6, 8. Кc3 b5, 9. Cb3 b4, 10. d5! Кa5 (Пасля 10. ... ed, 11. К : d5 К : d5, 12. Лd1! з наступным 13. e4 белыя атрымалі пазіцыйную перавагу без якіх бы там ні было матэрыяльных страт.) 11. Ca4+ Cd7, 12. de fe, 13. Лfd1! bc, 14. Л : d7! К : d7, 15. Кe5 Лa7.



**Белыя:** Крg1, Фe2, Лa1, Ca4, Cc1, Кe5; пп: a2, b2, e3, f2, g2, h2 (12).
**Чорныя:** Крe8, Фd8, Лa7 і h8. Cf8, Кa5 і d7; пп. a6, c3, c5, e6, g7, h7 (13).

Тут Алёхін, ахвяраваўшы ладдзю, зрабіў парадаксальны па сваёй стрыманасці ход: 16 bc!?! Псіхалагічны эфект яго быў вялікі не толькі для партнёра, які не знайшоў нічога іншага, як згуляць 16. ...Крe7, нібы «запрашаючы» белых на атаку. Адплаты не давялося доўга чакаць, і пасля 17. e4! К7f6, 18. Cg5 Фc7, 19. Cf4 Фb6. (Больш настойліва 19. ...Фb7, і Алёхін прыйшоў да прыгожага фіналу: 20. Фe3! Крd8, 21. Фd3+Крc8, 22. Лb1 Ф : e4, 23. Кf7!!, і ў чорных няма здавальняючай абароны ад матаў на b8 і d8).

20. Лad1 g6, 21. Cg5! Cg7, 22. Кd7 Л : d7, 23. Л : d7+ Крf8, 24. С : f6 С : f6, 25. e5!, і чорныя здаліся.

Вернемся да пазіцыі на дыяграме. Спярша аналітыкі, у тым ліку і сам Алёхін, без ценю сумнення ацанілі пазіцыю пасля 16. bc як яўна выгадную для белых. Так, сам Алёхін у часопісе «Chess» прывёў варыянт (між іншым, надрукаваны ў часопісе «Шахматы в СССР», № 7, 1938): 16. ...Cd6, 17. Фh5 g6, 18. К : g6 hg, 19. Ф : h8+ Cf8, 20. e4 Фe7, 21. Ch6 Кc4, 22. Лb1! і г. д. з мацнейшай атакай у белых.

Пры больш уважлівым і глыбокім аналізе можна выявіць, аднак, што пасля 16. bc выключнай з'явай магло стаць пярэчанне 16. ...g6 і, калі 17. e4, то 17. ...Cd6!, і нечакана перад белымі паўстае нялёгкая задача. Так, у выпадку 18. К : d7 Л : d7, 19. Ф : a6 00!, 20. С : d7 Ф : d7 нельга 21. Ф : a5 Cc7!, і выйграюць ужо чорныя!

Напрошваецца вывад, што 16. bc?! з'яўляецца толькі марнай тратай каштоўнага часу ў такі адказны момант барацьбы. Але можа, і наогул, уся атака белых няправільная?

Не, стратэгічная задума Алёхіна такая ж карэктная, як і смелая, толькі ў пазіцыі на дыяграме не трэба было «гурманіць», а гуляць ў тым жа рытме, з той жа энергіяй, з якой бе-

лыя вялі ўсё «змаганне» ў першай частцы партыі. Да рашаючага працягу атакі белых вяло: 16. е4! і калі цяпер 16. ...g6, то 17. Фf3! Фе7, 18. К : d7 Л : d7, 19. Ф: c3! Cg7, 20. Ф : а5 00, 21. С : d7 Ф : d7, 22. Се3, і белыя атрымліваюць яўную пазіцыйную перавагу.

Другі, не менш цікавы выпадак, узяты з партыі Капабланка—Рыбейра (Барселона, 1935). Пасля 1. е4 с6, 2. d4 d5, 3. Кс3 de, 4. К : е4 Кbd7, 5. Кf3 Кf6, 6. Кg3 е6, 7. Cd3 Се7, 8. 00 0—0, 9. Фе2 с5, 10. Лfd1 Фс7, 11. Cg5 b6 Капабланка зрабіў хадавую эфектную камбінацыю, якая лічыцца лепшым дасягненнем такога роду за 1935 год.



**Белыя:** Крg1, Фе2, Ла1 і d1, Cd3 і g5, Кf3 і g3; пп: а2, b2, c2, d4, f2, g2, h2 (15),

**Чорныя:** Крg8, Фс7, Ла8 і f8, Сс8 і е7, Кd7 і f6; пп: а7, b6, c5, e6 f7, g7, h7 (15).

Было зроблена: 12 d5! К : d5, 13. С:е7, К:е7, 14. С:h7+Крh7, 15. Кg5+Крg8. 16. Л:d7! Ф:d7 (Не лепш і 16. С:d7, 17. Фh5 Лfe8, 18. Ф:f7+ Крh8, 19. Ле1! з неадхільнай атакай у белых.) 17. Фh5 Лfd8, 18. Ф : f7+ Крh8, 19. h4 Фе8, 20. Кh5! Фf8, 21. Кf6!! Кg8, 22. Фh5+!, і чорныя здаліся.

У той час ніхто не звярнуў увагі, што чорныя маглі настойліва абараняцца, калі б не сталі, як «зачараваныя», да канца трымацца за ахвяраваны белымі матэрыял.

Так, праз дваццаць год было і ў партыі Балеслаўскі—Верасаў (першынство Беларусі 1955 года), дзе чорныя па непрадбачанай выпадковасці натрапілі на гэты надзвычай небяспечны для іх варыянт: пасля 18. Ф : f7+ Крh8 (Першыя 17 хадоў, як і 18-ы, цалкам супалі з указанай вышэй партыяй, што прадстаўляе сабою адзін з самых рэдкіх выпадкаў у шахматнай практыцы!) 19. h3 (Капабланка гуляў 19. h4—між іншым, гэта мала значныя абставіны.) 19. ...Фе8, 20. Кh5 Ф : f7! (Безумоўна, гэта меншая бяда.) Цікава, што на гэтую магчымасць, не ведаючы партыі Балеслаўскі—Верасаў, указаў і аматар шахмат В. Гульеў (Гродзенская вобласць). Аддаючы назад ладдзю, чорныя пераводзяць ігру ў заканчэнне, дзе, праўда, белыя ўсё ж захавалі адчувальную перавагу, хоць яе і цяжка рэалізаваць.

21. К : f7+ Крg8, 22. К : d8 Cd7, 23. Кb7 Кf5, 24. Кg3 (Магчыма, мацней за 24. Лd1!, і калі 24. ... Сс6 і 25. Лd8+ Л : d8, 26. К : d8 Cd5, то 27. Кf4, захоўваючы лішнюю пешку пры добрай пазіцыі.), 24. ... К : g3, 25. fg Сс6, 26. Кd6 Лd8, і чорныя атрымалі вядомую контргульню за страчаную пешку.

І так, камбінацыя Капабланкі зусім карэктная і пры правільнай гульні чорных павінна была прывесці да заканчэння, выгаднага для белых.

У святле новых дынамічных ідэй адначасова ўзнікае і другое пытанне: ці не маглі белыя ўхіліцца ад спрашчэння гульні і працягваць атаку, астаючыся пакуль што без ладдзі?!

На мой погляд, сур'ёзнага аналізу заслугоўвае працяг гульні: 19. Фh5+ (замест 19. h4 або 19. h3) 19. ... Крg8, 20. h4 (са страшэннымі пагрозамі 20. Фf7+ Крh8, 21. Кh5 і г. д.).

Калі, напрыклад, чорныя гуляюць тут 20. ...Фе8, то 21. Фh7+ Крf8, 22. Фh8+ (Можа быць яшчэ мацнейшы—22. h5!) Кg8, 23. Кh7+ Крe7, 24. Ф : g7+ Фf7?, 25. Кf5+!! ef, 26. Ле1+ Се6, 27. Л : е6+ Кр : е6, 28. Кg5+, і ў белых рашаючая атака.

Адным словам, аналіз гэтага працягу ўяўляе сабою асобны раздзел, і можна толькі пажадаць чытачам прааналізаваць як магчымасці атакі белых, так і рэсурсы абароны чорных. Я асабліва лічу, што менавіта тут можа раскрыцца ўся прыгажосць камбінацыі белых.

Колькасць падобных прыкладаў лёгка павялічыць. Гэта тыповы выпадак тых карэктыў, якія можа ўнесці сучасны аналіз у старыя каноны. Мы зусім не хочам зменшыць значэнне тых твораў, якія сталі класікай у шахматах. Проста да іх трэба прад'яўляць тыя ж патрабаванні аналізу, як і да сучасных нам партый.

## Усмешкі маладосці




**Гумарэска**

**Мал. Ю. Архіпава.**

Мае сябры і знаёмыя часта расказваюць пра свае поспехі на рабоце, жартуюць, запрашаюць адзін аднаго ў госці,— наогул жывуць, як кажуць, на ўсю катушку.

На фоне ўсеагульнай весялосці адзін я выглядаю нейкай цёмнай плямай. І ўсё гэта таму, што ў мінулым годзе адбылася падзея, пасля якой усмешка ўсё радзей і радзей асвятляе мой твар.

Раскажу пра ўсё падрабязна.

Прызнаюся шчыра, што да правілаў вулічнага руху я ніколі не ставіўся з вялікай павагай. Я ведаў, што яны існуюць. Пра гэта сведчылі плакаты, на якіх суровы міліцыянер звяртаўся да грамадзян з патрабаваннем пераходзіць вуліцу толькі на скрыжаваннях. Пра гэта расказвалі кіначасопісы перад сеансамі і лектары перад вечарамі танцаў у клубе нашага завода. Але я не лічыў, што абавязан выконваць гэтыя правілы. Яшчэ калі быў школьнікам, я аднойчы бачыў, як ачмурэлы ад сівухі шафёр на сваім «газіку» ўскочыў на тратуар і ледзь не пакалечыў старога. Дзядулю выручыў звычайны слуп, які перагарадзіў дарогу шкадліваму «газіку»... З таго часу пра вадзіцеляў у мяне склалася пэўная думка, і калі я чуў пра няшчасны выпадак на вуліцы, то заўсёды ўспамінаў таго «вясёлага» шафёра, які на машыне ганяўся за пешаходамі. І таму мне здавалася, што заўсёды вінаватыя вадзіцелі.

Але вось нядаўна, мінулай восенню, я купіў матаролер. Калі хто-небудзь не ведае, што гэта такое, магу даць даведку: матаролер — гэта, прабачце, від транспарту, які па тэхнічных дадзеных: па габарытах, хуткасці і некаторых іншых,— амаль не ўступае папулярнаму ў Сярэдняй Азіі і на Каўказе ішаку (няхай не крыўдзіцца ішак за такое параўнанне!).

І вось гэты самы матаролер прымусіў мяне зрабіць некалькі адкрыццяў, адным з якіх было тое, што пешаходы мяне ігнаравалі. Я для іх не існаваў. Яны пачціва расступаліся перад «Волгай», давалі дарогу «Масквічу», прапускалі «Запарожца», уцякалі ад матацыклаў... Але варта было да скрыжавання наблізіцца мне, як шчыльная сцяна пешаходаў вырастала перад матаролерам. Яны не звярталі на мяне аніякай увагі і паводзілі сябе так, нібы набліжаўся не транспарт, які завецца матаролерам, а малое кацянё. Сігналіць не хацелася па той простай прычыне, што не было чым плаціць штраф. Пешаходы добра разумелі, што пры сутыкненні са мной амаль нічым не рызыкавалі. Рызыкаваў я. Гэта пацвердзілася неўзабаве.

Транспарт на праспекце рухаўся ў тры шарэнгі. Я ехаў у левай шарэнзе, бліжэй да сярэдзіны. Скрыжаванне мінулі, і я вырашыў ехаць хутчэй. Мне не было відаць, што з тратуара сышла жанчына са шклянымі слоікамі ў сетцы і накіравалася на другі бок вуліцы. Тралейбус прытармазіў, прапусціў жанчыну. Прытармазіла і «Волга».





Я ж убачыў жанчыну ў той момант, калі яна, перабегшы перад «Волгай», апынулася насупраць мяне. Каб не пашкодзіць жанчыне модную прычоску і адзенне (яшчэ нікім не даказана, што матаролерам можна адправіць на той свет чалавека), я рэзка павярнуў убок і... урэзаўся ў «Масквіча», умомант зляцеў з сядзення і зрабіў двайное сальта цераз руль. Матаролер адразу пастарэў гадоў на пяць, і на яго было балюча глядзець. Убачыўшы мой акрабатычны нумар, жанчына разгубілася і, як мне думаецца, ад здзіўлення ўпусціла слоікі на асфальт. Машыны спыніліся, і наўкол мяне сабралася многа пешаходаў. У сваіх меркаваннях яны былі адзінадушныя:

— Ледзь жанчыну не загубіў, абармот!..
— Ты што, аслеп?
— Паглядзіце, што ён зрабіў з «Масквічом»!
— Напэўна, забыўся, што не ў цырку!
— Усе шафёры такія! Судзіць усіх іх трэба!
— Ды ён п'яны! (Гэта пра мяне?!) А ну, дыхні!
Падышоў міліцыянер, праверыў мае правы.
— Навічок? Зразумела...— сказаў ён.— Складзем пратакольчык...

Першай давала паказанні жанчына з сеткай, прычоска якой была ў абсалютным парадку.

— Ведаеце, таварыш начальнік,— усхвалявана гаварыла яна, калі б я не адскочыла, мне надзелі б белыя тапачкі... Гляджу, а ён мчыцца па праспекце, развёўшы рукі ва ўсе бакі. Ну, і, зразумела, урэзаўся ў машыну...

Я стаяў, разгублены, і ў галаву лезлі жаласлівыя думкі: «Людзі, людзі! Дарагія грамадзяне! Чаму вы не беражэце сваё жыццё? Няўжо ў вас ёсць яшчэ адно, запасное?» Аднак абнародаваць такія думкі на гэты раз я не асмеліўся.



З вялікай цяжкасцю я выблытаўся з гэтай гісторыі. Таварышы з завода паручыліся, і аўтаінспекцыя ўсяго толькі сур'ёзна папярэдзіла мяне. Але мне давялося заплаціць за шкоду, якую я зрабіў «Масквічу» і за шкляныя слоікі, што ўпусціла на асфальт жанчына. Я ўжо не кажу пра тое, што рамонт уласнага матаролера абышоўся мне ў капеечку. Калі я ў міліцыі адлічваў грошы, мне ў галаву прыйшла смешная думка: «А што, каб жанчыну з сеткай прымусіць аплаціць страты, якія напаткалі мяне і вадзіцеля «Масквіча»?» Гэта думка мяне развесяліла: міліцыянеры недаўменна пераглядзелі на маю ўсмешку, і я нават пачуў, як адзін з іх ледзь чутна сказаў: «Пакуль гэты суб'ект не перадавіў паўгорада, яго трэба накіраваць да псіхіятра».

Адразу ж пасля рамонту, выехаўшы з майстэрні, я ўрэзаўся ў кусты, бо наскочыў на футбольны мяч: хлапчукі вырашылі гуляць проста на вуліцы, бо са двара іх прагналі дарослыя. Падышоў міліцыянер і добразычліва прывітаўся. Як толькі я дастаў з кішэні правы, ён паглядзеў на пашкоджаныя кусты і запытаў, ці не ведаю я вынікі гульні нашай каманды на першынстве краіны па футболу. Потым мы з ім абмеркавалі шансы зборнай краіны, пасля чаго ён прапанаваў заплаціць хлапчукам за мяч і прыязна паведаміў, што ў хуткім часе паўстане пытанне пра неабходнасць пазбавіць мяне правоў вадзіцеля. Мы развіталіся сябрамі. Дарэчы, з кожным днём сярод міліцыянераў я завязваю ўсё новыя і новыя знаёмствы.

Праз месяц, старанна захоўваючы правілы вулічнага руху, я падбіў пешахода, які на чырвоны свет імчаўся да аўтобуса, нібы заяц, які ратуецца ад гончых. Зразумела, ён хацеў выйграць час. Я зламаў яму нагу, і машына хуткай дапамогі павезла яго ў клініку. Праўда, у гіпсе ён праляжаў тры месяцы, але гэта ўжо не так важна. І на гэты раз мне ўдалося выйсці з вады амаль сухім. Аўтаінспекцыя зрабіла апошняе папярэджанне.

Я самым уважлівым чынам прааналізаваў свае няўдачы, і мне здалося, што ва ўсім вінаваты матаролер... Назіраючы за паводзінамі пешаходаў на вуліцах горада, я прыходжу да думкі, што рана ці позна, але хто-небудзь вельмі сур'ёзна сутыкнецца з коламі майго матаролера. І тады...

Вось чаму я, выкарыстоўваючы магчымасць, якую дала мне рэдакцыя, вырашыў выпрабаваць апошні шанс, звярнуцца да ўсіх, хто ходзіць па вуліцах:




**Я яшчэ зусім малады і мала чаго бачыў у жыцці. Пашкадуйце мяне. Я адзіны сын у маці, і калі вы пападзеце пад мой матаролер, яна гэтага не перажыве. Ніколі не забывайце, што захаванне жыцця пешахода — справа рук самога пешахода.**

**З прывітаннем**

**Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК.**



Мал. В. Шрамякова.

**Алесь ГАРЭЛІК**

## Не блукай, гарманіст, адзінока

Сёння вечар, такі ж, як і ўчора:
Ціха шэпчуцца ліпы ля сёл,
І далёкія ясныя зоры
З вышыні пазіраюць на дол.
А на вуліцы нашай шырокай
Часам песню гармонік вядзе...
— Што ж блукаеш, хлапец, адзінока,
Чаму ў клуб, гарманіст, не ідзеш?
— Клуб жа ёсць, толькі ў цэнтры калгаса,
Ад брыгады не меней — вёрст сем,
І таму пад развесістым вязам
Мы здаўна сабіраемся ўсе;
Або крочым ад хаты да хаты,
Ажно коціцца рэха ў садах!
Эх, калгас жа наш вельмі багаты!—
І прайшоў гарманіст па ладах.
...Ціха шэпчуцца ліпы навокал,
Узіраюцца зоркі з гары,
І блукае хлапец адзінока...
Да якой жа, скажыце, пары?

# З ЗАМЕЖНАГА *гумару*



## НЕ БАЧЫЛА

Учора я сустрэла вашу жонку. Ды яна мяне не бачыла.

— Ведаю. Яна мне сама сказала.



## БЕЗ НАТХНЕННЯ

— Здараецца, што мне трэба напісаць фельетон або гумарэску, і нічога талковага не прыходзіць у галаву. Няма натхнення.

— Ведаю і спачуваю, бо чытала...

## СПАКОЙНА

Малады чалавек вязе ў калясцы дзіця, якое раве на ўсё горла .

— Спакойна, Казік, толькі спакойна, не выходзь з сябе, не нервуйся...— гаворыць бацька.



— Брава! — умешваецца жанчына, якая ідзе побач.— Вельмі ж добра адносіцеся да дзіцяці: ласкава, пяшчотна, далікатна...

Потым нахіляецца над маленькім:

— Значыць, маленькага крыкуна завуць Казікам?

— Не, паважаная,— тлумачыць тата.— У яго імя Янік, а Казік — гэта я.



## ЗІРНУЛА

— Пакахала яго з першага погляду.

— І не выйшла замуж?

— Зірнула другі раз.



## ПРЫЧЫНА

— Чаму не былі на апошняй нарадзе?

— Так хутка скончылася, што не паспеў спазніцца...





## МОЦ СЛОВА

— Што моцна б'юць словы, адчуў я тады, калі яна кінула ў мяне тлумачальным слоўнікам.

## АСЦЯРОЖНАЯ КРЫТЫКА

— Быў я ўчора ў тэатры, глядзеў тваю п'есу.

— Ну і як?

— Цікавая... наогул. Ведаеш, не хочацца цябе засмучаць, але ў другім акце... палавіна залы свістала...



— А другая палавіна?

— Выбачай, забыў сказаць, што другая была пустая...



## ЖАНОЧАЕ

— Дзе ты была?

— Купіла матэрыял на шлюбны ўбор. Праз два тыдні маё вяселле.

— Важны крок у жыцці. Віншую! А як выбар, удачны?

— Безумоўна. Натуральны шоўк!

## МУЗЫЧНЫЯ

Кафэ. За сталом гутараць сяброўкі. Адна з іх пытае:

— Ты музыку Баха любіш?

— Якога: Офэна ці Іагана Себасцяна?





## ПРАФЕСІЯНАЛЬНАЕ ВЫРАЖЭННЕ

Электраманцёр вярнуўся дамоў і заўважыў у сына забінтаваны палец.

— Што, даражэнькі, здарылася? Скалечыўся?

— Не, тата. Злавіў пчалу ды яна не мела з аднаго канца ізаляцыі.




**МЫСЛІВЕЦ Валянцін** нарадзіўся ў 1937 годзе на Міншчыне. Доўгі час працаваў на заводзе аўтаматычных ліній у Мінску. Цяпер — літсупрацоўнік рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».

**КУСЯНКОЎ Мікола** нарадзіўся ў 1935 годзе на Гомельшчыне. Скончыў Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум і працуе лесаўпарадчыкам.

**ЧЫГРЫНАЎ Іван** нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Магілёўшчыне. У 1957 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Цяпер працуе ў рэдакцыі часопіса «Полымя».

**МІЦКЕВІЧ Мікола** нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна.

Працаваў на цагельным заводзе, служыў у Савецкай Арміі. Цяпер вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

**АДАМЧЫК Вечаслаў** (1933 год нараджэння) з Навагрудчыны. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна, цяпер — на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. З друку выйшлі кнігі апавяданняў «Свой чалавек» і «Млечны Шлях».

**АЎСЕЕНКА Мікола** нарадзіўся ў 1932 годзе на Магілёўшчыне. Працуе ў г. Касцюковічы. Апавяданні і нарысы друкуюцца ў рэспубліканскіх часопісах.

**ЛУКАШЭВІЧ Яўген** нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Грабяні Глыбоцкага раёна. Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у МТС, загадчыкам сельскага клуба. Завочна скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Цяпер настаўнічае ў Вілейскай васьмігадовай школе.

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫХ НУМАРАХ:

**Аповесць Васіля Быкава**

**«МЕРТВЫМ НЕ БАЛІЦЬ».**

**Запіскі Яўгена Рапановіча**

**«КУБА—ЛЮБОЎ МАЯ»**

**НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ ПРАДОЎЖЫЦЬ ПАДПІСКУ НА ЧАСОПІС**
**«МАЛАДОСЦЬ»**
**ДА КАНЦА ГОДА.**

Мастацкі рэдактар Я. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, 40. Тэлефоны: 93-854 — сакратарыят, 93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення; 93-775 — фотаклуб «Маладосць».

Фармат паперы 70×108$^{1}/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7.323. Цана 40 кап.
АТ 04147. Здадзена ў набор 23/IV-65 г. Падпісана да друку 27/V-65 г. Зак. 215.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.







**Беларускія посцілкі. Сярод іх работы калгасніц Марыі Рамановіч (Гомельшчына) і Марыі Хамо (Гродзеншчына).**
**Керамічныя вырабы Н. Несцяроўскага і М. Звярко (Міншчына).**
**Ручнікі. Сярод іх вытканыя калгасніцамі Надзеяй Мігай (Магілёўшчына), Соф'яй Лямешка і Палагеяй Кліменка (Гомельшчына).**

**Х. Ліўшыц. Выступленне Я. М. Свярдлова на першым Усебеларускім з'ездзе Саветаў.**
З фондаў Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.

